


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

10 (1020)

КАСТРЫЧНІК

Выдаецца
са снежня 1922 года

## ЗМЕСТ

**Галоўны рэдактар**
***БАДАК Алесь Мікалаевіч***

**Рэдакцыйная калегія:**

*Лада АЛЕЙНІК, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,*
*Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ*
*(старшыня рэдакцыйнага савета),*
*Уладзімір ГУСАКОЎ, Марыя ЗАХАРЭВІЧ,*
*Віктар ІЎЧАНКАЎ,*
*Аляксандр КАВАЛЕНЯ, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,*
*Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ, Валерый МАКСІМОВІЧ,*
*Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ*
*(намеснік галоўнага рэдактара),*
*Алесь МАРЦІНОВІЧ, Зоя МЕЛЬНІКАВА, Мікола МЯТЛІЦКІ,*
*Пётр НІКІЦЕНКА, Генадзь ПАШКОЎ, Алег ПРАЛЯСКОЎСКІ,*
*Віктар ПРАЎДЗІН, Зіновій ПРЫГОДЗІЧ,*
*Іван САВЕРЧАНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір САЛАМАХА,*
*Васіль СТАРЫЧОНАК, Таццяна ШАМЯКІНА*

**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»**

© «Полымя», 2014

ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Юры СТАНКЕВІЧ

# ПАЎНОЧНЫ ВЕЦЕР ДЛЯ СПЕЛЫХ ПЛАДОЎ*

*Раман*

***...У глыбіні саляных капальняў пакідаюць галінку дрэва, якая акорылася за зіму; праз два ці тры месяцы яе вымаюць адтуль, пакрытую бліскучымі крышталікамі. ...Самы пакутлівы міг той, калі заўважаеш, што зроблены няправільныя высновы і даводзіцца разбураць цэлую гронку тых крышталікаў.***

*Стэндаль. «Каханне».*

Надыходзіла ўжо лета, а разам з гэтым спрыяльным часам набягаў і не вельмі прыемны — апошняя перад дзяржэкзаменамі сесія. У скверах зелянелі дрэвы, на вуліцы сталіцы з раніцы прывозілі вялізныя бочкі з танным белым сухім віном, якое можна было ўжываць замест надакучлівага хлебнага квасу, у пракураных пакоях інтэрната ўрэшце адчынялі ўдзень вокны, а ў самым цэнтры к вечару аднойчы проста пад адкрытым небам усталявалі падмосткі і паставілі «Медэю», спектакль, які глядзелі ўсе, хто хацеў.

Менавіта ў гэтыя неспакойныя дні студэнт на прозвішчы Ігнат Мазур раптам адчуў непрадказальную трывожную стомленасць. Па звычцы іншым разам спыніцца і ўсё прааналізаваць ён пачаў дакопвацца да прычыны. Тая агульная прычына такога свайго стану, як аказалася, складалася з некалькіх.

Па-першае. Існавалі прадметы, якія ён, па незразумелых заганах розуму, не ўспрымаў, якія яму было вельмі цяжка здаць: гістарычны матэрыялізм, палітэканомія, гісторыя партыі і бальшавіцкага друку і некаторыя іншыя. Справа была не толькі ў тым, што Мазур быў да іх у лепшым выпадку проста

---

***Станкевіч Юры Васільевіч*** *нарадзіўся 21 студзеня 1945 года ў г. Барысаве. Працаваў на фабрыках і заводах, вучыўся ў вячэрняй школе. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1969 г.). Працаваў у Барысаўскай аб'яднанай газеце «Камуністычная праца», у часопісах «Маладосць», «Крыніца».*

*Аўтар кніг прозы: «Луп» (1988), «Анёлы на бальшаку» (1992), «Армагедон 1895» (2000), «Любіць ноч — права пацукоў» (2000), «Сатырыкон» (2003), «Апладненне ёлупа» (2005), «Мільярд удараў» (2008), «П'яўка» (2010), «Шал» (2012), «Брамнік заўжды самотны» (2014).*

---

* Часопісны варыянт.

раўнадушны, ён іх — ненавідзеў. Магчыма, тут усплывалі гены бацькі, які ў свой час згінуў у Карлазе як палітвязень, можа, што іншае, хто ведае.

Па-другое. Ён заблытаўся ў сваіх адносінах з жанчынамі.

Трэцяя прычына, якая выцякала з другой, усплыла пазней і з усімі ад таго наступствамі.

Жанчын, а дакладней, дзяўчат, спачатку было двое. З Аняй Балтас, даўняй сяброўкай, студэнт Ігнат Мазур сустракаўся больш як два гады. Яна вучылася ў пединстытуце, прыехала ў сталіцу з заходняй вобласці краіны і знешне мела выгляд тыповай ліцвінкі, якую іншым разам выяўляюць на каляндарыках, — высокая, прыгожая бландзінка спартыўнага целаскладу, з тонкімі і пародзістымі рысамі твару. Студэнт Ігнат Мазур упершыню ўбачыў яе ў нейкай харчовай крамцы побач з інтэрнатам, а потым выпадкова сустрэў зноў, так усё і пачалося. Яму быццам пашанцавала, бо ў дзяўчыны на той час нікога не было. Яе старэйшая сястра, якая заканчвала медінстытут і ўжо была заручаная з трыццаціпяцігадовым забяспечаным чыноўнікам, не ўхваляла іх сустрэч. Яна лічыла студэнта Ігната Мазура няздольным сямейнікам з прычыны ягонай беднасці, а яшчэ таго, што да дыплома, і тым больш удалага размеркавання, яму было далёка.

Між тым, дзякуючы дзядзьку Барысу, роднаму брату маці, які меў сяброў у сталіцы (разам ваявалі), ён перавёўся з філфака на факультэт журналістыкі, што палічыў неверагоднай удачай. Пэўна, гэта было апошняе, што зрабіў для яго дзядзька Барыс, бо нечакана былы франтавік памёр у свае шэсцьдзясят год ад сардэчнага прыступу.

Так Ігнат апынуўся на незнаёмым дасюль курсе факультэта. На ім вучыліліся чатыры гады, і ён мусіў здаваць некаторыя дадатковыя залікі і экзамены самастойна. Апекаваць навічка ўзялася аднакурсніца Юля Маракова. На факультэце разам з беларускімі хлопцамі вучыліся і студэнты з Расіі, Малдавіі, Украіны, нават з Грузіі, і нікога гэта не здзіўляла.

У Юлі Мараковай аказалася, як яна яму пазней прызналася, падтрымка. Яе цётка працавала выкладчыцай на кафедры англійскай мовы. Юля невысокая, хударлявая, нягледзячы на ўмовы жыцця ў інтэрнаце, заўсёды з густам апранутая, з ледзь прыкметнай усмешкай у кутках вуснаў, выклікала ў яго сімпатыю, і калі хто-небудзь спытаў бы студэнта Ігната Мазура, ці кахае ён зараз гэтую дзяўчыну, то, пэўна, атрымаў бы станоўчы адказ, хоць ён быў даволі стрыманы ў выказванні сваіх пачуццяў і думак.

Юля Маракова даволі сур'ёзна ўзялася за абранніка. Нават, як ён даведаўся пазней, аб'явіла дзяўчатам з курса, што навічок Ігнат Мазур — яе хлопец. Дасціпная, разумная крымчанка з Севастопаля, з дамескам габрэйскай крыві, яна карысталася аўтарытэтам сярод аднакурсніц, і на Ігната Мазура ніхто так і не спакусіўся. Урэшце ў заўсёды прагматычным свеце ён пакуль што аніякай асаблівай каштоўнасці не ўяўляў, пра што ведаў і сам.

Варта адразу адзначыць, што курс быў неаднародны, несяброўскі. Некаторыя студэнты — слаба падрыхтаваныя, бралі хітрасцю, выкрутлівасцю і ўседлівасцю. Некаторыя хлопцы адслужылі армію, былі сярод іх і партыйныя.

Высокі, пад сто дзевяноста, спартыўнага целаскладу, начытаны Ігнат Мазур, магчыма, неяк і вылучаўся сярод аднакурснікаў. Вось толькі калі мець на ўвазе класічны выраз «бедны студэнт» — то ён належаў якраз да такіх. Падтрымкі ад маці амаль не было, нават ложка ў інтэрнаце яму спачатку не знайшлося, і ён начаваў у выпадковых месцах: у асноўным у інтэрнаце, дзе пражывала Аня Балтас. Па вечарах іншым разам гуляў з ёй там у пінг-понг. Стол для малога тэніса стаяў у нішы на адным з паверхаў. Часам стол прыбі-

ралі і арганізоўваліся танцы. Потым яны прасілі ў каменданта ключ ад пустога пакойчыка — такі пакойчык заўсёды знаходзіўся, у любым інтэрнаце. Камендант, адносна малады былы міліцыянер, ключ даваў. Ігнат часам за гэта ахвяраваў яму бутэльку гарэлкі.

Так ішоў час. Урэшце студэнт Ігнат Мазур неяк здаў экзамены па неабходных прадметах на новым факультэце і нават атрымаў стыпендыю і месца ў старым інтэрнаце непадалёку ад цэнтра горада.

Непазбежна ішло да таго, каб застацца на ноч у падобным пустым пакойчыку (такі аказаўся і на новым месцы) і з Юляй Маракавай. Перадусім пілі з ёй таннае сухое віно, шмат палілі і размаўлялі. Тут, у больш-менш знаёмым яму інтэрнаце, таксама існаваў прытулак для нечаканых гасцей. Праўда, сакрэтна самі студэнты адчынялі яго раз-пораз падробленым ключом, які перадавалі па чарзе і сярод сваіх — пра тое абачліва маўчалі.

Юля Маракова паліла больш за яго, роблена ўсміхалася, змушана жартавала.

Усё астатняе ўрэшце адбылося, як абодва дапілі рэшткі ў фужэрах. Было звычайна.

Пасля Юля Маракова запаліла і сказала яму, што ў яе гэта, лічы, магчыма ў першы раз, але Ігнат Мазур засмяяўся з «магчыма» і перавёў усё на жарт. Урэшце дасціпная сяброўка і сама пажартавала з сябе, бо...

Абое раніцай рассталіся задаволеныя адно адным і быццам сапраўднымі сябрамі.

* * *

На думку студэнта Ігната Мазура, журналіста, вядома, можна было падрыхтаваць за паўгода, а не губляць на гэта столькі часу, калі выключыць з праграмы грамадска-палітычныя прадметы, якія, як ён лічыў, будучаму журналісту не патрэбныя.

Ён меркаваў, што за паўгода можна авалодаць новай тэхнікай афармлення газеты, працай з дыктафонам, фотаапаратам, разабрацца ў жанрах — астатняе залежыць ад асабістых здольнасцей.

Гістарычны матэрыялізм студэнт Ігнат Мазур ледзь здаў на тры балы і то дзякуючы Ане Балтас. У пакойчыку, дзе яны па-ранейшаму, хоць і радзей, працягвалі сустракацца, Аня пасля гарачых абдымкаў брала ў рукі падручнік і ўголас зачытвала яму самыя важныя, на яе погляд, адказы на экзаменацыйныя пытанні, ён сяк-так іх запамінаў.

Яму даволі пагрозліва не хапала часу на вучобу. На асобных лекцыях трэба было абавязкова прысутнічаць — некаторыя з выкладчыкаў былі даволі прынцыповыя і калі-нікалі завальвалі прагульшчыкаў на іспытах. Стыпендыі не хапала нават на тыдзень-два, каб нармальна паабедаць. Танна і добра кармілі хіба што ў сталоўцы партыйнай школы, але туды заўсёды няпроста было праскочыць — пільны вахцёр пускаў толькі сваіх слухачоў. Увагі патрабавалі і дзяўчаты — іх раз-пораз варта было звадзіць на які канцэрт, у тэатр, альбо на свежую замежную кінастужку. Таму, калі ўвечары ў інтэрнаце з’яўляліся вярбоўшчыкі з прывакзальных складоў і прапаноўвалі жадаючым папрацаваць ноччу на разгрузцы вагона альбо цяжарніка, студэнт Ігнат Мазур іншым разам даваў згоду. Раніцай і часткова днём тады спаў, рызыкоўна прапускаючы лекцыі.

Яму пашанцавала хіба што з іспытам па замежнай літаратуры. Неяк перад залікам ён набраўся смеласці і спытаў у холе вучэбнага корпуса выкладчыцу

Ліцвінаву — сярэдняга веку жанчыну, стройную, добра апранутую, з дагледжанай постаццю і даволі мілавідным тварам.

— Нэла Маркаўна, — сказаў ён сарамяжліва і не зусім упэўнена, — у мяне да вас пытанне. Секунд трыццаць не пазычыце? Я — ваш студэнт з чацвёртага курса.

Выкладчыца Ліцвінава спынілася.

— Я вас не памятаю, — даволі суха заўважыла яна. — У чым, дарэчы, ваша пытанне?

Студэнт Ігнат Мазур глытнуў паветра і праз кароткую паўзу рашуча вымавіў:

— Калі гэта магчыма, вызваліце мяне ад наведвання лекцый.

Паўза.

— Вам што, не падабаюцца мае лекцыі? — з непрыхаваным здзіўленнем спытала выкладчыца, — альбо я? Дарэчы, я вас, паўтаруся, нешта не прыпомню. Па-мойму, вы і так мае лекцыі ігнаруеце.

— Наадварот, — раптам ужо спакойна і цвёрда адказаў студэнт Ігнат Мазур. Што будзе — тое і будзе, вырашыў ён сам сабе. — Вашы лекцыі мне падабаюцца, я люблю замежную літаратуру, і… вас таксама люблю.

— Нават так? Дзякуй. Асабліва за любоў. І ўсё-такі — у чым справа?

— Я ведаю ваш прадмет.

— У поўным аб'ёме?

— Так.

Паўза.

— Як ваша прозвішча, дарэчы?

— Ігнат Мазур.

— А вы разумееце, што іспыт для вас будзе асаблівы? Даволі жорсткі, да слова.

— Разумею. Хоць зараз.

Выкладчыца ўжо зацікаўлена зірнула на яго. На твары жанчыны з'явіўся лёгкі румянец.

— Добра, — усміхнулася раптам яна. — Заўтра а другой гадзіне знойдзеце мяне тут, магчыма, я буду ў дэканаце. Я праверу, ці адпавядаюць вашыя веды вашаму… ха-ха, скажам так, нахабству. Згода?

— Так, так. Вядома. Я вельмі вам удзячны.

— Што ж, рыхтуйцеся. А пра ўдзячнасць — потым.

— Да пабачэння. Да іспыту.

Іх кароткая размова не засталася па-за ўвагай. Непадалёк стаяла з цыгарэтай у руцэ аднакурсніца Святлана Конкіна — невысокая, даволі нядбайна апранутая дзяўчына з караткаватымі, на яго погляд, нагамі, але зграбнай постаццю, — такімі ён бачыў маладых дзяўчат з японскіх кінастужак.

Заўважыўшы, што яна, пэўна, нешта пачула з яго размовы з выкладчыцай, студэнт Ігнат Мазур памкнуўся да яе, каб высветліць, у чым справа, але дзяўчына раптам кінула непрыпаленую цыгарэту ў сметніцу і пайшла да выхаду. У яе была дзіўнаватая манера хадзіць: крыху выкідваючы наперад ногі. Ён раптам падумаў, што за ўвесь час амаль ніколі не звяртаў на яе ўвагі. Так, нешта шэрае. І чаго «грэла вушы»? — падумаў Ігнат Мазур і выкінуў усё з галавы.

Размову чуў яшчэ адзін яго аднакурснік — былы завочнік Уладлен Анціпаў, які часта цёрся каля яго, падтакваў, ніколі не пярэчыў, па-змоўніцку падтрымліваў яго, калі Мазур кпіў з існуючых на факультэце парадкаў, і паводзіў сябе давола прыхільна, за што атрымаў напаўжартоўную мянушку «Бой». Цяпер ён відавочна зацікавіўся і здзіўлена спытаў:

— Ты што — сапраўды заўтра пойдзеш да гэтай цёткі? Яна ж цябе разатрэ па стенцы. Ты вар'ят, Ігнаце?

— Ніколькі, Валодзя.

— Я — Уладзя, — незалюбіў Анціпаў.

— Ну, не садзіся на крыўду, — саступіў Ігнат Мазур і дадаў: — Не расцярушыць, бо я ў тэме, а па-другое, у нас з ёй атрымаўся спантанны біякантакт. Хоць ва ўзросце розніца. На ўзроўні падсвядомасці. Я гэта адчуў. Ды што табе тлумачыць.

— Стаўлю бутэльку «Гамзы» ў заклад: будзеш хадзіць на лекцыі.

— «Гамзу» я паважаю. Дадамо яшчэ батон і паўкіло доктарскай на закусь. Згода?

— Згода, — хіхікнуў Уладлен Анціпаў.

На тым аднакурснікі развіталіся.

* * *

Назаўтра студэнт Ігнат Мазур апрануўся ў свой адзіны святочны касцюм, павязаў нават гальштук, старанна пагаліўся. Можа, таму спазніўся на першую пару. Лекцыю па тэхніцы афармлення газеты чытаў выкладчык Анатоль Дземеш. Чамусьці выкладчык Дземеш, як адчуваў Ігнат Мазур, быў для яго небяспечны. Некалькі яго лекцый ён неабдумана прапусціў, а той гэтага не выносіў. Да таго ж, як пераведзены з іншага факультэта, Ігнат Мазур не праслухаў курс яго лекцый у поўным аб'ёме, а рыхтаваўся да заліку паводле падручніка.

Дземеш доўга не прымаў залік. Як толькі студэнт Мазур да яго падыходзіў, выгледзеўшы дзе-небудзь у вучэбным корпусе, той моўчкі сціскаў рот, зняважліва паварочваўся і ішоў прэч.

— Ты, пэўна, зусім «тормаз», — сказала тады Юля Маракова. — Ён жа можа не прыняць залік і на гэтай падставе не дапусціць да іспыту. Я сама пайду да яго. Ён ведае пра маю цётку і ўвогуле мае да мяне сантымент. Папрашу за цябе.

— А горш не будзе? — спытаў тады Ігнат Мазур. — А што калі ён накінецца на цябе і абслінявіць пацалункамі і ўсё такое…

— Адаб'ёмся, — хіхікнула тады Юля Маракова.

Юля Маракова апошнім часам абазначана тулілася да яго. Як амаль заўсёды, яна, у адрозненне ад часам змрочнага Ігната Мазура, была ў добрым настроі. На вуснах дзяўчыны звыкла таілася добразычлівая ўсмешка. Яна разумела гумар і любіла жарты.

— Дамоў, можа, разам пойдзем? — спытала яна. — З тэхнікай афармлення газет мы вырашым. Ты б хоць раз пару лекцый па палітэканоміі наведаў. Цябе адзначаюць кожны раз за прагулы і даносяць у дэканат. Мяркую, стараста.

— Чорт з ім, — вырвалася ў Ігната Мазура, — усё роўна гэты мутняк мне не здаць. Ён вышэй майго разумення. Але сёння папрысутнічаю. Бо пасля заняткаў затрымаюся. Ёсць справа.

— Сядзем разам.

— Ага, — паабяцаў сяброўцы Ігнат Мазур.

* * *

«Палітэканомію» чытаў новы выкладчык. Студэнт Ігнат Мазур бачыў яго ў першы раз. Выкладчыка звалі Пётр Мацкевіч. Гэта быў даволі мажны, цёмнавалосы, з сівымі скронямі чалавек, гадоў сарака васьмі — пяцідзесяці,

з разумна саркастычным выглядам на загарэлым твары і жывым, але стомленым позіркам шэрых неспакойных вачэй.

Ігнат Мазур амаль не слухаў таго. Побач сядзела Юля Маракова, часам, незаўважна для іншых, ціснула цёплымі пальцамі ягоную далонь, а потым увогуле напісала на лісце паперы: «Вечарам. Заўтра. Заходзь», пасунула да яго і прашаптала:

— Даслалі з дому пасылку. Там сярод іншага і бутэлька нашага, «Крымскага».

Студэнт Ігнат Мазур з цёплай удзячнасцю паабяцаў зайсці. Нейкі час думаў, ці будзе не заняты заўтра ўвечары вольны інтэрнацкі пакойчык, а потым прымусіў сябе слухаць выкладчыка.

Выкладчык Пётр Мацкевіч тым часам казаў:

— На падставе дадатковай вартасці Карл Маркс раскрыў катэгорыю «капітал», як самаўзроставую вартасць, якая выяўляе адносіны эксплуатацыі, і ўзнавіў падзел капіталу па прынцыпе ўдзелу ў стварэнні вартасці на пастаянны капітал, як сродкаў вытворчасці і пераменны капітал, укладзены ў рабочую сілу.

У выніку вартасць створанага тавару выяўляецца праз формулу.

Тут выкладчык Мацкевіч узяў крэйду і напісаў ёй на дошцы:

w = c + v + m,

дзе c (пастаянны капітал)

v (пераменны капітал)

m (дадатковая вартасць).

Пасля гэта агледзеў студэнтаў, усміхнуўся і працягваў гаварыць.

«Не, — думаў, слухаючы таго, Ігнат Мазур. — Гэтую ахінею мне ніколі не здаць. І ніхто не дапаможа. Мудрэй за гістмат».

У канцы лекцыі выкладчык Мацкевіч між тым нечакана паведаміў, што іспыт асабіста ён, магчыма, будзе прымаць не адзін, а разам з выкладчыкам Гавіным з інстытута народнай гаспадаркі.

— Ну, трапілі, — прашаптала Юля Маракова. — Той зарэжа палавіну курса, анягож. Ён непрадказальны, самазадаволены індык.

У аўдыторыі сцішана загаварылі, захваляваліся. Выкладчыка Гавіна ведалі па яго лекцыях, некалькі з якіх раней ён прачытаў на іх курсе; жорстка патрабаваў, каб вялі канспекты і не прапускалі яго заняткі.

Студэнт Ігнат Мазур адчуў непрыемны халадок у грудзях. Успомніўся іспыт па гістарычным матэрыялізме: як ён тады знерваваўся... Што ж, такое жыццё, меркаваў ён.

* * *

Пасля апошняй пары аўдыторыя апусцела, і студэнт Ігнат Мазур пайшоў шукаць выкладчыцу з кафедры замежнай літаратуры. Ён знайшоў яе ў дэканаце.

— Што ж, — сказала выкладчыца Нэла Ліцвінава, — калі ўжо самі напрасіліся, то хадземце на наш імправізаваны іспыт. Дзе ў нас тут пустая аўдыторыя?

— Якраз апошняя лекцыя скончылася, — паказаў ёй на расчыненыя дзверы сваёй аўдыторыі студэнт Ігнат Мазур.

Яны селі, і выкладчыца сказала:

— Час у мяне абмежаваны, так што пачнём без лішніх уступаў. Вы сапраўды гатовы? Калі выцягнеце хоць бы на «здавальняюча», я, так і быць, выканаю вашу просьбу.

Паўза.

Далей пачалося сапраўднае выкручванне мазгоў. Пытанні ўсё больш ускладняліся: з англійскай, іспанскай, нямецкай, французскай, маладой амерыканскай літаратуры як дзевятнаццатага, так і дваццатага стагоддзяў. Маючы добрую памяць, Ігнат Мазур лёгка ўспамінаў тое, што даўно чытаў, адказваў коратка, часам адхіляючыся ў бок, калі гаварыў пра аўтараў, якія яму асабліва падабаліся: Альбера Камю, Іва Андрыча, Кнута Гамсуна.

— Ну, а якую, па-вашаму, кнігу варта прызнаць лепшай кнігай усіх часоў і народаў? — раптам спытала яго выкладчыца Нэла Ліцвінава. — Вы ж, пэўна, ведаеце, што такія апытанні раз-пораз праводзяцца, і рэйтынг кожнага новага аўтара вылічваецца больш-менш дасканала?

Студэнт Ігнат Мазур падумаў і адказаў, што тут меркаванні вядомых крытыкаў разыходзяцца: некаторыя нават лічаць лепшай сусветнай кнігай «Дон Кіхота» Сэрвантэса, але на яго, Ігната, думку больш вартыя такой высокай адзнакі творы Шэкспіра, Дастаеўскага, Стэндаля, Ніцшэ, Фіцджэральда, Гамсуна, многіх іншых.

— А што тычыцца «Дон Кіхота» Сэрвантэса, — дадаў, — шчыра прызнаюся, кнігу да канца не дачытаў. Мне здаецца, што герой — псіхічна хворы чалавек і, нягледзячы на вялікую гуманістычную скіраванасць твора, двайную нагрузку і глыбіню тэксту, гэта аказвае негатыўны ўплыў асабіста на маё ўспрыманне. Ды, можа, не толькі маё. Хіба не так?

— Лічу, што не зусім так, — усміхнулася выкладчыца Ліцвінава, — але думку вашу прыму да ўвагі.

— А вось Дастаеўскі і яго «Бесы», «Браты Карамазавы» — гэта сапраўды вышыня. Яшчэ Ніцшэ, Клейст, Гельдзэрлін — якіх Стэфан Цвейг аб'явіў найвялікшымі, — панесла Ігната Мазура, — увогуле нельга, як я думаю, выбіраць з доўгага спісу адзін тэкст. Ну, вызначыць які дзясятак імён. Можна нават і больш.

— Вы і да Ніцшэ дабраліся? — здзівілася выкладчыца Нэла Ліцвінава. — Цікава, што чыталі, дзе і як?

— Была нагода, — ухіліўся ад адказу Ігнат Мазур.

— Можа, вы ведаеце і прычыну яго ранняй смерці? — нечакана пацікавілася выкладчыца.

— Ведаю. Незалечаная хвароба на пранцы.

Выкладчыца Нэла Ліцвінава падумала і спытала зусім іншае.

— Скажыце, Ігнат. Вы не хацелі б вучыцца далей па гэтым профілі? Вы, дарэчы, мой першы студэнт, які, небеспадстаўна падазраю, валодае тэмай напоўніцу. Распрацаваць кандыдацкую, а пра напрамак урэшце параіліся б разам.

— Не, — адказаў Ігнат Мазур. — Дзякуй вам вялікі, але я хачу працаваць. Вучыцца далей, потым выкладаць — гэта не для мяне. Да таго ж, ёсць і сямейныя праблемы, якія не аб'едзеш. Я — сын палітвязня.

Выкладчыца Нэла Ліцвінава ўзнялася з крэсла, працягнула руку.

— Прыйдзеце на экзамены з заліковай кніжкай. На лекцыі можаце не хадзіць.

Студэнт Ігнат Мазур нечакана для сябе шляхетна пацалаваў ёй далонь.

— Вельмі вам удзячны.

На твары выкладчыцы Ліцвінавай зноў выступіў лёгкі румянец.

— Да пабачэння, Ігнат. Рада за вас. Цікава пагаварылі.

* * *

Увечары студэнт Ігнат Мазур запісаў сабе ў нататнік:

*«Выкладчыца Ліцвінава цікавілася ў мяне, як я паспеў прачытаць столькі кніг. Але калі б пачула праўдзівы адказ, то, пэўна, здзівілася б.*

*Чытаць я навучыўся рана, але кнігі палюбіў пазней. Спачатку быў страх. Так, у дзяцінстве я баяўся цемнаты і ратаваўся ад гэтай фобіі чытанкай. Усё тлумачылася быццам і проста. Маці працавала на заводзе ў тры змены, і я часта заставаўся дома адзін. Па вечарах, як правіла, электрычнае святло ў горадзе адключалі на некалькі гадзін. Эканомілі. Я ліхаманкава запальваў газніцу, забіваўся ў кут і перад сабой раскрываў чарговую кнігу. Прымушаў паглыбляцца ў тэкст, інакш навальвалася сапраўдная паніка. Страх цемры. Пачаўся ён пасля аднаго выпадку, якому і дагэтуль не магу даць тлумачэння. Неяк узімку, пад вечар, я выйшаў на панадворак, а калі захацеў вярнуцца ў хату, то выявілася, што дзверы знутры зачынены. Дома я быў адзін. З гадзіну-другую я хадзіў па снезе, вяртаўся, зноў спрабаваў адчыніць дзверы, але дарэмна.*

*Урэшце сусед выпадкова пабачыў мяне. Я ўжо замярзаў. Паклікалі мужчын, дзверы ўзламалі. Дом абшукалі. Ніхто не мог зразумець, як яны зачыніліся самі. Гэта было проста немагчыма. Замка не было, а быў звычайны масіўны гак, які сам не мог узняцца ў паветра і зачыніць знутры хаты дзверы. Мяркую цяпер, што гэта мог быць і слаба выяўлены палтэргейст. Дарэчы, вядомыя і ціхія яго формы.*

*Але з той пары ў цемры мяне апаноўваў страх. Газніца мігала, па сценах варушыліся цені, а на стале ляжала чарговая раскрытая кніга, гарталіся старонкі, прагна праглынаўся тэкст.*

*З заплечнікам я наведваў бібліятэку і набіраў кніг. З часам я пачаў адрозніваць сапраўдную літаратуру ад літтрэша. Я сталеў. Паступова мая фобія (боязь цемнаты) знікла, але звычка чытаць засталася».*

* * *

Мінула некалькі дзён.

Пасля чарговых лекцый студэнт Ігнат Мазур вырашыў паехаць у інтэрнат да Ані Балтас. З сабой захапіў падручнік па палітэканоміі. У яго з’явілася прывідная надзея паўтарыць «гістматаўскі» метад: Аня будзе яму чытаць услых адказы на білеты, а ён запамінаць.

Але ўсё нечакана памянялася. У Аляксандраўскім скверы, праз які праходзіў, ён убачыў аднакурснікаў Іосіфа Зялёнку і Ваню Гужына. Яны сядзелі на лаўцы і толькі якраз адкаркавалі па бутэльцы чырвонага сухога віна.

— О, Ігнат, — сказаў Іосіф Зялёнка, — давай далучайся. — У сумцы што ў цябе? А мы тут, на лаўцы, «косці кінулі». Дык што — Ігнат? — складзем кампанію? А то з ім сумна. А ты пацан дасціпны, разумны. Што ў цябе ў сумцы?

— Ёсць пляшка сухога. Але я іду ў госці, — сказаў праўду Ігнат Мазур.

Жвавы і рухавы як ртуць Іосіф Зялёнка прапанаваў.

— Сядай з намі. У госці па вечарах ходзяць, ты, што — Віні Пух? У нас віна багата. Учора на радыё ганарар атрымалі. Мне за дзве інфармашкі, а яму, — кіўнуў на Гужына, — за інтэрвью. Пяць пухіроў віна і на закусь хапіла.

— Умееце жыць. А мне вось пісаць часу з-за іспытаў не хапае. Што на практыцы зарабіў, дык даўно сплыло. Урэшце, згода, перакулю шклянку.

— Прыкрыемся газетай! — загадаў Зялёнку абачлівы Ваня Гужын, — а то менты тут часам ганяюць.

Студэнт Ігнат Мазур сеў на лаўку, выпіў шклянку віна з разавага папяровага пакета, дастаў з кішэні пачак цыгарэт. Апошнім часам ён шмат паліў.

Выпілі па чарзе і яны. Гаварылі пра сесію, залікі, пра апошнія падзеі ў далёкай Празе. Ваня Гужын больш маўчаў, але пытанні задаваў даволі часта. Гэта быў сярэдняга росту, чарнявы, з гожым, хоць даволі звычайным тварам юнак. Студэнт Ігнат Мазур ведаў, што ён сын старшыні райвыканкама з правінцыі, сябра камсамольскага бюро факультэта, хоча застацца па размеркаванні ў Мінску, не хавае гэтага і ўжо шукае сабе месца.

Вядома, размова не мінула і таго, што ў Чэхаславакію нашы ўвялі войска, там неспакойна. Але чаму, дакладна не ведалі. Хаця здагадваліся...

Налілі яшчэ па шклянцы. Студэнт Ігнат Мазур раптам пашкадаваў, што дарэмна губляе тут час, падумаў, што пара ісці да Ані Балтас. Але нечакана Іосіф Зялёнка перасцерагальна зашыпеў і схаваў за спіну бутэльку. Па дарожцы, пэўна, таксама з вучэбнага корпуса, рушыў у іх напрамку выкладчык палітэканоміі Пятро Мацкевіч.

Магчыма, ён так бы і прайшоў побач, не звярнуўшы на іх увагі, калі б напалавіну недапітая бутэлька не выслізнула з рукі Іосіфа Зялёнкі і выкацілася на асфальтаваную сцежку. Студэнт Зялёнка спрытна нахіліўся і падхапіў яе.

Выкладчык Пятро Мацкевіч спыніўся.

— Добры дзень, Пётр Антонавіч, — з робленай ветлівасцю павітаўся з ім Ваня Гужын.

Запанавала непрацяглая паўза. Выкладчык Мацкевіч абудзіўся ад нейкіх сваіх думак і паглядзеў на хлопцаў.

— А-а, — сказаў ён, — дык вы мае студэнты? Успамінаю. Бачыліся. Адпачываеце? З віном? І што п’яце, цікава, у такім людным месцы?

— Сухое віно, — не стаў маніць Іосіф Зялёнка. — «Гамза» — не з лепшых гатункаў, але піць можна.

— А вы прысядзьце з намі, Пётр Антонавіч, — раптам набраўся нахабства студэнт Ваня Гужын. — Мы тут крыху ганарару атрымалі, дык вось адзначаем. Мы вас шчыра запрашаем і палічым за гонар, калі вы не адмовіцеся. Мы вас паважаем. Ды вось і сябры пацвердзяць.

— Так, так, — заківалі галовамі хлопцы.

Выкладчык Пятро Мацкевіч падумаў і прысеў на лаўку побач.

Студэнт Ваня Гужын наліў таму ў разавую шклянку віна.

— Зваць вас як? — пацікавіўся выкладчык Мацкевіч, пажадаў хлопцам здароўя і выпіў.

Хлопцы назваліся. Пачалі размову. Ні аб чым. Спачатку даволі напружана і абачліва — прыглядаліся да нечаканага суразмоўцы. Але выкладчык Пятро Мацкевіч размову іх раз-пораз падтрымліваў, гаварыў далікатна, хоць часам змаўкаў і думаў пра нешта сваё. Ніхто не звяртаў на іх увагі. Урэшце, у скверы часта выпівалі, і не толькі студэнты.

Неўзабаве выкладчык Мацкевіч падняўся з лаўкі, падзякаваў і сказаў, што яму трэба дадому.

— А вам у які бок? — спытаў няўрымслівы і ўсюдыісны студэнт Іосіф Зялёнка.

— Уніз па Паркавай.

— Дык і нам туды ж.

— У інтэрнат? Я вас правільна зразумеў?

— Так.

— Хадземце. Разам і мне будзе весялей, — сказаў выкладчык Мацкевіч.

Каля ГУМа завярнулі налева і пайшлі ўніз. Студэнт Ігнат Мазур хацеў было развітацца і пакінуць кампанію, але Іосіф Зялёнка быццам здагадаўся і прашаптаў яму на вуха:

— Плюнь на «госці». У цябе яшчэ віно ў сумцы і ў нас дзве пляшкі засталіся — дык, можа, працягнем. Бачыш, Антоныч — свой чалавек. А мы яшчэ і ў гастраном забяжым па дарозе.

Дарогай размаўлялі толькі хлопцы. Выкладчык Пятро Мацкевіч зноў стаў задуменны і больш маўчаў.

Калі падышлі да інтэрната, студэнт Ваня Гужын нечакана звярнуўся да таго з прапановай:

— Можа, завітаеце да нас, Пётр Антонавіч? У нас на паверсе зараз спакойна, большасць на занятках.

Выкладчык Пётр Мацкевіч выслухаў таго, падумаў і згодна кіўнуў галавой і папрасіў.

— Толькі вы, хлопцы, асабліва наш пікнік не афішуйце.

* * *

Размясціліся ў пакойчыку, дзе жылі студэнты Гужын і Зялёнка.

Паставілі на столік віно, тое-сёе са сціплай закускі. Прачынілі акно, а дзверы, наадварот, зачынілі, каб ніхто не зайшоў.

Выпівалі і гаманілі да цемнаты. Выкладчык Пятро Мацкевіч слухаў, зрэдку сам задаваў хлопцам пытанні.

Пра сябе скупа расказаў, што калісьці вучыўся ў інстытуце, абараніў кандыдацкую, але пачаў пісаць п’есы, працаваў загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры, а таксама выступаў на сцэне як акцёр.

— А вашы п’есы — ідуць? — зацікавіўся студэнт Ігнат Мазур.

— Адну прынялі, далі тры спектаклі, а потым знялі, — шчыра адказаў выкладчык Пятро Мацкевіч.

— Чаму? — спытаў студэнт Іосіф Зялёнка.

— Значыць, не зусім у масць трапіла, — не стаў паглыбляцца выкладчык Пятро Мацкевіч.

Ён падняўся і пачаў развітвацца, але студэнт Ваня Гужын выцягнуў з кішэні ключ, сказаў, што гэта ключ ад пустога інтэрнацкага пакоя, і што лепш будзе, калі паважаны Пётр Антонавіч пераначуе ў тым пакойчыку, дзе яго ніхто не патурбуе да раніцы, бо хадзіць у цемры небяспечна.

— Ну што ж, ёсць рацыя.

Выкладчык Мацкевіч спусціўся на першы паверх да вахты, дзе вісеў тэлефон-аўтамат і пазваніў, а потым вярнуўся.

— Папярэдзіў жонку, каб не хвалявалася, — сказаў ён.

Гаварылі яшчэ доўга. Пра Чэхаславакію, тэатр, акцёрскае майстэрства, дайшло і да палітэканоміі. Высвятлялі, хто больш дасведчаны: Маркс, Прудон, Сміт ці Рыкарда.

Выкладчык Пятро Мацкевіч у размову амаль не ўступаў, запаліў цыгарэту, зноў задумаўся. Але раптам спытаў у Ігната Мазура:

— Ну, а вы, Ігнат, чаму маўчыце?

Студэнт Ігнат Мазур зморшчыўся, нібы ад зубнога болю.

— Калі шчыра, то я амаль не ўспрымаю гэты навуковы спектр, — неяк з выклікам і каструбавата адказаў ён пасля кароткай паўзы. — Ну, вось што гэта за дадатковая вартасць, чаму яна тычыцца вартасці створанага тавару і ўсялякага там «капіталу» я не магу ўцяміць. Пэўна, недахоп мыслення. Абстрагавання, аналітычнасці, аналізу мне бракуе. Дый нецікава мне гэта. Мутняк.

Паўза.

Выкладчык Пятро Мацкевіч усміхнуўся.

— Ды няма ніякай дадатковай вартасці, — раптам абвясціў ён. — Гэта ўсё — лухта. Ёсць энергія зоркі — нашага Сонца, вось і ўся першапрычына.

Выкладчыка Пятра Мацкевіча адвялі ў пусты пакойчык і паклалі спаць. Прадбачлівы Іосіф Зялёнка выявіў апошнюю бутэльку віна, якую забараніў цяпер дапіваць, патлумачыўшы, што вып’юць яе раніцай, тым больш, што ў іх госць, якому трэба будзе пахмяліцца.

* * *

Спаць яшчэ не выпадала і студэнт Ігнат Мазур вырашыў пайсці да Юлі Маракавай. Але пакой паверхам вышэй, дзе жыла сяброўка, быў замкнёны, і ён, крыху падумаўшы, пагрукаў у суседнія дзверы, каб спытаць, дзе ўсе падзяваліся.

— Адчынена! — пачулася адтуль.

Студэнт Ігнат Мазур зайшоў у пакой. На ложку, падкурчыўшы смуглявыя ногі, сядзела Святлана Конкіна і паліла. Дзяўчына была ў паркалёвым нясвежым халаціку, яе цёмныя кароткія валасы неахайна тапырыліся, прыпудраны круглы твар з ледзь прыкметнымі прышчыкамі, нагадваў маску. Дзяўчына была адна ў пакоі, два суседнія, акуратна запраўленыя ложкі, пуставалі.

— Добры вечар, Святлана, — ветліва сказаў студэнт Ігнат Мазур і дадаў: — Фортку б адчыніла. Паліць жанчынам — шкодна.

— Адчыні, — абыякава ўсіхнулася дзяўчына.

— Шукаў Маракову, але ў іх ціха.

Святлана Конкіна паціснула плячыма.

— «Шел в комнату — попал в другую», — працытавала яна грыбаедаўскі радок са школьнай праграмы і патлумачыла: — Там, бывае, рана кладуцца спаць. — А можа, куды сышлі.

— Я прысяду, — сказаў нечакана для сябе Ігнат Мазур.

— Прысядзь, — паморшчылася яна.

Студэнт Мазур пасунуў да яе ложка зэдлік і сеў. Твар яго аказаўся амаль на адным узроўні з аголенымі нагамі дзяўчыны. Жаданне пасунуцца ўсутыч і прыпасці тварам да гэтых ног раптам хваляй абрынулася на яго. Студэнт Ігнат Мазур праглынуў камяк у горле і заціснуў у перасохлыя вусны цыгарэту.

— Ты падслухоўвала, калі я дамаўляўся з выкладчыцай Ліцвінавай, — сказаў ён. — Навошта?

Дзяўчына пакрывіла невялікі рот з пульхнымі вуснамі, выдыхнула дым і патлумачыла:

— А я люблю падслухоўваць. І падглядваць.

Яна нахілілася, каб стрэсці попел. Халацік яе расхінуўся і студэнт Ігнат Мазур убачыў, што станіка на ёй няма, а грудзі з цёмнымі смочкамі зусім маленькія. Скура і на іх была смуглаватая. Дзяўчына зноў выпрамілася і захінулася шчыльней.

— А кватаранткі дзе? — кіўнуў на пустыя ложкі Ігнат Мазур.

— Чарговага дурапляса пабеглі глядзець. На канцэрт. Кветачкі яму панеслі, ідыёткі. Хутка прыпруцца. «Як ён спяваў, як спяваў: ля-ля-ля! Ля-ля-ля! Першакурсніцы».

— Ну, а ты на першым курсе хіба не бегала на якога-небудзь Магамаева ці Бюль-Бюль-аглы? — рызыкоўна спытаў Ігнат Мазур.

— Дарэмна іранізуеш. Магамаеў, прыкладам, вельмі прыгожы мужчына.

— Я лічу, што ў большасці жанчын вычварэнскі густ. Ды гэта амаль усе літаратурныя класікі заўважылі.

— Значыць, і я з ліку тых жанчын. Табе што да гэтага?

— Дык усё-такі бегала? З вырачанымі вочкамі? — нямаведама чаму пачынаў злаваць Ігнат Мазур. — Ну, кветкі — гэта прыстойна, цалкам адэкватна і ўвогуле традыцыя. Але там-сям істэрычныя німфэткі ў стане афекту закідваюць сцэну і сваімі майткамі.

— У цябе такое багатае ўяўленне?

— Бывае і багацейшым.

— Могуць і не зразумець.

— Ну, ты ж у тэме? У мяне, дарэчы, з'явілася пачуццё, што мы з табой шмат у чым аднолькавыя. Ты б на лекцыях менавіта ля мяне прысаджвалася. Вось бы і нашапталіся. Праўда, праўда, чаму ты ўсміхаешся?

Студэнтка Святлана Конкіна выдыхнула дым і патушыла цыгарэту, Твар яе набыў халодны выраз.

— Так, маеш рацыю. Прыкладна, канешне. І вочкі, і кветкі, і ўсё такое. Было. Славак адзін прыязджаў, я два разы на яго канцэрт схадзіла. Ён мне нават сваю пласцінку ахвяраваў. А цяпер пайшоў бы ты прэч. Язык у цябе нядобры. Лепш я ўжо захоплены віск першакурсніц паслухаю.

— Табе побач з імі, пэўна, сумна?

— Мне па-любому сумна. Асабліва адвячоркам, на захадзе сонца. Разумееш такое?

— Так, і мне знаёма, — пацвердзіў студэнт Ігнат Мазур, — «калі снег мокры падае, а праз яго ліхтары газай мігцяць»…

— Люблю Дастаеўскага, — усміхнулася Святлана Конкіна. — Асабліва «Падлетка».

— Табе б замуж, Святлана, — раптам зноў грубавата сказаў студэнт Ігнат Мазур.

Паўза.

— Што так?

— Ферамоны вылучаеш.

— А пайшоў бы ты ўсё-такі прэч.

— Не садзіся на крыўду. Прабач, Святлана.

— Замуж, ха-ха. Можа, і за каго падкажаш?

— Табе вырашаць.

— Мне днямі адзін наш румын прапанаваў нешта накшталт таго.

— Віця Ганабец? Гэты — што з Малдавіі? — здагадаўся Ігнат Мазур. — Вось здзівіла. А што ты?

— Патлумачыла папулярна, што мне патрэбны самастойны, забяспечаны матэрыяльна мужчына, а не бедны студэнт. Хіба што пакахаю якога. Але гэта так... Вельмі ты здагадлівы пра Ганабца і іншае — такія заўжды небяспечныя. І потым Маракова на цябе вока закінула. Дый выкладчыцы Ліцвінавай ты спадабаўся. Я бачыла. А ўвогуле, сумна жыць на свеце, Ігнат.

Упершыню дзяўчына назвала яго проста па імені. Цёплая хваля прыязнасці ахапіла яго, і студэнт Ігнат Мазур раптам падумаў, што адчуў бы сябе

шчаслівым, каб проста цяпер прылегчы побач з ёй на гэтым ложку і пакласці далонь ёй на аголеныя грудзі.

— Толькі ж пачынаеш жыць, Святлана.

— У тым вось і справа.

Дзяўчына запаліла новую цыгарэту, сказала рашуча:

— Хачу цяпер адна пабыць. А то зараз прыйдуць дзяўчаты. Цябе пабачаць, маладога, гожага. Мараковай данясуць, ха-ха.

Студэнт Ігнат Мазур узняўся з зэдліка, адчыніў акно, пайшоў да дзвярэй.

— Зачыніш сама. А то напалілі. Кідала б гэтую звычку.

— Пляваць. Хоць дзякуй за клопат.

* * *

Аднойчы вечарам да яго ў інтэрнат прыйшла Аня Балтас. Стройная, у плісіраванай спадніцы, адкрытай кашулі, валасы колеру саломы гожа абрамлялі яе мілавідны загарэлы твар. Адно плячо, левае, крыху ўзнята, што, як ён ведаў, было ў яе прыкметай хвалявання.

У пакойчыку студэнт Ігнат Мазур быў не адзін. Ляжаў на засланым ложку з падручнікам па палітэканоміі глухаваты аднакурснік Міхась Байкоў, а за сталом гартаў нейкія паперы і адначасова вячэраў рухавы і заўжды вясёлы кавэзэншчык Дзяніс Маркін — з невялікай галавой мікрацэфала і пастаянна расцягнутым ва ўсмешцы ротам.

— Можна да вас? — насцярожана спытала з парога Аня Балтас і дадала: — Прывет, Ігнат. Я да цябе.

— Канешне, заходзь! — шчыра абрадаваўся Ігнат Мазур. — Прысядзь во на мой ложак, а я зараз сабяруся. Хоць, пачакай. Ты, Дзяніс, схадзіў бы павучыў навуку ў «чырвоным» пакоі, а з Байковым я зараз улагоджу, — звярнуўся ён да Маркіна.

Аня Балтас усміхнулася, села на ложак.

— Дзякуй, што не выгналі. Не турбуйцеся, хлопцы, я на хвіліну. Пайшлі, Ігнат, у кавярні пасядзім. Тут побач. Я ўбачыла, ёсць такая. Не супраць?

Паўза.

— Слушна кажаш, — згадзіўся ўрэшце Ігнат Мазур. — Калі там ціха, чыста і мёдам намазана.

У кавярні сапраўды было на гэты час даволі ціха, яны замовілі бутэльку таннага белага сухога віна і марожанае для дзяўчыны.

— Паслухай, Ігнат, — пачала студэнтка Аня Балтас, — я зайшла не проста так, а каб вырашыць адно пытанне. Вядома, ты прабач, бо мяне не запрашаў. Справа ў тым, што ў цябе практыка, дыплом, дзяржэкзамены, ну, урэшце, вайсковыя зборы. А ў мяне таксама іспыты, практыка і неўзабаве размеркаванне на працу. Мы сталі рэдка бачыцца, але не з гэтай нагоды. Ты змяніўся Ігнат, я адчуваю. І не ведаю, калі шчыра, што рабіць.

Паўза.

— Я сам не ведаю, — урэшце адказаў студэнт Ігнат Мазур даволі разгублена.

— У цябе з'явіўся новы інтарэс? Калі так — нічога не зробіш.

Я табе ніколі не навязвалася, ты сам мяне калісьці знайшоў — такую, якой я была. Так, далёка не нявінніца. Дык я гэтага і не хавала. Каб сустрэла цябе раней, усё было б інакш. Спадзявалася, што ты не будзеш успамінаць мне пра тэлегонію ці яшчэ пра нешта інфернальнае. Мужчыны ў большасці вялікія раўніўцы.

— Пра тэлегонію — ад сястры пачула?

— Угадаў. Дарэчы, пайшла пад вянец нявінніцай. Яна — разумніца, не тое, што я.

— Спадзяюся, у яе, маю на ўвазе тваю сястру, усё будзе добра, — сказаў Ігнат Мазур, — але такая разважлівасць у жанчыны нават здзіўляе. Усё ў яе запланавана: замуж — нявінніцай і — за багатага, жыць — у сталіцы…

— Я таксама хацела б жыць у вялікім горадзе, — сарамяжліва заўважыла студэнтка Аня Балтас. — Ніхто навокал цябе не ведае, ты — вольная, сама за сябе. А багацце? Ды чорт з ім! Мы абое з небагатых сем'яў. Ты вадзіў мяне ў сталоўку, як у мяне скралі стыпендыю, я дапамагала табе, калі ты хварэў. Сястра хоча, каб я сустракалася з сябрам яе мужа — ён мінчанін, яму трыццаць гадоў, нежанаты. Запрасілі мяне днямі на нейкую вечарыну.

— Мудрасці ў тваёй сястры аж зашкальвае, — нявесела ўсміхнуўся Ігнат Мазур.

Ён раптам уявіў сабе, як яго сяброўка і даўняя каханка Аня Балтас кладзецца ў ложак з незнаёмым яму мужчынам, як той пачынае яе лашчыць… У горле ў яго перахапіла, кроў кінулася ў твар.

— Не, толькі не гэта, — выдыхнуў ён.

І падумаў, што калі б хто-небудзь спытаў яго цяпер, ці кахае ён дзяўчыну, якая сядзіць за сталом насупраць, і якая патрабуе ад яго прамога адказу на нялёгкае і для яго і для яе пытанне, то сказаў бы, што, вядома, кахае, і хоча, каб яна заўсёды была побач з ім. Але тут жа ўсплыло ў памяці, што ён абяцаў зайсці да Святланы Конкінай і да Юлі Мараковай, і што таксама моцна жадаў бы, каб і тыя былі з ім побач, і што ўсё гэта становіцца для яго пакутлівым. І зноў у яго памяці зусім не да месца ўсплыў эпізод з адной замежнай мастацкай стужкі, галоўны герой якой не можа выбраць паміж жанчынамі, не хоча губляць ніводную з іх і ў чарговым прыступе дэпрэсіі пазбаўляе сябе жыцця.

— Дык што ж мне рабіць, Ігнат? — спытала між тым студэнтка Аня Балтас. — Ты зараз у сваім жыцці, а мяне там быццам ужо і няма. І я ж не плакацца прыйшла, праўда?

У кавярні пабольшала наведвальнікаў. Адразу ўключылі магнітафон у кутку за стойкамі, адтуль загучала нейкая папса, потым Высоцкі, зноў нейкая прыблатнёная спявачка з рызыкоўным рэфрэнам: «Мама, я злодзея люблю». Некалькі дзяўчат паселі за суседні столік. Сярод іх, як заўважыў Ігнат Мазур, былі дзве аднапакаёўкі Юлі Мараковай. «Пляваць», — падумаў ён.

— Ты зможаш крыху пацярпець, Аня? — спытаў ён. — Я шмат чаго здаю, некаторым выкладчкам гэта не спадабаецца, тут яшчэ патрэбныя залікі па практыцы, у нас вайсковая кафедра, а там вельмі і вельмі строга. Там могуць і загнобіць. Давай вырашым усё крыху пазней. Ты ж бачыш, як усё навалілася, — гаварыў ён, тым не менш разумеючы, што не ўсё кажа шчыра, і раптам яму стала вельмі шкада і Ані Балтас, і чамусьці яе сястры, якая, напэўна, мела рацыю, і сябе.

Віно скончылася, студэнт Ігнат Мазур разлічыўся, і яны выйшлі на вуліцу. Сцямнела. Запаліліся ліхтары.

Здаецца, шмат пра што паспелі пагаварыць, студэнтка Аня Балтас, увогуле мяккая характарам, зноў была быццам усім задаволеная, яны зацiснуліся ў будку тэлефона-аўтамата і там цалаваліся, потым Ігнат Мазур сказаў:

— Тралейбусы пакуль ходзяць. Можа, да цябе, Аня?

— А я сёння якраз засталася адна ў пакоі. Раз'ехаліся дзеўкі. Ноч будзе наша? Як усё-такі добра, калі мы разам.

* * *

Назаўтра, седзячы на лекцыі ў аўдыторыі, студэнт Ігнат Мазур па новай звычцы, якая з’явілася ў яго параўнальна нядаўна, у другі раз запісаў у нататнік, які насіў пры сабе і нікому не паказваў:

*«Пачытаў больш падрабязна пра тэлегонію, аб чым нагадвала сястра Ані Балтас Ларыса, якая заканчвае медінстытут. Урэшце, шматлікія медыкі, генетыкі і навукоўцы ведаюць гэтую дзіўную, нават інфернальную з’яву, якая, тым не менш, не даводзіцца шырокаму колу людзей, разам з такімі калянавуковымі галінамі, як еўгеніка, гамеапатыя і г.д. Лічаць (хто менавіта?), што людзям пра такое лепш не ведаць. Шэкспір неяк напісаў: «Што чалавек? Жывёла і не болей». Ну, можа, разумная, але жывёла. Аказваецца, варта спытаць любога вопытнага сабачніка, галубятніка і іншага, які займаецца развядзеннем чыстых парод жывёл, і пачуеце адразу: пародзісты сабака, які выпадкова спароўваецца з беспародным і патомства якога вынішчаецца, усё роўна ўжо ніколі не будзе нараджаць чыстых жывёл сваёй пароды. Толькі мяшанцаў. Тое ж у коней, галубоў і іншых жывёл. Аказваецца — і ў людзей. Вось і меў рацыю Шэкспір. Тады, дарэчы, ведалі пра тэлегонію?*

*Кажуць, пасля Міжнароднага моладзёжнага фестывалю ў Маскве, які адбыўся больш як дзесяцігоддзе таму, у некаторых выпадках назіралася дзіўная з’ява: некаторыя белыя дзяўчаты, якія ўступалі ў палавую (без наступстваў) сувязь з цёмнаскурымі хлопцамі, і праз год, два, тры, як павыходзілі замуж за сваіх белых суайчыннікаў, нечакана нараджалі цёмнаскурых дзяцей. Аказваецца, першы самец і палавы акт замацоўваецца нейкім чынам назаўсёды. Нават, калі кантакт быў праз кантрацэптывы. Праз тэлегонію могуць перадавацца розныя, у тым ліку і псіхічныя хваробы. Мяркую, што і рэўнасць — ад падсвядомага адчування гэтай з’явы. Але ж межы размываюцца, і нацыі паступова будуць змешвацца. І што тады? А вось што. Мяркую, нацыя, якая найбольш размножыцца, падамне пад сябе планетарнае мысленне і выведзе адзіную пароду людзей. Цалкам магчымая будучыня. Цікава было б пагаварыць пра гэта з навукоўцамі.*

*Але ж я адхіляюся. Урэшце, усё гэта думкі сваёй гадоўлі, не больш. Вось сястра Ані Балтас Ларыса лічыць, што сямейнае шчасце ў многім залежыць ад таго, ці была нявеста ў першую шлюбную ноч нявінніцай. А ў яе самой, якую не будзе раўнаваць муж, адбудзецца шчасце ў сям’і? Цікава б спытаць у яе гадоў праз дзесяць».*

* * *

На другі дзень пасля таго, як выкладчыца замежнай літаратуры Нэла Ліцвінава прыняла іспыт у студэнта Ігната Мазура і паставіла яму ў залікоўку і ў ведамасць адзнаку «выдатна», яго выклікалі да дэкана факультэта Парэцкага.

Дэкан быў строгі, сядзеў за сталом і перакладаў на ім нейкія паперы. Ігнат Мазур ведаў, што студэнты пабойваліся яго, але падсвядомае слабае пачуццё зараз гаварыла яму, што дэкан, былы баявы лётчык, хоць і строгі, але справядлівы. А студэнт Ігнат Мазур не разумеў, чаму яго выклікалі. Запазыкі па заліках і іспытах ён здаў, ніякіх дысцыплінарных учынкаў не меў. Дык у чым справа? — губляўся ў пытаннях Ігнат Мазур.

Урэшце дэкан Парэцкі адклаў у бок паперы, кінуў позірк на студэнта і сказаў:

— Сядайце.

Студэнт Ігнат Мазур нерашуча прысеў у крэсла.

— Скажыце, хто вам дазволіў не прысутнічаць на лекцыях і здаваць экзамены датэрмінова? — спытаў дэкан Парэцкі.

— Ніхто, — пасля паўзы неакрэслена адказаў Ігнат Мазур.

— Вынікае, што вы самі сабе дазволілі?

— Бадай што так.

— Вы так шмат ведаеце? Не жадаеце пачуць што-небудзь новае?

— Жадаю. Вашыя лекцыі я наведваю рэгулярна, — стрымана зманіў студэнт Ігнат Мазур.

Паўза.

— Гэта я яшчэ праверу, — івідавочна памякчэў дэкан Парэцкі. — А з вас на экзамене спытаю напоўніцу. Дысцыпліна павінна быць адна для ўсіх і парушаць нельга. Вам гэта зразумела?

— Так.

— Ідзіце.

«Хто ж мог данесці?» — думаў Мазур, выйшаўшы ад дэкана.

* * *

Адносна цёплае надвор’е нечакана перапыніў паўночна-ўсходні вецер, ён прынёс зацяжныя халодныя дажджы.

У інтэрнаце таксама пахаладала, ноччу на коўдру даводзілася зверху накідваць балоневы плашч, каб захоўваць цеплыню.

У адзін з такіх халодных дзён у сваёй аднапакаёвай кватэры засіліўся Мазураў аднакурснік Язэп Гарай. Апошнія месяцы ён амаль не паказваўся ў аўдыторыі, прапускаў заняткі, не здаваў залікі і ў выніку не быў дапушчаны да іспытаў.

Але, як яшчэ казалі, асноўнай прычынай суіцыду Гарая была не заваленая сесія, а праблемы з псіхікай. Казалі, быццам ведаючы гэта, яго каварна выкарыстала нейкая жанчына, якую ён, цяжарную ад іншага, прытуліў у сябе. Казалі, нібыта тая жанчына пачала цягаць яго па судах, каб адабраць кватэру, альбо нейкія грошы.

Усё гэта стала вядома на факультэце, трагедыя ўсхвалявала ўсіх: і студэнтаў, і выкладчыкаў, Мазура таксама, і ён запісаў у нататнік некалькі сваіх меркаванняў пра здарэнне:

*«Язэпа Гарая я ведаў параўнальна нядоўга, і ён рабіў уражанне ўпэўненага і самадастатковага, але вельмі нервовага чалавека. Выключна здаровы фізічна, займаўся, як аматар, цяжкай атлетыкай (выціскаў лежачы сто кілаграмаў, прысядаў са стапяцідзесяццю), жыў у сваёй кватэры і не меў патрэбы ў грашах. Што падштурхнула яго да суіцыду, дакладна невядома нікому. Калі самае вялікае няшчасце ў жыцці — смерць, то чаму ён выбраў менавіта гэта? Ніхто на курсе не ведаў і той жанчыны, якую ён прывёў да сябе. Думаю, асноўная прычына ў ёй. Як я дзесьці вычытаў, псіхолагі сцвярджаюць, что чалавеку ўласцівыя тры асноўныя інстынкты: палавы, нянавісць да сябе падобных і імкненне да смерці. Ахвярай якога ці ўсіх разам стаў Язэп Гарай? Невядома. Дарэчы, засіліцца лічыцца ў свеце даволі ганебным».*

* * *

Экзамен па палітэканоміі здавалі з раніцы. Студэнт Ігнат Мазур, які перадусім нават не раскрываў падручніка і ведаў, што гэта бессэнсоўна, бо ўсё роўна ў галаве нічога не застанецца, ён толькі згубіць час на дарэмную вычытку — тым не менш прыйшоў у вучэбны корпус, слаба спадзеючыся, што выкладчык і галоўны экзаменатар Гавін захварэў, альбо трапіў пад трамвай, увогуле атруціўся якім-небудзь нясвежым прадуктам ці падавіўся курынай косткай. Але яго спадзяванні аказаліся марнымі. Хоць на іспытах прысутнічаў і Пятро Мацкевіч, які сядзеў у аўдыторыі за сталом збоку, апытваў усіх, як ужо стала вядома, чамусьці выключна Гавін.

Студэнт Ігнат Мазур убачыў Ваню Гужына і Іосіфа Зялёнку, якія, нібы два слупы стаялі ў кутку калідора ля аўдыторыі, падышоў да іх.

Якраз у гэты момант дзверы аўдыторыі расчыніліся і адтуль, хістаючыся, паволі выйшаў Віктар Ганабец. Ігнат Мазур ведаў, што той родам з няблізкай Малдавіі, вучыцца яму тут было цяжка: далёка ад дому, ды і ўвогуле, нейкі ён нібы затарможаны.

Чарнавалосы, жукаваты, цяпер ён быў бледны і нібы нечым аглушаны.

— Заваліў. На пераздачу, — вымавіў ён і папрасіў цыгарэту.

Праз некалькі хвілін з дзвярэй выслізнула заплаканая выдатніца Яніна Смоліч.

— Тры балы, — абвясціла яна ў насоўку.

Гэта ўжо было ўвогуле нешта незразумелае, бо ўсе ведалі, што выкладчык Гавін з сімпатыяй адносіўся да жаночага полу, і больш-менш прыгожыя дзяўчаты паспяхова здавалі яму іспыты.

— Чакаем, хлопцы, — давёў Ігнат Мазур занепакоеным Зялёнку і Гужыну. — Можа, Гавіна ў дэканат выклічуць, ці ён захоча есці, або ў прыбіральню.

Між тым іспыт працягваўся. Некалькі дзяўчат нечакана атрымалі добрыя адзнакі, а студэнтка Галіна Самаежка, даволі юрлівая і нахабная, якая змагалася з выкладчыкамі за кожны бал — нават «выдатна». І не дзіва, у галаве ў яе было нешта накшталт камп'ютара, бо яна ведала з кім сябраваць, з кім спаць, а таксама, дзе будзе працаваць і за каго выйдзе замуж.

Тым не менш Самаежка ўмела хаваць гэтыя свае якасці, і Ігнату Мазуру, які інтуітыўна разгадаў яе, станавілася нават не па сабе — вось будзе камусьці шчасце, падумаў ён і цяпер.

Пасля яе Гавін заваліў яшчэ пару хлопцаў, а потым зноў даў слабіну — у асноўным да дзяўчат. Але час ішоў, і чарговай ахвярай выкладчыка стаў рахманы і бяскрыўдны Міхась Байкоў — выхадзец з вёскі. Міхась да вучобы паспеў папрацаваць паляводам у калгасе і таму, як кажуць, зубамі трымаўся за навуку.

На гэты раз не дапамагло.

Як высветлілася, выкладчык Гавін спытаў у Міхася Байкова пра асноўнае ў вучэнні Рыкарда, але той не ведаў. Тады Гавін пацікавіўся, ці чытаў студэнт Байкоў хоць што з распрацовак Фрыдрыха Энгельса па тэме, а так, як гэта ў праграму не ўваходзіла, Байкоў толькі лыпаў вачыма. Урэшце, ён пачаў нешта гаварыць па пытанні ў білеце, але праз хвіліну Гавін перапыніў яго і спытаў, што еў студэнт Байкоў на сняданак. «Сала з хлебам», — шчыра адказаў той. «І часнаком?» — пацікавіўся Гавін. «Так», — кіўнуў Міхась Байкоў. «Калі будзеце пераздаваць, дык ужывайце ўжо без часнаку», — сказаў выкладчык Гавін і скончыў апытанне.

— Дык вампіры не выносяць часнок, — заўважыў Байкову Ігнат Мазур. — А ты, братка, натрамбаваўся ім з раніцы. Вось і атрымаў...

Урэшце выкладчык Гавін, мабыць, прытаміўся, папрасіў Пятра Мацкевіча сесці насупраць яго у кут аўдыторыі і дапамагаць прымаць іспыт. Усё гэта даносілі тыя, хто выходзіў з аўдыторыі пасля іспыту.

Трое змоўшчыкаў, між тым, адразу акрыялі. Цяпер трэба было пралічыць усё так, каб трапіць менавіта да выкладчыка Мацкевіча, што аказалася не проста. Першаму ўдалосяся трапіць да яго выкрутліваму Іосіфу Зялёнку. Праз хвілін пяць ён выскачыў з аўдыторыі і адразу піхнуў туды Ваню Гужына.

— Ідзі. Ха-ха...

— Што? Як? — пачалі пытацца ў Зялёнкі дзяўчаты.

— Ледзь выратаваўся, — хітрыў той. — Джаліць, як пчала. Пытанне за пытаннем.

Але ўбачыўшы Ігната Мазура, адразу кінуўся да таго, зашаптаў у вуха:

— Станавіся ля дзвярэй. Нікога да Мацкевіча не прапускай, ідзі сам. Толькі да яго, інакш табе капец. Урэшце, сам ведаеш.

— Пакажы залікоўку, — сказаў Мазур.

— Ну зірні на арыфметыку.

У графе за іспыт студэнт Ігнат Мазур убачыў лічбу «5» і подпіс Мацкевіча.

— Дык ты ж казаў...

— Мала што я каму казаў. Наперад, сябра. Пара.

Студэнт Ігнат Мазур з залікоўкай у руках стаў ля дзвярэй. Неўзабаве яны адчыніліся, але з аўдыторыі выйшла як самнамбула стараста курса Уразава. На яе заўсёды жыццярадасным твары чыталіся разгубленасць і яўнае незадавальненне. «Тры, тры балы», — загаманілі вакол дзяўчаты.

З велічнай млявасцю тым часам з аўдыторыі выплыла генеральская дачка Паліна Басаргіна.

— Пяць балаў, — абвясціла яна. — Гавін запаў на мяне, век Парыжа не бачыць.

Трэба было заходзіць менавіта Ігнату Мазуру, але той рашуча адмовіўся:

— Пачакаю.

Замест яго, а значыць да выкладчыка Гавіна, пайшоў вядомы на курсе зубрыла і, як хадзілі чуткі, — стукач, выдатнік Павел Слімакоў.

Ужо моцна нервуючыся, студэнт Ігнат Мазур чакаў выхаду Вані Гужына. Як толькі той паказаўся з дзвярэй, Мазур пасунуўся ў аўдыторыю.

«Да выкладчыка Мацкевіча, — круцілася думка. — І каб трапіць толькі да таго».

У аўдыторыі было чыста, светла і пахла сумессю таннай жаночай парфумы і кветак. На стале перад выкладчыкам Гавіным стаяла вазачка з букетам. Сам выкладчык — укормлены, самазадаволены, карыкатурна імпазантны — разглядваў, нібы нецікавае яму насякомае, узмакрэлага ад напругі студэнта Паўла Слімакова.

У супрацьлеглым кутку за сталом адзінока сядзеў выкладчык Пятро Мацкевіч. Яго спакойны, крыху іранічны твар з жывымі, разумнымі вачыма быў павернуты да напаўрасчыненага акна, за якім квола зелянела некалькі таполяў.

Студэнт Ігнат Мазур павітаўся і нерашуча спыніўся. Як паставіцца да яго выкладчык Мацкевіч? Што ён за чалавек увогуле? Ці не запамятаваў ён яго пасля іх сумеснага «пікніка» з Зялёнкам і Гужыным? Дык тады ў іх усё прайшло па-сяброўску.

— Гэта я, маё прозвішча Мазур, — урэшце мовіў ён.

— Заходзьце, — запрасіў Мацкевіч і паказаў Ігнату Мазуру на крэсла перад сабой. — Цягніце білет. Які там нумар?

Студэнт Ігнат Мазур назваў нумар білета і пытанні. Выкладчык Мацкевіч зірнуў у бок Гавіна, які ў супрацьлеглым куце аўдыторыі ляніва дапытваў Паўла Слімакова і сказаў напаўголаса:

— Ну, гаварыце што-небудзь. Пра дадатковую вартасць, прыкладам. Не маўчыце.

Студэнт Ігнат Мазур глытнуў перасохлым горлам і, цвёрда гледзячы ў вочы экзаменатара, адказаў:

— Так званая дадатковая вартасць і многае іншае, пра што пісаў Маркс, — гэта ахінея. Няма ніякай дадатковай вартасці, ёсць энергія зоркі — гэта значыць, нашага Сонца.

Паўза.

— Так, так. Што яшчэ скажаце?

— Больш няма чаго, — панізіў голас студэнт Ігнат Мазур.

— Давайце пра футбол, — з ледзь прыкметнай усмешкай сатыра ў кутках вуснаў сказаў выкладчык Пятро Мацкевіч. — Любіце футбол? Я, прыкладам, і стадыён часам наведваю. Калі мінскае «Дынама» гуляе. А чэмпіянаты свету абажаю. Якая зборная каманда асабіста вам падабаецца?

— Зборная Германіі. І яшчэ люблю глядзець гульню італьянцаў.

— І за што падабаюцца? Гаварыце, не маўчыце. Тым больш, што нашы погляды тут поўнасцю супадаюць. Трэба ж такое...

Яшчэ хвіліны дзве-тры студэнт Ігнат Мазур называў прозвішчы вядомых гульцоў, каратка расказаў нават пра знакамітую «бітву пры Бёрне» — урэшце змоўк.

Паўза.

— Якую адзнаку вы хочаце? — нечакана спытаў яго выкладчык Пятро Мацкевіч.

— «Добра», калі можна. За чарговы траяк могуць пазбавіць стыпендыі, а «пяцёрка» выкліча падазрэнні.

— Давайце залікоўку.

Выкладчык Пятро Мацкевіч паставіў адзнаку «добра» ў ведамасць і ў залікоўку Ігната Мазура.

— Энергія зоркі, — па-змоўніцку ўсміхнуўся ён, — вось у чым першапрычына. Тут вы правільна заўважылі. Усё астатняе — лухта.

Юля Маракова яшчэ не здавала, і Ігнат Мазур адвёў яе ў бок і сказаў:

— Ідзі толькі да Мацкевіча. І ўсё будзе, як у мяне.

— А што ў цябе?

— Чатыры балы.

— Во як. Ды пачакай, раскажы падрабязна.

Але студэнт Ігнат Мазур ужо не слухаў яе. Ля акна ён убачыў адзінокую постаць Святланы Конкінай і заспяшаўся туды.

Студэнтка Конкіна, як заўсёды някідка, нават ледзь не нядбайна апранутая ў белую кашулю і ў чорную спадніцу, сустрэла яго звыклай іранічнай усмешкай на пульхных вуснах. У руцэ яна трымала прыпаленую цыгарэту. Зялёныя вочы дзяўчыны нічога не выяўлялі: ні трывогі, ні заклапочанасці, ні якога ўзбуджэння перад іспытам.

Студэнт Ігнат Мазур запаліў і, свядома мінаючы залішнія падрабязнасці, параіў дзяўчыне здаваць іспыт толькі выкладчыку Мацкевічу.

— А мне Гавін падабаецца, — нібы насуперак яму сказала Святлана Конкіна і дадала з прыхаваным здзекам:

— Ён так глядзіць на мяне, бедны...

— Ён жорстка прымае. Ты можаш не вытрымаць іспыт. І чаго гэта ён на цябе глядзіць? Самазадаволены індык. Па-мойму і на галаве ў яго нешта накшталт завіўкі. Нават ты такую не зробіш.

— А я іспыту не баюся. Я і «Капітал» Маркса нeяк пачытала.

Студэнт Ігнат Мазур раптам адчуў цьмянае раздражненне. «Лепш бы галаву лішні раз памыла, чым пачытваць таго Маркса», — падумаў ён, але, вядома, не сказаў услых: дзяўчына магла адразу і назаўсёды «сесці на крыўду», а ён гэтага не хацеў. Зусім наадварот. У яго зноў успыхнула нясцерпнае, неспадзяванае жаданне прыхінуцца да яе, удыхнуць пах яе вопраткі, цела, валасоў, гэтае жаданне цалкам ахапіла яго.

— Паслухай, Святлана, — сказаў ён, — можна я да цябе як-небудзь зайду?

— Зайдзі, — са сваёй незразумелай, іранічнай усмешкай паціснула тая плячыма.

Прыбег з чытальнай залы, якая была непадалёк, заклапочаны, узнерваваны Уладлен Анціпаў. Ён да апошняга сядзеў за падручнікам і цяпер выведваў у аднакурснікаў: як і што? Ля Ігната Мазура ў такі момант яму не было чаго рабіць — хіба выслухоўваць чарговыя кпіны, а вось выдатнікі маглі што і падказаць.

* * *

Увечары з Іосіфам Зялёнкам і Ванем Гужыным адзначалі здадзены іспыт. Абодва зноў паказалі яму залікоўкі з выдатнымі адзнакамі. Як даведаўся Ігнат Мазур, «выдатна» атрымала і Святлана Конкіна і яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат. Большасць з іх здавалі палітэканомію выкладчыку Пятру Мацкевічу.

Пілі, як звычайна, таннае сухое віно. Зноў успомнілі добрым словам Мацкевіча і гаварылі пра яго, успаміналі, як сутыкнуліся з ім у Аляксандраўскім скверы, і як той спагадліва аднёсся да іх, нават зрабіў ласку — не пагрэбаваў імі, а проста, па-мужчынску выпіў разам. Гаварылі, што, калі верыць чуткам, ён выкладчыкам працуе нядаўна, і, напэўна, яму яшчэ не зусім давяраюць, інакш не запрасілі б на іспыт Гавіна з інстытута народнай гаспадаркі. Ну прачытаў раней ім Гавін некалькі лекцый, дык што з таго? Казалі яшчэ, што Пятро Мацкевіч трапіў да іх выкладаць выпадкова — неяк дэкан Парэцкі пазнаёміўся з ім на стадыёне «Дынама», іх месцы аказаліся побач, дык там яны і зблізіліся.

— Чуткі, плёткі — усё гэта неістотнае, — падвёў урэшце вынік Ігнат Мазур, — а вось мужык ён варты. За яго і вып’ем.

Праз нейкі час яго адшукала Юля Маракова. Дзяўчына была пакрыўджаная, але не паказвала гэта, спытала, ці не забыў ён, што абяцаў прыйсці да яе?

Студэнт Ігнат Мазур супакоіў дзяўчыну і запэўніў яе, што толькі збіраўся, але давялося крыху затрымацца з хлопцамі.

— А я на іспыце атрымала «добра», — пахвалілася Юля Маракова.

— У каго?

— У Гавіна.

— Ну, ты і трапіла да вампіра. Яшчэ пашанцавала. Гнілы дзядзька.

— Так, — хіхікнула Юля Маракова, — сапраўды самазадаволены індык.

— І Конкіна менавіта яму здавала? — быццам між іншым пацікавіўся Ігнат Мазур.

— Так. Атрымала «выдатна».

Абое стаялі ў інтэрнацкім калідоры ля акна і палілі. Са стадыёна насупраць грымеў духавы аркестр: рыхтаваліся да чарговага традыцыйнага параду вайскоўцы.

— Паслухай, Ігнат, — пачала Юля Маракова. — Маё «Крымскае» з пасылкі пачакае, бо сёння нам няма дзе прытуліцца, але ў мяне ёсць да цябе адна, магчыма, не зусім звычайная прапанова. Справа ў тым, што хутка апошні іспыт, а потым вакацыі, пасля практыка. Затым дзяржэкзамены, у нас курсы медсясцёр, а ў вас вайсковыя зборы.

— Што з таго, Юля?

— Паехалі на вакацыі да мяне. Да Сімферопаля на самалёце, а там ужо побач. Ты, бачу, здзіўлены?

Паўза.

— Вядома, здзіўлены. Дзякуй табе за ўсё, але...

— Што так? — перапыніла яго дзяўчына.

— Трэба дапамагчы маці, а па-другое — у мяне няма лішніх грошай. У якасці каго я прыеду?

— Ну вось твая беларускасць усплыла: як, чаму? Ды каб не назаляць... Мае старыя — гасцінныя: бацька — загадчык гандлёвага аддзела ў абырвалзе, а маці...

— Што за абырвалг?

— Ты ж у Булгакава памятаеш?

— А, — здагадаўся Ігнат Мазур. — Гэта ж Шарыкаў усё наадварот чытаў.

— А маці — выкладчыца мовы і літаратуры ў школе. Ты з ёй адразу паразумеешся. Прычым тут грошы? Урэшце, я адзін раз прапанавала, а другі — не буду.

Ён не стаў тлумачыць Юлі Мараковай, што ў маці даўняя хвароба, якая носіць назву гіпатырэёз, і што ёй штодня трэба прымаць лекі. Маці ж хоць і выйшла на пенсію, змушана працаваць, бо пенсія ў яе зусім малая: яе, жонку «ворага народа», некалі з літасці ўзялі на працу на адзін занядбаны заводзік, дзе і зарплаты па сутнасці не было. Так што вакацыі не для яго. Вядома, ён з задавальненнем пазагараў бы на марскім пляжы і ўсё такое, але... Ды і як бы ён паглядзеў у вочы яе бацькам, штодня аб'ядаючы іх і не маючы ў кішэні лішняга рубля?

— Не крыўдуй, Юля, — расчуліўся ад нечаканай шчырасці дзяўчыны Ігнат Мазур, — такі я ўжо чалавек і іншым пакуль быць не магу, а вакацыі кароткія. Пабачымся. Ёсць і іншыя праблемы, але потым, потым...

Ноччу ён доўга не мог заснуць. Успомніў, што так і не пайшоў да Ані Балтас, а між тым абяцаў і даўно варта. Прыгадалася яе старэйшая сястра — у яе словах таксама прысутнічала даволі рэальна жыццёвая жаночая мудрасць. Але жанчыне варта выбіраць сабе мужчыну ў спрыяльным узросце, каб нарадзіць здаровых дзяцей, і менавіта такога, які здольны забяспечыць сям'ю. Ужо два гады, як яны сустракаюцца з Аняй, праўда, апошнім часам зрэдку. За гэты час яна магла б, як і старэйшая сястра, знайсці сабе паспяховага мужчыну, мінчаніна, а не ехаць кудысьці ў свет па размеркаванні.

Вось і Юля Маракова свядома ці падсвядома шукае сабе спадарожніка па жыцці. І жыццё тое, як казаў ім раней выкладчык Мацкевіч, вельмі, нават нечакана — кароткае. Яму, Ігнату Мазуру, і яе шкада. Калі б ён быў якім

забяспечаным мусульманінам, ён бы ўсіх траіх трымаў пры сабе. Хоць той жа заўзяты кавэзэншчык Ваня Гужын кажа: «Бабу пашкадуеш — сам бабай акажашся». Ды хто такі Гужын? А выбар, між іншым, ужо амаль зроблены. Калі з нядаўняй пары Света Конкіна побач з ім — ён ужо шчаслівы.

Раптам студэнт Ігнат Мазур чамусьці зноў успомніў мастацкую стужку, у якой галоўны герой пакутуе ад таго, што не ведае, каго выбараць з дзвюх жанчын, і ягонае пачуццё кахання да іх абедзвюх настолькі моцнае, што ён псіхалагічна не вытрымлівае і даходзіць да суіцыду...

Толькі пад раніцу, калі ўжо світала, студэнт Ігнат Мазур раптоўна заснуў.

* * *

Ішоў час. Жаданне пабачыць Святлану Конкіну, якое нібы выбухнула ў ім апошнімі днямі, было настолькі моцным, што студэнт Ігнат Мазур штодня ледзь стрымліваў сябе. Але інтуітыўна ён адчуваў: варта вытрымаць нейкі адрэзак часу, каб усё адбылося па тым сцэнарыі, які прыме дзяўчына. Апынуцца побач занадта рана ці занадта позна — і яна можа страціць да яго ўсялякі інтарэс, а падсвядомасць цьмяна гаварыла яму пра тое, што гэта так і ёсць. Як і ён, яна зрэдку з’яўлялася на лекцыях, але яму хацелася большага — застацца з ёй сам-насам.

Якраз дапамог выпадак. На прыпынку ля інтэрната ён убачыў дзвюх дзяўчат з таго пакоя, у якім жыла Святлана Конкіна. У руках яны трымалі сумкі. Дзяўчаты — зямлячкі з аднаго раёна — былі ўжо яму знаёмыя. Ён мімаходзь спытаў, куды яны сабраліся. «Дадому, адпусцілі ў дэканаце на суткі», — адказалі першакурсніцы. «Пэўна, да бацькоў па прадукты і па грошы, — з сарказмам вырашыў ён. — Грошы, мабыць, на дураплясаў пайшлі. Вядомая справа».

— А Святлана сышла куды ці сядзіць у пакоі? — быццам абыякава спытаў іх студэнт Ігнат Мазур.

— Так. Нешта чытае, — адказалі дзяўчаты.

Было даволі цёпла. Клёны даўно пакрыліся лісцем. Крама месцілася побач. Ігнат Мазур купіў там бутэльку «Тракіі», плітку шакаладу і ў бабулі, калі праходзіў скверык, букецік палявых кветак. «Поўны джэнтльменскі набор», — іранізаваў ён.

Яму б не хацелася, каб цяпер хто са знаёмых студэнтаў, сустрэў яго, асабліва Юля Маракова. «І ўвогуле, — думаў ён, — тое, што раблю, не зусім правільна». Але тут жа пачаў шукаць сабе апраўданне і знайшоў яго: не можа супрацьстаяць сваім пачуццям, і як будзе далей — няхай так і будзе...

Зайшоўшы ў інтэрнат, падняўся паверхам вышэй, на якім быў пакой, дзе жыла Конкіна, і некалькі разоў пастукаў у дзверы. Неўзабаве ключ у замку шчоўкнуў і дзверы расчыніліся. Студэнтка Святлана Конкіна моўчкі глядзела на яго, блізарука прыжмурыўшыся.

— Варта і папярэджваць, — быццам незадаволена сказала яна.

Але ён, паглядзеўшы на яе, мог бы паклясціся, што гэта было зусім не так.

— Люблю знянацку.

— Не прыбрана. Ты надоўга?

Замест адказу ён дастаў з пакета віно, працягнуў дзяўчыне кветкі.

Паўза.

— Як гэта зразумець, Ігнат? — спытала студэнтка Святлана Конкіна. Нязменная, ледзь бачная таямнічая ўсмешка ўжо блукала ў кутках яе вуснаў. — Можа, ты зноў не ў той пакой зайшоў?

Дзяўчына стаяла ад яго так блізка, што ён адчуў слабы пах яе цела, парфумы і ледзь перамог імклівае жаданне абняць Святлану і моцна прыціснуць да сябе.

— Прысядзь, Ігнат. А то ты, як слуп, нада мной. Кветкі пакуль у ваду пастаўлю. Ну, дзякуй. Не чакала. І Мараковай кветкі носіш?

— Ты якой нацыянальнасці, Святлана? — раптам спытаў студэнт Ігнат Мазур.

— Навошта табе?

— Нічога пра цябе не ведаю.

— Па бацьку ёсць угра-фінскія карані, я з Таліна, ён там быў капітанам сухагруза, а па маці… Якая табе, урэшце, розніца? Ты па гэта прыйшоў?

— Прамінём, калі так, — сказаў Ігнат Мазур.

— Ты пакуль адвярніся, а я на сябе зірну ў люстэрка, — дзяўчына засланілася ад яго палавінкай шафы.

— У вас тут нават і прайгравальнік ёсць, — між тым заўважыў Ігнат Мазур, — ды такі кампактны, зручны. Танчыце з гасцямі?

— Гэта мне айчым прывёз. І адну пласцінку «Бітлз». Рок-гурт.

— Хіба ў цябе айчым? Прабач, што зноў пытаюся. А бацька?

Дзяўчына выслізнула з-за створкі, перасмыкнула плячыма, запаліла і села на ложак у сваёй улюбёнай позе — падкурчыўшы ногі.

— Бацькаў невялікі сухагруз трапіў у моцны шторм і перакуліўся. А ён, як капітан, павінен быў сыходзіць апошнім. Так і атрымалася. Шмат хто з экіпажа загінуў. Ну, а айчым — так, прысмактаўся калісьці да маці. Я — на яго прозвішчы. Старэючая жанчына і… усё такое. А паразіты самыя хітрыя і, мяркую, трыумфуюць у гэтым жыцці. А «Бітлз»? Хоць я і вар'яцею часам ад іх песняў, а падарункі ад яго не цярплю... Не звяртай увагі, што я раскапусцілася. Я даволі злая.

— І я люблю іх песні, — сказаў ужо без іроніі студэнт Ігнат Мазур. — Паслухаем што-небудзь? Такая пласцінка — усё-такі цудоўны падарунак. Уключым?

— Можа, так, а можа, і не.

— У цябе, пэўна, шмат пласцінак?

— Усяго тры, — усміхнулася Святлана Конкіна. — Тая, што айчым дастаў, другую славак ахвяраваў, а трэцюю — Чурлёніса, — сама купіла. Слухаю пад настрой.

— А зараз які настрой? Каго б ты паставіла?

— Славака.

«Чорт бы пабраў таго славака»,— падумаў Ігнат Мазур. — Урэшце, гэтая жаночая рыса характару не павінна здзіўляць: яны то ад Брамса млеюць, то ад чарговага блазна, альбо ўвогуле ад якога сучаснага Смердзякова з гітарай».

Але замест гэтай злоснай тырады, прадыктаванай не інакш як пачуццём нечаканай рэўнасці, студэнт Ігнат Мазур стрымаў сябе і памяркоўна пагадзіўся:

— Пастаў славака.

Святлана Конкіна паціснула плячыма, устала і выцягнула з палічкі пласцінку. Уключылі прайгравальнік.

Прыемны барытон загучаў у пакойчыку. Песня была даволі простая, мелодыя хітовая, словы, блізкія да яго роднай мовы, лёгка клаліся на слых.

Студэнтка Святлана Конкіна нечакана пачала ціха падпяваць. Цыгарэта дымілася ў яе пальцах, а ў цёмных зялёных вачах дзяўчыны Ігнат Мазур заўважыў сум.

Урэшце голас спевака сціх. Пласцінка круцілася і раз за разам пстрыкала на паўторах.

— Век бы слухаў, — усё-такі не ўстрымаўся студэнт Ігнат Мазур. — Яшчэ разы два паставім?

— А вось ты зараз забярэш сваё бургундскае і пойдзеш, а я, можа, і тройчы паслухаю.

— Ну, бургундскім цябе, пэўна, той спявак частаваў, а я — бедны студэнт. Мяне асабіста і «Тракія» задавальняе.

— Чаго ты прыйшоў да мяне, Ігнат? Злоснічаць?

— Хіба ты не разумееш? Пабыць разам.

— Які ў гэтым сэнс?

— Але ж ты не супраць, што я зайшоў?

Студэнтка Святлана Конкіна выцягнула з тумбачкі шклянкі, наліла ў іх віно, паклала на стол пачак пячэння, нечакана ўсміхнулася:

— Не супраць.

Яна выпіла, зноў села на ложак у ранейшую позу. Сукенка амаль не хавала яе загарэлыя, крыху крываватыя ногі, вусны маленькага, натурыстага рота на гэты раз былі пафарбаваныя чырвоным, а ледзь бачныя прышчынкі — белым: твар дзяўчыны ў прыцемку нагадваў маску з японскага тэатра «Но».

Ігнат Мазур таксама выпіў віно, прыслухаўся да сябе, сказаў: — «Але люблю сухое віно, няблага пайшло», — і дадаў:

— У нас з табой, пэўна, аднолькавыя вірусы засяліліся. Так што ўсё непазбежна. Таму і прыйшоў.

Студэнтка Святлана Конкіна прыпаліла ад цыгарэты цыгарэту.

— Што яшчэ за хрэнь? Патлумач.

— Калі толькі коратка. Я недзе чытаў, што менавіта вірусы далі штуршок спачатку самому жыццю, а потым і эвалюцыі. Яны і цяпер яе асноўная сіла. Усё даволі празаічна. Наш мозг, калі сыходзіць з гэтай тэорыі — смеццязборнік вірусаў. І нават каханне звязана з вірусамі. Базавая хімічная рэакцыя. Выходзіць, не мы ўтвараем пары, а падобныя вірусы скіравана прыцягваюць нас адно да аднаго.

— Лепш бы ты памаўчаў, Ігнат. Па-твойму намі кіруюць паразіты?

— А ты думала...

— Ты б зачыніў дзверы, Ігнат. А то яшэ хто-небудзь зазірне. Яны ўсе і так мяне за сцерву трымаюць.

— Хто гэта — усе?

— Першакурсніцы мае, яшчэ сёй-той. Ды, няважна хто.

Студэнт Ігнат Мазур зачыніў знутры дзверы — ключ пакінуў у замку, пасунуў, як і ў мінулы раз, зэдлік да ложка і прысеў побач з дзяўчынай. Затым адабраў у яе амаль дапаленую цыгарэту і кінуў у попельніцу, але сваёй рукі ад яе далоні не адняў і раптам адчуў, як яна сціснула ў адказ яго пальцы. І ўсё адразу ж паплыло перад яго вачыма...

Калі б хто-небудзь спытаў у студэнта Ігната Мазура, ці нават ён сам пацікавіўся ў сябе, што адбылося з ім і дзяўчынай на імя Святлана Конкіна ў той вечар і ноч, — ён бы абсалютна шчыра адказаў, што нічога не памятае. Адрэзак часу ў некалькі гадзін быў амаль начыста выцерты з яго памяці, усплывалі хіба асобныя фрагменты: як таропка дапівалі віно, як нехта грукаў у дзверы, як абое прагна палілі па цыгарэце, але так і не дапалілі, бо зноў кідаліся ў ложак.

Толькі раніцай студэнт Ігнат Мазур вярнуўся ў свой пакой, заваліўся ў пасцель і, не зважаючы на неспакойнага з досвітку Міхася Байкова, які з

сялянскай уніклівасцю ўстаўляў жалезныя апоры свайго ложка ў запоўненыя вадой бляшанкі ад кансерваў — усё гэта ад клапоў — моцна заснуў.

* * *

Неяк атрымалася, што на практыку тэрмінам на два тыдні Ігнату Мазуру загадалі збірацца ў адзін абласны цэнтр на тэлебачанне. Дзіўна было, што ён сам такога жадання быццам і не выказваў. Ён ведаў, разумеў: тэлежурналістыка набірае моц, выходзіць на першае месца ў сродках масавай інфармацыі, — але ўсё-такі падсвядома адчуваў — яго месца не на тэлеэкране, а ў рэдакцыі газеты ці якога часопіса, а тут... Публічнасць — гэта не для яго. Да таго ж, на кафедры тэлебачання працавала маладая, даволі істэрычная, на яго погляд, аспірантка Спіркіна, якая, калі трэба было і не трэба, уздымаючы ўверх вочкі, усклікавала: «Агеньчык! Агеньчык!», за што і атрымала адпаведную мянушку.

Студэнт Ігнат Мазур яе не паважаў і засцерагаўся — яна часта завальвала на іспытах.

Ён, вядома, хацеў застацца на практыцы ў Мінску, нават не важна дзе, бо тут заставалася Святлана Конкіна. Але хадзіць у дэканат і прасіць не хацелася. Трымаўся далей ад кіраўніцтва факультэта.

У абласны цэнтр разам з ім на практыку паехалі Юля Маракова і яе сяброўка Надзея Гусакова. Дзяўчаты замацаваліся за «тэленавінамі», а Ігнат Мазур папрасіўся ў рэдакцыю літаратурна-драматычных перадач. Пасялілі практыкантаў у зале, дзе завяршаўся рамонт, спалі яны цераз шырму: дзяўчаты на раскладушках, а Ігнат Мазур на старой караткаватай для яго канапе. Урэшце, уладкавалі іх, як ён палічыў, няблага, выдалі нават коўдры і бялізну.

Загадчыкам рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач аказаўся мужчына гадоў сарака, чарнявы, смугласкуры, з бегаючымі чорнымі вочкамі і ўчэпістымі рукамі з даўгімі пальцамі. Назваўся ён Казімірам Маратавічам Шахто. Заняты сваімі справамі, упэўнены ў выключнай сваёй важнасці, ён амаль не звярнуў увагі на практыканта. Студэнт Ігнат Мазур пагаварыў з ім пра свае абавязкі — зрабіць адзін прахадны сюжэт — пагартаў планы рэдакцыі, прагледзеў адну з перадач — давалі запіс вячэрняга спектакля мясцовага драмтэатра, яшчэ нешта неістотнае, і з трывогай адчуў, што тут яму няма чаго рабіць. Рэдактар, на Ігнатаў погляд, так ён вырашыў пасля некалькіх гутарак з ім, быў звычайны правінцыйны літёлуп, з невядома якой адукацыяй і які нямаведама як апынуўся на сваёй пасадзе. Плюс быў адзін: Казімір Шахто не заўважаў Мазура і не сачыў за ім: не прымушаў сядзець на лятучках і прыходзіць рана ў кабінет, дзе ў кутку яму, як практыканту, паставілі часопісны столік.

У сувязі з тым, што амерыканская проза якраз перажывала своеасаблівы бум, Ігнат Мазур вырашыў зрабіць у сваю практыковую перадачу эсэ пра «вялікую пяцёрку»: Фіцджэральда, Фолкнера, Хэмінгуэя, Стэйнбека, Дос Пасаса. Знайшоў нават некалькі каляровых здымкаў пісьменнікаў, прыдумаў кароткі сюжэт.

Але яго ідэю загадчык аддзела Казімір Шахто ўспрыняў, як асабістую зняваму. Высветлілася, што гэты, на думку студэнта Ігната Мазура, вяртлявы, правінцыйны тэлежучок, нават не ведаў, хто такія Дос Пасас, Фолкнер, не чытаў ніводнага з вядомых пісьменнікаў і так усхваляваўся, што пабег раіцца да дырэктара.

— Гэта што — пісьменнік? — перадусім тыцкаў ён даўгім пальцам у фотаздымак Уільяма Фолкнера, дзе нобелеўскі лаўрэат па літаратуры быў зняты за цяслярскай працай на сваёй ферме, у падраным пінжаку, выцвілых джынсах і з пляскатай пляшкай віскі, якая выглядала ў яго з кішэні. — Калгасны конюх гэта, а не пісьменнік! — вішчэў Казімір Шахто, — і ты прапануеш такія здымкі ў перадачу? А тэкст? Ты каго прапагандуеш? Для нас яны ўсе — буржуазныя, ідэлагічна няўстойлівыя прадстаўнікі замежнай культуры!

Дырэктар абласнога тэлебачання Кухарчук змушаны быў прагледзець сюжэт і выказаць свае адносіны.

— Скажыце, — раптам асцярожна звярнуўся ён спачатку да студэнта Ігната Мазура зусім з іншага боку, — сябра Вярхоўнага суда Мазур — не ваш сваяк?

— Так, — раптам зманіў раздражнёны ўсім гэтым Ігнат Мазур, — сваяк.

— Вы не хвалюйцеся, мы паставілі ў план ваш сюжэт. Ну, крыху дапрацуеце з рэдактарам, — паабяцаў дырэктар Кухарчук. — А ўвогуле мы бачым, што вы праяўляеце ініцыятыву, паводзіце сябе прыстойна, спадзяюся, так будзе і далей, і практыку вам абавязкова залічым. Вы згодны, Казімір Маратавіч? — звярнуўся ён ужо да рэдактара Шахто.

— Так, так, — заківаў той галавой.

Вольны з гэтага часу, студэнт Ігнат Мазур тым не менш вырашыў падпрацаваць на «Навінах», дзе ўжо абжылася Юля Маракова, і зрабіць які матэрыял для абласной газеты, каб на ўсялякі выпадак падстрахавацца, бо ад «Агеньчыка» можна было чакаць усяго.

Вечарам таго дня, а практыкаваліся ўжо ледзь не тыдзень, дзяўчаты сабралі тое-сёе на стол, а Ігнат Мазур схадзіў у бліжнюю краму, купіў бутэльку чырвонага сухога віна.

Як заўсёды, шмат палілі і гаманілі пра ўсё і… ні пра што.

— Уяўляеш, — пасмейвалася, звяртаючыся да сяброўкі Надзя Гусакова, — гэтае пудзіла, Казік Шахто, запаў на мяне. Учора падваліў цішком і прапанаваў адвячоркам пасядзець з ім за кубачкам кавы ў яго кабінеце.

— Працяг, спадзяюся, будзе? — пыталася Юля Маракова. Дзяўчына была ў добрым настроі.

— Магчыма. Праз тыдзень прыедзе на адведкі мой суджаны, ну, вы ж яго ведаеце. Ён і арганізуе працяг, калі наш юрлівец не супакоіцца.

Студэнт Ігнат Мазур раней бачыў у інтэрнаце жаніха рослай, прыгожай, але, на яго думку, праставатай Надзеі Гусаковай — той заканчваў палітэхнічны інстытут і даволі паспяхова займаўся дзесяціборʼем.

— А ты чаму ўсё маўчыш, Ігнат? — пацікавілася Юля Маракова. — Мо захварэў?

Ігнат Мазур нявесела ўсміхнуўся, паціснуў плячыма. Ён раптам адчуў сябе нібы ў іншым вымярэнні.

— Выйду, запалю. А вы тут без мяне пасакрэтнічайце.

На амаль бязлюднай вуліцы ўжо загараліся ліхтары. Толькі ля бліжэйшай кавярні было даволі ажыўлена — там віравалі падлеткі.

Студэнт Ігнат Мазур адчуў, як самота холадам агорала яго знутры. Што ён тут робіць з гэтымі дзяўчатамі, адной з якіх быццам нечым абавязаны — толькі чым? Што яму з гэтага тэлебачання, дзе нельга прыбартаваць звычайны літаратурны сюжэт, дзе яго ўпарта не хочуць бачыць нават цяпер, а не толькі ў будучым? Там, у сталіцы, засталася Святлана Конкіна, з ёй адной яму б хацелася аказацца зараз побач. Дзе яна ў гэтыя хвіліны, з кім праводзіць вечар, альбо сядзіць адна? Урэшце, раптам успомніў Ігнат Мазур, ён жа па-

ранейшаму амаль нічога пра яе не ведае: хто яна, адкуль, хто яе айчым, маці, нават не ведае якой яна нацыянальнасці? Хоць што яму, акрамя цікавасці, да апошняга?

Ён выцягнуў з кішэні партманет і палічыў грошы. Заставалася не так і багата ад заробленага на мінулых, леташніх вакацыях, але калі палічыць, колькі дзён яму тут пакутаваць, то можна… Так, выйсце ёсць. Можна вечарам ляцець самалётам у сталіцу, а праз суткі вяртацца назад. Наўрад ці хто тут будзе яго пасвіць. Дырэктар Кухарчук? Рэдактар Шахто? Ды ім ўсё роўна — толькі, каб было ціха, і не адбылося ніякіх незбалансаваных сітуацый. Затое ён убачыць Святлану Конкіну. «Насланнё» — нібы з боку падумалася яму пра самога сябе, але з усім гэтым ён пакуль не можа саўладаць. Дык зноў жа — няхай будзе, як будзе.

* * *

Ноччу Юля Маракова ціха праслізнула да яго на канапу. Прыціснулася, нешта зашаптала, паводзіла сябе разняволена і ўмела.

Калі ўжо сцішана ляжалі побач, сказала на вуха:

— Хоць тут мы разам. Пажыць нормальна нельга.

— А як жа Гусакова за шырмай? Спіць, ці не?

— Заснула даўно. Ды яна ўсё разумее.

— Усё роўна няёмка.

— Ды годзе табе. Усё-такі, як добра, што мы разам на гэтай практыцы. Хоць, шчыра скажу, мяне ад іх абласной студыі далёка не ўстаўляе. А хацелася на заходнюю частку краіны паглядзець, на людзей незнаёмых. Дзіўнаватыя вы, беларусы. У нас у Крыме іншы народ.

— Дзесяць плыняў эміграцыі. Чым багатыя. Што тут дзіўнага? У вас лепшыя?

— Я не ў дрэнным сэнсе. Можа, якраз наадварот. Не крыўдуй.

Студэнт Ігнат Мазур маўчаў. Здагадка паволі прабівалася ў свядомасці, урэшце аформілася ў пытанне:

— Паслухай, Юля! Гэта ж ты паспрыяла таму, каб мяне паслалі сюды на практыку?

Паўза.

— Калі па праўдзе, то я, — прызналася дзяўчына. — Папрасіла «Агеньчыка», яна маю цётку добра ведае.

— Чорт бы вас усіх узяў.

— Ты што, Ігнат?

— Ды пайшла ты…

— Гэта ты дарэмна. Можа, хочаш сядзець па размеркаванні ў раёнцы? У якой-небудзь Бабінцы альбо Жабінцы? А тэлебачанне ніжэй абласного цэнтра не бывае. Пакуль. А ты мог бы хутка падняцца, бо адукаваны, дасціпны, начытаны, фотагенічны ўрэшце. Збольшага, вядома. Хіба толькі ўдзячнасці бракуе. Я ўсё сказала.

Студэнтка Юля Маракова саскочыла з канапы на падлогу і пайшла да сябе за шырму.

Раніцай Ігнат Мазур пацёрся ў рэдакцыі сярод штатных супрацоўнікаў. Усе былі занятыя сваімі справамі. Казімір Шахто зноў не звяртаў на яго ўвагі, а Юля Маракова моўчкі адвярнулася. Апошняе было не вельмі добра, бо дзяўчына з яе сувязямі магла б у якім неспрыяльным для яго выпадку і прыкрыць, дый жадала яна яму толькі дабра, але думаць пра ўсё гэта не выпадала.

Студэнт Ігнат Мазур сабраўся, апрануў свой адзіны касцюм, свежую кашулю, наваксаваў чаравікі і рушыў у аэрапорт. Праз нейкі час невялікі пасажырскі самалёт «АН», які амаль штодня курсаваў да сталіцы, узняў яго ў паветра.

* * *

Увесь час і ў самалёце, і пакуль дабіраўся з аэрапорта ў тралейбусе да інтэрната, студэнта Ігната Мазура не пакідала ледзь не ліхаманкавае прадчуванне блізкага шчасця.

У краме па дарозе набыў бутэльку таннага сухога віна і адразу скіраваў наверх па лесвіцы, да пакоя, дзе пражывала Святлана Конкіна.

Ён пастукаў у дзверы, прыадчыніў іх. Адна з першакурсніц, бялявая дзяўчына са здаровым вясковым румянцам на твары, сядзела за сталом і нешта пісала ў сшытак. Больш у пакойчыку нікога не было.

— Конкіна калі прыйдзе? — павітаўшыся, спытаў Ігнат Мазур.

— А яна не прыйдзе.

Паўза.

Студэнт Ігнат Мазур асэнсоўваў інфармацыю.

— Гэта яшчэ чаму?

— Яна тут больш не жыве.

— А дзе жыве?

— Не ведаю. Быццам недзе зняла кватэру.

— І яна нічога не пакідала, не прасіла перадаць?

— Нам тут — нічога. Яна з намі ўвогуле мала размаўляла. «Так, не», — і ўсё.

Студэнт Ігнат Мазур больш не дапытваў дзяўчыну і пайшоў у свой пакой. У пакоі нікога не было, дзверы, як заўсёды ў апошні час, зачынены, і ён пайшоў на вахту па ключ.

На вахце прагледзеў раскладзеныя паштовыя канверты. Адзін, ад Ані Балтас, быў адрасаваны яму.

Студэнт Ігнат Мазур выйшаў з інтэрната — цераз дарогу быў скверык. Сеў там на лаўку, ускрыў канверт і пачаў чытаць.

*«Ігнат!*

*Нас таксама спіхнулі на практычныя заняткі. Я працую выхавацельніцай у дзіцячым садку. Вольнага часу небагата, але дырэктарка яшчэ не сапсела па ўзросце і з ёй можна калі-нікалі паразумецца. Чым займаюся ў вольны час...*

*З сябрам мужа сястры схадзіла ў кіно (гэта, каб ты крыху параўнаваў) — не больш. Глядзелі «Рудабродага» Курасавы, і я была ў захапленні ад Т. Міфунэ — якая моц. Затое майго кінапартнёра стужка не ўразіла, і ён увесь час гаварыў нейкія глупствы. Расплявалася з ім на вуліцы. Затое ўжо на «Зацьменне» Антаніоні пайшла адна і выйшла з залы ў стане эмацыянальнага і нервовага зрыву. Які там прыгожы Ален Дэлон! І фільм нібы просты, але вельмі глыбокі і нават трагічны.*

*Спадзяюся, хутка пабачымся. І тады ўсё абгаворым. Хочаш — я прыеду да цябе на зборы?*

*P. S: нумар дзічага садка — «21».*

*P. P. S: згуляем у пінг-понг?*

*Твая Аня».*

* * *

Ветру амаль не было. На сонечным баку ўжо адчувальна прыгравала. Там-сям хадзілі па зямлі каўкі. Адна з іх трымала ў дзюбе дробную галінку — мабыць, дзесьці будавала гняздо. Студэнт Ігнат Мазур нерухома сядзеў на лаўцы і слухаў шум горада. Раптам звыклая туга ахапіла яго, ён падумаў, што зусім не ведае, як жыць далей і да якой мэты імкнуцца, і што ён як быў, так пакуль і застаўся самотным і неўладкаваным у жыцці няўдачнікам.

Ён убачыў мятліка — звычайную, распаўсюджаную ўвесну і летам чырвона-чорна-жоўтую крапіўніцу. Мятлік сеў яму на руку і варушыў вусікамі. Раз-пораз крохкія яго крыльцы схвосталіся, а потым зноў раздзімаліся, прымаючы на сябе сонечнае цяпло.

Студэнт Ігнат Мазур нечакана ўспомніў народную прыкмету, калі мятлік сядае на каго-небудзь, гэта азначае, што да таго прыходзіць каханне...

Адвячоркам, як пачало ўжо сутонець, у пакой вярнуўся Дзяніс Маркін. Убачыў Ігната Мазура, які паліў чарговую цыгарэту, а таксама пустую бутэльку на стале, і сказаў:

— А я думаю, хто гэта на вахце ключ забраў? Ты, можа, практыку скінуў?

— Ды не. Заўтра назад.

— А я тут адзін, — сказаў Дзяніс Маркін. — Байкоў паехаў у сваю раёнку. Хто на практыцы, а іншыя — на вакацыях.

— Паслухай, Дзяніс, — сказаў Ігнат Мазур, — хто з нашых тут, у інтэрнаце, застаўся?

— Ды амаль усе раз’ехаліся. Хіба што Зялёнка, Ганабец тут. Яшчэ Гужын, дзяўчаты некаторыя засталіся. Ганабец у міліцэйскай газеце прыбартаваўся, Зялёнка — на радыё, Гужын ля цэка камсамола ашываецца, ну, усіх не пералічыш.

— А сам практыкуешся?

— У акруговай вайсковай газеце. Я пасля збораў, як званне атрымаю, пайду служыць. Можа, там, у газеце, і застануся. У мяне бацька — вайсковец. Дапаможа. Дый перспектыва, сам уяві: у сорак пяць на пенсію, а працу пасля, калі захочаш, то заўсёды знойдзеш.

— А мяне ніхто не пытаўся? — кружыў здалёк вакол свайго Ігнат Мазур.

Студэнт Дзяніс Маркін раптам ляпнуў сябе па невялікай галоўцы.

— А, добра што падказаў. Тут зазірнула неяк Конкіна. Пакінула табе канверт. Толькі, дзе ён? Я зараз успомню, чакай…

Студэнт Ігнат Мазур падхапіўся з ложка.

— Шукай. Мне трэба. Ды хутчэй думай, што ты корпаешся!

— Знойдзем, чаго так усхваляваўся? Ага, вось ён.

Дзяніс Маркін выцягнуў з-пад нейкіх пажухлых папак і лістоў даволі ўжо змяты канверт і аддаў нецярпліўцу.

— Нешта я не разумею. Ты ж быццам з Мараковай «прыкурваеш», а тут Конкіна. Яна ганарлівая, кручаная нейкая, які ў ёй інтарэс? Можа, патлумачыш? Але, бадай, твае справы. Маўчу, маўчу.

Студэнт Ігнат Мазур ужо не слухаў яго. Выскачыў у калідор, пасунуўся да акна і ўскрыў канверт.

*«Ігнат!*

*Першакурсніцы і клапы дасталі мяне напоўніцу, і я ўсё больш і больш хачу заставацца адна. Ну, хіба толькі яшчэ з табой. Апошняга сама не чакала, і вось так адбылося.*

*Айчым завочна зняў мне пакойчык у прыватнай кватэры. Тут недалёка, на першым паверсе. Калі стаць тварам да фасада дома, то злева трэцяе акно.*

*Я практыкуюся ў абласной газеце. Урэшце, мне ўсё роўна.*

*Разам са мной, толькі ў іншым аддзеле, наш калега Вінцук Кішчык. О-о, які гэта прадбачлівы і хітры хлопец! Ён вылазіць са скуры, каб застацца тут па размеркаванні. Нават у мясцовай партарганізацыі ўжо стаў на ўлік. Ды зашмат гонару пра яго пісаць, бо лічу дні, калі ўсё гэта скончыцца, і можна будзе неяк змяніць свой лёс.*

*Я вось часта думаю, што чалавек — гэта проста нейкая нікчэмнасць. І сябе з гэтага шэрагу не выключаю, бо за мной шмат усялякіх брыдкіх учынкаў. Хочаш — раскажу, калі пабачымся?*

*Днямі прачытала «Чуму» Альбера Камю (я цяпер шмат чытаю) і проста абалдзела ад таго, як ён апісвае каханне. Бо яго, кахання, прысутнасці (фізічнай) у тэксце зусім няма, але яно схавана ў глыбіні, па-за кантактам. Так кранальна. Гэта супер!*

*У мяне, пэўна, дэпрэсія. Не хачу падрабязнасцей, бо яшчэ хто дадумаецца прачытаць, а гэта вельмі непажадана. А калі ты апынешся ў Мінску раней, то мой адрас: зав. Зароўскага, д. 6. кв. 8.*

*Астатняе — потым, потым.*

*Святлана К.»*

Студэнт Ігнат Мазур таропка прывёў сябе ў парадак. Памыўся, пагаліўся, рукі яго пры гэтым дрыжэлі, апрануўся і на пытанне Дзяніса Маркіна, калі вернецца, адказаў:

— Не ведаю.

Вахцёрка ўнізе паведаміла яму, калі спытаў, дзе завулак Зароўскага, што сама жыве непадалёк. Патлумачыла, дзе і як туды дайсці бліжэйшым шляхам.

Неба ўжо там-сям пакрылася дробнымі зоркамі. Па тратуарах у святле ад ліхтароў кудысьці спяшаліся заклапочаныя людзі. Асабліва людна было ля бліжняй, нядаўна пабудаванай гасцініцы «Планета», дзе месціўся і рэстаран. Студэнт Ігнат Мазур ледзь не спартыўнай хадой прайшоў далей, збочыў у патрэбным напрамку і неўзабаве знайшоў дом, на вуглавой сцяне якога ўбачыў адтрафарэчаную лічбу «6». Дом быў звычайны, пяціпавярховы, з няўклюднымі балконамі, шэрымі цаглянымі сценамі і невялікімі вокнамі.

Ён вылічыў патрэбнае яму трэцяе злева акно — адтуль выпраменьвалася слабая паласа святла, узняўся на мураву парэбрык і ціха пастукаў у шкло. Праз некалькі секунд святло пагасла, акно прыадчынілася. Знаёмая ўскудлачаная галава дзяўчыны з’явілася над падаконнем.

— Ты, Ігнат?

На нейкі міг адчуванне поўнага шчасця цалкам авалодала ім.

— Я зайду? Адчыні дзверы!

— Пачакай, гаспадыня, пэўна, спіць. Лепш яе не турбаваць. Ты зможаш сюды залезці? А то я вымушана буду сама адчыняць. Дык яна можа пачуць.

Замест адказу студэнт Ігнат Мазур падцягнуўся на руках, злаўчыўся і ўціснуўся ў расчыненае акно.

Моўчкі яны накінуліся адно на аднаго... І калі на канапе ён моцна прыціснуў да сябе яе гарачае цела, адчуў усё тое ж пачуццё шчасця, раптам падумаў, што раней з ім такога ніколі не было.

Гадзіны праз дзве студэнтка Святлана Конкіна прыадчыніла дзверы з пакойчыка і крадком прынесла з халадзільніка ўсё сваё, што там было: некаль-

кі звараных крута яек, шакаладку, ліманад, кавалак кілбасы і палавіну бохана сітніка.

Перагаворваючыся шэптам, абое прагна паелі, а потым, абняўшыся, на кароткі час заснулі.

На досвітку дзяўчына разбудзіла яго, і студэнт Ігнат Мазур апрануўся, развітаўся з ёй да абеда — так дамовіліся — і вылез праз акно на падворак.

* * *

Да заканчэння практыкі, праз дзень-два, пасажырскі самалёт «АН» прымаў яго на борт, а на наступны дзень забіраў з аэрапорта назад. Сцюардэсы пазнавалі ўжо яго і лагодна ўсміхаліся, быццам разумелі, чаму ён лятае так часта ў сталіцу і назад.

Неяк у самалёце студэнт Ігнат Мазур разгарнуў кішэнны нататнік і запісаў туды:

*«Ці з'яўляюцца ў нечым незвычайныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай, калі абое не могуць працягла існаваць адно без аднаго? Можа, сапраўды, цалкам верагодная тэорыя вірусаў, якія, калі верыць ёй, незаўважна кіруюць усім на зямлі? Многія класікі, сярод якіх, лічу, былі сапраўдныя вялікія псіхолагі, даволі холадна і разлікова апісвалі такія адносіны. Прустаўскі Сван у фінале знакамітага рамана з сарказмам пытае сябе — маўляў, і што: на гэтую пустую жанчыну я згубіў два гады жыцця? Іва Андрыч нават перасцерагае — нельга давярацца жанчыне, бо гэта смяротна небяспечна. Песіміст Кнут Гамсун у «Пане» ці ў знакамітых «Пад восеньскай зоркай». Талстой? Не, не тое. У нечым ён, як лічу, слабаваты. У тым-сім фальшывы. А вось «Кроткая» Дастаеўскага (на нашай мове «Рахманая») — гэта моц. Мяркую, лепшая навела ўсіх часоў і народаў. Так унікнуць і апісаць жанчыну мог толькі ён, дарэчы, ліцвін па паходжанні...»*

А так — у студэнта Ігната Мазура ўсё ішло без асаблівых прыгод. Абкарнаны Казімірам Шахто яго сюжэт урэшце прайшоў па праграме літаратурна-драматычных перадач, і дырэктар Кухарчук падпісаў Мазуру паперы і характарыстыку.

* * *

Дзяржаўных іспытаў было няшмат. Шанцаў здаць іх без асаблівых намаганняў таксама пабольшала — у дэканаце няблага ставіліся да студэнтаў на апошнім этапе, бо ўсіх, хто не хацеў і не мог вучыцца, адлічылі на першым і другім курсах.

На іспыце па савецкай публіцыстыцы, які прымала «Агеньчык», студэнт Ігнат Мазур упершыню пакарыстаўся шпаргалкамі. Сам прадмет — публіцыстыку — ён не любіў, як і многія іншыя дысцыпліны. Літаратуру — аўтэнтыкі і дапаможнікі — амаль не чытаў, дый бракавала часу. Тое-сёе з праграмы чытаў раней, але гэтага для іспыту не хапала.

Шпаргалкі, вядома, былі не яго. Іх пакінулі ў нішы стала дзяўчаты, пра што паведамілі яму перад іспытам. Але, як толькі ён палез туды, каб адшукаць адказы на пытанні ў білеце, пільная выкладчыца Спіркіна кінулася да яго, выхапіла з рук вузкія стужкі паперы, складзеныя гармонікам, і радасная пабегла з імі да свайго стала.

Сядзець далей і прасіць яе, каб дазволіла пераздаць менавіта цяпер, не выпадала, студэнт Ігнат Мазур забраў залікоўку і пайшоў з аўдыторыі. Настрой быў сапсаваны.

— Ты, Ігнат, не бяры ў галаву, а то яшчэ прычэпіцца радзімец, — у сваёй манеры жартавала ўвечары Юля Маракова. — Спіркіна, яна ж «Агеньчык» — незамужняя, векавуха. А яны з комплексамі па Ясперсу. Ёй, пэўна, штоноч здаецца, быццам у яе пад ложкам хаваецца мужчына. Здаць ёй табе будзе цяжка. Але не хвалюйся, я, пры нагодзе, закіну слова. І, магчыма, гэта апошняе, што я для цябе зраблю, бо ты, як мне далажылі, стаў заходзіць да Конкінай. Яна, канешне, дзеўка выбітная, як кажуць, на аматара, але звычайная німфаманка. Дарэчы, яе ўлюбёнае прыслоўе «зашмат гонару» раней не перашкодзіла ёй і з Ванем Гужыным пашаптацца.

Паўза.

— Дзякуй за клопат, Юля. Ты ўвогуле — мой анёл-ахоўнік, — сказаў Ігнат Мазур, раптам адчуўшы сябе так, быццам прапусціў удар пад дых.

Ваня Гужын? Са Святланай Конкінай? І калі гэта — раней? На першым, другім курсе? Яго, Ігната, тут тады не было. Што дакладна ведае пра ўсё гэта Юля Маракова? Але ж дарэмна пытацца — яна нічога не скажа, і тут справа не толькі ў жаночай салідарнасці. Ісці высвятляць да самой Святланы Конкінай? Але гэта ўжо зусім глупства. Ды, можа, нічога такога і не было. Гужын, Ганабец... Яна ж сама з іх перадусім смяялася. Хоць — чаму «з іх»? З Ганабца — сапраўды кпіла. А пра Ваню Гужына — ні слова.

Можа, упершыню ў сваім небагатым на вопыт маладым жыцці ён задумаўся пра так званыя гендарныя адносіны. «Роля жанчыны ў грамадстве толькі на першы погляд даволі сціплая, а на самай справе гэта своеасаблівая прыхаваная плынь, часам мутная, незразумелая, але якая ўплывае на ўсіх нас, — думаў ён. — Жанчыны нараджаюць дзяцей, выхоўваюць іх, закладваюць ім у галаў матрыцу мовы, спакушаюць мужчын, і зноў нараджаюць, але апошнім часам у адладжанай стагоддзямі сістэме пачалі адбывацца збоі».

Не вельмі схільны да аналітычных высноў студэнт Ігнат Мазур прыпамінаў цяпер некаторыя факты і выпадкі, пра якія неяк чытаў у газетах альбо часопісах, ці чуў па радыё.

Асабліва зацікавіла яго гісторыя адной даволі забяспечанай еўрапейскай жанчыны з сярэдняга класа, белай, якая пасялілася ў адсталым афрыканскім племені ў якасці адной з жонак нейкага чорнаскурага. Яе так званы муж зрэдку авалодваў ёю, але, каб у яго ўзнікла жаданне блізкасці, націраў жанчыну тухлым свіным тлушчам. Але, якая ў яе была матывацыя — вось што цікава?

З гэтай нагоды ён зрабіў адпаведны кароткі запіс у нататнік.

*«Якая матывацыя рухала белай жанчынай, што пасялілася ў афрыканскім племені? Гэта даволі цікава. Магчыма, гэта сведчыла пра яе нейкія псіхічныя адхіленні? Нават захворванні? Дык, на маю думку, людзі, як і прыматы, пэўна, мала звяртаюць увагі на шкадобу ці спачуванне да блізкіх. Тым больш, блізкія да антрапафагаў. Яны адразу вылучаюць псіхапатаў і пазбаўляюцца ад іх. Варта пачытаць Стэнлі, Лівінгстона і іншых. Хоць дастаткова і выключэнняў. Людства не мурашнік і не вулей, у якіх захоўваецца спрадвечны парадак. Розум — вось дзе, мяркую, прычына».*

Між тым аб'явілі кароткія вакацыі, пасля якіх студэнты мусілі абараняць дыпломныя работы.

На курсе ўсе разбегліся хто куды. Некаторыя засталіся ў Мінску. Урэшце, усё гэта мала цікавіла студэнта Ігната Мазура. Цалкам пагружаны ў свае пачуцці, ён перадусім неабачліва наведваў семінары, кансультацыі, заканчваў дыпломную.

Яго адносіны са Святланай Конкінай не засталіся таемнымі, хоць яны, калі ўсе збіраліся ў аўдыторыі, дарэмна рабілі выгляд, быццам не ведаюць адно аднаго. Юля Маракова між тым выпраменьвала іронію і знешне поўнае раўнадушша, і ён быў за гэта ёй нават удзячны.

У дадатак да ўсяго ў яго пастаянна не хапала грошай. Даводзілася эканоміць нават на дробязях і «джэнтльменскія наборы» па вечарах скараціліся да таннай паўлітроўкі сухога віна. Ён яшчэ не ведаў, як, але на вакацыях вырашыў здабыць грошай любой, нават самай цяжкай працай. Заставаліся, праўда, дзве рэдкія калекцыйныя манеты — спадчына ад дзядзькі, але іх ён трымаў на самы крайні выпадак.

Ён вельмі хацеў бы запрасіць Святлану Конкіну на вакацыі да сябе, але нешта стрымлівала: хутчэй за ўсё саромеўся сваёй беднасці і неўладкаванасці, ды такое запрашэнне па сутнасці азначала б толькі адно — нешта накшталт заручынаў, а ён да гэтага быў не зусім гатовы. Жанчына, як ён недзе вычытаў, заўсёды аддасць перавагу таму, хто мае магчымасць валодаць асобнай вольнай тэрыторыяй. Такой тэрыторыі, а па-прасту сваёй кватэры, у яго, вядома, пакуль не было.

Тым не менш, праблема з'явілася, і яе варта было неяк вырашаць. Увечары ён, як заўсёды ў апошні час, пастукаў дзяўчыне ў акно. Студэнтка Святлана Конкіна прыадчыніла фортку і ціха сказала, што ім больш сустракацца не трэба, гэта не зусім прыстойна. Сказала, што гаспадыня ўжо даўно падазрае яе ў вольных паводзінах, а гэта не пажадана.

— А ў інтэрнат на адну цёмную ночку ты не супраць? — спытаў Ігнат Мазур. — Я сёння быццам адзін у пакоі. Маркін сышоў да сваёй дзяўчыны. У іх пасля вайсковых збораў вяселле... Дык я цябе на панадворку пачакаю, — сказаў Ігнат Мазур, — згода?

Дзяўчына моўчкі кіўнула і прычыніла акно.

Але калі апынулася на вуліцы, прапанавала:

— Лепш нам па адным праз вахту заходзіць. Ідзі першым, а я потым. Дакладна Маркіна няма?

У пакоі сапраўды было пуста, не прыбрана. Студэнт Ігнат Мазур прыбраў са стала і расчыніў акно, каб праветрыць памяшканне.

Праз некалькі хвілін дзяўчына ціха пастукала ў дзверы. Ігнат Мазур адчыніў, і студэнтка Святлана Конкіна з парога кінулася да яго, абхапіла за шыю, прашаптала на вуха, што варта зачыніцца на ключ.

* * *

Пад раніцу студэнт Ігнат Мазур знайшоў у сваёй і ў тумбачцы Дзяніса Маркіна паўбохана сітніка, кавалак сыру і бутэльку белага сухога віна, якое купіў вечарам.

— Ты на вакацыі ў Талін? — урэшце спытаў ён дзяўчыну пра тое, што яго асабліва цікавіла.

— Застануся тут. Папрацую на падхопе ў абласной газеце. Яшчэ дыплом дапісваць, дый лепш быць адной. Мне цяжка ў сям'і, Ігнат.

— Можа, патлумачыш?

— Пасля, пасля.

Яны дапілі віно.

— А ўвогуле — жыццё нікчэмная рэч, — раптам сказала студэнтка Святлана Конкіна, мабыць, думаючы пра нешта сваё. — Ну, вось нам добра разам, але ж так не можа працягвацца заўсёды — нават гэты няшчасны інтэрнат з клапамі.

— Ну, не край жа. Прыдумаю нешта. Вакацыі, дыплом, зборы — і ўсё. Хутка канец вучобе. Я таксама стаміўся.

— А потым, Ігнат?

— Трэба недзе працаваць, альбо тачыцца, як чарвяку, у аспірантуру ці яшчэ куды. Мне, дарэчы, выкладчыца Ліцвінава прапанавала дапамогу. Не па мне гэта. Дый «адліга», прадчуваю, заканчваецца. А я, як ні круці, сын «ворага народа» і мой «шлях наверх» абмежаваны.

— У Ліцвінавай да цябе сантымент. Старэючая жанчына, тупаваты муж у ложку, машына, лецішча, дачка, якая ўжо нявесціцца, і ўсё такое. Самота. А тут малады, адукаваны, свежы студэнт, нібы персанаж з «Чырвонага і чорнага» Стэндаля. Памятаеш, як употайкі паціскае яму руку пад сталом замужняя мадам, маці колькіх там дзяцей?..

— Большасць мужчын, мяркую, палігамныя.

— Вось бачыш. І мы, жанчыны, такія ж. Ну, хіба што адбудзецца супадзенне па вірусах. Ты не маніў пра вірусы?

Паўза.

— Скончылася віно, — сказаў Ігнат Мазур. Я яшчэ выпіць хачу. Можа, збегаць? За «аліка» не палічыш?

Студэнтка Святлана Конкіна прыўстала з зэдліка і патушыла цыгарэту.

— Давай лепш паспім, — сказала яна. — Абдымі мяне, як мінулым разам.

* * *

Кіраўніком дыпломнай работы ў Ігната Мазура была выкладчыца Алена Сініцына. Тэму па расійскім часопісе «Наш современник» і супрацоўніцтве з ім Салтыкова-Шчадрына па сутнасці падказала яна, але толькі пасля таго, як пачаў працаваць і ўжо шмат напісаў, ён раптам зразумеў, што раўнадушны і да тэмы, і да часопіса. Не адчуваў, што нешта там кранае яго настолькі, каб імпэтна гарэць. Урэшце, многія студэнты проста бралі вядомыя раней тэмы, знаходзілі тэксты дыпломных, якія пісаліся некалькі гадоў таму і пра якія ўжо даўно ніхто не памятаў. Яны набывалі іх і проста перапісвалі, пазбаўлялі сябе ад лішніх клопатаў.

Сваю дыпломную работу ён усё ж дапісаў. Працаваў урыўкамі, па-ранейшаму без натхнення. Выкладчыца Сініцына адчула гэта і была не вельмі задаволена. «Чакала ад вас большага, — сказала яна неяк яму. — На добрыя чатыры балы пацягнеце, а я для вас, Мазур, планавала “выдатна”».

Урэшце на тым і вырашылася. Абараніўшыся, студэнт Ігнат Мазур адразу выкінуў усё гэта з галавы.

Некаторыя выкладчыкі патрабавалі, каб студэнты абавязкова наведвалі кансультацыі перад іспытамі. Таму на кансультацыі прыходзілі амаль усе. Ігнат Мазур таксама стараўся прысутнічаць на іх, калі выпадала. Прыходзіла на кансультацыі і Святлана Конкіна, хоць неяк прызналася студэнту Ігнату Мазуру, што яна ўвогуле дамаседка. У аўдыторыі і на перапынках паміж заняткамі яны па-ранейшаму амаль не падыходзілі адно да аднаго, хоць і пераглядваліся. Не раз Ігнату Мазуру хацелася забыцца на гэтую невядома як

узнікшую канспірацыю, падысці да дзяўчыны і абняць яе пры ўсіх, — урэшце чаго і каго саромецца, але нешта стрымлівала.

Скончылася ўсё гэта непрыемным выпадкам. Аднойчы на перапынку Святлана Конкіна стаяла ў кутку ля падаконня і паліла цыгарэту. Да яе падышоў вясёлы Ваня Гужын, паклаў ёй на плячо руку, другую працягнуў, каб выхапіць у дзяўчыны цыгарэту. Тая даволі рашуча адпіхнула яго і адвярнулася да акна. Гэта якраз убачыў Ігнат Мазур і падазрэнні, загнаныя ў падсвядомасць пасля размовы з Юляй Маракoвай, усплылі наверх. Ён раптам адчуў, як моцна ненавідзіць хамаватага, упэўненага ў сабе Гужына. Рашуча падышоў да яго. Тым часам Гужын, смеючыся гаварыў нешта дзяўчыне, якая адвярнулася да яго спінай.

— Хадзі сюды, Ваня, — нечакана для Гужына, крануў яго за рукаў Мазур.

— Куды гэта — сюды? — па-дурному спытаў Ваня Гужын, напэўна яшчэ нічога не разумеючы, але пайшоў за Мазурам.

Яны спусціліся ўніз, пад лесвіцу.

— Ну, ты што, Ігнат? Якая праблема? — спытаў Ваня Гужын, мабыць, прадчуваючы нядобрае.

— Дзяўчыну ручкамі сваімі белымі не кранай, а то я табе пальцы на іх у іншы бок павыкручваю, — ужо не валодаў сабой Ігнат Мазур.

Паўза.

Некалькі секунд Ваня Гужын няўцямна глядзеў на яго, а потым сплюнуў у бок.

— Ды пайшоў ты…

Замест адказу студэнт Ігнат Мазур, амаль не замахваючыся, левым бакавым стукнуў таму ў твар. Ваню Гужына адкінула да сцяны, з разбітых вуснаў пацякла кроў. Але неўзабаве ён падхапіўся, толькі ў бойку не палез, а пакратаў рот, прасіпеў:

— Ты мне зуб выбіў, хістаецца. А вось гэтага я табе не дарую. Зараз жа напішу заяву ў міліцыю і здыму пабоі. Дарожку да дыплома я табе перакрыжую.

Да іх ужо збегліся аднакурснікі. Падышлі і дзяўчаты.

— Ды ты мужык ці баба? — раптам сказала Юля Маракова, якая прыйшла сюды ці не адной з першых і стала паміж хлопцамі, дадала: — З-за нейкай лухты ў міліцыю? Цябе, Ваня, можа ў дзяцінстве з падаконня скінулі галоўкай уніз? Трымайце яго, дзяўчаты! Няхай паміраецца!

Мірыцца Ваня Гужын не пажадаў, але і бегчы ў міліцыю пад націскам дзяўчат пасароме ўся. На тым усё быццам і скончылася, але студэнт Ігнат Мазур адчуў, што вельмі стаміўся. Нервы яго былі напяты, ім нечакана авалодала туга — ён разумеў, што ў яго жыцці часам менш стане людзей.

* * *

Між тым наблізіліся вакацыі, а на вакацыях студэнт Ігнат Мазур заўсёды стараўся зарабіць хоць якія грошы.

На адным з невялікіх прамысловых заводзікаў па вытворчасці бытавой тэхнікі яго ўзялі на кароткачасовую працу грузчыкам-экспедытарам. Удвух з вадзіцелем — рахманым дзядзькам сталага веку — яны з тыдзень ездзілі па гарадах і пасёлках рэспублікі. Заадно Ігнат Мазур навучыўся вадзіць машыну, на трасе, калі было свабодна, сядаў за руль — дзядзька ахвотна давяраў яму і, нібы інструктар, тлумачыў правілы дарожнага руху і расказваў пра тэхнічныя тонкасці ў рабоце матора.

Маці ўсяляк старалася дагадзіць сыну. Ужо ўся сівая, схудалая за апошні час, нешматслоўная — яна рыхтавала сыну ежу, мыла яго кашулі, старанна іх прасавала.

— І куды цябе размяркуюць? — асцярожна і быццам раўнадушна спытала неяк яна, але ён ведаў, што гэта вельмі непакоіць яе, хоць яна таго і не паказвае.

— Пакуль нявызначана, — адказаў ён.

— Ты за мяне не хвалюйся, яшчэ і адна спраўляюся, — сказала яна, нібы просячы прабачэння за нешта. — Паедзеш куды пашлюць, інакш нельга, сам ведаеш. — І перавяла ўсё на жарт: — А то, можа, і мне «чоловік» які тут знойдзецца — дык выйду замуж.

Але студэнт Ігнат Мазур ведаў, што ўсё гэта — паказная бадзёрасць і штучны аптымізм, бо ў жыцці маці нічога вартага ўжо не можа быць. Дый якое жыццё было ў яе раней? Адна бачнасць. А зараз? Работа, сон, зноў работа. Якая лішняя, а па сутнасці ад сябе адарваная частка грошай — дык усё яму.

Зайшоў Ігнат Мазур і ў рэдакцыю аб’яднанай газеты «Камуністычны шлях», куды занёс пару кароткіх артыкулаў. Адзін — на экалагічную тэму, другі — на спартыўную. Да артыкулаў спачатку паставіліся з недаверам, пасля надрукавалі, але ганарар быў капеечны, а атмасфера ў рэдакцыі яму не спадабалася сваёй амярцвеласцю. Большасць супрацоўнікаў не мела спецыяльнай адукацыі, кіраваў газетай былы міліцыянер, які невядомым чынам скончыў нейкія парткурсы. Таксама не журналіст.

Таго, што зарабіў Ігнат Мазур, было зусім мала, каб ехаць у сталіцу ўпэўненым у сабе. Таму, паапытаўшы дасведчаных людзей у мясцовым нумізматычным клубе, выйшаў на заможнага калекцыянера, які купіў у яго адну з манет. Укормлены, дагледжаны, з пафарбаванымі ў чорны колер валасамі і штучнымі, ненатуральна белымі зубамі, калекцыянер выглядаў даволі карыкатурна, але ў асяродку суседзяў і многіх гараджан лічыўся чалавекам, «які ўмее жыць». Асноўным яго заняткам было распісванне помнікаў партрэтамі нябожчыкаў — так званымі «медальёнамі».

Манета — сярэбраны «ОРТ» Яна Казіміра часоў Рэчы Паспалітай — пацягнула прыкладна на паўгадавую зарплату інжынера — урэшце Ігнат Мазур ведаў, што яна каштуе ўдвая больш. Але таргавацца не выпадала. У яго яшчэ заставаўся таксама сярэбраны саксонскі талер, які меркаваў больш выгадна прадаць у сталіцы.

Некалькі разоў за гэты час ён спыняў спадарожную і звычайна праз гадзіну ўжо быў у Мінску. Святлана Конкіна сустракала Ігната з ціхай радасцю, якую кожны раз імкнулася маскіраваць разняволенымі жартамі, але аднойчы ён выпадкова ўбачыў, як яна са шчаслівай, нейкай бездапаможнай усмешкай прыціснула да твару яго кашулю.

Гаспадыня кватэры амаль не вылазіла з лецішча, часта заставалася там нанач, і ім было вольна і добра ўдваіх. Студэнт Ігнат Мазур зноў быў «пры грашах», купіў сабе недарагі новы касцюм, дзяўчыне падарыў берэт і шалік. Аднойчы нават павячэраў з ёй у бліжэйшым рэстаране пры гасцініцы «Планета».

* * *

На вайсковыя зборы трапілі не ўсе з аднакурснікаў Ігната Мазура, якія разам з ім займаліся на кафедры. У некаторых з іх раптам выявіліся хваробы, адпаведныя заключэнні медыкаў былі прадстаўлены, і яны засталіся хто ў сябе дома, а хто ў інтэрнаце. Студэнт Ваня Гужын таксама не з’явіўся на

зборы, бо прынёс даведку, што ў яго звыклы вывіх пляча і здаўна пашкоджана плечавая сумка.

Зборы праходзілі ў адной вайсковай часці ў летнім лагеры. Студэнтаў пераапранулі, размеркавалі по ротах і ўзводах: у журфакаўцаў была свая рота, у юрыстаў — свая, у філфакаўцаў і іншых — таксама свае. Камандзірамі рот, узводаў з'яўляліся кадравыя афіцэры.

Мотастралковым узводам, дзе апынуўся Ігнат Мазур, камандаваў лейтэнант Андрэй Дзямідчык, былы рабочы трактарнага завода, які скончыў афіцэрскія курсы і пайшоў на тэрміновую службу. Даволі рахманы, ён імкнуўся трымаць узвод у руках, але курсанты яго хутка раскусілі, і як маглі пачалі гэтым карыстацца, хоць і асабліва падстаўляць маладога афіцэра не жадалі, ён быў амаль што сваім. Затое ротны маёр Угараў адносіўся да сваіх падначаленых вельмі строга. Ён хадзіў па лагеры і днём і ноччу, быццам не меў ні сям'і, ні якіх асабістых інтарэсаў ці захапленняў. Худы, з аскетычным тварам, нібы запакаваны ў форму, ён бясконца чапляўся не толькі да радавых, а і да сяржантаў, старшынаў і камандзіраў узводаў.

Жылі будучыя афіцэры ў вялікіх палатках па дзесяць—дванаццаць чалавек у кожнай. Вучыліся страляць з усіх відаў зброі, падрыўной справе, вадзіць бронетранспарцёр. У сувязі з падзеямі ў Чэхаславакіі планаваліся вялікія манеўры, да якіх спакваля рыхтаваліся і курсанты.

* * *

У перапынках паміж вучобай, каравулам, нарадамі ў думках Ігнат Мазур зноў і зноў вяртаўся да самага балючага для яго пытання: як быць далей са Святланай Конкінай? Дзе яна зараз? Пра што думае? Куды іх урэшце размяркуюць? Як быць з Аняй Балтас, з Юляй Мараковай? Хоць, што яму зараз да іх? Але ўсіх іх было шкада. «Бабу пашкадуеш — сам бабай станеш», — зноў успомнілася выказванне Гужына, ды што яму той хітры, хамаваты і недалёкі Гужын? На нейкае імгненне нянавісць да таго зноў усплыла ў свядомасці: сюды б яго, вось бы заенчыў...» Але хай, цяпер не да Гужына. Зноў падумаў пра дзяўчат.

Яму шкада Аню Балтас. І Юлю Маракову шкада. Нельга падводзіць пад здраду тых, хто даверыўся табе — вось у чым прычына, думаў ён. Магчыма, гэта і ёсць самы страшны грэх на свеце. Так, ён любіць іх усіх і жадае кожнай шчасця. Але ж кахае цяпер адну — Святлану Конкіну, і ёй таксама жадае шчасця. Хіба не так?

Ён вельмі хацеў пабачыць яе, але гэта было немагчыма ні цяпер, ні ў бліжэйшы час. А жаданне было настолькі моцным, што хоць выхапі з пірамiды свой «калаш» і...

* * *

Неяк на палігоне вучыліся кідаць баявыя супрацьпяхотныя гранаты. У спецыяльна выкапаны акоп спускаліся па чарзе два курсанты і ўзводны. Астатнія хаваліся ў ляску за прыкрыццем. Лейтэнант Андрэй Дзямідчык ставіў задачу: выняць з гранаты чаку, гранату кінуць як мага далей за бруствер, прыгнуцца, пачакаць, калі ўзарвецца, а потым з крыкам «ура!» выскачыць з акопа, кінуцца ў атаку.

Ігнат Мазур разам з Міхасём Байковым трапіў у акоп адным з апошніх. Перад гэтым былі нарады, ад недасыпаў адчуваў, што не проста стаміўся, а нервы, як кажуць, на мяжы...

Уціснуўшыся ў кут акопа, ён бачыў, як узводны Дзямідчык выдаў Байкову гранату, чуў, як яшчэ раз праінструктаваў курсанта, што трэба рабіць з ёй, затым загадаў кідаць.

Міхась Байкоў з дурнаватай усмешкай на твары выхапіў чаку і павярнуўся да ўзводнага.

— Што? — спытаў ён. — Кідаць?

— Кідай! — крыкнуў яму лейтэнант Дзямідчык.

— Га? — зноў спытаў Байкоў і… кінуў гранату на дно акопа пад ногі сабе, узводнаму і Мазуру...

Студэнт Ігнат Мазур потым не раз успамінаў тыя секунды, што заставаліся да выбуху, гранату, якая імкліва падкацілася да яго: яна яшчэ варушылася ля ног, але ён хіба што на інстынкце самазахавання схапіў яе і кінуў за бруствер.

— Лажыся! — адразу ўдарыў па вушах дзікі крык узводнага, які ўжо абрынуў долу Байкова, і ўсе трое ўпалі на дно акопа — зверху адразу пачуўся выбух, зямля страсянулася, віскнулі над галовамі асколкі.

Праз паўхвіліны збялелы лейтэнант Дзямідчык прыціснуў Міхася Байкова да сцяны, паставіў побач Ігната Мазура. Заікаючыся, сказаў:

— Нічога такога не было. Нікому ні слова. Зразумелі? Цяпер ты, — звярнуўся ён да Байкова, — ідзі да астатніх, толькі вось спачатку яму, — кіўнуў на Мазура, — рукі пацалуй, бо яшчэ б секунда, і нам усім траім, а табе першаму — быў бы канец.

А як засталіся ў акопе ўдвух з Мазурам, дадаў:

— Ну, выручыў, брат. Ведай цяпер, я ўсё, што змагу — зраблю для цябе. Толькі, каб да ротнага не дайшло. Тады пачнецца...

Паўза.

Ва ўзводнага Дзямідчыка, які прыпальваў цыгарэту, трэсліся рукі. Ігнат Мазур таксама запаліў.

— Таварыш лейтэнант, — пачаў ён, — калі так, мне б хоць на суткі ў Мінск. Вельмі трэба.

— Добра, добра, — перапыніў яго ўзводны. — Ды заві Андрэй, мы тут цяпер з табой роўныя. Цябе ж Ігнатам клічуць? Дык вось, Ігнат, ротны наш — паміж намі — гнілы. Ён яшчэ той чалавек, але на двое сутак для цябе я яго раскручу. Ведаю, як. Так што рыхтуйся.

* * *

Назаўтра з раніцы Мазур збіраўся ў дарогу. Узводны Андрэй Дзямідчык стрымаў слова: дазвол на паездку ў Мінск быў.

Мазур пешшу праз лес дабраўся да шашы, прайшоў некалькі кіламетраў. Далей усё было проста: змяніўшы некалькі спадарожных машын, ён урэшце апынуўся на ўскраіне сталіцы, дзе ўжо хадзілі тралейбусы, і праз паўгадзіны быў у інтэрнаце.

На вахце адразу машынальна прагледзеў пошту і знайшоў канверт на сваё імя. Ліст быў ад Юлі Мараковай.

*«Ігнат!*

*Наўрад ці мы больш пабачымся, бо нам дыпломы выдадуць раней, а вам пасля збораў. Заставацца тут, у Беларусі, я не збіраюся, цётка дапаможа мне менавіта са свабодным дыпломам, і я — да сябе, на радзіму.*

*Расставацца з усімі ўсё ж вельмі сумна. На цябе я крыўды не трымаю, няхай табе шанцуе ва ўсім. Надзя Гусакова пазнаёміла мяне з сябрам свайго абранніка. Хлопчык маладзейшы за мяне на год, КМС па вольнай барацьбе. У нечым наіўны, у іншым рашучы, хоць і рахманы. Хоча ехаць са мной. Можа, і згаджуся.*

*Вось і ўсё. Бывай.*

*P. S. Жанчынам усё-такі не давярай. Я сама іх не цярплю. А ты ўлюблівы.*

*Юля».*

* * *

З дарогі варта было б прывесці сябе ў парадак, да таго ж, студэнт Ігнат Мазур адчуў раптам, што галодны, і нават чарговая цыгарэта не магла перабіць гэта пачуццё. Жаданне хутчэй пабачыць Святлану Конкіну не пакідала яго, але ён цвяроза вырашыў, што пойдзе да дзяўчыны крыху пазней, хоць знаёмая ранейшая ліхаманка зноў ахапіла яго. Ён схадзіў у кавярню непадалёк, дзе нешта з'еў, а потым вярнуўся ў інтэрнат. Як заўсёды напрыканцы лета ў доўгіх калідорах інтэрната было шмат зусім незнаёмых, панаехаўшых з розных месцаў, людзей — у асноўным маладых хлопцаў і дзяўчат, якія здавалі ўступныя іспыты. Прыйшлі пасля трэніроўкі са стадыёна насупраць футбалісты: дублёры з першай лігі, якія, як разумеў, часова тут пасяліліся, бо праводзілі назаўтра чарговы матч, хадзіла з камендантам нейкая камісія, а можа, і не, ён так вырашыў — не то правяралі, не то проста цікавіліся справамі.

Вельмі стомлены студэнт Ігнат Мазур крыху адпачыў, а потым спусціўся паверхам ніжэй, каб трапіць у душавую. Ключ ад яе ў летні час, як ён ведаў, знаходзіўся ў каменданта Міколы Грука — так яго звалі. Пакойчык каменданта быў насупраць, камісія, якая ўжо значна паменела, бо адзіная жанчына знікла, а засталіся двое немаладых, блізка да пенсійнага ўзросту мужчын, — усе гучна размаўлялі. Дзверы былі прыадчынены, Мазур пачуў:

— ...А што я магу зрабіць? — гаварыў камендант інтэрната Грук, — тут летам — прахадны двор. Асабліва, калі абітурыенты панаедуць. І што на першы погляд дзіўна, але характэрна — дзе больш дзяўчат, там і неспакойна.

— У якім сэнсе? — спытаў яго адзін з суразмоўцаў — хударлявы, з зачэсанымі па-плябейску назад сівымі валасамі.

— У прамым. Распуства пачынаецца. Не прымеш меры адразу, не выселіш адну-другую на вуліцу — чорт ведае што будзе. Некаторыя здаюць дакументы, а потым паводзяць сябе як хочуць. Ведаюць жа, што ўсё роўна не паступяць. Бывае, што студэнты і студэнткі таксама паводзяць сябе не вельмі...

У нас тут гады два таму хлопцаў з Захаду падсялілі. Дык дзяўчаты — за імі. Адна, як памятаю, з шэсцьдзясят шостага кутняга пакоя на трэцім паверсе, дык адразу, як мне далажылі, дваіх прывяла: у мяне, кажа, дзень нараджэння — дык запрашу я парачку чужых. І што ёй зробіш?

Студэнт Ігнат Мазур не стаў далей слухаць, а прыадчыніў дзверы і папрасіў у каменданта Грука ключ ад душавой.

— Вазьмі, — сказаў камендант інтэрната Грук, даючы ключ, — вернеш праз гадзіну.

Праз паўгадзіны студэнт Ігнат Мазур замкнуў душавую і панёс ключ у каменданцкую. Камендант інтэрната Грук, забіраючы ключ, спытаў:

— Ты чаму не пры справах?

— Адпусцілі са збораў. На два дні.

— Ну, служы. Я вось дваццаць пяць год, лічы, форму не здымаў. (Мазур ведаў, што да гэтага Грук служыў у міліцыі.) Вам што? Прысвояць лейтэнантаў і раз у пяць год на вучэбныя зборы. А я...

— Паслухайце, — перавёў гутарку на іншае Ігнат Мазур. — Вы тут, я краем вуха пачуў, пра студэнтку з шэсцьдзясят шостага пакоя ўспомнілі, тую, што з чужымі дзень народзінаў спраўляла. А як яе звалі? Яна і цяпер тут жыве?

Паўза.

Камендант Мікола Грук пакрывіў вусны ў незразумелай усмешцы.

— Ты, Мазур — так здаецца тваё прозвішча, — зашмат хочаш ведаць. А гэта не на дабро. Задумвацца пачнеш. Захварэеш. Дзяўчына тая нядаўна сышла на прыватную кватэру. Сама не з мясцовых. Ці то з Рыгі, ці то з Таліна. А ў цябе які ўвогуле інтарэс?

— Ды ніякага.

Студэнт Ігнат Мазур зманіў. Яго пасвядомасць падавала ўжо яўны сігнал небяспекі, які пагрозліва разрастаўся ў чорную, дэпрэсіўную і атрутную расліну.

Ён пакінуў каменданта Міколу Грука, вярнуўся ў свой пакой, старанна апрануўся, рукі ў яго чамусьці пахаладзелі, і праз вахту выйшаў на вуліцу.

* * *

Гаспадыня кватэры, дзе здымала пакойчык студэнтка Святлана Конкіна, сустрэла яго даволі ветліва. Але ветлівасць была робленай — жанчыну выдавалі вочы.

— Святланы пакуль няма, — сказала яна. — Пачакаеце, дык я вам гарбаты налью.

— Не турбуйцеся, — адмовіўся Ігнат Мазур. — Я, мажа, пасля зайду.

— Ды хіба што ёй перадаць? — упарта цікавілася гаспадыня.

— Дзякую. Нічога.

Студэнт Ігнат Мазур выйшаў з кватэры. У яго чамусьці з’явілася адчуванне, што гаспадыня нешта падазрае: магчыма, нават чула, як ён колькі дзён таму залазіў у кватэру праз акно.

Лаўка ў двары насупраць пад’езда была не занятая, ён прысеў на яе і запаліў цыгарэту.

У галаве было пуста, чыста і светла, толькі ў грудзях нарасталі трывога і злёгку ванітавала ад тытуню, і ён пашкадаваў, што дасюль не набыў у краме бутэльку віна.

Постаць дзяўчыны і яе дзіўнаватую хаду ён пазнаў здалёк. Як заўсёды, някідка апранутая — чорная спадніца, белая кашуля, вятроўка, — дзяўчына, блізарука прыжмурыўшыся, ішла да свайго часовага жытла.

Студэнт Ігнат Мазур падняўся з лаўкі, зрабіў некалькі крокаў ёй насустрач і паклікаў.

Яна здзіўлена спынілася, а потым з радаснай усмешкай кінулася да яго, абняла.

— Ігнат! Ты тут! Зборы хіба скончыліся? — І паведаміла: — А мне свабодны дыплом выдалі. Дзе захачу — там і ўладкуюся.

Але ўжо адчула штучнае напружанне паміж імі, спытала:

— Што-небудзь здарылася, Ігнат? На зборах?

— Нічога такога. Усё нармалёва.

— Ну, не нам з табой у хованкі гуляць.

— Давай прысядзем. Ёсць размова.

Паўза.

Студэнт Ігнат Мазур зноў запаліў, услухаўся ў роўны шум матораў, шорах шын па вуліцы, і зноў яго няўлоўна пацягнула на ваніты. Ён быццам не хацеў гэтай размовы, але і хаваць у сябе тое, ад чаго пакутаваў, не жадаў і не мог.

— Хочаш? — спытаў ён і працягнуў дзяўчыне пачак цыгарэт.

— Не палю на вуліцы. Я, быццам, не шлюха.

— Паслухай, Света — ты гады два таму дзе жыла на час вучобы?

— Што за пытанні? Ды кажы прама, Ігнат!

— У вуглавым шэсцьдзясят шостым пакоі — на трэцім паверсе?

— Ну, пражывала. Што з таго? — у кутках яе натурыстага рота з'явілася знаёмая іранічная ўсмешка.

— А ці не заходзіла да цябе на дзень нараджэння парачка нейкіх замежных хлопцаў?

— Вось яно што. Адкуль чуткі? У нас жа ўсё так добра. Навоша табе гэта?

— Яны як зайшлі і так жа выйшлі? Ці нешта ў вас адбылося?

— Ды ты раўнівец, Ігнат! Хіба я твая жонка? Не? Можа, тады чыёй была? Не? Дык я магла і зараз магу, урэшце, распараджацца сабой, як пажадаю?

Скоса ён глядзеў на дзяўчыну і адчуваў хіба што жаданне схапіць і сціснуць яе так, каб закрычала ад болю.

— Калі ты такая прасунутая і раскамплексаваная, то павінна ведаць пра тэлегонію, — сказаў раптам ён, бо нічога больш не было сказаць.

— Гэта яшчэ што?

— А ты вазьмі тлумачальны слоўнік і медыцынскую энцыклапедыю, урэшце, і даведайся. Лепш запомніш.

— Ды пайшоў ты са сваёй тэлегоніяй! Што ты яшчэ мне прад'явіш?

— А з Ванечкам Гужыным у цябе таксама нешта было? — студэнт Ігнат Мазур раптам успомніў Іосіфа Зялёнку, яго жарты ў Александраўскім скверы і сутаргава заглынуў паветра.

— Можа, ты яшчэ спытаеш, што ў мяне з маім так званым бацькам было? Ты ж не ў тэме.

— Чаму «так званым»?

— Я ж табе зараз больш скажу. Ён жа мяне ўдачарыў. Айчым. А ў мае чатырнаццаць — згвалтаваў.

Паўза.

— А сама ты гэтага не захацела? — несла Ігната Мазура.

— Калі па-сапраўднаму, то саўдзел дапускаўся. Так, так, можаш мяне судзіць. Я падлеткам была, а значыць, падсвядома сапернічала з маці за мужчыну. Я нічога зараз ад цябе не хаваю. Але гэта не паўтарылася. Ён задорваў мяне падарункамі, ліслівіў. І цяпер паддобрываецца. Тут-та я яго і ўзненавідзела. Маці стала нешта падазраваць і, сам разумееш, замест нейкай сям'і, няхай сабе і падабенства на яе, стала маленькае пекла. Я таму і з'ехала ад іх далей.

— Лепш бы я цябе не сустракаў, Света, — вырвалася раптам у яго.

— Можа, і так, Ігнат. Успомні, што я табе раней казала: не так і складана зрабіць крок насустрач якому-небудзь забяспечанаму «папіку». І такіх хапае. Пайсці за яго. А табе яшчэ не позна з Мараковай сысціся. Гэта яна табе пра замежных хлопцаў нашаптала?

— Не, не яна. Пачуў выпадкова.

— Каб ты ведаў, нічога такога тады і не было. Эпатаж, піжонства дзявочае, мне сорамна пра гэта ўспамінаць. Выгнала я іх — вось усё.

Студэнтка Святлана Конкіна спынілася, адкінула з ілба пасмачку валасоў, папрасіла:

— Дай пару раз зацягнуцца. Ды не прыпальвай цэлую. Мы ж з табой і так, як родныя.

— Мне праз дзень трэба вяртацца ў вайсковую часць, — сказаў Ігнат Мазур. — Я і прыехаў сюды толькі каб цябе пабачыць.

Паўза.

— Ну, вось і пабачыліся. А я зараз разлічваюся з гаспадыняй, пакуюся і — заўтра з’язджаю.

— Куды?

— У Талін, вядома. Уладкуюся на працу. Магчыма, кватэру здыму. І ўсё такое. Цябе, дарэчы, па размеркаванні далёка прызначылі?

— На выбар. У адзін з абласных цэнтраў. Але гэта пасля збораў.

— Урэшце, цяпер гэта твае праблемы.

— Ну, не можаш жа ты ўзяць вось так і — з’ехаць, — зноў вырвалася ў Ігната Мазура.

Святлана Конкіна зацягнулася ў апошні раз.

— Запраста. Як гэты недапалак, — сказала яна і выкінула яго ў сметніцу. — Хоць мне ні з кім так добра не было, як з табой, Ігнат. Пэўна, сапраўды ў нас вірусы аднолькавага штама.

Студэнт Ігнат Мазур праглынуў камяк у горле, адчуў, як зноў халадзеюць рукі. Сказаў:

— Застанься. Адслужу гэтыя два тыдні і ўсё вырашым.

— Ты бедны студэнт. І я не з багатых. І ты — раўнівец. Так і будзем існаваць утраіх? У сэнсе — ты, я і тэлегонія?

Паўза.

Студэнт Ігнат Мазур абняў дзяўчыну, уткнуўся тварам у яе цёплую шыю, удыхнуў пах яе валос. Тая нейкі час сядзела моўчкі, а потым рашуча ўстала.

— Давай так, Ігнат. Вырашым усё да раніцы. Я падумаю і ты таксама. Сустрэнемся. Калі аднаго з нас не будзе, то… сам разумееш. І не трэба тады лішніх слоў. А цяпер — бывай.

— І ты бывай, Света.

* * *

Рэстаран быў запоўнены прыкладна напалавіну, але наведвальнікаў паступова прыбывала. Студэнт Ігнат Мазур замовіў гарэлкі і не вельмі багата з закускі — грошай значна паменела. Афіцыянтка прынесла гарэлку і напрыканцы падсадзіла яму за столік двух афіцэраў. Адзін з іх быў у званні маёра, другі — капітан. Ігнат Мазур выпіў адразу ледзь не шклянку, і мяккая хваля алкаголю ахінула падсвядомасць, адразу амаль незаўважна, быццам спала напружанне апошніх дзён, але думкі раз за разам вярталі яго да ўсяго таго ж надакучлівага пытання: што рабіць? Бо, меркаваў ён, жыццё нясе яму яўную паразу, і ён праваліўся ў ім, як правальваецца футбольны абаронца, які рызыкоўна пакінуў сваю зону і далей можа толькі тупа назіраць у адчаі, як на браму непазбежна насоўваецца небяспека.

Афіцэры гаварылі мала, ён улавіў толькі, што пра Чэхаславакію. Далей, з аднаго боку ад яго, за столікам сядзелі дзве маладыя пары. Яны пілі віно і пэўна гаварылі нешта смешнае, бо часта хіхікалі. Затое з іншага боку ён са здзіўленнем пачуў замежную гаворку: праз столік трое немаладых мужчын з абветранымі загарэлымі тварамі пілі віно і нешта даволі ажыўлена абмяркоўвалі паміж сабой.

Праз некалькі хвілін іх гаворку пачулі і афіцэры за яго сталом, азірнуліся некалькі разоў і адзін з іх — капітан, сказаў:

— Чэхі.

— Славакі, — папраавіў яго маёр.

— Дальнабойшчыкі, — зноў выказаў здагадку капітан. — Возяць усё Еўропе. Вось і сюды іх занесла.

Студэнт Ігнат Мазур моўчкі наліў сабе ў фужэр і зноў выпіў.

Раптам славакі заспявалі. Тое, што яны былі менавіта славакі, студэнт Ігнат Мазур зразумеў адразу, як толькі пачуў песню. Гэта была песня з пласцінкі Святланы Конкінай, якую яны не раз слухалі разам. Ён праглынуў камяк у горле, павярнуўся тварам да століка, дзе спявалі дальнабойшчыкі, «рэднэкі», як назваў іх у думках, і стаў падпяваць. Словы, блізкія да роднай мовы, ажылі ў яго памяці.

Славакі раптам сціхлі і здзіўлена ўтаропіліся ў яго.

— Гэй, братан! — паклікаў урэшце адзін з іх з націскам на першы склад. — Хадзі да нас!

Студэнт Ігнат Мазур падумаў, урэшце выбраўся з-за століка, перасеў да славакаў. Праз некалькі хвілін яны добра паразумеліся — зноў жа мовы былі блізкія, і ён патлумачыў славакам, што студэнт. Але доўга сядзець і выпіваць за чужы кошт ён не хацеў, нягледзячы на ўзнікшую ўзаемную прыязнасць да «рэднэкаў». Новы прыступ раптоўнай тугі авалодаў ім, ён адчуваў ужо, што доза ап'янення і так перавышана, а таму развітаўся са славакамі, паклікаў афіцыянтку, разлічыўся і няцвёрдай хадой спусціўся ўніз.

Але на выхадзе яго ўжо чакалі двое маладых людзей з непрыкметнымі тварамі, адзін з іх даволі моцнага целаскладу. Яны заступілі шлях і адцёрлі Ігната Мазура ўбок. Мацак прытрымаў яго за рукаў пінжака.

— Вы хто такі? — спытаў ніжэйшы ростам напарнік. — У вас ёсць пры сабе дакументы?

Студэнт Ігнат Мазур вырваў руку і, нягледзячы, што яго хіснула, даволі акрэслена і хутка прыняў баксёрскую стойку.

— Ну? У чым справа?

— Дакументы.

— А хто вы такія?

Мацак нехвотна выцягнуў чырвонага колеру пасведчанне, разгарнуў і паднёс да вачэй студэнта Мазура.

Ігнат Мазур падумаў і дастаў свой студэнцкі білет. Хлопцы зірнулі і спыталі:

— Многа выпіў?

— Нармальна.

— А дзе жывеш?

— Ды побач. У інтэрнаце, — з прыхаванай злосцю і неахвотна адказаў студэнт Ігнат Мазур і дадаў: — Ды не цісніце вы на мяне. Бачыце — шмат выпіў. Магу і званітаваць.

— Чаго да замежнікаў падсеў?

— Запрасілі. На іх не пазначана, што з-за мяжы. А калі і адтуль? Вы б іх у рэстаран, дарэчы, не пускалі.

Хлопцы выклікалі міліцыю і праз некалькі хвілін пратэстуючага Ігната Мазура запіхнулі ў міліцэйскі «ўазік» і адвезлі ў аддзяленне, дзе афармілі пратакол, што ён п'яны, забралі грошы, цыгарэты і саксонскі талер, і змясцілі ў камеру часовага ўтрымання.

Назаўтра яму абʼявілі прысуд — трое сутак арышту за дробнае хуліганства.

* * *

Праз трое сутак раніцай яго выпусцілі.

Было ўжо даволі холадна, з закаваных у асфальт дрэваў там-сям ападала лісце. Горад абуджана шумеў рухавікамі і незмаўкаючым ні днём, ні ноччу шоргатам шын. На небе некалькі перыстых белых аблокаў перакрыжаваў інверсійны след ад самалёта.

Студэнт Ігнат Мазур з агідай адчуў характэрны пах ізалятара, які ўеўся яму ў вопратку, і зноў абмацаў кішэні. Усе дробныя асабістыя рэчы яму вярнулі. Грошай у яго не было. Безбілетнікам ён праехаў некалькі прыпынкаў на трамваі, а потым пайшоў пешшу. У інтэрнаце ён планаваў прыняць душ, а потым трэба было вяртацца ў роту. Мазур спазняўся на суткі і разумеў, што дабром гэта для яго не скончыцца, але яму ўжо было наогул на ўсё напляваць. Толькі вось не варта падстаўляць узводнага, лейтэнанта Дзямідчыка. Тут трэба нешта рабіць і недкладна, думаў студэнт Ігнат Мазур.

Ля ГУМа ён звярнуў направа і праз некалькі крокаў убачыў раптам бледна-жоўтую бочку на колах і каля яе невялікую ранішнюю чаргу мужчын. Віно! Таннае белае сухое віно. І ніводнай манеты ў кішэнях. Не так ужо і шмат яму зараз трэба, у роспачы падумаў студэнт Ігнат Мазур, усяго толькі шклянку віна і цыгарэту.

Сцiснуўшы зубы, ён стаяў і ў каторы раз правяраў кішэні — раптам што засталося — урэшце і аднаго рубля ў яго прыкрым становішчы было б дастаткова.

Постаць аднаго з мужчын у сярэдзіне чаргі прыцягнула яго ўвагу. Нешта быццам няўлоўна знаёмае: сутулаватая спіна ў шэрым мятым пінжаку, зрэзаная патыліца, кароткая стрыжка і твар, калі той павярнуўся, — з шырокім ілбом, нібы ў старажытнага рымляніна, — так, гэта быў Пятро Мацкевіч, выкладчык палітэканоміі, які калісьці цудоўным чынам прыняў у яго іспыт.

Студэнт Ігнат Мазур падышоў бліжэй і нягучна павітаўся:

— Добрай раніцы, Пётр Антонавіч!

Выкладчык Пятро Мацкевіч павярнуўся тварам да яго і некалькі секунд моўчкі ўглядаўся. Ды раптам цёпла ўсміхнуўся, працягнуў руку. «Пазнаў, — здзіўлена падумаў Ігнат Мазур, — добры знак».

— Ігнат? Выбачай, прозвішча запамятаваў.

— Мазур. Я здаваў вам іспыт.

— А-а, дык гэта мы з табой абмяркоўвалі футбольныя жарсці? «Бітву пры Бёрне»? Пачакай, а чаму ты ў такім выглядзе? Непаголены і пах нейкі дзіўнаваты ад цябе? Прабач, канешне… Добра, пасля раскажаш. Можа, не адмовішся ад шклянкі віна? Калісьці вы, студэнты, мяне ад душы пачаставалі. То зараз, зараз…

— Буду ўдзячны.

Выкладчык Пятро Мацкевіч замовіў і заплаціў адразу за два разы па шклянцы, і яны адышліся ў бок.

— Ну, расказвай.

І нібы на споведзі ў святара, Ігнат Мазур расказаў выкладчыку Пятру Мацкевічу амаль усё: і пра тое, што заблытаўся з жанчынамі. І пра зборы. І пра рэстаран у гатэлі, і пра славакаў і сутычку з аператыўнікамі, урэшце, пра суткі і што цяпер, па сутнасці, знаходзіцца ў самаволцы. Віно мякка ўдарыла

яму ў галаву. Цыгарэта дадала астатняе. Не распавёў ён толькі самае балючае: пра Святлану Конкіну, яе замежных гасцей, ды яшчэ пра Байкова з гранатай. Але, што ўзводны паручыўся за яго, і цяпер, да слова, ён таго, лічы, падставіў — расказаў.

Яны адышлі ў бліжэйшы сквэрык і прыселі на лаўцы.

— Тут справы няпростыя, — пасля роздуму пачаў выкладчык Пятро Мацкевіч. — Каб цябе сапраўды не выкінулі на вуліцу без дыплома, варта паварушыцца. І галоўнае — не губляць часу. Давай з гэтым параімся. Калі ты сёння ж вернешся ў роту, напішаш якое тлумачэнне, і калі ўзводны цябе прыкрые — то, можа, усё і абыдзецца. Тут яшчэ, як ваш дэкан да ўсяго паставіцца. Калі з міліцыі паперы на цябе яму не прыйдзе, то тваё шчасце. Але гэта сумнеўна, хоць, пачакай — гэта ж мой раён, а ў мяне там, у мясцовым райаддзеле, ёсць знаёмы. Бяру на сябе. Ды не дзякуй, рана яшчэ. А вось у дэканат я больш не хадок. Неўзабаве пасля тых іспытаў мяне папрасілі. За паводзіны, нявартыя педагога. Гэта за наш пікнік і іспыты. Так што я больш не выкладаю. А «залажыў» мяне нехта з вашых, цябе я выключаю. У маім узросце ўжо крыху кемлю ў людзях. Застаюцца двое: не памятаю іх прозвішчы.

— Гужын і Зялёнка.

— Ну, і па-твойму?

— Гужын. Больш няма каму.

— Ну вось і вызначыліся. Урэшце, да люстрацыі нам далёка. Няхай усё будзе як ёсць.

Паўза.

— Хачу ўсё кінуць, — вырвалася раптам у Ігната Мазура. Шчырасць выклікаў алкаголь. — Абрыдла ўсё. Цяжка мне чамусьці.

— Гэх, Ігнат! Ты вось такі малады, шчыры, разумны, а таму і павінен быць асабліва абачлівым — інакш прападзеш. Надта не давярай нікому. Заўсёды знойдуцца замаскіраваныя пад добразычліўцаў, якія паспрабуюць выкарыстаць цябе ў сваіх мэтах. Ты пэўна задаваў сабе пытанне — чаму я, выкладчык, няхай і былы, не цураюся вас, маладых, спачуваю вам, кантактую на мяжы рызыкі? Магчыма, тут усё проста: скажу табе, што баліць, не дае спаць — у мяне адзіны сын твайго ўзросту, Ігнат, загінуў у Венгрыі ў пяцьдзясят шостым годзе. А хто адкажа за гэта?..

Былы выкладчык Пятро Мацкевіч выкінуў у сметніцу недапалак.

— Меў рацыю філосаф, калі сказаў, што над жыццём няма суддзі. Такое яно было і будзе. І яно з усімі нашымі спадзяваннямі ўрэшце змятае ўсіх нас, як паўночны вецер саспелыя плады. Вось і ўся ісціна.

— Пакуль да рэшты не змяце ўсіх?

— І такое калі-небудзь адбудзецца. Але жыць усё-такі варта. Тым больш табе — маладому. Радуйся, што не хворы, не інвалід, што дзяўчаты не цураюцца, што можаш бачыць, як зелянеюць дрэвы, цячэ вада, слухаць шолах лесу. І адчуваць на сабе што?

— Энергію зоркі.

— Так. Вось бачыш — і я нечаму навучыў. Ну, бывай, Ігнат. Дарэчы, як у цябе з грашыма?

— Нармалёва. Не прападу.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся. Чамусьці ў студэнта Ігната Мазура ўзнікла невыразнае пачуццё, што з былым выкладчыкам Пятром Мацкевічам ён ужо больш ніколі не пабачыцца...

Туга з новай сілай авалодала ім. Яму хацелася ўпасці на зямлю, пакрытую кволай травой, і нейкі час ляжаць так нерухома. Толькі б сустрэцца са Свят-

ланай Конкінай хоць на гадзіну, паўгадзіны, пяць хвілін, каб высветліць усё канчаткова. А што высвятляць? Каб стаць вольным ад усяго, варта праз нешта пераступіць. Пераступіць? Раптам яму ўспомніўся крымінальны выпадак з маладым хлопцам, які забіў сваю таемную каханку — замужнюю саракагадовую жанчыну — і з таго, як ён патлумачыў у судзе, стаў свабодным. Цяпер гэты ўчынак быў ім разгаданы. Як ён, Ігнат Мазур, разумеў таго пакутніка! Ці здолеў бы ён зрабіць такое? Не, падумаў ён. Толькі б зноў прыціснуць да сябе гэтую маленькую, зграбную постаць, удыхнуць пах яе цела, валасоў, адчуць яе вусны. Насланнё. І ад яго не схавацца. А вось Гужына ён бы забіў. І тых замежных хлопцаў. Забіў бы, забіў, забіў. І яе айчыма. Яго асабліва.

Дзяўчына, вядома ж, з’ехала. Ён жа не з’явіўся раніцай. Гэх, каб яна ведала!

У Талін. Так, ён паездзе ў Талін. Толькі спачатку вернецца ў роту, а там што будзе, тое будзе. Усё роўна зборы хутка скончацца. Потым — на цягнік. Не — лепш на самалёт. І праз якія паўтары-дзве гадзіны ён апынецца ў Таліне. Грошы? У яго ёсць яшчэ адна заначка — бабулін пярсцёнак, прызапашаны на крайні выпадак. Каштоўная рэч — пацягне, як ён ведаў, дзесьці на месячную зарплату якога-небудзь функцыянера.

Але пакуль тое — у інтэрнат. Пазычыць у каго грошай на спадарожную. Да Бабруйска. Урэшце ў яго самога на руцэ неблагі гадзіннік, за які можна праехаць і тысячу кіламетраў.

* * *

У інтэрнацкім пакоі нікога не аказалася, але адзін з ложкаў быў расцелены. Яго некалькі тыдняў таму заняў другакурснік, падселены ім камендантам інтэрната Грукам. Хлопец то з’яўляўся, то знікаў — тлумачыў тым, што часта ездзіць да бацькоў, якія жывуць у пасёлку ў Мінскім раёне, і куды ходзіць аўтобус.

Студэнт Ігнат Мазур скінуў пінжак, чаравікі і паваліўся на свой ложак. Стомленасць абрынулася на яго раптоўна, і ён заснуў, але праз якую гадзіну абудзіўся ў трывозе. Варта было тэрмінова збірацца і дабірацца на спадарожных да вайсковага лагера, але ён немаведама чаму працягваў ляжаць. Раптам адчай ахапіў яго.

Ігнат Мазур зноў уявіў, як раніцай наступнага дня, калі пасля рэстарана ён ужо сядзеў у міліцыі, Святлана Конкіна дарэмна чакала яго, і ён не з’явіўся, зноў успомніў пра іх дамову, і аж застагнаў ад роспачы.

Думкі ліхаманкава варушыліся ў яго галаве. Плюнуць на зборы і паехаць зараз у Талін? А грошы? Пярсцёнак далёка адсюль, дома. І каб заняцца гэтым — трэба час. Прасцей усё-такі з’явіцца на зборы, як раіў яму выкладчык Пятро Мацкевіч, а потым і вырашыць усё астатняе.

«Тэлефон, — раптам успомніў ён, — у гаспадыні, дзе кватаравала Святлана, ёсць хатні тэлефон, нумар якога ён добра памятаў. А раптам дзяўчына засталася тут па невядомай яму прычыне?»

Студэнт Ігнат Мазур падхапіўся з ложка, таропка насунуў чаравікі і спусціўся да вахты.

Слухаўку зняла гаспадыня.

— Скажыце, ці дома Святлана? — спытаў ён і сцяўся ў чаканні.

Паўза.

— Святлана тут больш не жыве, — урэшце пачуў ён у адказ.

— А яна не казала, куды з’ехала?

— Яна нічога не казала, але за ёй прыехалі яе бацькі — так яны прадставіліся, і сказалі, што яна вяртаецца ў Талін. Быццам назаўсёды. Дарэчы, яна не хацела ехаць, усё кудысьці бегала. І гэта ўсё, што магу сказаць.

У слухаўцы шчоўкнула і сувязь перапынілася.

Студэнт Ігнат Мазур зноў вярнуўся ў інтэрнат. Якраз прыйшоў чацвёрты жыхар іх пакоя, той самы другакурснік, якога падсялілі параўнальна нядаўна: рахманы юнак з вёскі, маўклівы і непрыкметны з выгляду. Звалі яго Фёдар Піскун.

— Паслухай, Фёдар, мяне днямі ніхто не шукаў? — пацікавіўся Ігнат Мазур.

— Пыталася дзяўчына. Два дні таму.

— Што за дзяўчына? Як выглядала? Яна назвала сябе?

— Так. Высокая бландзінка. Прыгожая. Аняй зваць.

Паўза.

— А ты, што ёй адказаў? — дапытваўся Ігнат Мазур.

— Сказаў, што на зборах.

— Тут такая справа, Фёдар — мне трэба ў вайсковую часть. Але я… ды доўга тлумачыць, — вось швейцарскі трафейны гадзіннік, дзядзька калісьці з вайны прывёз. Я табе яго пакіну ў заклад, а ты мне на спадарожную рублёў пяць пазыч. Згода?

— Не трэба закладаў. Я і так пазычу.

Студэнт Піскун выцягнуў з кішэні партманет і адлічыў грошы.

— Ну, Фёдар, быць табе дэканам, — вяла, але з цеплынёй пажартаваў Ігнат Мазур. — Бывай.

* * *

Узвод быў на палігоне. У капцёрцы Ігнат Мазур забраў у старшыны роты, які не змаўкаючы бэсціў яго, сваю форму і хутка пераапрануўся, і пасля роздуму пабег на палігон.

— Але ж ты і трапіў! — толькі і сказаў яму наўздагон раззлаваны, што яго патурбавалі, старшына.

Яго нечаканае з’яўленне аднакурснікі з узвода сустрэлі воклікамі: адны проста здзіўленымі, а іншыя зласлівымі — з-за яго адсутнасці ўзвод няслаба паганялі на занятках.

Узводны — лейтэнат Андрэй Дзямідчык — адвёў яго ўбок.

— Што здарылася, Ігнат?

— Забралі ў міліцыю. Адседзеў трое сутак.

— Ты спазніўся на суткі. Ведаеш, што табе пагражае?

— Ды гатовы я на любое пакаранне. Мне, таварыш лейтэнант, скажу шчыра — ўсё роўна. Як будзе — так і будзе.

Узводны Андрэй Дзямідчык падумаў некалькі секунд. Урэшце, відаць па ўсім, рашэнне прыняў раней, сказаў:

— Табе пакуль шанцуе. Ротнага Угарава часова адклікалі і яго няма ўжо трэці дзень. Цябе будзе прасаваць нампаліт, падпалкоўнік Марчанка, а начальніку збораў, загадчыку кафедры не дакладвалі. Мяркую, разбяромся самі, але будзь гатовы. Скажу яшчэ па сакрэце і паміж намі: Марчанку вось-вось у запас, на пенсію, і яму праблемы не патрэбныя. Павінішся як след, прыдумай штонебудзь, і можа ўсё і абыдзецца. Ну, а я табе, ужо прабач, — па максімуму.

І ўзводны Дзямідчык аддаў каманду строіцца, а пасля чаго аб’явіў Ігнату Мазуру пазачарговыя нарады на кухню і ў каравул.

Ноччу ў палатцы адчувальна прыціскаў холад. Але нават у холадзе спаць Ігнату Мазуру не далі. Сяржант з суседняй роты падняў на ногі, каб ісці ў нарад на кухню. Мазур заснуў на гадзіну толькі пад раніцу. Сон быў неглыбокі, не надаў сіл, прыснілася чамусьці выкладчыца Спіркіна, яна ж «Агеньчык», якая пагражала не прыняць іспыт. А потым нібы пачала спакушаць яго: села на калені і прыціснулася губамі да яго шыі, стала цалаваць, але тут ён прачнуўся, — Міхась Байкоў далікатна кранаў яго: «Пад'ём, Ігнат! На зарадку!»

Бегчы з кіламетр, а потым махаць рукамі і прысядаць у яго не было ні сіл, ні жадання, і студэнт Ігнат Мазур застаўся ў палатцы. Пасля сняданку ў сталоўцы, куды хадзілі строем усёй ротай, яму загадалі з'явіцца да падпалкоўніка Марчанкі.

Нампаліт Марчанка — мажны, марудны ў рухах, акуратна пастрыжаны і паголены, не ўшчуваў яго, не пагражаў і нічога не пытаў.

— Збяром на днях камсамольскі сход роты, — сказаў ён, — няхай ён вырашыць, якія меры да вас прыняць. Вы ўсё-такі павінны разумець, што цяпер знаходзіцеся ў войску, а тут галоўнае — дысцыпліна.

* * *

Праз суткі ў лагер вярнуўся маёр Угараў. Нешта, пэўна, не склалася ў яго ці то дома, ці яшчэ дзе — хадзіла нават чутка, што ён спрабаваў паступіць у вайсковую акадэмію, але, пэўна, гэта дрэва яму зваліць было не па сіле, і ён з нейкім нездаровым імпэтам зноў прыняўся за службу.

Яму ўжо данеслі, што мотастралок другой роты Ігнат Мазур адсутнічаў у часці больш за трое сутак і, можна было толькі здагадвацца пра тое, хто на гэты раз быў інфарматарам ротнага Угарава.

Рашэнне падпалкоўніка Марчанкі правесці камсамольскі сход роты, на якім і вырашыць лёс Ігната Мазура, яму, Угараву, не падабалася сваёй неакрэсленасцю і здавалася залішне мяккім: вынік таго будучага сходу можна было прадказаць адразу — паўшчуваюць, на тым і скончыцца. Справа паступова блізілася да арышту і гаўпвахты, але студэнт Ігнат Мазур нібы нічога не заўважаў.

На нейкі час увагу ротнага адцягнуў на сябе Міхась Байкоў, які на стрэльбішчы па сваёй звыклай бесталковасці павярнуў да таго заражаны аўтамат, вядома, ненаўмысна, але гэтага хапіла, каб маёр пачаў штодня выхоўваць Байкова, а заадно і ўзводнага Андрэя Дзямідчыка. Пра выпадак з гранатай па-ранейшаму ніхто не ведаў, а Міхась Байкоў, вядома, маўчаў. Ён усё болей хінуўся да Ігната Мазура, стараўся дагадзіць таму ў дробязях, а неяк нават папрасіў парады, хоць сам быў старэйшы за таго на цэлы год. «Я пасля вайны малы быў, — тлумачыў ён суразмоўцу, — тады хоць і не такі, як у трыццатыя, а усё роўна голад душыў. Бацькі галадалі, і мы — дзеці таксама. Памятаю гнілым дзікім грушам радаваліся. Па вёсках шмат жабракоў хадзіла. Хлеба прасілі, а дзе таго хлеба возьмеш?.. Я да таго вяду, — працягваў Міхась Байкоў, — што таму такі і затарможаны, бо ў галечы рос. Гэта зараз магу з вёскі і сала шматок прывезці. Ты ўжо не крыўдуй за гранату. Чорт ведае, што тады адбылося. Але ты, Ігнат, мне цяпер, вынікае, нібы старэйшы брат».

«Я і з дзяўчатамі такі затарможаны, — гаварыў далей Міхась Байкоў, — там у мяне на вёсцы жанчына ёсць. Настаўніца малодшых класаў з нашай школкі, калісьці педвучылішча скончыла. Яшчэ да сваёй вучобы я з ёй пачаў сустракацца, а цяпер яна мне і лісты дасылае і прыязджала ў Мінск. Але мне сказалі, што яна... Словам, не ад мяне... Але пазбавілася... Цяпер па

размеркаванні я, як мінімум, у раёнцы апынуся, дый месца там ужо для мяне знайшлося. Дык я хачу ў цябе, Ігнат, спытаць: што мне рабіць? Вядома, яна хоча, каб я забраў яе ў наш гарадскі пасёлак, там разам і асталявацца. А мне як з яе мінулым быць? На плячах усё жыццё насіць?»

Міхась Байкоў урэшце спыніўся і глядзеў на яго даверліва — чакаў адказу.

— Ты выкладчыка Пятра Мацкевіча памятаеш? — праз паўзу спытаў яго Ігнат Мазур.

— Анягож. Я яму, а не Гавіну, палітэканомію здаваў. Дык ён па білеце і пытацца не стаў. Ты, кажа, да ўніверсітэта дзе працаваў? У калгасе, гавару. Ён мне адразу «выдатна» паставіў. Сказаў толькі, каб асабліва не хваліўся нікому.

— Дык вось, — працягваў Ігнат Мазур, — ён мне днямі сустрэўся. І не то сваё, не то чужое працытаваў. Я запомніў.

— А што, цікава?

— А тое, што над жыццём няма суддзі.

Паўза.

— Дык як гэта разумець? — спытаў Міхась Байкоў.

— Як хочаш, — пацiснуў той плячыма.

Усё часцей Ігнат Мазур упадаў у стан своеасаблівага нервовага збою, — не дапамагала ні бесперапыннае паленне цыгарэт, ні алкаголь, ні паслужлівасць Міхася Байкова, які то частаваў яго кавалкам сала, то прыносіў гарачай гарбаты з кухні. Туга з такой сілай навальвалася на яго, што раз-пораз хацелася аднаго — захапіць з сабой аўтамат, ражок з патронамі і схавацца ў лес, дзе проста ляжаць на якой палянцы пад познім, амаль восеньскім сонцам да таго часу, пакуль не наступіць цемра, а потым... спусціць курок...

Кадравы афіцэр лейтэнант Андрэй Дзямідчык бачыў, што з ім нешта не тое. Аднойчы, рызыкуючы сваім службовым становішчам, ён даў яму адпачыць: быццам забраў з сабой на выкананне нарада, а на самай справе даў яму шынель і паказаў на тапчан у дальняй капцёрцы: паспі. Мазур здолеў правесці некалькі гадзін у адзіноце: проста драмаў ці ляжаў у цішыні і ні пра што не думаў.

Але не думаць аб адным — тым, што найбольш непакоіла яго, — не выпадала. Урэшце ён прыйшоў да высновы: альбо дацерпціць да канца збораў і адразу паедзе ў Талін, альбо, калі гэта будзе немагчыма па нейкіх прычынах — скончыць з усім у чарговым каравуле.

Толькі вось непакоіла думка, што нядобра будзе так сур'ёзна падстаўляць узводнага. Лейтэнант Андрэй Дзямідчык чымсьці яму падабаўся, хоць, як ён са спагадай разумеў, той наўрад ці здолее неяк прасунуцца па службовай лесвіцы.

Так прайшлі некалькі дзён. Пра сход роты, на якім было вырашана абмяркоўваць лёс Ігната Мазура, чамусьці пакуль не ўспаміналі. У вайсковых часцях спешна пачалі рыхтавацца да манеўраў пад кодавай назвай «Беразіна», загадалі таксама падключыць да тых манеўраў і студэнтаў, якія праходзілі зборы.

...Неяк узводны лейтэнант Дзямідчык, бачачы, што Ігнат Мазур нібы сам не свой, сказаў ротнаму Угараву, што хоча пакараць парушальніка дысцыпліны і скіраваць таго скасіць на палігоне траву. Ротны даў дазвол. Узводны ж, як адышліся з пляца, дастаў з кішэні ключ і працягнуў Ігнату.

— Гэта ад майго пакойчыка ў нашым інтэрнацe для афіцэраў, — сказаў ён. — Знойдзеш. Табе ўсё ж варта добра адпачыць. Бачу, што ты на мяжы. А я ад'едуся на дзень у вёску да сваіх бацькоў. Тут недалёка. Так што давай, студэнт.

Імжыла. Паўночны вецер павольна гнаў па небе сіне-шэрыя хмары. Чарада падужэлых маладых шпакоў вялізным чорным ценем прашамацела крыламі над яго галавой і знікла. Птушкі рыхтаваліся ў вырай.

Студэнт Ігнат Мазур расціснуў далонь. Ключ з біркай — нумар пакойчыка, дзе часова пражываў узводны, быў цяпер яму як нейкі талісман, знакам дабра і ўдачы.

Ён рушыў далей, але ўжо праз некалькі крокаў яго пераняў пасыльны з кантрольна-прапускнога пункта, радавы тэрміновай службы.

— Ты з другой роты? — спытаў ён.

— З другой.

— А Мазура ведаеш?

— Гэта быццам я, — сказаў Ігнат Мазур.

— А, ну дык да цябе дзяўчына прыехала. У адведкі, кажа. Ідзі, забірай.

Студэнт Ігнат Мазур спыніўся. Тое, што да іншых з іх прыязджалі сваякі, бацькі альбо дзяўчаты, не было дзіўным. Такое дазвалялася. Ён жа нікога не чакаў.

Але раптам успомніў пра ліст Ані Балтас, і з палёгкай уздыхнуў: прыехала, — ну, можа, гэта і добра.

Ён павярнуў на шляху. Ісці было недалёка. Шырокая ўтаптаная сцежка напрамую вяла да КаПэПэ. Ігнат ішоў туды.

Неўзабаве ён убачыў знаёмую чыровна-зялёную браму, дзверы і як з гэтых дзвярэй насустрач яму бегла дзяўчына.

Ён спыніўся на міг, ашаломлены, а потым кінуўся насустрач.

Святлана Конкіна імкліва абняла яго за шыю, і ён прыўзняў яе, абхапіў рукамі і ўткнуўся тварам у да болю знаёмую ўскудлачаную галаву, адчуў пах яе валасоў, парфумы, і пачуццё шчасця, магчыма, самага неспадзяванага і неверагоднага, ахапіла яго.

І толькі цяпер, у гэты момант, студэнт Ігнат Мазур нечакана для сябе раптам зразумеў, што ў яго жыцці магло і можа здарыцца ўсякае, але такога ўжо не адбудзецца і не паўторыцца ніколі.





Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# ЛІСТ АД СЦІШАНЫХ НЯБЁСАЎ

* * *

Знайдзі мяне, радок, як ты не раз знаходзіў,
Бо то не я пішу, а ты дыктуеш мне
Таемнай вяззю слоў і безліччу мелодый,
Мігценнем зор і дрэў, што бачыцца ў акне.
На жаль, усё радзей з табой у нас сустрэчы,
Бо ўжо не маладосць і не юначы пал,
Але, калі казаць, пакуль яшчэ не вечар
І ходзяць цягнікі яшчэ на мой вакзал.
Знайдзі мяне, радок! Давай паплачам разам
І станем на краі, і паляцім увысь!
Мы знаем, што казаць сумненням і паразам.
Мы помнім, як ляжаць сярод густой травы.
Ты мой надзейны брат, ты верны спадарожнік.
Са мной ты дзеліш лёс ужо каторы год.
Ты — посах, што бярэ нястомны падарожнік
У свой бясконцы шлях сярод палёў і вод.

---

***Гальпяровіч Навум Якаўлевіч*** *нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб’яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008), «На трапяткім агні» (2012), «Сюжэт для вечнасці» (2013) і інш.*

* * *

Бывае так: з вандровак еду,
У сэрца ціснецца спакой,
І незнаёмаму суседу
Адкрыцца рады ўсёй душой.
О, гэта прага спавядацца,
Калі ты ўласны дзеліш боль,
Калі не хочацца авацый,
А — проста быць самім сабой!..
Каб хоць на міг адчуць спагаду,
Плячо надзейнае знайсці,
Каб памагала гэта радасць
І далей крочыць па жыцці,
З надзеяю глядзець і верыць,
Што свет заўсёды быў такі:
Дарогі, шпалы, кіламетры,
Расстанні, стрэчы, цягнікі.

* * *

Я сцёр напісанае слова:
Яно не выспела душой,
Яно шчэ не было гатова,
Каб быць на самай справе мной.
О, як тут быць суладным трэба
З таемнай музыкай вышынь.
З зямлёю роднаю і небам,
Дзе чысціня, прастора, сінь!..
Яго пад сэрцам трэба гушкаць.
Кідаючы ў агонь і лёд,
А потым выпусціць, як птушку,
У вольны і святы палёт.

* * *

Лісток кляновы апячэ далонь,
Яго ў руках разгублена трымаю, —
Нібы дарунак вечнасці прымаю,
Нібы спялю ў душы сваёй агонь.

Адкуль зляцеў? Бы вечны каляндар
Гартае нехта і рукой пяшчотнай
Сарваў яго для ціхага палёту
Над адзінотай маіх даўніх мар.

Даверлівы, ласкавы, ён ляцеў,
Каб я адчуў, што не адзін на свеце,
Што неба ёсць, і воблакі, і вецер,
І кроны вечных, дужых, мудрых дрэў.

Што ёсць пачатак і святы выток,
Што ёсць нябачны і відушчы посах,
І на далоні злоўлены лісток,
Нібыта ліст ад сцішаных нябёсаў.

* * *

Бачыў вочы нечыя ў сне,
І такі быў гэты пільны позірк,
Быццам нешта ведаў пра мяне,
Быццам слаў таемную мне позву.
Я і не пазнаў яго спярша,
Я не захаваў таго імгнення,
Толькі раптам сцішана душа
Падказала светлае найменне.
Позірк паявіўся і прапаў,
Толькі веі чуйна трапяталі
Ад таго, што нехта мне шаптаў
Вечнасці таемныя скрыжалі.





Зіновій ПРЫГОДЗІЧ

# АД ЗІМЫ ДА ЗІМЫ

*Гісторыя аднаго кахання ў вершах, дзённікавых запісах і эсэмэсках*

Ад зімы да зімы...

Як і ў прыродзе паміж зімамі бывае вясна, лета, восень, так і ў маім каханні былі і хвіліны высокай радасці, і дні сапраўднага шчасця, і адчуванне чароўнага, фантастычнага палёту. Але, на жаль, надарылася паласа і самотнай журбы, замяці жоўталісця, снежных завей...

Дыялектыка жыцця, скажа філосаф. Суцяшэнне, канечне, слабое. Але ёсць надзея (хай сабе слабенькая, кволая ды ўсё ж — надзея!) на тое, што за хмарным, завейным днём прыйдзе і новы дзень — ясны, пагодлівы, сонечны. Веру ў гэта горача, страсна, малітоўна! Не магло ж бясследна знікнуць усё тое, што паміж намі было. Не сталася ж маною, фальшам сказанае намі. Не марна ж трапяталі нашыя сэрцы…

Адвечная барацьба розуму і сэрца! Я ўжо аднойчы быў ахвяраю гэтай драматычнай барацьбы. Ах, як не хацелася б стаць ёю яшчэ раз! І таму давяраюся сэрцу, бо як сказаў Экзюперы вуснамі свайго Маленькага прынца: «Зорко одно лишь сердце».

У лепшае верыцца —
Вясна яшчэ вернецца!

## Студзень

Па праўдзе кажучы, я даўно ўжо меў пэўную цікавасць да нашай новай настаўніцы — Аляксандры Антонаўны, Шурачкі. Маладая. Прыгожая. Таленавітая. Аднак стрымліваў сябе, каб нічым — ні словам, ні жэстам — не праявіць гэтую цікавасць.

На тое былі свае прычыны.

---

*Зіновій Прыгодзіч* нарадзіўся 15 кастрычніка 1944 года ў вёсцы Лышча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі Белдзяржуніверсітэта працаваў у газеце «Звязда», у ЦК КПБ, галоўным рэдактарам газеты «Советская Белоруссия», першым намеснікам старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь. Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня».

Друкавацца пачаў з 1957 года. Аўтар кніг прозы «Журба мая светлая» (2002), «Крымская сімфонія» (2005), «Путь полной луны» (2009), «Родник у лесных берез» (2011), «Постаці» (2011) і інш, а таксама зборніка вершаў «Калі б не ты» (2002).

Па-першае, я заўсёды скептычна ставіўся да службовых раманаў. Можа таму, што перад вачыма быў яркі адмоўны прыклад такога рамана. Немалады ўжо дырэктар школы, у якой я тады працаваў, закахаўся ў сімпатычную, значна маладзейшую за сябе настаўніцу. Закахаўся моцна, усур'ёз, да такой ступені, што, як кажуць у народзе, згубіў галаву.

Яна адказала яму ўзаемнасцю. Шчыра, без аглядкі.

У тым не было б нічога кепскага, калі б яны былі вольныя. Але ў абодвух — сем'і, дзеці. Да таго ж, страціўшы ўсялякую асцярожнасць, яны пачалі паказваць свае пачуцці на вачах усяго калектыву.

Нехта да гэтага аднёсся з разуменнем, нехта з зайздрасцю, а нехта і з гнеўным, хутчэй за ўсё прадыктаваным усё той жа зайздрасцю, асуджэннем.

Словам, пачаліся ў школе плёткі, абгаворы. Дайшло да раённага начальства. А тады, у савецкія часы, наконт розных любошчаў было строга. Каб ні-ні, барані бог! Хаця многія ведалі, што той жа загадчык райана таксама меў каханку, з якой ездзіў і на курорты, і ў замежныя камандзіроўкі. Але за руку ніхто не злавіў, пісьмовых скаргаў у партыйны камітэт не было — значыць усё шыта-крыта.

А тут — публічная, адкрытая распуста. Начальства вымушана было паставіць перад разгубленым дырэктарам пытанне рубам: або ты спыняеш свае амурныя адносіны, або звальняешся.

Да гонару закаханых, яны не здрадзілі сваім пачуццям. Але школа страціла вопытнага, таленавітага кіраўніка і лепшую настаўніцу.

Каб жа толькі гэтым усё скончылася! Паколькі інцыдэнт набыў шырокую і ў пэўнай ступені скандальную вядомасць, то ніводная школа ў горадзе не адважылася ўзяць чалавека на работу. Некалькі месяцаў ён абіваў парогі розных устаноў — безвынікова. Вымушаны быў наняцца грузчыкам. Запіў. Колькі разоў я сустракаў яго — неахайна апранутага, азызлага, і кожны раз ён вінавата прасіў пазычыць траяк... Шкада, да болю шкада было бачыць, як усё больш і больш апускаецца на дно харошы, таленавіты чалавек.

Такая вось сумная гісторыя, пасля якой я даў сабе зарок: ніколі на рабоце не заводзіць ніякіх раманаў.

Гэта — адно.

А другое — у мяне быў ужо і свой горкі вопыт. Бог даў мне аднойчы шчаслівую магчымасць пакахаць. На жаль, гэта скончылася невыносным душэўным болем, горкімі пакутамі.

Час загаіў раны, але рубцы на сэрцы засталіся, і зрэдчас яны давалі пра сябе знаць, тупа і непрыемна смылелі. Я асцерагаўся раздзьхмуваць прытухлае вуголле, пазбягаў інтымных інтрыжак, накінуў на свае пачуцці тугую аброць. Хоць выпадкі для гэтага здараліся, і неаднойчы.

Але, паўтаруся, я гэтага баяўся.

І вось — новая настаўніца... Доўга, можа цэлы год, я стараўся не заставацца з Ёю сам-насам. Размовы — толькі дзелавыя. Ніякіх двухсэнсоўных позіркаў і жартачак. Яна, дарэчы, таксама была са мною афіцыйна-роўнай, ветліва-стрыманай, без аніякага какецтва.

Учора, калі мы сабраліся за агульным сталом, каб адзначыць Новы год і Нараджэнне Хрыстова, нашы позіркі нечакана сустрэліся. Яна не адвяла вачэй, і я адчуў, як соладка тарганулася маё сэрца, як заціхлі наўкол усе гукі і зніклі нібы ў тумане ўсе прысутныя, засталася толькі гэтая блакітна-праменная, неверагодна прыцягальная бездань, у якую я правальваўся ўсё глыбей і глыбей...

* * *

Здаецца, аброць мая пачынае трашчаць па ўсіх швах.

Я не магу саўладаць са сваім сэрцам. І што самае дзіўнае: і не хачу!

Цяпер кожны дзень я лячу на работу нібыта на крылах, каб толькі хутчэй убачыць Яе. Пачуць Яе. Сустрэцца з Ёю паглядамі. Ногі самі вядуць мяне ў той кабінет, дзе працуе Яна. Адна думка пра Яе прымушае часцей біцца маё сэрца.

Я са здзіўленнем прыслухоўваюся да таго, што робіцца на душы, і міжволі шчаслівая ўсмешка кранае мае вусны...

* * *

Сяргей Ясенін аднойчы з горыччу напісаў: «Кто любил, уж тот любить не может, кто сгорел, того не подожжешь…»

Можна! — хочацца сёння ўголас запярэчыць паэту. — Яшчэ як можна! Бо каханне, як той міфічны Фенікс, можа паўстаць з любога попелу...

## Люты

Госпадзі, як мне прыемна бачыць Яе, перакінуцца словам-другім!

А сёння мы нават умудрыліся застацца адныя і недзе з паўгадзінкі пагаварыць на літаратурныя тэмы. Яна, настаўніца матэматыкі, многа чытае, асабліва сучаснай літаратуры. Назвала некалькі аўтараў, якіх я нават не чуў.

На развітанне я, схаваўшыся за словы класіка, прызнаўся Ёй:

Я встретил вас — и все былое
В отжившем сердце ожило…

— А, дарэчы, чый гэта верш? — перавяла Яна далікатна гаворку на іншае.

— Цютчава.

— Вось не ведала…

* * *

Дзень святога Валянціна. Дзень закаханых. І мой самы шчаслівы дзень за апошнія гады.

Чаму шчаслівы? Таму што мне ўдалося ўгаварыць Яе паехаць за горад. У Сілічы — цэнтр горналыжнікаў.

Прызнацца, мне вельмі хацелася куды-небудзь з’ездзіць разам. Такія паездкі збліжаюць як нішто іншае. Але я баяўся, што яна не згодзіцца. «З чаго гэта раптам? З якой ласкі?» — папытаецца Яна, і я буду лыпаць вачыма як апошні дурань, не ведаючы, што й адказаць.

Таму павёў гаворку здалёк, асцярожна. Падчас нашых кароткіх сустрэч адзін на адзін, якія апошнімі днямі надараліся ўсё часцей і часцей, я стаў маляўніча апісваць ваколіцы Мінска — Раўбічы, Вячу, Дудуткі, Сілічы…

Сілічы Яе чамусьці асабліва зацікавілі.

— Кажуць, там вельмі прыгожа. Праўда?

— Праўда, — ахвотна пацвердзіў я. І нечакана бухнуў: — А давай туды з’ездзім, паглядзіш сама…

Яна нейкую хвіліну вагалася, нібы не рашаючыся пераступіць нябачную мяжу, і ціха, не вельмі ўпэўнена адказала:

— Давай…

І мы паехалі.

Быў цудоўны зімовы дзень. Падаў лёгкі, пушысты снег, які іскрыўся мільёнамі зорачак.

Заснежаныя, усхваляваныя, мы хадзілі вакол трас, міма нас пралятталі, як вецер, яркія, прыгожыя лыжнікі, і мы радаваліся ўсяму як дзеці. Гэту радасць не азмрочыла нават тое, што нам не ўдалося ўзяць лыжы. Затое мы трапілі ў цёплае, утульнае кафэ, пілі гарбату, любаваліся маляўнічым пейзажам за акном і чыталі Цютчава. Я расказваў пра высокае, чыстае, хоць часам і пакутлівае каханне паэта і юнай смалянкі Алены Дзянісьевай. Трынаццаць гадоў доўжыўся іх прыгожы, самаахвярны раман. Праз мноства няпростых выпрабаванняў яны прайшлі, але ні разу, ні на хвіліну не здрадзілі сваім пачуццям.

— Такому можна толькі пазайздросціць… — міжволі ўздыхнуў я.

Яна нічога не сказала, перавяла позірк за акно і доўга глядзела ў заснежаную далячынь з нейкім журботным задуменнем.

Здаецца, Яна ўлавіла падтэкст майго крыху сумбурнага, але вельмі эмацыянальнага аповяду.

* * *

І яшчэ адно нечаканае адкрыццё. Ужо гадоў з дзесяць я не пісаў вершаў. А тут раптам нарадзілася, як выдыхнулася, страфа:

Зімовы дзнь. З-за хмараў рваных
Праменьчык сонечны бліснуў —
Сагрэў душу цяплом жаданым
І даў надзею на вясну…

А пасля склаўся — выдыхнуўся цэлы верш:

Гэтай ноччу ты снілася мне —
Як заўсёды, прыгожай, вясёлай.
Я цябе цалаваў у тым сне,
І смяялася неба вясёлкай.

І зіхцелі ўсе кветкі, кусты,
І быў свет трапяткі, асаблівы —
Гэтай ноччу мне снілася ты,
Гэтай ноччу я быў шчаслівы…

* * *

Паслаў ёй эсэмэску:

«Чаму не на працы?»

«Сяджу вось над сшыткамі, правяраю кантрольную».

«А давай пагуляем у рыфму?»

«Ну, давай…»

«Я сэрца сваё аніяк не ўтаймую:
Калі Вас не бачу — адчайна…»

«Сумую?»

«Правільна. Адгадай яшчэ.
На лёс і на Бога не наракаю —
Вашай мілосці цярпліва…»

«Чакаю!»

«Малайчына! Едзем далей.
Шчаслівую думку да сэрца тулю:
Я зноў ажываю… Я зноўку…»

«Напэўна, лепш за ўсё тут будзе паставіць шматкроп'е…»

Як Яна ўсё тонка і глыбока адчувае! Як умее далікатна і своечасова спыніць цябе ля той мяжы, якую, магчыма, яшчэ рана пераходзіць. Але што я магу зрабіць? Ад аброці маёй не засталося і следу. Я, здаецца, закахаўся безнадзейна і беспаваротна.

## Сакавік

Напярэдадні 8 Сакавіка мы, мужчынская частка калектыву, наладзілі для сваіх жанчын невялікі капуснік. Яго ідэю і ўвесь сцэнарый прыдумаў я. Хлопцам заставалася толькі добрасумленна сыграць свае ролі. Спачатку яны аднесліся да маёй ідэі скептычна, супраціўляліся, але мне вельмі ж ужо хацелася «пакрасавацца» перад Ёю, паказаць, што і я нешта ўмею.

Мы спявалі пераніцаваныя на школьную тэматыку папулярныя песні, расказвалі смешныя анекдоты, пацешна гралі розныя сцэнкі, дасціпна іранізавалі над сабою — адным словам, маё натхненне перадалося і хлопцам, якія напачатку былі нібыта стрыножаныя, сароменліся, а потым усё больш і больш раскавана, захоплена ўцягваліся ў гульню.

Капуснік меў поспех! Нашы жанчыны ад душы смяяліся, горача пляскалі ў далоні. І найбольш азартна рэагавала на ўсё Яна. Як хочацца, каб Яна здагадалася, што ўсё гэта было зроблена дзеля Яе, толькі Яе адной!

* * *

**SMS:**

«Добрай раніцы! Што робіш?»

«Спрабую змірыцца з фактам, што 8 Сакавіка прайшло, эйфарыя віншаванняў скончылася і жанчыны адпраўляюцца на кухню».

«Дык кідай сваю кухню і давай пагуляем».

«Напэўна, не атрымаецца. Заўтра прыязджаюць госці з вёскі, трэба рыхтавацца. Так што да панядзелка».

«Ну што ж… Да панядзелка»

## Красавік

Тры дні быў у Літве. Вельмі хацелася прывезці Ёй што-небудзь у падарунак. Літоўскія сябры параілі пад'ехаць у сучасны вільнюскі гіпермаркет

«Акропаліс». О, гэта сапраўдны гандлёвы горад! Тавараў — вочы разбягаюцца. Тыдзень можна блукаць ад прылаўка да прылаўка.

Я праблукаў добрых паўдня. Шукаў, што ж купіць… Нейкую дарагую рэч — кепскі тон. Не такія ў нас яшчэ адносіны. Але і драбязу дарыць сорамна. Адвечныя пакуты з гэтымі падарункамі.

Выбраў сімпатычны, далікатны кулон — бурштынавае сэрцайка. І з густам (мясцовы каларыт), і з падтэкстам.

Яна спачатку здзівілася падарунку, збянтэжылася, а пасля — абрадавалася, усхвалявана падзякавала. Якой радасцю было мне бачыць Яе вочы, што запраменіліся цяплом і пяшчотай!

* * *

У дырэктара школы — юбілей, пяцьдзясят гадоў.

Вырашылі ніякіх афіцыйных мерапрыемстваў не праводзіць. Сабраліся сваім калектывам, па-сямейнаму.

Мы апынуліся за сталом побач. Хочацца верыць — не выпадкова. Такім, відаць, было наша ўзаемнае жаданне — маё і Яе. Колькі разоў нашы рукі патаемна сустракаліся, палахліва-радасна спатыкаліся, нібы тыя чуйныя, трапяткія птушкі, і зноў разляталіся, паспеўшы аднак на гарачы поціск адказаць такім жа поціскам.

Дзве гадзіны праляцелі як дзве хвіліны. Я нават добра не помню, хто што гаварыў. Я быў у ружовым, мройна-пяшчотным тумане…

* * *

І яшчэ адзін шчаслівы дзень.

Пасля работы мы паехалі на Мінскае мора. Канечне, там яшчэ сыра, гразка. Прайшліся туды-сюды па беразе, а затым скіравалі ў лес — шукаць пралескі.

Пралесак не было, але мы знайшлі нешта большае. У адным месцы, дапамагаючы Ёй спусціцца з пагорка, я нечакана абняў Яе і прытуліў да грудзей. Яна не адхінулася, даверліва заціхла ў абдымках. І тут — я нават не чакаў ад сябе такой смеласці — я знайшоў Яе вусны і пацалаваў!

* * *

Вечарам ад Яе прыйшла кароценькая эсэмэска:

«Усё было цудоўна. Толькі мы, здаецца, наламалі дроў».

Адказаў рыфмоўкай:

Трапяталі сэрцы, віравала кроў…
А ты кажаш — наламалі дроў.
Маркотна адзінокаму вераб’ю».

«Адчувала, што не тое сказала. І перажывала. Але слова — не верабей… Прабач, калі ласка».

«Верабей — птушка адыходлівая».

«Вось і добра. На сэрцы палягчэла. Буду спакойна чытаць свайго Ліпскерава. Дабранач, верабейка».

«Дабранач, мая ластаўка!»

Радкі, складзеныя экспромтам, я дапісаў і, здаецца, атрымаўся верш.

Мы з табой,
як тыя маладзёны,
Уцяклі за горад,
з тлуму, мітусні…
Атуліў нас лес
святлом зялёным
І сімфоніяй
гаючай цішыні.

Мы купаліся
ў шчодрасці і бляску
Веснавога
залатога дня…
І здавалася
чароўнай казкай
Рамантычна-мілая
Гульня.

На дарозе
небяспечна-слізкай
Прытулілася ты раптам
да мяне…
Вір вачэй
я ўбачыў блізка-блізка
І сябе —
на самым дне.

Паплыла з-пад ног
сцяжына,
Гукі ўсе і фарбы
паплылі…
А ў вачах тваіх
заміж смяшынак
Сінія пралескі
зацвілі.

## Май

Сёння ў Яе — дзень нараджэння.

З самай раніцы хаджу нервова-ўзвінчаны: не ведаю, што рабіць? Пазваніць? Але ж сёння нядзеля. Напэўна, усе дома. Мой званок паставіць Яе ў няёмкае становішча. Паслаць тэлеграму? Яшчэ горш. А не павіншаваць — зусім кепска.

Выбраў трэцяе — паслаў эсэмэску, якую нечакана для сябе закончыў прызнаннем:

«Сумую, чакаю, люблю!»

Паслаў — і спалохаўся. Што я нарабіў?! Ніколі яшчэ не гаварыў Ёй такіх слоў. А тут як бы прарвала плаціну маіх пачуццяў, быццам нейкія вышэйшыя сілы выдыхнулі за мяне гэтае прызнанне.

Ой-ёй-ёй!.. Баюся, што гэтым неасцярожным, неабачлівым рухам я ўсё сапсаваў. Разгневаная, Яна нават не адгукнецца.

Да вялікай маёй радасці, адказ прыйшоў хутка і зусім не гнеўны. Хутчэй наадварот.

«Дзякую. Хочацца так многа табе сказаць, але, бадай, будзе лепш, калі ўбачымся…»

Каб хто бачыў мяне ў гэты момант, падумаў бы — зусім здзяцінеў чалавек. Я скакаў, я цалаваў свой тэлефон, я бясконца чытаў і перачытваў яе кароценькае, але такое дарагое, такое шматабяцаючае пасланне. «Хочацца так многа табе сказаць…» А мне, а мне яшчэ больш! І не проста сказаць, а выбегчы на вуліцу, на ўвесь голас, на ўвесь свет абвясціць:

«Я люблю! Чуеце, людзі добрыя, я лю-блю-ю!»

* * *

Рана я радаваўся. Сустрэча выйшла зусім не такой, як мне ўяўлялася. Чаго толькі не намаляваў я ў сваіх нястрымных марах: і абдымкі, і пацалункі, і гарачыя словы прызнання…

А жыццё, як гэта звычайна бывае, адчувальна прызямліла мяне.

Спачатку мы доўга ніяк не маглі застацца сам-насам: у настаўніцкай увесь час нехта знаходзіўся. Калі ж нарэшце гэта ўдалося, размовы не атрымалася. Яна прыкметна нервавалася, уздрыгвала ад кожнага стуку ў калідоры. Мы гаварылі аб усім і ні аб чым.

— Ой, мне тэрмінова трэба пазваніць, — спахапілася Яна раптам і, пакінуўшы мне збянтэжана-вінаватую ўсмешку, пайшла.

Што ж здарылася? Пасаромелася? Не захацела, перадумала? А можа, яшчэ горш: мелася нешта сказаць не дужа прыемнае для мяне, але ўбачыўшы мой зззяючы твар, пакінула размову напасля…

Вось і думай цяпер што хочаш!

* * *

Учора, убачыўшы, што Яна збіраецца дадому, я прапанаваў крыху прайсціся разам.

— Дык нам жа не па дарозе?

— А мы зробім, каб было па дарозе.

— Ну, добра, — усміхнулася Яна.

Я пачакаў Яе на школьным двары і, калі Яна выйшла, скіравалі ў бліжэйшы скверык. Там знайшлі ўтульную лаўку ў засені дрэў, прыселі. Мне, канечне ж, карцела дазнацца, што Яна хацела сказаць і чаму нічога не сказала. Але баяўся пра гэта пытацца.

Яна пачала гаворку сама:

— Я ўсё думаю і думаю…

— Аб чым?

— Пра нас з табой.

— Ну і ?..

— Разумееш… я выйшла замуж па вялікім каханні… Люблю мужа і цяпер. За ўсе гады ў мяне нікога, акрамя яго, не было. Праўда… Какецтва, лёгкія захапленні — былі. А чаго-небудзь сур'ёзнага — не, не было. Ніколі… А тут…

Яна пазірала на мяне вачыма, у якіх стаялі і разгубленасць, і вінаватасць, і глыбокая, кранальная пяшчота.

— А тут нешта са мной адбылося… Мне кожны дзень хочацца хутчэй ісці на работу, каб бачыць цябе, чуць цябе… Але… але ўсё больш і больш адчуваю сябе вінаватай, нават здрадніцай… Я пакутую ад таго, што пачынаю раздвойвацца…

У мяне ёкнула сэрца. Усяго я чакаў, толькі не гэтага. Значыць, Яна не кахае мяне… Бо хіба можна кахаць дваіх?

— Жэнька, ну што ты адразу засумаваў?

— Думаю…

— Не накручвай, калі ласка, нічога лішняга. Я ж табе ўсё сказала. Няўжо ты нічога не зразумеў, Жэнь-шэнь мой мілы?

І вось цяпер у маіх вушах гучаць толькі гэтыя — запаветныя, бясконца дарагія мне словы: Жэнь-шэнь мой мілы… Жэнь-шэнь мой мілы…

* * *

Даў Ёй пачытаць сваю любімую пісьменніцу Вікторыю Токараву. Тую аповесць, дзе апісваецца сітуацыя, блізкая да нашай, і дзе сцвярджаецца, што «это не раздвоение жизни, а ее удвоение». Гэтыя радкі я падкрэсліў і паставіў на полі клічнік. Цікава, што яна скажа на гэта?

* * *

Пасля таго кароткага «высвятлення адносін» нам, здаецца, стала крыху лягчэй. Я ва ўсякім разе ведаю, што далёка неабыякавы для Яе. І гэта не какецтва, не простае жаночае жаданне падабацца, быць каханай.

* * *

І зноўку мы зрабілі вылазку на прыроду. На гэты раз — на Вячу. Быў цёплы сонечны дзень. Узяўшыся за рукі, мы, як двое захопленых, бесклапотных падлеткаў-рамантыкаў, блукалі ўзбярэжжам возера, ляснымі сцежкамі, гаварылі, смяяліся, і нам было бясконца добра!..

* * *

«Жэнь-шэнь, як учора было хораша! Пра цябе ўсё думаю, думаю і ніяк не магу надумацца…»

«Я таксама ўсё яшчэ ў воблаках. І хоць сёння пахмурна — на душы сонечна! Сумую без сваёй ластавачкі».

«Не журыся, мой верабейка! Заўтра ўбачымся».

* * *

Аднойчы Віктор Гюго, калі ў яго прысутнасці загаварылі пра жыццё, пра тое, што ў ім па-сапраўднаму важнае, сказаў, што, на яго думку, на самай справе дарагая не слава, не багацце, нават не талент, але магчымасць кахаць і быць каханым.

## Чэрвень

Толькі што з Германіі. Не думаў-не гадаў, што траплю туды. Проста нейкі дзіўны выпадак. Пазванілі з Таварыства дружбы і культурных сувязей і папрасілі выручыць: з’ездзіць на пару дзён у Берлін, прачытаць лекцыю пра культурную спадчыну Беларусі. Я спрабаваў было адмовіцца, і не толькі таму, што я не спецыяліст па гэтай праблеме, але і з-за таго, што не хацелася разлучацца з Ёю.

Але нічога з гэтага не атрымалася.

Паехаў. А цяпер і не шкадую, бо прывёз адтуль вершы… Адзін з іх пачынаецца так:

У Патсдаме дождж… І грукат навальніцы.
Галасы чужынцаў за сцяной…
Сумна. Адзінока мне. Не спіцца.
Зноўку мы ў разлуцы. Зноў ты не са мной…

* * *

Яна недзе дастала кнігу Яўгена Будзінаса «Девочки, давайте». Пачала чытаць — цікава, не адарвацца. Папыталася ў мяне, ці не ведаю я часам штонебудзь пра гэтага Будзінаса.

— Дык я ж табе пра яго расказваў!

— Калі?

— А помніш, тыдзень назад я хадзіў на сустрэчу з вядомым старшынёй калгаса Уладзімірам Бядулем? І там сярод выступоўцаў быў адзін чалавек, які прыйшоў проста з бальніцы. Хворы, ён не змог нават падняцца па прыступках, таму гаварыў, сеўшы на край сцэны. Але як гаварыў! Зала ўвесь час узрывалася апладысментамі.

— Дык гэта быў той самы Будзінас?! Ану раскажы мне пра яго падрабязней.

Давялося прыгадваць ўсё, што я знаю.

Яна слухала з такой непадробнай увагай, што я ажно прыраўнаваў. Тым больш, калі Яна яшчэ прапанавала:

— Заўтра будзе прэзентацыя кнігі Будзінаса. Давай сходзім?

— Давай, — згадзіўся я без асаблівай ахвоты.

У Дудутках сталы былі ўжо накрытыя. Іх паставілі ў двары рэстарана, проста пад дрэвамі, як на вясковым вяселлі.

Бамонд сабраўся неслабы — вядомыя пісьменнікі, журналісты, артысты, спевакі, замежныя паслы.

Адкуль такі ажыятаж? Справа, відаць, не ў кнізе (падазраю, што многія яшчэ і не трымалі яе ў руках, бо яна толькі-толькі выйшла з друку), а ў асобе аўтара. Будзінасу два гады таму зрабілі складаную анкалагічную аперацыю і ён нібыта пачуваў ужо сябе някепска. Але апошнім часам здароўе яго рэзка пагоршылася. І кнігу ён дапісваў ужо ў бальнічнай палаце, на транквілізатарах. Усім, хто сабраўся ў Дудутках, было зразумела, што гэта не столькі прэзентацыя кнігі, колькі развітанне яе аўтара са сваімі сябрамі.

Аднак гаварыў Будзінас бадзёра, не было і кроплі ніякай слязлівасці. Ён жыва рэагаваў на кожнае выступленне, кідаў дасціпныя рэплікі і, здавалася, што гэтая бясконцая гаварыльня яго аніколечкі не стамляе.

Я ж, па праўдзе кажучы, асабліва і не ўслухоўваўся ў тое, хто і што гаварыў. Побач была Яна! І нічога наўкол для мяне не існавала. Адно толькі было жаданне — каб усё гэта доўжылася бясконца.

* * *

Пасля паездкі ў Дудуткі Яна перадала мне некалькі старонак, надрукаваных на камп'ютары:

— Пачытай…

«Аб рамане Будзінаса. Раман пра нас. Мне чамусьці напачатку так падалося. Некаторая розніца ва ўзросце, можа, не такая, як у іх, але ўсё ж… Мы таксама, як і яны, спрабавалі высветліць, чым было для цябе першае каханне. Ты таксама пасля шукаў усё жыццё сваё каханне, і пакутаваў ад успамінаў аб першым. Ты таксама, як і ён, толькі выказаўшы на паперы свае пачуцці, змог стаць больш вольным, зняў з сябе нейкі груз. Ты таксама гаварыў, што не згодзен, што за каханне трэба змагацца. А Будзінас — што каханне нельга перамагаць любой цаной. Супадзенне думак? А яшчэ ўсялякія містычныя слоўцы-знакі: ластаўка, «Прощай грусть» Саган…

Там былі і яшчэ некаторыя містычныя супадзенні. Пасля гэтулькі ўсяго пераплялося. Гэтулькі супярэчлівых пачуццяў… Я захапілася і не змагла адарвацца да канца.

Што незвычайнага? З першай старонкі так шчымела сэрца, нават пакуль і не ведала, што ў аўтара смяртэльная хвароба і што на самай справе гэта нават не прэзентацыя кнігі, а хутчэй прэзентацыя смерці, адыходу чалавека з гэтага жыцця, яго развітанне.

Ахапіла такая пякучая туга, слёзы так душылі. Ледзь не задушылі. Здавалася, што і прычыны для іх няма. Але калі плачаш, значыць, закрануў не толькі лёс герояў, але і нешта асабістае… Аўтар можа ганарыцца: ён двойчы прымусіў чытача перажыць гэты невыносны боль душы, які не заглушылі і слёзы….

І прэтэнцыёзныя заявы аўтара, што так пра каханне ніхто не пісаў, у гэтым ёсць праўда. Так адкрыта, чэсна напісаць пры жыцці, нібыта ты памёр ужо, не кожны зможа… І, напэўна, калі так чытачам ён цікавы, як жа сапраўды ён быў цікавы каханым жанчынам.

У сваім рамане ён здабыў паэзію з падмосткаў жыцця, са шнуркоў ад чаравікаў, а атрымаўся газавы бэзавы шарф, падобны на смугу туману, атрымаўся ўзвышаны, кранальны палёт самага галоўнага пачуцця на Зямлі…

І хочацца быць больш шчырай і з самой сабой, задумацца пра сябе. Разабрацца ў сабе. Назваць рэчы сваімі імёнамі, але гэта трохі страшна. Што ў нас будзе далей, колькі будзе доўжыцца гадоў? З-за каго ці чаго перастане? У рэшце рэшт усё некалі заканчваецца. Нават жыццё…

Ці можна кахаць дваіх? Або я здраджваю абаім? Раздвойваюся я ці падвойваюся? Можа, крытэрый таго, што нічога кепскага не адбываецца ў тым, што ўсім нам добра? Табе, яму, мне…

Я не магу жыць ні без аднаго, ні без другога — абодва мне дарагія. Паралельна, як у Павіча, адразу жыву два жыцці. Яны не перасякаюцца, не перашкаджаюць адно аднаму, не абкрадваюць нікога… Калі я з табою, то толькі Ты. Калі з ім, то ў гэты момант — толькі Ён.

Жыццё, падобнае на раман… Я марыла калісьці пражыць некалькі жыццяў за раз. І гэта цяпер і раблю.

Можа, мне трэба стаць на месца кожнага з вас, і тады я зразумею, як быць далей. Але я баюся стаць падобнай на дзіця, якое зламала цацку з-за таго, што хацела паглядзець, што ў яе ў сярэдзіне. Застаецца проста жыць і радавацца, не атручваючы сябе ядам пакут. Калі рабіць усё лёгка, шчыра, то нікому не будзе кепска…

«Жадаю, каб вы хоць напрыканцы жыцця паспелі зрабіць нешта, каб сказаць самому сабе: менавіта гэта я і хацеў зрабіць! Як гэта зрабіў я. І я вельмі шчаслівы чалавек!»

Гэтымі словамі Будзінас скончыў сваё выступленне. І ён не хлусіў, не пазіраваў. У гэтым, магчыма, ключ да яго рамана».

## Ліпень

Звычайна я заўсёды з такой радасцю збіраўся ў водпуск. І на сваё лецішча не ехаў, а ляцеў як на крылах. Карцела хутчэй узяць у рукі лапату, пакорпацца ў зямлі. Прайсціся з касою ў росным садзе. Змайстраваць што-небудзь са свежагабляваных, смаліста-пахучых дошак. Паблукаць па лесе, пакупацца ў возеры… Якая любата-а!

А цяпер гэтай радасці няма. Больш таго, мне становіцца страшна: як я змагу цэлы месяц пражыць без Яе? Не чуць яе мілага смеху, не бачыць яе ласкавых, усмешліва-гарэзлівых вачэй, не ўдыхаць хвалюючы водар яе валасоў… Гэта — немагчыма! Гэта — смерці падобна!

Але адкладваць больш нельга. Трэба ехаць.

* * *

Абменьваемся кароткімі эсэмэскамі.

«На станцыю Журбы прыбыў. Зажураны ўшчэнт верабей».

«Не сумуй, мой харошы. Перажывём!».

«Нарэшце ты адгукнулася! Я думаў учора памру, чакаючы. А ў нас да ўсяго — дождж, дождж…»

«Жэнечка, не крыўдуй. Думаю часта, пісаць часта не магу. Сам разумееш чаму».

«Разумець то я разумею, але… Сэрцу не загадаеш! Без тваёй вестачкі мне і дзень не дзень».

«Пастараюся пісаць часцей. Я таксама вельмі сумую, дні лічу. А іх яшчэ так многа!..»

* * *

Ад’язджаючы, я абяцаў Ёй, што навучуся друкаваць на камп’ютары. І вось нарэшце сеў за стол і ўключыў гэтае жалезна-бяздушнае, але такое разумнае страшыдла. Я і напраўду яго баюся. Учора крукам сядзеў цэлых паўдня, напісаў можа старонак пяць, а тады знарок націснуў нейкую клавішу — і ўсё бясследна знікла. Колькі я ні мэнчыўся, знайсці тэкст не змог. Са злосцю і адчаем я выключыў гэтага электроннага монстра і сказаў яму ўсё, што пра яго думаю.

А сёння прыехала ўнучка і, усміхнуўшыся майму «гору», хуценька пабегала пальчыкамі па клавішах і вярнула мне страчаны тэкст. Маленькая радасць…

* * *

А ўсё-такі я перамог! Я асвоіў гэтага монстра. Напісаў цэлых дзесяць старонак і нават раздрукаваў іх.

Мне так радасна будзе расказаць пра гэта Ёй. Наогул, усё, што б я цяпер ні рабіў — я раблю гэта з думкай пра Яе. Так хочацца, каб Яна хваліла мяне, ганарылася мною.

Якая гэта магутная стваральная сіла, каханне!

І зноў мы ў ростані. Надоўга.
Мне зноў адчайна сумаваць.
І кожны дзень маліць у Бога,
Каб сілы даў ператрываць.

Смыліць душа ад адзіноты.
Усё раблю амаль сілком.
Я без цябе, тваёй пяшчоты
Самотным звяну васільком.

## Жнівень

І быў дзень. І быў вечар. І я проста купаўся ў бясконцым шчасці!..

…Яна чакала мяне. Яна сумавала без мяне. Гэта было бачна па яе шчаслівых вачах, па яе парывістых, трапяткіх абдымках, з якімі Яна кінулася да мяне, калі мы сустрэліся.

— Як добра, што ты ў мяне ёсць... — шаптала Яна мне.

— Ластавачка мая любая… — шаптаў я ў адказ. — Мая самая запаветная мара, маё самае гарачае жаданне, каб я быў у цябе заўсёды-заўсёды — і сёння, і заўтра, і праз тысячу гадоў!

І мы зноўку паехалі за горад, у Раўбічы. Блукалі па беразе возера, цалаваліся ў густым маладым сосонніку, замілавана любаваліся цяпельцам, якое расклалі на ўтульнай зялёнай палянцы… І час перастаў для нас існаваць, была толькі ціхая, чароўная музыка, якая атульвала нас і ўзнімала, узнімала ў бязмежныя горнія высі…

Спахапіліся мы толькі тады, калі пачало ўжо прыкметна шарэць.

А ноччу папрасіліся на паперу вершаваныя радкі.

* * *

Яна то ўзнімае мяне ў зіхотка-блакітныя, галавакружныя высі, то абрынае ў бездань, у жахлівую прорву. Вось які запіс-роздум перадала яна мне ўчора.

«Па горадзе крочылі тысячы мужчын, яны цэлымі гуртамі ўвальваліся ў вагоны метро. Але ніхто з іх мне быў не патрэбны, нічыя прысутнасць з іх не магла зрабіць мяне шчаслівай. Мне быў патрэбен толькі адзін-адзіны. Толькі ты! Але цябе сярод іх як раз і не было…

А ці існуеш ты наогул? Можа, ты проста фантом маёй фантазіі? Забароненны і салодкі… Проста фантом… Ці наогул Фантамас? Не, не злы, не страшны, не каварны душагуб. А такі ж непранікальны і неспасцігальны.

Я нічога пра цябе не ведаю. Ці крыўдлівы ты, чаго баішся, чаго не любіш, што для цябе самае галоўнае ў жыцці… Бываюць моманты, калі ты становішся чужым і не ведаеш, як да цябе падступіцца. Ну а на працы і са мною нешта адбываецца: я так уваходжу ў ролю, нібыта цябе не ведаю, нібыта мы чужыя,

што гэта сапраўды становіцца праўдай. Хлусня становіцца праўдай. Наступае адчужанасць. Нешта разбураецца. І я доўга не магу выйсці з гэтага стану. І тады хочацца проста парывіста падняцца і выйсці (у фізічным сэнсе!) кудынебудзь далей… Дзе я змагу вярнуцца да сябе. Стаць самой сабой.

Мы з табою гаворым. Гаворым, і ніяк не можам нагаварыцца. Але так атрымоўваецца, што хоць ты шмат апавядаеш пра сябе, гэта як бы тое, што ляжыць на паверхні. А што глыбей?

Ты кажаш, што думаеш пра мяне. Але што менавіта думаеш? Што было, што ёсць ці што будзе? Іншы раз ты дзелішся сваімі праблемамі. Але і гэта ўсяго толькі вяршыня айсберга. Напэўна ж, цябе хвалюе яшчэ нешта. Шмат чаго, як любога з нас. Ты не хочаш гэта абмяркоўваць. Ты трымаеш мяне на задворках сваёй душы. Чаму?»

* * *

Адкуль, з чаго Яна раптам узяла, што я трымаю яе «на задворках сваёй душы»? Госпадзі, і ў думках такога не было. Наадварот, я дзяліўся з Ёю ўсім самым патаемным, набалелым, радасным і горкім, Расказваў часам нават тое, што, магчыма, і не варта было расказваць. Але ж хіба можна нешта ўтойваць ад блізкага, каханага чалавека? І мне здавалася: у нас было поўнае ўзаемаразуменне. І вось нечаканка. Трэба неяк далікатна папытацца ў Яе пра гэта.

* * *

Напраканцы рабочага дня Яна шапнула мне:

— Пагуляем?

— Пайшлі.

Па дарозе ў наш аблюбаваны скверык Яна час ад часу паглядвала на мой хмуры твар, нязвыкла многа і ўзбуджана гаварыла, нервова смяялася. Але як толькі мы засталіся адны, узяла мяне за руку і пранікнёна, з нейкай ласкавай вінаватасцю сказала:

— Жэнь-шэньчык, учора зрабіла глупства… Напісала табе абы-што. Не крыўдуй, калі ласка… Гэта ад таго… ад таго, што мне яшчэ больш хочацца ведаць пра цябе. Хочацца ведаць усё-ўсё!

— Дык я ж…

— І не спрачайся, калі ласка, — прыклала Яна свой пальчык да маіх вуснаў. — Малодшых трэба слухацца!

І засмяялася сваім непадробна-шчырым смехам. А следам за Ёю засмяяўся і я.

## Верасень

Сёння зноўку, як некалі ў юнацтве, лётаў у сне. Высока-высока ў небе, раскрыліўшы рукі. І так лёгка, прыемна, радасна было рухацца ў гэтай маўкліва-ўрачыстай сінечы, што я хвілінамі адчуваў сябе ледзь не ўладаром Сусвету.

Вось што робіць з чалавекам каханне!

* * *

Зноў мне даводзіцца разлучацца са сваёй каханай. Згвалцілі на паездку ў Малдавію. Трасучыся ў мулкім аўтобусе, усю дарогу, ажно да мяжы з Украінай, пасылаў Ёй эсэмэскі.

«Ластаўка мая, добрай раніцы!! А я ўжо далёка за Мінскам. Куды я еду?! Навошта? Забівае думка, што не змагу бачыць цябе цэлых пяць дзён».

«Добрай раніцы, Жэнь-шэнь! А ты некаму гэтай ноччу сніўся, і гэты нехта будзе цябе вельмі-вельмі чакаць».

«Пяць даўжэзных дзён… Ненавіджу я гэтыя расстанні!»

«Ну што зробіш, Жэнечка. Гэта тваё жыццё. Не сумуй!»

«Вось мы і на граніцы. Цяпер ужо да аўторка. Сумуй! Чакай!»

* * *

Я так рваўся, птушкаю ляцеў дадому, а дома мяне аглушыла сумная навіна: каханая захварэла. І нават трапіла ў бальніцу. Месца сабе не знаходжу. Усё дакараю: от каб нікуды не ездзіў. Можа, нічога і не здарылася б. Хай бы яна праваліласяя, гэтая мая паездка!

Чаго гэта сонца за хмарку зайшло?
І неба ўраз спахмурнела?
То не непагадзь развінула крыло —
Мая каханая захварэла…

* * *

Нарэшце каханая выпісалася з бальніцы. Я сустрэў яе на бальнічым двары і па дарозе дамоў мы крыху пагулялі ў парку.

## Кастрычнік

Нездарма ў маім сэрцы ўвесь час жыла нейкая невытлумачальная трывога. Нездарма…

Апошняя наша сустрэча выклікала ў мяне недаўменне і разгубленасць. Яна была нейкая сама не свая. Не было ў размове той лёгкасці, гуллівасці, гарэзлівасці, якія я заўжды ў ёй любіў. Наадварот, час ад часу я лавіў на сабе яе сумны, задуменны позірк.

— Што здарылася, Шурачка?

— Помніш нашу даўнюю размову пра раздваенне? Мне і напраўду вельмі цяжка. Жэнечка, я не ведаю, што мне рабіць… Я і мужа люблю, і ты ўжо стаў мне дарагім чалавекам.

— І што ты прапануеш?

Яна зірнула на мяне вачыма, у якіх стаялі слёзы, і паціснула плячыма.

— Вось што, Шурачка. Не будзем спяшацца з вывадамі. Пабудзь гэты месяц адна. Разбярыся спакойна ў сваіх пачуццях. Калі табе без мяне і сапраўды будзе лягчэй — ну што ж…

— Добра, — здаецца мая прапанова яе нават абрадавала. — Добра, што ты ўсё разумееш і без слоў.

А я… а я, калі Яна пайшла, адразу ж адчуў, як упала і здаецца разбілася на тысячы балючых асколкаў маё сэрца, як вострая, ледзяная пустэча апякла маю душу.

Яшчэ і сонца ярка свеціць,
І птушкі у садах пяюць...
Чаму ж халодны, золкі вецер
Душу выстуджвае маю?

Задратавалі неба хмары,
Дажджы панурыя ідуць...
Мае няспраўджаныя мары
Пажоўклым лісцем ападуць.

## Лістапад

* * *

Я не вытрымаў, збег з Мінска. Быць побач з Ёю і не абняць, не пацалаваць, не выказаць тое, чым гарыць сэрца — гэта невыносна.

І я з’ехаў. Далёка. Узяў адпачынак за свой кошт і махнуў да свайго любімага Чорнага мора.

Пагода цяпер тут, у Крыме, гэткая ж хмурая, дажджлівая, як і мой настрой. Я гадзінамі хаджу па пустынным, самотным беразе і слухаю, слухаю бясконцы, аднастайны шум хваляў. Мора здаецца мне жывою, спагадлівай істотай, якая ўсё разумее… У яго шуме я чую тую ж, сугучную мне тугу, тое ж трывожна-шчымлівае хваляванне…

* * *

У Мінску пачаўся кінафестываль «Лістапад». Мы з Ёю чакалі гэтага свята, планавалі хадзіць на прагляды разам…

От ужо праўда: хочаш насмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы.

Цікава, ці была Яна на адкрыцці?

* * *

«Шурачка, прывітанне! Ці была ты на адкрыцці фестывалю?»

«Прывітанне, Жэнечка! Як я чакала ад цябе вестачкі! На адкрыцці была. Як настрой? Звані».

«Тут холодна. Настрой так сабе. Сумую-у-у!»

«Мне вельмі цябе не хапае, Жэнечка! Сумую… Чакаю. Л. Пішу для цябе дзённік».

* * *

Як гэта ўсё разумець? Як жаданне бачыць мяне, зноў быць разам? Ці гэта простае памкненне добрага, спагадлівага сэрца, каб хоць крыху супакоіць мяне, суцешыць мой боль?

А, лепш не думаць пра гэта. Прыеду — разбяромся. Цікава будзе пачытаць яе дзённік. Калі, канечне, дазволіць.

* * *

Убачыліся мы ў настаўніцкай.

— Ты куды пасля работы? — нецярпліва папыталася Яна.

— Нікуды. Дадому.

— Пагуляем?

— Пагуляем.

На прагулцы я пацікавіўся дзённікам.

— А ты сапраўды яго хочаш пачытаць?

— Хачу.

— Не баішся?

— Лепш горкая праўда, чым падманлівая невядомасць.

— Ну што ж, вазьмі, пачытаеш…

І вось я ў каторы ўжо раз чытаю, перачытваю гэтыя, набраныя на камп'ютары радкі, і па-ранейшаму не ведаю, што думаць…

* * *

«Мне вельмі балюча. Не ведаю, што лепш: выказаць усё, чым пакутуе зараз душа, і тады, можа, стане лягчэй ці, наадварот, гэта будзе тое ж самае, што сыпаць соль на рану…

Усё зразумета не так, усё зроблена няправільна.

«Слухайся сэрца!» — гаварыў ты. Я так і жыву заўсёды. І гэта, напэўна, не зусім правільна. Таму што іншы раз з-за гэтага раблю балюча і сабе, і сваім блізкім. Таму што аднойчы сэрца пачынае разрывацца з-за таго, што нельга больш слухаць тое, што яно хоча мне падказаць, і трэба падпарадкоўвацца розуму, абавязку, сумленню. Таму што ўсе гэтыя маральныя катэгорыі пачынае заглушаць эгаістычны голас шчасця.

Напачатку здаецца так проста: слухай свой розум, і сэрца будзе ў парадку. І ты прымаеш гэтае рашэнне з лёгкім сэрцам. Але гэта самападман! Сэрца раптам пачынае плакаць, яно разрываецца ад болю, і хочацца паслаць да д'ябла гэты свой розум!

Але дровы ўжо наламаны, стрэмка болю ў тваім сэрцы, каханы, ужо сядзіць. А я…пакутую з-за таго, што нічога не магу паправіць зараз. Ды і ці магчыма гэта будзе пасля?

Ты на іншай планеце. Цябе тут няма. І мне застаецца толькі чакаць. Цэлых дзесяць дзён. Я нібы той салдат буду закрэсліваць у календары пражытыя дні — адзін за другім, пакуль не настане 25-е…

Пакутую яшчэ і ад таго, што пераацаніла твае тэлепатычныя магчымасці, калі ты сказаў: «Я здагадваюся, што адбылося». Толькі потым, прааналізаваўшы, я зразумела, што ты ўсё вытлумачыў не так. Я мела на ўвазе зусім іншае. Але ў той момант сказала, як добра, што ты разумееш усё без слоў. А словы якраз патрэбны былі, каб пераканаць цябе. Іх, гэтых слоў, нявыказаных табе, зараз назбіралася гэтулькі, што ты мне патрэбен як паветра, што жыццё без цябе ў нейкай меры губляе сэнс, што я не магу без цябе працаваць, смяяцца, быць хоць кропельку шчаслівай… У мяне згубіўся сон, і ў сярэдзіне сядзіць гэта стрэмка, што я ўсё зрабіла не так, адклаўшы размову…

Каму пажаліцца, як мне зараз кепска? Толькі табе. Але цябе няма. Проста пакуль няма ці больш ужо не будзе ніколі?..

* * *

Цябе побач няма. Але ты ахінуў мяне сабою: завушніцы абараняюць ад кепскага вока, парасон ад дажджу, веер ад духаты сумнай абыдзёншчыны… На вуліцы я пад рукой у кішэні трымаю бірульку, і кожную секунду сціскаю яе да болю ў пальцах, і яна спрабуе мне памагчы вярнуць душэўную раўнавагу. Але нічога не атрымоўваецца. Я дакранаюся да яе, пачынаю думаць пра цябе, і зноў хочацца плакаць… Я наіўна думаю, што за шкельцамі акуляраў ніхто не бачыць маіх слёз, але, мяркуючы па некаторых позірках, гэта не так. Ды мне ўсё роўна…

Куды б я ні ішла, усё-ўсё вакол нагадвае пра цябе. Наш скверык, трамвай № 6, сад на станцыі метро «Усход»… А на працы лепш наогул не бываць!

Хтосьці, калі яму кепска на душы, піша вершы, а я ратуюся прозаю. Я хаваюся са сваімі пачуццямі ў сабе, як смоўж, закрываю створкі і пішу гэты дзённік… Для цябе ці для сябе? Ці наогул яго знішчу?

* * *

Ноччу прысніўся кароценькі сон. Я на прыпынку. Мяне чакае сяброўка, і я збіраюся з ёю кудысьці паехаць, хаця душа да гэтага не ляжыць. Ты падыходзіш да мяне і кажаш, што на хвілінку падышоў пагаварыць. Мы перакідваемся колькімі словамі, і я дазваляю табе пайсці, не спрабуючы затрымаць…

І толькі пазней пачынаю сутаргава званіць, збіваючыся і доўга не знаходзячы твайго нумара, каб сказаць… Але ў тэлефоне гучыць праціўны металічны голас: «Абанент не даступны». І ад прыкрасці тут жа прачынаюся, а на гадзінніку 5 раніцы.

Ты мяне зачараваў кожную раніцу прачынацца ў гэты час? Я падымаюся і іду да камп’ютара і менавіта аб гэтым зараз пішу.

* * *

Учора вярнулася з вёскі. Дарога крыху развейвае самотныя думкі. І бірулька пад маімі пальцамі ўжо не адгукаецца такім вострым болем свежай раны, але ў мяне з’явілася да яе нейкая асаблівая прыхільнасць. Я спяшаюся хутчэй апрануць куртку і больш у дарозе ні на секунду з ёю не разлучаюся.

Усе падзеі я ўспрымаю, зрэшты, як і раней, толькі ў сувязі з табою. Тата сказаў, што цягнікі ў бліжэйшы час з-за рамонту моста будуць ісці праз Магілёў. І я тут жа запыталася ў яго: «А з Крыма таксама будуць ісці ў аб’езд?»

Мне радасна і лёгка на душы становіцца толькі тады, калі я вырашаю ўсё пакінуць як было. Здаецца, гэта так проста — дазволіць сабе быць шчаслівай. Але калі я пачынаю калупацца ў сабе глыбей, калі думаю, як нам быць з табою далей, усё заблытваецца, і зноўку сэрца сціскаецца ад болю. Я не магу знайсці выйсце! Я павінна адрэзаць квітнеючую галінку з пупышкамі і жывымі бутонамі? Не магу. Цяпер гэта ўжо частка майго жыцця. Цяперашняя ростань у гэтым пераканала мяне яшчэ больш. Я не магу без цябе. Але ў тым вось і складанасць, што… Не, больш не буду аб гэтым сёння.

Калі ты нарэшце патэлефануеш?

* * *

Сёння прысніўся сон: прыходжу на працу, а ў нас — практыканткі. І ты, аказваецца, перапыніў свой адпачынак і вярнуўся, і каля цябе таксама

сядзяць практыканткі. Я праходжу міма, даю табе зразумець, каб ты хутчэй вызваліўся.

Хутка табе не ўдаецца. Я пачынаю нервавацца. Нарэшце ты выходзіш, і мы спускаемся ў буфет. Ты купляеш нейкую ежу і кажаш, што зараз зноў паедзеш у свой санаторый. Я злуюся: «Навошта было прыязджаць на пару гадзін? Я толькі стала прывыкаць да гэтага, а цяпер зноў будзе балюча расставацца, як тыдзень таму».

Я пакідаю цябе ў буфеце і падымаюся на свой паверх… І зноў прачынаюся ў 5 гадзін раніцы…

Але горкага асадку сон не пакінуў. Бо ўчора я атрымала ад цябе эсэмэску. Як я абрадавалася! Я змагла нарэшце паслаць табе ў адказ літарку «л»! Цяпер у мяне зусім іншы настрой. І яшчэ больш пачынаю сумнявацца: калі я раблюся ад гэтага толькі шчаслівай і адорваю гэтым пачуццём сваіх блізкіх, то ці варта адмаўляцца ад цябе?

Але я баюся, што ёсць і адваротны бок медаля. Баюся, што нешта разбураецца ўва мне, калі я раздвойваюся. І гэта парушае гармонію майго сямейнага жыцця. Ты сам ведаеш, што я вельмі прастадушная, і калі мне даводзіцца нешта ўтойваць, гэта для мяне жахліва! Такі вось у мяне характар: мне не трэба нават, каб нехта у нечым мяне падазраваў, дастаткова таго, што я сама адчуваю сябе вінаватай. І мне тады здаецца, што той, хто мне дарагі, таксама лічыць мяне вінаватай…

* * *

Снілася сёння, што ты пазваніў і сказаў, што заўтра вяртаешся ўжо зусім. І ў мяне адразу адлягло на сэрцы.

Дзіўны сон… Што ён хоча да мяне данесці? Што я вельмі моцна жадаю твайго вяртання? Ці, можа, ты ўжо сапраўды імкнешся адтуль паехаць раней? Гэта было б здорава! Таму што яшчэ гэтулькі чакаць… А я ніяк нічога не магу вырашыць…

* * *

Я больш не пішу свой дзённік, таму што ўвесь час думаю… Не, папраўдзе, я ўжо ўсё вырашыла. Навошта тады пісаць? Сёння прыснілася, што ты мяне цалаваў, а потым… Журботны быў сон…»

* * *

Самотна і ў мяне на душы.

## Снежань

Ад зімы да зімы
Сустракаліся мы.

У чароўныя дні вясны
Нас люлялі шчаслівыя сны.

І пад шатамі светлымі лета
Ўсё любоўю было сагрэта.

А ў восень… а ў восень —
Толькі пошум самотных сосен.

Ад зімы да зімы
Сустракаліся мы…

* * *

Я не ведаю, сон гэта быў ці ява. На гэтым свеце я быў яшчэ ці мо ўжо ў нейкім іншым, прывідным, віртуальна-фантасмагарычным.

Мой мозг, launched пeратомлены бяссоннымі, пакутлівымі начамі і дзённымі перажываннямі, ужо кепска, неадпаведна ўспрымаў рэальнасць.

…Я іду высокім прасторным лесам. Абапал дарогі поруч з соснамі стаяць бярозы, асіны. Зрэдчас трапляюцца елкі, маладыя дубкі…

Прыгожы, утульны лес, поўны сонечнага святла, птушыных песень, водару жывіцы, багуну. А паветра такое чыстае, хмельнае, ажно пачынае кружыцца галава.

Кружыцца… кружыцца… Нечакана я заўважаю, што ўжо не іду, а плыву. Раскрыліўшы рукі, плыву лёгка, нязмушана, радасна. Спачатку нізка, над самай дарогай, пасля вышэй, вышэй, упоравень з верхавінамі дрэў… І вось ужо і яны ўнізе… Хутка я зачаплюся галавою за беласнежныя, аж адбірае вочы, воблакі…

Любата-а! Колькі прасторы, чысціні, хараства! Якая ўрачыстая, святочная цішыня!

Раптам рэзкі, ледзяны парыў ветру парушае маю гармонію з гэтым хараством. Мне робіцца холадна, і з кожнай хвілінай усё больш і больш. Асабліва мерзнуць рукі, я прыкладваю іх да грудзей, каб пагрэць, і з жахам адчуваю, што пачынаю імкліва падаць. Падаю і балюча б’юся аб цвёрдую дарогу. Хачу падняцца і не магу. Сцюдзёны вецер пранізвае мяне. У паветры кружацца сняжынкі, іх усё больш і больш, і неўзабаве густая белая заслона хавае ўсё навокал.

Снег і мяне абляпіў усяго з ног да галавы. Спачатку было нясцерпна холадна, а пасля пачало разлівацца млявае цяпло, аднекуль здалёк данеслася прыемная, мройна-салодкая музыка. Яна расслабляе мяне, закалыхвае. Хочацца спаць.

«Замярзаю… — прабіваецца скрозь гэты ліпкі туман кволая думка. — Трэба нешта рабіць… Трэба ратавацца…»

Я збіраю апошнія сілы, усю сваю волю ў кулак і рыўком устаю. Вырываюся з ледзянога палону. Але дзе мая дарога? Куды мне ісці? Снег усё яшчэ падае, праўда, ужо радзейшы, драбнейшы. Наваколле не пазнаць — усё засыпана снегам, усё ў белай каламуці.

Я з трывогаю ўзіраюся наперад. Нечакана там, у снежным мроіве, зыбануўся і маўкліва завіс, нібыта здань, знаёмы сілуэт. Сілуэт маёй Каханай! Яна махае мне рукою, падзывае да сябе. З радасцю, з надзеяй у сэрцы я імкнуся туды, да Каханай. Але што за дзіва — колькі ні іду, а наблізіцца не магу.

Я стамляюся, выбіваюся з сіл, але Каханая, здаецца, і не заўважае гэтага.

Ну і няхай! Я ўсё роўна не спынюся. І хоць у мяне няма ўпэўненасці, што я адшукаю страчаную дарогу, выберуся з гэтай бясконцай каламуці, цвёрда ведаю адно: гэты знак — не выпадковасць, і ўсё, што са мною адбылося, таксама не выпадковасць. Кожнаму даецца крыж па яго сілах. І я цяпер ужо ведаю, што мне рабіць.

Мне трэба ісці!



**Віктар ШНІП**

# КРЫНІЦЫ, ШТО ЦЯКУЦЬ ПРАЗ НАС

## БАЛАДА ЗМІЦЕРА СІДАРОВІЧА

*(2.10.1965—17.05.2014)*

Пра што спяваць? Няма ў цябе пытання.
Калі спяваць — пра Беларусь спяваць,
Пра волю вольную і пра каханне,
Якія ў сэрцы, як страла, сядзяць
І забіваюць нас штодзённа і штохвілі
За тое, што жывём, што палюбілі
Нялёгкі шлях да сонца і крыжоў.
Іграеш на дудзе, як сто вятроў
З сівых вякоў праходзяць праз цябе
У гэты свет, дзе ты сказаў журбе:
«Ты не мая і мне тваім не стаць!»
Не стаў і ўжо не станеш аніколі,
Бо ты сябе змог музыцы аддаць,
Што павуцінкаю плыве над полем,
Над беларускім полем, дзе ляжаць

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

Героі нашы, пра якіх забыцца —
Бязлітасна забіць іх яшчэ раз.
Ты музыкаю стаў, што б'е з крыніцаў,
Святых крыніцаў, што цякуць праз нас,
Каб мы жылі і не было пытання,
Што нам спяваць. Пра Беларусь спяваць,
Пра волю вольную і пра каханне,
Якія ў сэрцы, як страла, сядзяць…

## МАМІНЫ АКУЛЯРЫ

Ад мамы засталіся акуляры
На століку каля старых газет.
Гляджу праз іх і бачу толькі хмары,
А мама бачыла ўвесь белы свет
І вуліцу, якой я ў горад ехаў
На пару год, а выйшла — назаўжды.
Газеты, нібы з леташняга снегу,
Дзе літары, як з мёртвае вады,
Што супынілася і пачарнела,
Як і для мамы тут спыніўся час.
Праз акуляры мама не ўглядзела,
Калі яе жыццё прайшло праз нас,
Пакінуўшы ад мамы акуляры
На століку каля газет старых.
Гляджу праз іх і раптам бачу мары,
Якія мама бачыла праз іх…

* * *

Пачнецца дзень і апусцее неба
Без зорак, на якія ты глядзіш,
І возера пад лёдам, як пад срэбрам,
Засвеціцца і запануе ціш
Пасля начы, дзе вецер уладарыў,
Нібы хацеў цябе дамоў прагнаць
Так, як прагнаў з начнога неба хмары,
Дзе зараз зоркі золка зіхацяць
Пакуль яшчэ да дня зусім далёка,
Як да вясны, з якой пачнецца дзень,
Дзе рыбкі ў лёдзе — парушынкі ў воку
Зімы, якая пройдзе, бо ідзе
Па тых дарогах, па якіх сыходзяць
У небыццё і людзі, і гады.
Пачнецца дзень, як трэшчына на лёдзе,
Чакана й нечакана, як заўжды…

* * *

Ты за сонца не можаш трымацца,
Бо яно спапяляе да тла
І табе сны самотныя сняцца
Без дарог, што вядуць да святла,
Што схавалася ў росах сцюдзёных
І, здаецца, памерла для ўсіх
Адзінокіх, галодных, шалёных
І прыгожых, як вечнасці міг,
Калі сонца ўзыходзіць над намі
І яго табе хочацца ўзяць,
Нібы яблык, які пад нагамі,
І прынесці дамоў, і сказаць,
Што за сонца не можаш трымацца,
Бо яно спапяляе да тла.
А туман — гэта травы дымяцца,
Па якіх твая панна прайшла…

* * *

А заўтра была адліга,
Якой зачакаліся мы.
Нам сонца свяціла ціха
У трэшчынах соннай зімы.
І хтосьці смяяўся, плакаў
Ад шчасця, ад гора, і снег
Быў шэры, як той сабака,
Які з ланцуга ўзяў ды збег.
І быў небакрай прад намі,
І стаў прападаць небакрай
З зямлёю, што пад нагамі...
Не хочаш, дык не ўспамінай,
Што заўтра была адліга,
Якой дачакаліся мы.
Нам сонца свяціла ціха
У трэшчынах вечнай зімы...





Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

* * *

Дачакаўся новай вясны, і гэтым красавіцкім днём зноў спяшаюся летаваць у сваю пушчанскую вёску. Азяблы за зіму двор сустракае пярэсыпам кратавіння, леташнімі змаршчакамі-яблыкамі на голых галінах, нясмелым выбліскам маладой крапівы і шчаўя пры плоце. Выстыла за зіму хата, сіратліва выглядаюць абразы на покуці, задубэльчаныя вокны. Цяжкаватае, з гаркавым прысмакам паветра ў пакоях. Бягу ў гумно па дровы і тут жа распальваю бывалы стаячок. Пакуль яшчэ слабое сонца, трэба ўсім, чым можна, саграваць і самотлівую душу.

Пры добрым бярозавым цяпле прачнецца леташняя муха. Ці не тая гэта назоліца, што мінулай восенню надразала маіх сноў, нават дапякала і выводзіла са стану ляноты марудлівага ката?

З агню ў печы, з веніка, рыдлёўкі, з конаўкі свежага бярозавіку, з добрага суседскага слова пачынаецца мая новая вясковая вясна. Мала ў ёй што і змянілася, хіба што я сам пастарэў яшчэ на адну зіму.

* * *

Адбушавала белае гаркавае полымя чаромхі, дагарэў і стаўся іржавым цвет белага бэзу, пачуў сваю пару і язмін. Вунь ужо стрэльнуў у акно белы пухірок кветкі з жоўтым вочкам унутры, а за ім пачаў набухаць і наступны.

---

*__Камейша Казімір Вікенцьевіч__ нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Люблю непадкупную далікатнасць яе духмянасці. Гэта зваблівая веснавая парфума бунтуе нават хворае сэрца.

* * *

Хрушчова-кукурузніка народ часта ўспрымаў як чалавека са здольнасцямі і схільнасцю смехура, які патрабуе да сябе зусім не смешнай увагі. Калі ўвагі патрабуе вышэйшая ўлада, яна заўсёды яе мае. Смешна было, вядома, верыць у тое, што праз нейкія два дзясяткі гадоў мы ўжо шчасліва будзем маршыраваць па праспектах таго самага камунізму. Ён для нас так і застанецца «аблуднай зданню», але нецярплівасць падагравала само жаданне, і мы верылі і згаджаліся з усім.

З паўсмехам, а то і смехам сустрэта была і кукуруза, якой так захапіўся кіраўнік у саламяным, падкрэслена палявым капелюшы. Здзекліва, але разам з тым і радасна віталі кукурузу палевікі-гракі. Тым было ўсё роўна — «каралева палёў» гэта ці звычайная самотніца: жоўтыя зубападобныя зярняты яны выдзёўбвалі адразу ж пасля сяўбы. Вясковыя вартаўнікі са стрэльбамі-бярданкамі не шкадавалі пораху і шроту, аднак перад гракамі былі бездапаможныя.

«Каралеве» не падабалася чужая зямля, але новы гаспадар не збіраўся яе ўпрошваць на свяяцтва. Ён слова такое — упрошваць — даўно выкінуў са свайго ўжытку. Пасеялі — дык расці! Што можа быць вышэй, чым загад самага вышэйшага?! І паступова атутэйшылася чужаземка. І сёння, дзякаваць богу, яна свая на нашых палетках. Няма ўжо на свеце таго старшыні калгаса на Капыльшчыне, якога я, раённы газетчык, ставіў на калені, каб на здымку ён выглядаў ніжэйшым ад таго кукурузнага куста. «Каралева» тады перамагла, а старшыня так і не падняўся з каленяў. Хто мог тады падумаць, што паняцці васковая спеласць і вайсковая смеласць так блізка падсуседжаныя, ну як той грак з кукурузным зубападобным зярняткам.

* * *

Здаўна не люблю абрэвіятур. А іх у нашым жыцці з’яўляецца ўсё больш і больш. Здаецца, не церпіць іх і сам час. Бязлітасна выкрэслівае некаторыя з нашага ўжытку і… не памыляецца. Ну як немілагучна гучала калісьці звыклае БССР. А сёння як цёпла і лагодна прамаўляецца — Беларусь!

Доўгі час самыя цяжкія, а то і цікавыя абрэвіятуры я выпісваў сабе ў нейкі сшытачак. Цікава бывае часам яго і пагартаць. Ёсць там і надта сумныя скароты слоў, а ёсць і нават вясёлыя. З сумных наткнуўся і на такое, што мела месца і ў маім часе — ЧСИР. Вунь што гэта на самой справе — член семьи изменника родины…

А з весялейшага запісалася такое — ПБС. Прачытанне мае наступнае — Першы беларускі спадарожнік. Гэта — не што іншае як легкавы аўтапрычэп, які даўно ўжо стварылі нашы аўтазаводцы. Я ці не першы з аўтааматараў набыў некалі гэту патрэбную рэч. Хораша ён бегаў у спулцы з маімі старымі «Жыгулямі», якія толькі цяжары не цягаў на мой дачны ўчастак. А неяк нават апраўдаў сваю касмічную назву — на паваротцы каля Рудзенска ён падняў мае лёгкія «Жыгулі» ў паветра. Я не паспеў спалохацца. Дзякуй богу, усё абышлося. Прызямленне было безаварыйным.

* * *

Паэты часцей за ўсё будуюць свае вобразы на параўнаннях. Частае карыстанне гэтым спосабам не заўсёды падабаецца чытачу. Ды і для параўнання часта ўжываюцца словы не роднаснага ўжытку, living рознасфернай прыналежнасці. Неарганічнасць заўсёды бянтэжыць чытача, выклікае ў яго недавер да аўтара. Самае горшае, калі само параўнанне, як кажуць, не да месца. Хто ж яму мусіць знайсці адпаведнае месца, як не аўтар. Як усё-ткі добра быць чытачом: ты ні за што не адказны, у цябе самае выгаднае права — толькі патрабаваць.

* * *

Час і абставіны яшчэ ў школьныя гады адвучвалі нас ад дому і ўсяго дамашняга, ужо ў малалецтве аддалялі дзяцей ад іх бацькоў. Доўгая дарога да школы (спачатку — чатыры кіламетры, пасля — сем, а яшчэ пазней — дзесяць, кіламетры — адпаведна класам) змушалі ў зімовы час кватараваць, жыць у прымітыўным школьным інтэрнаце. А потым быў інтэрнат студэнцкі, вайсковая казарма ажно на тры гады, а яшчэ пазней — прымацкая аднапакаёўка. У рэшце рэшт — на астатак гадоў уласная аднапакаёўка. Не, гэта зусім не плачнае ўсхліпванне. Мне хапае. Я пра іншае. Пра тую змусовую раз’яднанасць бацькоў і дзяцей.

Дык вось да бацькоў часцей за ўсё я наязджаў «госцем». Завітаеш у канцы тыдня — а тут на цябе як рухне цэлы валун неадкладных сялянскіх работ: то бульбу садзіць, то касіць ды сенаваць, то капаць тую ж бульбу. Не меў часу і на тыя самыя грыбы, хоць лес быў за хатай. Свае грыбы я часцей за ўсё збіраў у сваіх вершах. Часам на вёску не адпускала і маладая гарадская гультаяватасць. Сёння і дакараю сябе за ўсё гэта.

Баяўся сваіх сноў. Прыснілася неяк, што заганяю і не магу загнаць у хлеў капрызную нашу карову Малпу. Раніцой трывожна думалася: «А можа, і напраўду што дрэннае здарылася з нашай каровай. Тэлефонаў ніякіх для сувязі тады не было. Саджуся ў цягнік, еду дамоў, ледзь ні цэлы дзень трачу на дарогу. А дома слёзы — прапала, ужо цэлы тыдзень, як знікла цялушка-першацёлка. Карова для селяніна па кошце сваім як для дзяржавы самалёт. Далучыўся да пошукаў і я. Толькі на другім тыдні старанлівы дзядзькаў сабака выгнаў нашу рагатую згубу з пушчы. Ну і радасці ж было ўсім нам!. .

Старым не шанцавала. То там, то тут… Ды і ў самога тых нешанцаванняў хапала. За што мы, маладыя, любілі і зусім просты верш Рыгора Барадуліна «Трэба дома бываць часцей»? Ды было ў ім багата ўшчування майму вясковаму пакаленню, якое так трывала заляйцалася ў спакуслівым самым вялікім горадзе краіны. Чаму ж так пакутліва баліць сёння мне маё мінулае? Ды ў каго гэта я пытаюся?.. Сам павінен ведаць.

* * *

Часам на літаратурных сустрэчах чытачы пытаюцца, у якіх замежных краінах мне пашанцавала пагасцяваць. Не чытаюць, бачу, маіх твораў, бо ў сваіх вершах я неаднойчы адказваў на гэта надакучлівае пытанне. Адказваў, жартуючы. За рубеж я езджу кожны тыдзень, а то і некалькі разоў на тыдні. Як толькі перасяку Рубяжэвічы — тут маё і зарубежжа. А на самай справе і адказваць на гэта пытанне мне даволі сумна, бо нідзе далёка ў свеце я не блудзіў. Хіба што выключэннем могуць быць месячныя моўныя курсы ў Славакіі,

дзе я пачуваўся зусім, як дома. Ды і мова там вельмі падобная на нашу. Ды яшчэ — сённяшняя Туркменія.

Ну а калі чытачы глядзяць на мяне падазрона, а то і абыякава, спасылаюся на Пушкіна, Вялюгіна, Бялевіча, на яшчэ многіх іншых. Яны таксама за мяжой не гасцявалі. Магчыма, вялікі свет мяне і не ведае, але, можа, дастаткова і таго, што я ведаю пра яго.

* * *

У Беларусі 19 тысяч рэк. Ад многіх з іх не засталося не толькі берагоў, а і нават назвы. Таму і напісалася сумнае:

Чую неба самога дакор,
Нават птушкі жахаюцца водзімна.
У краіне і рэк, і азёр
Без ракі я застаўся і возера…

* * *

Карчма ў мястэчку тулілася на самай гары, на скрыжоўцы трох дарог. Даўно выраклася яе старая назва, і цяпер яна лёгка адгукалася на імя «забягалаўка». Назва адна толькі і памянялася ў гэтым прытулішчы беспрытульных. А ўвесь унутраны сэнс застаўся той жа. З раніцы да ночы тут гаманілі, дымілі, таўкліся, буянілі, бралі адзін другога загрудкі, давалі волю кулакам. Рэчкай лілося піва, больш сціплымі берагамі — напоі збожжавай моцы. Тут, здаецца, ніколі не было чужых людзей. Чужых бы адразу заўважылі. Часам здавалася, што яны ўсе, тут прысутныя, і з'явіліся на свет разам з гэтымі сценамі і ніколі не пакідалі іх. Куфлі піва з белымі барадамі пены, здавалася, самі вырасталі на гэтых сталах і былі часткай нейкага знаёмага тутэйшага нацюрморта.

Вечарам, калі я зазірнуў сюды, усе мясцовыя заўсёднікі ўбачыліся мной занадта сумнымі. Можа таму, што блізіўся час таго самага вячорнага выпаўзання на высокі, у рост чалавека, ганак. Праз густы п'янаваты гоман і аблокі тытунёвага дыму я ледзьве распазнаваў знаёмыя абліччы. Іх было тут шмат, але як яны ўсе падобныя адзін да аднаго, нібыта намаляваныя адным алоўкам. Тыповае тут шукалася вельмі проста, а нетыповага проста не існавала.

Усё даўно было выпіта. Грошы румяна-пыхлівая буфетчыца ўжо даўно палічыла, і тыя, што дзяржаве, і тыя, што сабе. Развітваючыся, жанчына яшчэ з нейкай замежнай крэйды дабаўляла вішнёвасці сваім вуснам. Вішнёва тлела зара над двума крыжыкамі касцёльных вежаў, доўга барабаніла вядро ў чымсьці глыбокім калодзежы. На гэткай ноце завяршаўся местачковы нядзельны дзень. І пачынаўся ж таксама з яе. Усё, як у той нотнай грамаце — ад ніжняга да верхняга «до».

* * *

Сумневы маёй маладосці… Ну, калі ўжо і сама праўда бывае горкай, колькі ж тады гаркаты ў няпраўды? Ды яна проста атрутная. Колькі разоў за сваё жыццё спрабаваў я тае атруты!.. Таму і пытанні мае да самога сябе ўсе несалодкія.

* * *

Адчуванне зямлі праз ногі, ды яшчэ калі яны босыя, зусім не тое, чым праз падэшвы і колы. Да жывога мы часта дакранаемся праз мёртвае.

* * *

Едучы электрычкай з Рудзенска, не ўстрымаўся і запісаў такое папярэджанне чыгуначнікаў: «Запрещается подлезать под вагоны для перехода пути». І занадта разумна напісана, як на погляд саміх чыгуначнікаў.

* * *

У кожнай справе павінны быць свае выдаткі, свая тратня. Пакажыце мне той хлеб, з якога б не ўпала хоць адна крошка!..

* * *

На Дзяды надвор’е амаль заўсёды плачнае, з густымі перадзімовымі хмурынамі, зацяжнымі дажджамі. Такім было і на гэты раз. Я доўга не мог распаліць дзве свечкі ля помніка дачкі, бясконца круціў колца запальнічкі. Хісткае полымя тут жа тушыў задзірлівы вецер. Урэшце на адной са свечак агеньчык акрэп, пачаў спрачацца з ветрам, і на пліце ўсё ярчэй акрэсліваўся сумнаваты профіль самотлівага доччынага твару.

Наведванне Паўночных могілак заўсёды расцягваецца на дзень, а то і прыхоплівае вечара — вунь колькі родных, сяброў прынялі яны ў свае вечныя абдымкі… Праз дарогу — магіла Хведара Чэрні, а далей угору, яго — Вялюгіна. Там, ля сціплага помнічка па ім, магутным, нечакана згадалася яго пахаванне. Упарцілася, чамусьці не хацела зачыняцца века труны. Нейкі цеснаваты апошні дамок выбралі паэту. А калі пачалі грукаць аб века развітальныя камякі жаўтапёсу, над верхавінамі высокіх, цыбатаватых сосен з грымотлівым гулам прарэзаў нябёсы самалёт-звышгукавік. І Мікола Базарэвіч, цяжка ўздыхнуўшы, ціхім голасам сказаў мне:

— Гэта, бачыш, неба развітваецца са сваім сынам.

Паэт паважаў лётчыкаў, у вайну сам вучыўся ў лётнай школе, але за штурвал яму так і не давялося сесці. Неяк позна вечарам вярталіся з ім у Каралішчавічы. За рулём таксі была вясёлая прыгажуня-жанчына. І разгаворваючы яе, Анатоль Сцяпанавіч жартаваў:

— А ведаеце, чаму я не магу сесці за руль аўто? Мне ўвесь час будзе карцець цягнуць руль на сябе…

— Вы лётчык?— здагадліва запыталася жанчына.

— Амаль што, — загадкава кінуў паэт.

— Але паэзія яго — суцэльны вышэйшы пілатаж! — гэта ўжо я, хто сядзеў на заднім сядзенні, уставіў, як кажуць, «свае тры капейкі». Можа, гэта не зусім спадабалася «адміралу ад паэзіі», аднак шафёрша адразу зразумела, хто мы такія. А калі потым пры лясным доме з ёй добра расплаціліся, дык развіталася яна з намі і зусім у падвышаным настроі.

Начытанасць яго дазваляла яму размаўляць пра авіяцыю на ўзроўні бывалага дасведчанага лётчыка. Памятаю, з якім гонарам расказваў ён мне пра свайго цесця па другой жонцы, ваеннага лётчыка Мікалая Кавалеўскага, а потым і пазнаёміў нас у івянецкім грыбным барку. Можа, і гэты самалёт над

соснамі могільніку быў не проста нейкім супадзеннем, а трагічным сімвалам развітання.

Нешта наблытана з датамі на яго помніку (яшчэ раз падкрэслю, задужа сціплым). Па ўсіх каляндарных згадках Анатоль Вялюгін нарадзіўся 27 снежня 1923 года. На помніку ж дата нараджэня пазначана 1924 годам. Радкі ж на пліце «Ціха, мора, чаго ты шуміш? Я і сам бушаваць умею!» змушаюць згадваць паэта маладым, часам, і праўда, крыху бушуйным.

У яго творчым набытку магло быць куды больш паэтычных радкоў, кніг, але шмат асабістага часу аддавалася рэдагаванню чужых твораў, цэлых кніг, усяго таго, што друкавалася ў часопісе «Полымя», дзе ён доўгія гады нёс пільную службу рэдактара аддзела паэзіі. Рэдагаванне было сур’ёзным, часта бязлітасным, аж да перапісвання, заняткам. І дзіўна, ніколі не было пакрыўджаных. Пры мне класік амаль з сусветным імем пакідаў яму свае новыя вершы і на развітанне казаў:

— Рабі, Толя, як хочаш. Я табе давяраю!..

Я потым бачыў, як пахадзіла рука загадчыка па радках класіка. Габлянуў ён, як кажуць, на поўную стружку. Многа часу забірала ў паэта кіно. Яго кінасцэнарыі іші «на ўра». Кіно давала нядрэнны заробак, хоць паэзіі наўрад ці спрыяла. Адно што і ў сваіх сцэнарыях паэт заставаўся паэтам. А яшчэ шмат часу забірала чытво. Усе літаратурныя часопісы, і нашыя, і маскоўскія, нават польскія, якімі з ім шчодра дзяліўся Янка Брыль, прачытваліся ад першага і да апошняга радка. І абавязкова — з алоўкам. Валодаў ён энцыклапедычнай дасведчанасцю, мог весці гаворку на роўных з любым спецыялістам у самай нечаканай галіне. На дапытлівы кватэрны тэлефон паэта сцякалася інфармацыя ад сяброў ды блізкіх, дзе ў падрабязнасцях падсумоўваліся і мясцовыя самыя гарачыя навіны. Задоўга да славутага інтэрнэта ўсімі яго магчымасцямі валодаў Вялюгін. Сябры казалі праўду: «Вялюгін ведае ўсё!»

Яго лепш было слухаць, чым расказваць нешта самому. А гаварыць ён мог цэлую ноч, без спачыну, смакуючы цыгарку за цыгаркай ды зрэдку прыгубляючы чарку. Я памятаю такія ночы ў яго рабочым пакоі насупраць цырка па вуліцы Купалы. Купал цырка нагадваў яму старую каску пажарніка. І гэты вобраз ён выкарыстаў у сваіх творах. Слухаючы яго начны голас, бывала, і задрэмлеш, дзеўбанеш носам, але тут жа сарамліва падхопішся, штурхануты нейкім нечаканым словам з доўгай, але заўсёды шчырай і разумнай гаворкі. Світанкі з-пад «каскі пажарніка» з’яўляліся гэтак жа нечакана і хутка, як і паэтавы госці.

Ён цаніў у чалавеку талент, эрудыцыю, памяць. З захапленнем выказваўся пра дасведчанасць і інтэлегентнасць Пятра Глебкі, дакладнасць у памяці Піліпа Пестрака, моўную падкаванасць Максіма Лужаніна. Часта паўтараў: «Адзін Лужанін варты ўсяго Інстытута мовазнаўства». Скупаваты на пахвальбу, хваліў ён тое, да чаго сам імкнуўся.

Усе, хто яго ведаў, скажуць, што меў ён шмат сяброў, многія напрошваліся яму ў сябры. Але метода сяброўскага адбору ў «адмірала» была свая, вялюгінаўская. Сябры правяраліся ў першую чаргу на сумленнасць. Нават у тым жа застоллі. Многія адразу, як сухі ліст, асыпаліся. Часта пасля доўгага застолля ён выбіраў аднаго, хто павінен праводзіць яго да самай хаты, вядомым шляхам праз парк Горкага да вуліцы Купалы і да ліфта. Сёння гэта мог быць я, заўтра — нехта іншы. Скажу шчыра, праводзіны гэтыя заўсёды былі і не такімі простымі, нібыта на вытрымку. Тыя некалькі соцень метраў ад Дома літаратара да цырка, якія можна было прайсці за некалькі хвілін, выліваліся ў цэлыя гадзіны. Ступіць Анатоль Сцяпанавіч паўкроку, потым спыніцца, зацягнецца цыгаркай і пачынаецца задоўжаны «маналог». Я згадваю сваё, бо неаднойчы меў шчасце

быць у ролі таго самага праважатага. Дык вось крочым мы, пасмоктваючы цыгаркі, даходзім да ўзбярэжжа Свіслачы. Тут крок надоўга прыпыняецца. «А пасля вайны на гэтым месцы мы з Сашкам…» — пачынаецца новы прыпамін. Сашка — гэта вядомы наш пісьменнік-марыніст Аляксандр Міронаў. Пакуль ідзе згадка «пра Сашку», я спрабую ўявіць, што ў мяне дзеецца дома. Недзе даўно турбуецца жонка, бо час амаль начны. Але вось пройдзена яшчэ некалькі крокаў, зноў прыпынак, і цяпер гамонка ў нас ідзе ўжо пра Кастуся, нашага агульнага з паэтам на той час рэдакцыйнага начальніка. «Косця — чэсны камуніст», — кажа Анатоль Сцяпанавіч, а я паглядаю на гадзіннік. Той кажа, што пайшла ўжо першая гадзіна начы. А мы яшчэ не прайшлі і паловы шляху. «Урэшце, чаго я хвалююся? — супакойваю сябе, — нідзе не дзенецца мой дом. Але сёння я вярнуся дамоў намнога багацейшым». І сапраўды, час, праведзены разам з мудрым чалавекам, якім быў незабыўны Анатоль Вялюгін, каштаваў многага.

Згадваючы той самы парк Горкага, абавязковы пры вяртанні паэта на яго вуліцу Купалы, не магу не прыгадаць і адзін вясёлы выпадак, які неяк пераказваў мне Павел Дубашынскі, з якім мы былі ў добрым сяброўстве:

— Пазнаваты быў ужо час. Я адыграў у тэатры свой спектакль і вяртаўся дамоў. Ішоў праз парк Горкага, каб выйсці да плошчы Перамогі. Непадалёку ад Свіслачы ценямі адзначыліся дзве постаці, і калі я падышоў бліжэй, то разгледзеў, што гэта былі мужчына і жанчына. Можна было здагадацца, што паміж імі ідзе нейкая няпростая спрэчка. Мужчына штосьці даказвае, а жанчына з ім не згаджаецца. Калі я падышоў яшчэ бліжэй, то ў мужчыне распазнаў нашага вядомага паэта Вялюгіна. Надта блізка мы з ім знаёмыя не былі. Пару разоў сустракаліся ў нейкіх кампаніях. І вось чую басавіты голас, дужа ўзбуджаны, даводзіць нешта, пераконвае: «Вось зараз спынім першага сустрэчнага і запытаем… Гэй, шаноўны!» — кліча ён, значыцца, мяне. Я падыходжу, вітаюся. Сімпатычная жанчына гадоў трыццаці ўсмешліва, але дапытліва пазірае на мяне. Паэт спрабуе нешта гаварыць, але жанчына яго перабівае: «Нет, позвольте мне… Скажите, вы знаете этого человека? У нас зашел спор…» Я не даў ёй дагаварыць, адразу ўцяміўшы, што тут да чаго. «Ну, канечне, ведаю, гэта вядомы наш паэт Анатоль Вялюгін, — узнёсла выпаліў я. Толькі сёння раніцою на Беларускім радыё я запісваў у сваім выкананні паэтаў верш «Прызнане ў любві» і ў падтрымку сказанаму пальнуў радкамі:

Я заўсёды баюся напышлівых выцвілых слоў,
Што звіняць, як жабрацкая медзь…»

Каб вы бачылі, што там рабілася!.. Вочы жанчыны адразу пакруглелі, сталі вялікімі, мову ёй адняло. А паэт, бачна было, што ён падвяселены не скупой чаркай, задаволена ўсміхаўся і ўсё паўтараў: «А што я казаў? Так вось…» Я разумеў, што гэта яго перамога. Ён перад гэтым даказваў жанчыне, што ён вядомы паэт, яго кожны ведае ў твар. І толькі яна адна не ведае. І вось яго перамагло, а я дапамог у гэтай перамозе. Развітваючыся, жанчына паабяцала схадзіць у бібліятэку і прачытаць там усё, што напісаў Вялюгін. А мы з паэтам пайшлі ў «Мутнае вока» і добра адзначылі тую перамогу.

Што ж, вясёлага, як і сумнага, у яго жыцці было нямала. Калі я вярнуўся з войска і зайшоў у рэдакцыю «Полымя», ён сустрэў мяне больш чым ветліва. Сказаў, што даўно мяне чакае ганарар за вершы. А потым на маёй руцэ заўважыў каляровую яркую бранзалетку. Гэта быў падарунак маіх вайсковых сяброў, якія з мыльніц ды зубных шчотак умелі змастачыць адмысловую штуковіну. Тут жа даў мне мянушку — Карнет. І прыляпілася яна да мяне, як тая

чага да дрэва і блукала за мной аж да самых сталых гадоў. А калі я працаваў на Беларускім радыё, нехта прынёс і паклаў на мой рэдакцыйны стол сяброўскі шарж Косці Куксо, а на звароце вялюгінскай рукой вясёлыя радкі:

Машыністкі валяць валам,
Травесці — за імі ўслед:
Па таемных інтэрвалах
Б'е без промаху Карнет.

Шарж той захоўваецца ў мяне і сёння.

Ён быў выдатным майстрам і такім жа настаўнікам. Майстэрству можна вучыцца і на ягоных, высокай пробы, дакладных радках. Шкада, што сённяшнія маладыя творцы мала цікавяцца сваімі папярэднікамі. Гэта бяда не часу, гэта іх уласная бяда.

На схіле жыцця свайго, гартаючы старонкі пражытага, Вялюгін гляне на ўсё строга і бязлітасна: «З агідаю чытаючы жыццё маё, перабіраю ўсё па каліву, жахаюся: столькі непатрэбшчыны ў падарожным набытку». Гэта — не адчай, а суровае прамаўленне жыццёвай праўды. Майстра ведаў кошт зробленаму. Шкадаваў аб нязробленым. А ў вершах апошніх прамовіцца, нават пракрычыцца і такое: «Жыцця ў жыцці мне мала. Мала!»

Калі крычаць вусны — гэта адно, калі крычыць душа — гэта зусім іншае. На крык душы азіраецца сама вечнасць.

* * *

Заўсёды варта памятаць пра повязь часоў, пра той самы ланцуг часу. Нельга выпасці з яго і заставацца толькі нейкім звяном, не счэпленым з іншымі звеннямі. Звяно без ланцуга — толькі замкнутая ў самім сабе рэч.

* * *

У красавіку 1981 года мы невялічкай пісьменніцкай кампанійкай выправіліся ў народ. Кампанія, як кажуць палякі, не велькая, але пажондная: знаны паэт Аляксей Пысін, Алесь Ставер, Алесь Рыбак ды я, грэшны. Мы ехалі па нагодзе афіцыйнай, нібыта на сустрэчы са сваімі чытачамі, а калі напраўду — зарабіць нейкую капейчыну. Кожны пісьменніцкі выступ тады нядрэнна аплачваўся. Галоўнымі выступоўцамі лічыліся мы, трое, а Ставер суправаджаў нас у якасці арганізатара. Была такая пасада пры Бюро прапаганды пісьменніцкага саюза. Арганізатарскія задаткі Ставер меў. Праўда, своеасаблівыя. Звычайна ад падобных выступаў на месцах адбіваліся рукамі і нагамі. Часам адкрытым тэкстам казалі: «Адчапіцеся, нам не да вас». Сям-там нават згаджаліся заплаціць, толькі б тая сустрэча не адбылася. Ставер жа быў угаворшчыкам выключным. З пачкам пуцёвак ён мог заявіцца ў любую ўстанову, і яму нідзе не адмаўлялі. Зойдзе да начальства, пачне з нейкага жарціка, часам зусім няўдалага, а тыя здаюцца, адразу аўдыторыю збіраюць. Сям-там нават смачным абедам пачастуюць. Умець трэба. І ён умеў.

На ўсю сустрэчу, як правіла, адводзілася трыццаць ці сорак хвілін. Дык нам, траім, даўно «прыстраляным» байцам, — гэта зусім як нейкая размінка. А яшчэ амаль кожны раз падключаўся да размовы і сам арганізатар. Народ дужа цёпла прымаў яго народны гумар.

У дзвюх ролях даводзілася выступаць і мне. Справа ўся ў тым, што я вазіў на сваіх яшчэ добра не аб'езджаных «Жыгулях» тую нашу кампанійку.

Можна было б шмат чаго прыемнага прыгадваць з той паездкі, але запомнілася чамусьці непрыемнае. Пра яго і раскажу тут.

Месцам тых веснавых сустрэч былі абраны Чашнікі. Мы пасяліліся ў цеснаватым пакойчыку мясцовай драўлянай гасцініцы. Самы старэйшы Аляксей Васільевіч Пысін падымаўся рана. Можа, таму, што і спалася яму не так соладка, як, скажам, мне, тады маладому. Мы нават не чулі, калі ён пакідаў пакой. Выходзіў ціха, нават дзвярыма не грукнуўшы, толькі б не будзіць раней часу астатніх. І вось аднойчы раніцой вяртаецца ўзрушаны, нават злосны, бегае па пакоі і кагосьці завочна лае. Тут жа хапае ліст паперы, садзіцца за стол і пачынае пісаць. Ён пісаў, а твар яго наліваўся яшчэ большым гневам, часта ўздрыгваў. Хутка гэты гнеў перадаўся і нам. Дык што ж вывяла з сябе знакамітага паэта? Ліст той я нядаўна адшукаў сярод нейкіх даўніх папер. Зараз мы яго разам і пачытаем:

## Жорсткасць

Каля раённай гасцініцы ў Чашніках ёсць драўляны хляўчук. Зрабіўшы ў гэтым хлеўчуку цёплае ўтульнае месцейка, кошка прывяла трох кацянятак, сляпых яшчэ, бездапаможных. Раніцой апальшчык гасцініцы пераступіў парог хлеўчука і ўбачыў кошку з кацянятамі. Абрадаваўся, усміхнуўся, убачыўшы маленькіх істот? Не, не ўсміхнуўся… Адным махам сагнаў кошку, згроб кацянятак і кінуў іх у… прыбіральню. Хтосьці з пастаяльцаў гасцініцы хацеў выратаваць кацянятак, ужо аднаго выцягнуў. Але тут наляцеў раз’ятраны апальшчык, выхапіў кацяня, кудысьці аднёс і знішчыў. Нас, як і іншых пастаяльцаў, спачатку здзівіла жорсткасць яго, пажылога ўжо чалавека, які, здавалася б, павінен маладзейшых вучыць дабрыні да ўсяго жывога. А потым прыйшло абурэнне. Адкуль такая жорсткасць?

Аляксей Пысін,
Алесь Ставер,
Казімір Камейша,
Алесь Рыбак,
пісьменнікі.
22. 04. 1981 г.

Гэты ліст, падпісаны намі, той жа раніцай мы аднеслі ў раённую газету. Другі экзэмпляр вырашылі аддаць у газету «Звязда». У «Звязду» ліст, не памятаю па якой прычыне, не патрапіў. А ў мяне захоўваецца. Жорсткага, на жаль, хапае ў нашым жыцці і сёння. Натыкаючыся на яго, я заўсёды згадваю і той, ужо далекаваты выпадак.

* * *

Здае ціхмя свае пазіцыі літаратура. Нават здзіўляць развучылася сваімі адкрыццямі. Ужо неяк сумнавата глядзіш і на кожнага новага Нобелеўскага лаўрэата. Ці той гэта, часам пытаешся, хто яеварты. Ды чым можна сёння здзівіць чалавека чытаючага? Хіба што нейкім літаратурным экспрэсам. Праляцеў жа зусім нядаўна адзін такі з лязгатам праз усю Еўропу. Сярод пасажыраў, здаецца, былі і нашы тры ездуны. У якім тупіку спачывае сёння той літэкспрэс? Ці не ў тым самым, што і сам літпрацэс?!.

* * *

Мора тады, першым разам, не столькі захапіла, колькі ўразіла сваёй неабсяжнасцю. Бясконцая, лускавата-зіхотная, да немагчымага блакітная і сонечна-прымружаная далячынь, што злівалася з жоўтым небам, неяк па-асабліваму трывожыла зрок і скіроўвала думкі на рамантычны лад. Далёкія краблі на даляглядзе выглядалі як намаляваныя дзіцячай рукой. Але шумлівае шматлюддзе берага неўзабаве перакрэсліла ўсё загадкавае і рамантычнае ў гэтай блакітнай неабдымнасці, і ўсю ўвагу забрала суша. Яе тлум прызвычайваў душу да зусім іншай рэальнасці, дзе ўсім кіравала толькі звычайная чалавечая бесклапотнасць, якая для кагосьці таксама была клопатнай. Нідзе ніщто не дае мне забыцца, што я чалавек сушы. Ды я і не хачу гэтага. Я той, які ёсць.

* * *

П’янаму вяскоўцу выклікалі машыну хуткай дапамогі. Нават і хутка прыімчалася яна з райцэнтра. Вясковец заснуў і добра такі бразнуўся з высокай печы. Стогне ды ўсё дапытваецца маладога доктара:

— А я жывы ці не?

— Жывы-жывы, калі голас ёсць…

— А буду жыць ці не?

— Будзеце…

— Доктарка, а ці буду да дзевак хадзіць?

— Ну, шаноўны, з вашым здароўем так далёка хадзіць я б вам не раіў.

Дыялог гэты завяршаецца гучным смехам родных і самога доктара.

* * *

Герою нашаму, не будзем удакладняць якому, ужо з раніцы пагражаў сямейны канфлікт. Многа на тое і не трэба. Нешта цыркнула праз зубы яна яму, падводзячы зласнавата перад люстэркам крэйдай свае вусны, нешта буркліва кінуў ён, ледзь не папярхнуўшыся пры гэтым халоднай кавай.

— А пайшла ты, — вырвалася з яго вуснаў ужо зласнаватае, а праз глыток фраза была завершана, — …у царкву.

І яна, зачыняючы дзверы, усміхнулася. Яна сапраўды выпраўлялася ў царкву.

* * *

У старым календары знаходжу запіс: «24 красавіка — Юр’е». Чуў ад маці, што перад Юр’ем грады садзілі. Але шулаў, калі гарадзілі плот, не закопвалі — дажджу, казалі, не будзе. А наогул Юр’і ў годзе два. Наконт гэтага і прымаўка ёсць: «Два Юр’і і абодва — дурні. Адзін галодны, другі халодны». Не вельмі вясёлая прымаўка. І згадаўся чамусьці той гультаяваты вясковец, які ніколі не лез у кішэню па слова.

— На Юр’е, — казаў ён, — бабу юр бярэ.

— Во цябе ніякі чорт не бярэ, — злавалася ягоная кабета. — Ішоў бы плот паправіў, а то ўжо свінні чужыя праз праслы скачуць.

— Добраму чалавеку і пасмяяцца не дадуць, — апраўдваўся потым вясковец. — Плот гарадзіць я пайду, а шуло ты закопваць будзеш…

* * *

У. Маякоўскі заклікаў пісаць пра час і пра сябе. Многія так і пісалі ўсё сваё творчае жыццё. Але ёсць шмат і тых, хто піша выключна пра сябе і ад сябе. Па-руску гэта называецца — «отсебятина». Можа, гэта і дрэнна, але інакш пісьменніку і нельга.

* * *

Мастаку-карыкатурысту, які намаляваў на мяне шарж, крыху здзеклівы ў выявах знешнасці, сказаў ці хацеў сказаць так: «Не такі страшны чорт, як яго малююць».

* * *

Стары вясковы пейзажык сёння з лясной дарогі ўбачыўся інакш, як некалі. Зялёны вяночак маладога хвайнячку ахапіў невялікі падлесак пры старым амшары і стаўся яго працягам. Да самога вяночка падступае больш святлейшай зялёнай даланёй лагчына. Хораша глядзіцца і новая дарога-асфальтоўка, што перасякае лагчыну ў былым Малінніку (ад малін там мала чаго засталося) і змейкаю бярэцца пад гару. Акурат на яе месцы некалі прабягала палахлівая сцяжына. Палахлівая, бо пераслана яна была скрозь жардзянымі кладкамі, якія ратавалі ад хісткай дрыгвяністасці. Баяўся я малым гэтай мясціны, дзе да ўсяго хапала яшчэ і гадаў, і вужоў. Аднак душы ўсё-ткі жадаецца аднаго: хай бы ўсё так было, як у дзяцінстве. Але так ужо не будзе, як і не будзе ў мяне яшчэ аднаго дзяцінства.

* * *

Вечарам у вясковай хаце доўга гаманілі пра тых самых іншапланецян. Тэму падкінуў сам тэлевізар. Загаманіліся і не заўважылі, як прыспела поўнач. Сын гаспадароў, студэнт, што прыехаў з далёкага горада, папрасіўся спаць на печ. А ноччу, калі добра прыпякло бакі, запаліў ліхтарык і пачаў ссоўвацца з печы. Але дарогу яму перагарадзіла маці з віламі і чапялой адразу.

— Вы што гэта, мама? — разгубіўся ён. — Гэта ж я…

— А хай цябе халера, — кінула сваё «ўзбраенне» маці. — Гэта ж мне сасну падалося, што іншапланецянін крадзецца… А хто ж можа быць з адным вокам уначы? Га?..

* * *

Усё ў гэтым свеце старэе і зношваецца. Старэе нават думка пра вечны рухавік, бо мала даверу і самому паняццю вечнасці. Старэе, на жаль, і слова літаратурнае. Не, не ад частага, а проста ад няўмелага ўжытку робіцца слова надакучлівым. Не надакучвае ж яно ніколі ў малітве. Відаць, пісьменніку трэба і шукаць таго велічна-малітоўнага.

* * *

Не звыкся ў жыцці кланяцца, згінацца перад некім. А старасць цішком, але настойліва пачынае вучыць гэтаму. Пяць, а можа, больш разоў учора

выцяўся аб тоўстую галіну бярозы, калі збіраў грыбы ў амшары. Дома прыгнуцца амаль да зямлі прымусіла галіна старой яблыні. Потым атрымаў гузака ад вершніка ў нізенькім дзвярным праёме лазні. Тут хочаш не хочаш, а будзеш згінацца. А гузакі? Іх хапала ў маім жыцці. І не пахвалішся, што былі яны жыццёвай навукай.

* * *

У пасляваенныя гады было не да гурманства. Але свае далікатэсныя стравы людзі мелі і тады. Смакатой несусветнай для мяне быў і застаецца халаднік з маладога паслязімовага, далікатнага, падобнага на мышыныя вушкі, шчаўя. Ах, як смачна сёрбаўся ён з гарачай варанай бульбай цёплымі веснавымі вечарамі. Халаднік — страва вечаровая.

А вось у бацькі майго ад самога сірочага маленства і на ўсё жыццё любімай стравай заставалася цюрка. Што гэта такое? А гэта хлеб, густа накрышаны ў халоднае малако. І гатаваць як проста! Быў нядаўна ў вёсцы і паспытаў гэтай самай цюркі. І нічога больш не захацелася. Цюрка пасля заціркі другая па важнасці страва.

* * *

У сённяшняй вёсцы даверу няма цыганам. Ужо і прымаўка новая з'явілася: «Цыганы ў хату — дзверы на засовы». Чаму ж так сталася? Памятаю, некалі гаспадары самі запрашалі цыганоў у хату, нават усаджвалі за стол. А цыган Агдаля з мясцовага табару, што стаяў на грудзе за Астравамі, быў у тутэйшых вёсках нарасхват. Яго залівісты гармонік цешыў слых усяго навакольнага люду. На тутэйшых вечарынах Агдалю віталі чаркай, а праводзілі з мяшком мукі ці круп.

У няпісаным статуце пушчанскага жыцця закон замка тады не значыўся. Замкі з'явіліся пазней. І няма спадзявання, што яны калі-небудзь знікнуць.

У школе ў нас былі ўрокі малявання. Паперы тады бракавала, і мы малявалі на нейкіх абрыўках газет, квіткоў. Я адно толькі і навучыўся — маляваць дамы. Добра малявалася страха з дымком ад коміна, вокны і дзверы. А вось замкі на дзвярах маляваць нас не вучылі. Не, цыганы тут ні пры чым. Трэба іншую шукаць прычыну людскому недаверу…

* * *

Можа, правіла тое і не залатое, але пісаць трэба для іншых, а чытаць толькі для сябе.

* * *

У старым пісьменніцкім Бюро прапаганды ён слыў не апошнім «карэспандэнтам-арганізатарам» — так называлася тады ягоная пасада. А сам меў задаткі нядрэннага гумарыста, хоць паміж намі даволі нявесела скардзіўся на свайго дарослага сына, які раніцой «мыецца ў адэкалоне». Страшнага ў гэтым я нічога не бачыў, хоць разумеў чалавека, у якім сялянскае, падкрэслена бацькоўскае, сядзела так моцна, што не магло яго прымірыць з «выбрыкамі» і «капрызамі» новага часу.

* * *

Калісьці думаў, вось пастарэю, выйду на пенсію і не буду ведаць, што рабіць з часам, якога ў мяне будзе ў запасе на некалькі будзільнікаў. Аднак памыліўся. Часу ў мяне паменела. Яго і забіраюць тыя самыя будзільнікі, што звоняць то на адно, то на другое вуха. А слухаць іх даводзіцца ўжо аслабелым сэрцам.

* * *

Некалі пушчанцы казалі: «Калі жывеш — дык гэта добра, а калі добра жывеш — гэта цудоўна, а калі цудоўна жывеш — так не бывае…» Хай жа будзе так, як бывае.

* * *

Звярнуў увагу на пейзажык у сціплай рамачцы, што даўно вісіць на сцяне ў рэдакцыі часопіса «Вожык». А на малюнку тым — рака, што толькі пачынае адтайваць пасля зімы. Дужа ўражлівае гэта першае веснадзейства. А калі даведаўся, што карціну падаравалі рэдакцыі ў адной з калоній зэкі, дык адразу і на сэрцы адтала… Расчулілі…

* * *

У творцаў часам здараецца і такое: пад добрай чаркай успыхвае натхненне, і яны бяруцца за пяро. Якім жа смешным, а то і жахлівым бывае назаўтра цвярозае прачытанне напісанага!.. Выхад тут можа быць наступны: тое, што напісалася «пад чаркай», пад ёй жа праз нейкі час трэба і пачытаць. Нейкі сэнс адразу адшукаецца… Прашу лічыць маю параду толькі гумарам, а не заклікам да пахмелля.

* * *

Не раю дужа хваліцца сваімі вялікімі настаўнікамі. І ў вялікіх настаўнікаў бываюць дрэнныя вучні. А тыя, лепшыя, павінны пераўзыходзіць сваіх настаўнікаў. У гэтым сутнасць творчай пераемнасці.

* * *

Сённяшні час нарадзіў шмат так званых герояў «капіталістычнай працы». Ніякіх залатых зорак ім, праўда, не даюць. Гэтыя бяруць сваё валютай.

* * *

Некалі нас упарта змушалі пісаць пра сучаснасць, а яна сама ўпарцілася і адсылала нас да мінулага. Таму такімі прыцягальнымі былі гістарычныя раманы, а яшчэ больш — рэчы дакументальныя.

* * *

Зімой з пушчы вазілі настагаванае летам сена. Шмат яго выскубвалі сваімі галінамі на лясной дарозе прыдарожныя дрэвы. Сена тое дарма не прапада-

ла — ім ласавалася пушчанскае звяр'ё. Гэта, паэўна, занадта — «ласавалася»… Ратавалася… А ласавацца будуць потым ужо імі, зайцамі ды казулямі…

* * *

Як шмат сёння мы гаворым пра рынак!.. Свет і напраўду нагадвае рынак.

Нават пад маленькай страхой сёння можна пабачыць вялікі гандаль. Вунь у адным закуточку прадаюць парфуму, а ў другім пацягваюць мацнаваты напой, у трэцім гартаюць важкі фаліянт, які так ніхто і не купіць, а ў гэтым — хораша выводзяць хорам народную песню, якую слухаюць толькі некалькі пар вушэй, а то і адным вухам, а тамака — нехта расхрыстана скача. Весяляцца, пасмоктваюць цукеркі снегіркі-дзеці. І нікому няма справы да самотлівага і адзінокага Паэта, што сумна назірае за ўсім гэтым. Павінен жа быць хоць адзін, хто не прадае, і не купляе, але ўсё лепш за ўсіх разумее…

* * *

Пра ўсё наша, мужчынскае, ды і пра нас лепш за ўсё ведаюць часцей за ўсё нашы жанчыны. Гэта ж і жонка майго аднавяскоўца, які ў вайну трапіў у нямецкі палон, быў вывезены ў чужую краіну, але, на шчасце, вярнуўся адтуль жывым і здаровым, пра тую самую Германію распавядала куды цікавей, чым сам ён, быццам у палоне быў зусім не ён, а яна, жанчына, якая далей суседняй вёскі нідзе і не адлучалася.

* * *

На другім дзясятку дваццаць першага стагоддзя пісаць, дзякаваць богу, умее амаль кожны, а вось тварыць здольныя толькі адзінкі з іх. Вось тут і ўзнікла праблема: усім раптам захацелася называцца тымі самымі «адзінкамі».

Але ж гэта і з матэматычнага боку, і з усіх іншых бакоў, пазбаўлена ўсялякай логікі. Ды пачакаем яшчэ век-другі, можа, і сапраўды ўсе трапім у катэгорыю зямных творцаў.

## Глыбіня і вышыня

Паэты любяць чапляцца за гэтыя два загадкавыя, але зручныя паняцці. Паглядзім, што пра іх кажа наш незаменны слоўнік-тлумач. А кажа ён, што вышыня — гэта «высокая прастора над зямлёй», а глыбіня— гэта «месца, значна аддаленае ад чаго-небудзь». Усё быццам і так. «Аддаленыя» яны, праўда, абедзве, толькі адна — уверх, а другая — уніз. А цяпер глянем, як яно часта бывае ў жыцці.

Дзіўная істота ўсё ж ён, чалавек. Богам наканавана яму хадзіць па зямлі. Прырода падаравала яму для гэтага ногі, папярэдзіўшы, што пра абутак ён павінен паклапаціцца сам. І чаго, здавалася б, яшчэ хацець. Дык не, патаптаўшыся ўдосталь на роўнай і няроўнай, цвёрдай і мяккай паверхні, пачаў ірвацца ён да неба ды вады. Пазайздросціў, бачыце, птушкам ды рыбам. І ці раз потым раскайваўся за сваё легкадумства. Але зайздросніку так і трэба…

Мая першая вышыня пачалася з не такой ужо і высокай яліны ў родным амшары. Убачыўшы на густаватай яе кроне шапкаватае вароняе гняздо, палез я, каб паглядзець, што ў ім робіцца. Крыху падрапаўшы рукі і твар, дабраўся да тае галіністай шапкі, а там спакойненька ляжаць пяць блакітнавата-зялёных, з бураватымі плямкамі яечак. Я нават не пакратаў іх, асцярожна падаўся ўніз. Мае сябрукі часта хваліліся, як яны спорвалі і знішчалі птушыныя гнёзды, нават ластаўчыныя. У іх разуменні гэта было геройствам. Я з гэтым не згаджаўся, бо ведаў, адкуль паходзіць рабаціннe на іх тварах. Так, даводзілі мне старэйшыя, Бог караў іх за тыя самыя разбураныя гнёзды. Рабацінне нібыта з птушыных яечак пераходзіла адразу на твар. Мне хацелася мець твар чысты. А потым я зразумеў, што да чыстага твару патрэбна яшчэ і чыстая душа.

Другой маёй вышынёй стаўся самалёт. Зусім прымітыўны, стракозісты, які ў нас яшчэ і зараз называюць кукрузнікам. За тое, відаць, што дужа дапамагаў на хімічнай праполцы «каралевы палёў». Я толькі што скончыў школу і працаваў у Капыльскай раённай газеце. І тут тэрмінова паклікалі ў Мінск. Я замітусіўся, кінуўся на аўтобусную станцыю і, бачу, што не паспею у той, мне прызначаны час, быць на месцы. У рэдакцыі мне падказалі выйсце — ёсць мясцовы самалёт, якраз на ім можна выйграць час. Крыху баючыся, падаўся за горад, на тое самае канюшынішча, з якога і ўзлятала мая «стракозка». Самае страшнае было ўзляцець, давялося нават заплюшчваць вочы, пакуль маленькі наш самалёт разганяўся ды падскокваў на няроўным канюшынішчы, а калі пад крыламі паплыла ды пачала куляцца зямля, хораша, як пасля чаркі, закружылася галава, і ўсё, што было ўнізе, пачало памяншацца ў памерах, набываць больш роўныя і строгія абрысы. Не паспеў я добра і налюбавацца тым, убачаным звысоку, як самалёт пачаў зніжацца, а хутка і зусім прызямліўся. Сапраўды, у вышыні ёсць свой смак, зразумеў я тады, і зусім перастаў яе баяцца. І з’яўляецца ён тады, калі пераможаш свой страх. У жыцці ёсць шмат страшнага і рызыкоўнага, але яно робіцца падуладным табе, калі ты перамагаеш свой страх. Трэба з малых гадоў вучыцца выганяць са свайго нутра таго звярка страху, які пасяляецца ў чалавека разам з яго нараджэннем. На гэту навуку вялікіх здольнасцей і не трэба — патрэбна рашучасць.

Дзве мае наступныя вышыні маглі для мяне скончыцца і зусім трагічна. Гэта ўжо было ў войску, куды і пайшоў служыць проста са студэнцкай аўдыторыі. Вычыўся я тады ў сяржанцкай школе, а на практыку нас паслалі ў вайсковую будаўнічую часць. Мне падабалася, што служу я ў самай мірнай на свеце арміі, якая вучыцца не толькі ваяваць, а і будаваць. Ды не толькі вучыцца, а і будуе. Праўда, у тым гарадку, куды нас прыслала наша ваеннае начальства, будаваліся зусім не мірнага характару аб’екты. Нешта хітрае і магутнае хавалася пад карэннямі елак ды соснӑў. Можна было толькі здагадвацца, што яно такое. Але якая нам справа да нейкіх там ваенных таямніц! Служба ў нас мірная — і добра! Будаваліся ў ваенным гарадку і жылыя пяціпавярховікі. Будавалі іх мае аднагодкі, «стройбатаўцы». Гэтым словам часта нібы падсмейваліся з нашага брата: «Ведаем мы, якія з вас ваякі. Яшчэ нядаўна лыжку ў халяве насілі. І зброя ваша — кірка ды лапата». Мяне гэта, калі шчыра, не вельмі абражала. У мяне быў свой аргумент: я і ў войску застаюся мірным чалавекам. А вось зямляк мой з Маладзечна засаромеўся сваёй «стройбатаўскай» службы, нават напісаў заяву на імя гарнізоннага начальства, што не згодзен служыць тры гады ў якасці нейкага там бетоншчыка трэцяга разраду, яго рукі сумуюць па сапраўднай зброі. Хлопца я разумеў — яго бацька меў Зорку Героя Савецкага Саюза. Напэўна, фамільны гонар не дазваляў яму апускацца да салдата самага непапулярнага роду савецкіх войск. Земляка ўважылі і неў-

забаве перавялі ў роту аховы, а там ужо вайскоўцы мелі на ўзбраенні аўтамат, хоць і з халастымі патронамі.

Нeяк мы групкай курсантаў стаялі ды курылі каля вялізнага вежавага крана, абыякава паглядалі, як ціха застыла і амаль зраслася з аблокамі даўжэзная жалезная страла з высакавата падцягнутым крукам. На канцы стралы вецер гуляў з маленькім чырвоным сцяжком, якога я раней ці не заўважаў, ці яго проста там не было. Адзін з нашых пахваліўся, што бачыў, як учора кранаўшчык-грузін зусім лёгка падымаўся па страле на такую падвоблачную вышыню і чапляў той сцяжок.

— Смяльчак, грузін, — сказаў нехта. — Я і пад пісталетам не палез бы туды.

— Дык то ж грузін, яны хлопцы адчайныя, — выказаўся другі.

І тут як хтосьці пацягнуў мяне за язык:

— Падумаеш, і я, не грузін, змог бы!..

— Ты? — паглядзеў на мяне з дакорам наш яфрэйтар Сяргей.

— Я!.. Магу закласціся на што хочаш…

— Даю пяцёрку, калі ты на гэта адважышся і здымеш той сцяжок, — і яфрэйтар тут жа выцягнуў з левай верхняй кішэні гімнасцёркі складзеную папалам купюру. Старая савецкая пяцёрка мела сваю вагу. Адступаць не было куды, і я па лесвіцы пачаў падымацца да кабіны крана, а неўзабаве апынуўся і на самой страле. Быў нядзельны дзень, будоўля адпачывала, і нашай, а хутчэй за ўсё маёй, выхадцы, ніхто не мог перашкодзіць. Крыху затрэсліся мае паджылкі, калі пачаў дабірацца да сярэдзіны стралы. А яна, вунь, аказваецца, якая доўгая. Гэта толькі знізу, здалёку ўсё здаецца не такім страшным. Чуў я некалі ад некага са старэйшых, што на вышыні галоўнае не глядзець уніз, бо закружыцца галава, і ты можаш не ўтрымацца, гухнуць вобзем. Як жа да месца ўсё гэта мне зараз прыгадалася. Я стараўся глядзець толькі ўверх, на той самы сцяжок, што трапятаўся на самым канцы стралы. Дзень быў вераснёўскі, сонечны, яшчэ па-летняму цёплы. Толькі цяжка апісаць тое, што тварылася ў мяне ўнутры. Зрабілася раптам страшна-страшна, здалося нават, што я застыў у нерухомасці, не адчуваю ні рук ні ног сваіх, а праз нейкі момант нават адчуў, што рукі мае нібыта прырастаюць да жалеза, захацелася нават плюнуць на ўсё і паціху апускацца назад, бо каму яна патрэбна, гэта мая рызыка. Але што потым скажуць хлопцы? Жаданне быць у іх вачах хоць якім, ды героем, зноў падштурхнула мяне ўгору. І вышыня мая паціху паддавалася мне. Недзе пры самым канцы страла нібыта загайдалася, ці магчыма, гэта мне толькі здавалася. Гэта быў той самы выпадак, калі хвіліны здаюцца чалавеку вечнасцю. Яшчэ нейкага паўметра, яшчэ адзін уздых, і я застываю, затаіўшы дыханне, бо датыкаюся да канчура са сцяжком. І вось ён у маёй руцэ. Я запіхваю яго пад салдацкую папружку. А далей — маруднае-маруднае вяртанне назад тым жа шляхам, з перадыхамі, прыпынкамі, аж да самай кабіны, да лесвіцы праз яе… Казалі, на зямлі мяне было не пазнаць, я змяніўся ў твары. Сябры потым прызнаваліся, што яны таксама баяліся за мяне, можа, і не менш майго перажывалі. Але я хутка ачуўся, урэшце з'явілася на душы і тое самае геройскае адчуванне, а ў кішэні ляжала тая самая пяцёрка. Мы адразу ж прыдумалі, як яе патраціць. І прыдумка гэтая была чыста мужчынская, з тым самым таемным пачастункам, на які не даюць, на жаль, дазволу ваенныя статуты.

Была ў мяне і яшчэ адна вышыня, самая небяспечная. Часам заплюшчу вочы, уяўлю яе — і па сэрцы прабяжыць нязвыклы халадок. І праз шмат гадоў не сышоў, не развеяўся даўні страх. А было яно вось як.

На трэцім, апошнім годзе сваёй вайсковай службы трапіў я ў будаўнічую брыгаду свайго земляка — захацелася зарабіць крыху грошай, каб купіць хоць нейкую адзежыну, каб вярнуцца з Масквы, дзе я тады служыў, зусім цывільным чалавекам. Ваенным будаўнікам тады плацілі. Хай і скупаватыя, але гэта былі грошы. А я, недавучаны студэнт, рыхтаваўся да вучобы, якая перапынілася на трэцім курсе, і рубель мне яшчэ як быў патрэбны. Праца ў брыгадзе была не такая ўжо і складаныя. У адным з кварталаў Ізмайлава мы правілі-рамантавалі дахі наспех зляпаных хрушчоўскіх шматпавярховікаў. Трэба было ратаваць жыхароў тых дамоў, кватэры якіх бясконца залівалі не толькі дажджы, але і снег, які пачынаў увесну раставаць. Найбольш цярпелі ад гэтага жыхары самага апошняга паверха, але даставалася макраты і астатнім. І сёння не разумею, чаму тыя дамы выводзілі пад плоскія, як даліна, дахі, вельмі падобныя на сярэднеазіяцкія хаціны. Хоць што тут разумець — рабілася абы хутчэй, абы танней. Паўтаруся: праца наша надта вялікіх намаганняў не каштавала. Пры бакавой сцяне да самага франтона мы ўсталёўвалі жалезны пад'ёмнік з драўлянай пляцоўкай, тут жа ў двары распальвалі агонь, разагравалі на ім бітум, а потым падавалі яго на дах, а там ужо залівалі-латалі старыя швы, а зараз — шчыліны. Самае цяжкае было ўсталяваць, узняць да верху той пад'ёмнік. Падымалі яго па секцыі, кожная з якіх рухалася ўверх і давала месца наступнай, ніжняй, па меры падымання іх змацоўвалі балтамі. А вага ў кожнай жалезнай секцыі была яшчэ тая! Для такой работы, вядома ж, патрабавалася падстрахоўка. Была яна даволі прымітыўнай. І, як потым я зразумеў, ненадзейнай. Пад'ёмнік, які паступова выцягваўся ўвышыню, прытрымлівалі тры доўгія драціны, дзве з іх трымалі з двух бакоў два дужаватыя хлопцы на зямлі, трэцюю ўвесь час, па меры пад'ёму, падцягваў нехта на даху. Найцяжэй было таму, трэцяму. Па-першае, наверсе амаль нічога не бачыш, што робіцца на зямлі. Па другое, не чуеш голасу брыгадзіра, які кіруе ўсёй «аперацыяй», бо шуміць-гамоніць двор. На двары — лета, а ў двары — дзіцячы сад, якраз пад вокнамі нашага дома. На ролю таго трэцяга згаджаюцца хіба толькі дурні. А мяне і не спатрэбілася ўгаворваць. Зноў жа, падвёў той самы доўгі язык. І тут неяк само сабой ляпнулася, што я не баюся вышыні. А хлопцам гэтага толькі і трэба. «Давай, Казюк. Скачы на дах!» — абрадаваліся яны. І я «паскакаў». І нічога сабе пачуваюся там. Бегаю я па тым даху, пазіраю зверху, як мурашачкамі ў двары дзіцячага сада мітусяцца дзеці, прыглядаюся нават да балкона насупраць, дзе ў купальніках загараюць дзве прыгажуні з кнігамі ў руках, студэнткі, відаць. Я ж і сам пачуваюся студэнтам, хоць і недавучаным. Спрабую паўсміхацца ім здалёк. Пакуль унізе змацоўваюць чарговую секцыю, у мяне вольны час. Я даволі хутка асвоіўся на тым версе, драціну сваю закруціў за нейкую трубу, зусім не здагадваючыся, што тая тут амаль дэкаратыўная, ніякай трываласці пад сабой не мае.

— Падымаем наступную! — чую голас брыгадзра знізу, і я мацней накручваю на запясці рук тую драціну. Супакойваю сябе тым, што да самага верху сцяны засталося ўжо зусім мала. І раптам як штосьці тузанула мяне ўправа. Прарэзлівы страшны крэкт жалеза разануў па вушах, і я зразумеў, што пад'ёмнік наш пацягнула ў правы бок. Кінуўся адразу да знаёмай трубы, і, не размотваючы драціны з рук, абкруціўся вакол яе. Але труба нечакана адрываецца ад даху і разам са мной паўзе да яго краю. Я крычу, на колькі маю сілы, але голасу свайго не чую. Мяне бязлітасна цягне нейкая шалёная сіла, дзярэ і зрывае на хаду штаны, ірве на спіне і локцях гімнасцёрку. Можна выпусціць з рук тую драціну, і тады буду выратаваны, але ніштo ўжо не ўтрымае вялікай жалезнай аграмадзіны, яна грымнецца проста на дзяцей у двары. Які жах!. А мне ўжо ўсё, ратунку няма… Я палячу разам з той аграмадзінай. Нешта моцнае стукае ў скроні, я глухну і заплюшчваю вочы…

Боты мае нечакана ўпіраюцца ў невялікі выступ на франтоне, а пад'ёмнік няспына хіліцца да нізу. Драціна пераціскае мае рукі, і зараз яны проста будуць раструшчаны. У такія хвіліны імгненні расцягваюцца да вечнасці. Вось-вось і я буду ўжо яе сляпой ахвярай, толькі адплюшчу вочы. І тут чыесьці рукі побач з маімі хапаюць сярэдзіну драціны, потым яшчэ адны рукі…

Не, мы не далі ўпасці жалезнаму страшыдлу, мы выйшлі з гэтага двубою пераможцамі. Тады, там, на версе я не быў ужо самім сабой, нехта іншы быў у маёй скуры і кіраваў мною. Калі я крыху ачомаўся, дык папрасіў у хлопцаў хутчэй адшукаць хоць якую адзежыну. На даху я стаяў зусім голы, але дзякаваць богу, жывы. Смяяліся на балконе насупраць дзве прыгажуні, так і не зразумеўшы, што адбылося.

— Сёння трэба падаваць рапарт на медаль табе, — казаў разгублены брыгадзір. — Ты цягнеш на героя. А табе! — павярнуўся ён і памахаў кулаком таму, хто стаяў на расцяжцы справа. Той, што справа, і быў усяму віноўнікам. Прыдрамаў ён на летнім сонцы, ці што, бо тузануў незнарок сваю драціну, і раўнавага была згублена. Ніякага медаля, нават падзякі за тое сваё геройства я не атрымаў. Пра тое нават да самага дэмбеля ў часці нашай ніхто не ведаў. А калі б ведалі, дык атрымалі б мы хутчэй за ўсё тое, што даюць, за «злоснае парушэнне правіл бяспекі». Дый і для мяне гэта было ніякае не геройства, а перапалох, якога хапіла на ўсё жыццё.

Нядаўна ў самым цэнтры Мінска бачыў, як маладыя будаўнікі латаюць стары бляшаны дах. Ніякага жалезнага пад'ёмніка ў іх няма, сам цяжар падымаецца на лёгкіх лябёдках-лінках. Дом унізе папераджальна абцягнуты чырвона-белай паласатай істужкай. Паглядзеў, і ўсміхнуўся сам сабе, згадаўшы тое, далёкае.

Ну, відаць, і хопіць пра вышыні. Былі ж у мяне і свае глыбіні. Крыху пра іх.

Нарадзіўся і вырас я каля маленькай рачулкі, дзе ніколі не было ніякіх тапельцаў. Але чуць пра іх мне даводзілася. Гэта, калі згадвалі пра не такі і далёкі ад нас Нёман. Я чуў пра шалёныя нёманскія віры і заўсёды баяўся глыбіні. Плывец з мяне ў гэтым жыцці атрымаўся неважнецкі, амаль ніякі. Таму і адчуваў заўсёды гнятлівую чалавечую няёмкасць на далёкіх і людных берагах. Можа, па гэтай прычыне і выбіраў для адпачынку самыя ціхія і бязлюдныя берагавыя месцы. Відаць, нядрэнна пачуваўся б я і на бязлюдным востраве, часта жартую, калі ёсць на тое нагода.

А тым летам нас паклікала Азоўскае мора. Шыракаватая пясчана-стэпавая паласа, што падзяляла мора з салёным высахлым возерам Сіваш, называлася Арабацкай стрэлкай. Мы, тады яшчэ маладая сям'я, атабарыліся ў невялікай вёсцы з татарскай назвай Чэкрак. Цэлыя дні, а здаралася і ночы, прападалі на беразе. Я вельмі хутка асвоіўся з характарам самога мора, навучыўся размаўляць з хвалямі, смела скакаць у шумлівы прыбой, лёгка падстаўляць твар яго салёным пырскам. Мясцовы люд выклікаў у маіх вачах захапленне Тут любілі наталяцца свежай лагодай вады, спрытна рассякалі марскія хвалі, і малыя, і дарослыя заплывалі далёка за цёмную паласу, дзе пачыналася сапраўдная глыбіня. Мясцовым я па-добраму зайздросціў. Мора ў гэтых людзей, магчыма, самае дарагое, што ёсць у іх жыцці. І ў самыя жахлівыя штормы, калі марскія пыркі цаляюць проста ў вясковыя вокны, мора робіцца яшчэ больш сваім для тутэйшага чалавека, нагадваючы яму, што ў прыродзе ёсць не толькі прыгажосць, але і свая злосць і лагода. Я ніколі не бачыў у часе шторму нейкага смутку на тварах, наадварот, мне здавалася, што ў вачах тутэйшых людзей тады яшчэ больш дабаўляецца святла і блакіту. Было, праўда,

і сумнае. Аднойчы пасля шторму мора выкінула на бераг цела тапельца. Так закончыў свой жыццёвы шлях тутэйшы нямко. Людзі мала гаварылі пра тую смерць. Мора тут, напэўна, невінаватае. Няшчасныя выпадкі здараюцца, як вядома, усюды.

Маё панібрацтва з морам магло мне дорага каштаваць. Хоць плюхаўся я разам з жонкай і малой дачкой пры самым беразе. Мне зусім хапала глыбіні ў мой рост, але мора нібыта дражнілася са мной. Паманіць нейкай дзіўнай рыбінай, што блісне срэбрам на самым грэбні хваль, то нейкім цеплаходам, рамантычным ветразем слізгане на даляглядзе. Наогул, рамантычнага, знешнепадманлівага ў яго вялікасці і неабсяжнасці вельмі шмат. А ў сонечнае і ціхае надвор'е яго паверхню можна параўнаць хіба што з нейкім дзіўным і вялізным сподкам, дзе блакіт супернічае са срэбрам і золатам. І ўсё гэта нагадвае дзіўную варажбу самога сонца, бо ўсё дзеецца з яго вышэйшай ласкі.

Мала бачыў на той морскай прасторы і нейкіх маленькіх лодак ці чоўнікаў, людзей з вудамі ці невадамі, як я ўжо казаў, таксама мала бачыў. З далёкіх ускраін вялікага свету сюды дабірацца было не так і проста. Калісьці на Арабацкую стрэлку вяла старая чыгунка, бегалі нават цягнікі. Але аднойчы бушуйны шторм дасягнуў такой сілы, што перавярнуў тое чыгуначнае палатно ўверх нагамі, у вузлы павязаў самі рэйкі, і ўсе на доўгі час забыліся пра даўні зручны шлях. Да ўсіх астатніх за чыгункай шторм сваіх прэтэнзій прад'яўляць не захацеў.

Мора ўмела хітраваць, як я потым пераканаўся. Хітраванне гэтае добра згладжвала ягоная лагоднасць. Кожны раз, кіруючыся раніцой на той бесклапотны бераг, апроч бідончыка вады ды нейкага перакусу, бралі мы з сабой і нейкую посцілку, і гумовы матрац, напампаваўшы які, можна было на ім і паляжаць, і нават пагайдацца на хвалях. Было б жаданне, і на тым матрацы плыві, куды дазваляюць самі берагі мора. Спадабалася мне ў ціхі сонечны дзень гайдацца на хвалях на тым стракатым матрацы — сам быццам ляжыш на адным месцы, а, здаецца, недзе плывеш, сонца пяшчотна лашчыць тваё цела, на ім усё лускуецца і залаціцца, блізкі далягляд цалуецца з вадою, а табе так хораша думаецца і марыцца пра нясконцасць чалавечага існавання, забываюцца нейкія даўгі, звады і крыўды, што меў ты да гэтага недзе там далёка, ля сваіх родных берагоў. І аднойчы, закалыханы той падманнай марской лагодай, я прыснуў, а калі адплюшчыў вочы, то ўбачыў, што бераг ад мяне ўжо занадта далёка. Дзень бязветраны, хвалі ледзь-ледзь акрэсліваліся грабяністымі сінімі маршчынамі, можна было б, ціха вяслуючы рукамі, спакойна плыць да берага, але я, сонны, да таго не дацяміў. А спалохана здрыгануўшыся ад убачанага, амаль нырцом паляцеў у ваду. Некалькі разоў баўтануўшыся ў ёй, адчуў, што дна пада мною няма. Нешта два разы крыкнуўшы, я захлібнуўся вадой і раптам адчуў тыя моцныя рукі, якія заўсёды цягнуць тапельца на дно. Толькі краем вока змог ухапіць далекаваты сонечны бераг і ўбачыў на ім сваю маленькую дачку. Гэта была толькі маленькая марская кропля, якая імгненна згасала ў маіх вачах. Ачомаўся, калі адчуў пад сабой тупкаватае прыбярэжнае дно. За рукі і валасы мяне цягнулі дзве гаспадаровы дзяўчынкі, яшчэ не старшакласніцы-школьніцы, мае дарагія выратавальніцы. На беразе ў той дзень было шмат незнаёмых людзей, але мала хто заўважыў тое, што адбывалася са мной. Кожны быў заняты сваім. А хто і заўважыў тое, напэўна, падумаў, што людзі ад бесклапотнасці выдурняюцца. А я тут жа падаўся ў краму па цукеркі, каб аддзячыць сваім мілым выратоўніцам. Магчыма, я стаўся б і нядрэнным плыўцом, калі б не той недарэчны выпадак, а пасля яго яшчэ больш пачаў баяцца глыбіні. Не, не вады, а глыбіні. І хай сабе нехта

ўбачыць у гэтых словах нейкі падтэкст. Крыўдаваць не буду, бо чалавек кожны шукае ў жыцці толькі нейкай глыбіні ці вышыні. А я вось апёкся…

А пакуль чытачу не надакучылі мае сумныя прыгадкі, прыпынюся крыху на больш весялейшым. Але размова і тут пойдзе пра тую ж самую глыбіню. У жыцці мне шанцавала на добрыя знаёмствы з шахцёрамі. А што тычыць падзем’я, апускаўся толькі ў метро ды ў рамантычныя Новаафонскія пячоры. У апошніх палохала не глыбіня, а жалезная разбітая «калясніца», што на вялікай хуткасці з вушараздзіральным бразгатам імчыцца ў глыб гораў. Я гэта сцярпеў, як і ўсё астатняе, што выпадала на маю грэшную душу. Цягнула ў шахты. А тут у Беларусі з’явіўся свой шахцёрскі горад Салігорск, дзе ў мяне ёсць нават добрыя сябры. Неяк яны падаравалі мне шахцёрскі ліхтарык, які аднойчы мне ў пушчы свяціў усю ноч і не перагарэў, а я пры гэтым сядзеў у добрай кампаніі ды амаль не думаў пра тое, падземнае. А да шахты ўсё так і не даходзіла. Ды нядаўна пашанцавала.

Пісьменніцкай брыгадай адправіліся мы ў падарожжа па нашай Міншчыне, завіталі і ў Салігорск. А там, вядома ж, наведалі і нашых калійшчыкаў. Тут і прапанавалі нашаму брату апусціцца разам з шахцёрамі ў забой. Скінулі мы сваё звыклае адзенне, пераапрануліся ў шахцёрскія мяшкаватыя робы, насунулі на галовы пластмасавыя каскі, у лямпавой атрымалі ліхтары і вось ужо ў вялізнай бразготкай клеці ляцім, апускаемся ўніз. Ах, гэты чалавечы страх! Нідзе на зямлі і пад ёй ад яго не схаваешся. Але мы ўжо пад зямлёй. На дварэ лістапад, восьмы яго дзень, ідзе да завяршэння 2011 год. А тут, пад зямлёй, сваё царства, тут не прызнаюць ніякіх пораў года. Зямля ўнутры жыве сваім унутраным жыццём. Мы апускаемся на глыбіню 600 метраў. Адчуванне пад зямлёй такое, нібыта спраўдзіўся нейкі далёкі сон дзяцінства. Тут, у цесным паўзмроку, дзе бегаюць нейкія машыны, бягуць ваганеткі, неяк дзіўна, не пазямному выглядаюць самі людзі. Падзямелле сціскае душу, нават думкі. Душа адразу просіцца наверх. Але ж людзі тут працуюць штодзённа, апускаюцца і падымаюцца. Нялёгкая праца. А ў нас, грэшных, толькі нейкая прагулянка. Што можна адчуць паэту тут, глыбока пад зямлёй? Хіба самоту, вусцішнасць, нейкую небяспеку… А можна падумаць і пра сумнае — гэта ж тут, у гэтых нетрах, у рэшце рэшт закончыцца некалі для кожнага з нас наш зямны шлях. Але навошта так сумна?! Вунь бразготкая клець зноў імчыць нас наверх, на зямлю. А там — вясёлы асвяжальны душ, зноў пераапрананне, смех, жарты. Прагуляліся… Вечарам кожнаму з нас выдалі лісткі сертыфікату, дзе хутчэй з гумарам, чым сур’ёзна пазначана, што ты «ўпершыню адолеў 600-метровую глыбіню «Старобінскага месцанараджэння калійных соляў і папоўніў гвардыю шахцёраў горада Салігорска». Потым пажартуецца: «Быў глыбока пад зямлёй — значыць, ты цяпер нарэшце глыбокапаважаны!» Так і ў вершы потым напішацца:

Лежачы, працую над радком,
А ў забоі мне не трэба гнуцца.
Бачыш, труся ля якіх вякоў,
А радкі часовыя снуюцца.

Я на версе жарты ўсе сцярплю,
Я і сам мастак у гэтым жанры.
Шугануў глыбока пад зямлю —
Ты цяпер глыбокапаважаны.

Ды не, так ужо глыбока мне і не трэба, хаця б крыху… Павагу, як і славу, не выпрасіш…

Вось такія яны з большага, мае вышыні ды глыбіні. Чаму ж, былі і іншыя, але пра іх іншым разам.

* * *

Не ўсе, хто трапляе ў тваю сябрыну, вартыя твайго сяброўства. Дзе больш клятвы, там якраз яго менш за ўсё. У гэтым неаднойчы пераконвала само жыццё. Сяброўства не правяраецца колам застолля і не мацуецца ім. Ёсць для гэтага іншыя, больш дакладныя вымяральнікі. Гэта можа быць і бяда, і няшчасны выпадак, і проста — нейкая нявыкрутка. Але хай лепш іх не будзе, але сябры будуць. Хоць і атрымліваецца нешта, як у тым грузінскім тосце…

* * *

Пад цяжкім валуном просты чарвяк адчувае сябе куды спакойней, чым на адкрытым небу асфальце. Тут цябе можа растаптаць і самы ціхі абцас.

* * *

Сцены, межы… Адны іх ствараюць, другія разбураюць і знішчаюць. Але што з таго?! Нават унутры жывой істоты ўсё адно ад другога аддзелена, але не адчужана нейкімі межамі ці паўзмежкамі Гэтак прыдумана самой прыродай. А парушыць усё гэта нейкі злачынец — і чалавеку капец!..

## Мудры Яраслаў

Быў ён і сапраўды чалавекам мудрым. І не княскай, а нашай сялянскай мудрасцю. Сялянская, яна амаль заўсёды мудрэйшая ад царскай. Гэта можна зразумець і з яго кніг. Мы неяк лёгка пасябравалі з ім, калі я яшчэ працаваў на Беларускім радыё. Тады ён пісаў вершы, а потым неяк адразу адмовіўся ад іх. Перамагла проза, якая ў яго была асаблівая, вандроўная. Ён неяк лёгка прымераў да сябе посах вандроўніка. Яго, высокага і стройнага, чамусьці не прыгнятаў прыземісты дарожны кіёк, лёгка хадзіў ён з ім, не дужа абапіраючыся, і па сталічных вуліцах і па доўгіх, ходжаных і няходжаных дарогах Беларусі. Кіёк хутчэй быў не ў якасці апірышча, а добрага сімвалічнага спадарожніка. З нейкага часу ён захапіўся дарогамі, стаўся нястомным вандроўнікам, абышоў пешшу ўсю Беларусь. Дарожныя ўражанні выліваліся ў кнігі. Але ў кнігі, як вядома, усё тое, што назапашвае чалавечая душа, умясціць нельга. Мне заўсёды было цікава паслухаць пра тое, што заставалася па-за кнігамі. Мы сустракаліся з ім у Мінску часцей за ўсё ў Саюзе пісьменнікаў, а то і ў рэдакцыі часопіса «Маладосць», дзе я тады працаваў. Страшнавата казаць, але паміраў ён двойчы. Ну так, аднойчы нейкім цудам вырвалі з рук смерці. Пра гэта ён згадваў як пра нешта зусім звычайнае. А слухаць пра тую светлую кропку, якая ўсё змяншаецца і змяншаецца ў вачах, было страшнавата.

З крыўдай распавядаў ён мне, як хадзіў да міністра гандлю, каб той дапамог яму набыць дыктафон, такую неабходную для яго пісьменніцкай працы рэч. Міністр ад яго адмахнуўся, і пісьменнік пачуваў сябе абражаным.

Я паспрабаваў падняць яму настрой, пажартаваў:

— Відаць, да іншага міністра варта было ісці. Ну, да міністра культуры…

— Праўда што…— усміхнуўся ён. А неяк і сам, паразважаўшы, сказаў: — Можа, і добра, што без дыктафона, людзей адпалохваюць гэтыя сучасныя цацкі, і што хацеў сказаць, ён табе ніколі не скажа. Але ўсё ж…

Сёння я часам думаю пра тое, што нас збліжала з ім. І адказ знаходжу адзін — гэта любоў да роднай прыроды. Пры згадцы пра яе ў Яраслава дабаўлялася блакіту ў вачах, і адразу пачыналіся самыя нечаканыя згадкі нашага роднага айчыннага хараства. Вось і зараз сяджу ды смакую яго вечаровы прыазёрны абразок: «Надыходзіла шарая гадзіна, а ў нас ужо на невялікім вогнішчы браўся закіпаць лясны чай. Зусім побач, на суседняй алешыне ажно заходзіўся салоўка. Час ад часу падавала голас крыжанка — пакрэктвала ў прыбярэжнай траве. Іншы раз пралятаді над намі чыркі-свістункі. І так нізка, што чуцён быў сухі шоргат крылаў. Недзе за нашай лодкай у вадзе бухаў вадзяны бугай. А над вогнішчам стаяла хмара камароў — нахабных і вельмі кусачых. Мы стараліся не звяртаць на іх увагі. Але калі ўжо вельмі дакучалі, падкідвалі ў агонь ламачынак, сырых галінак, і камары адступалі».

Чытаеш — і ўражанне такое, нібыта ты сам сядзіш ля тога зманлівага вогнішча. Усё — без фальшу, свежае і такое цёплае, як і бывае пры вогнішчы. Яго і цягнула магнітам да яе, роднай нашай прыроды.

У 1988 годзе выйшла з друку кніга-эсэ Яраслава Пархуты «Зямля бацькоў нашых». Гэта кніга ўражанняў, пачутага і ўбачанага, у ёй толькі маленькая часцінка таго, чым багата наша бацькоўская зямля. А гэтых жа часцінак, непаўторных, хопіць на кожнага з нас, і сённяшніх, і… наступных. Усе свае кнігі ён спачатку агучваў на Беларускім радыё. Меў шмат пісьмовых водгукаў. Радаваўся, «што запаліў у сэрцах людскіх агеньчык любові да роднай зямлі».

У той год я загарэўся паэмай пра Язэпа Драздовіча. Былі ўжо нейкія накіды ды прыкіды, ды ўсё адно нечага не хапала. І я ведаў чаго. Я павінен быў прайсціся самымі найроднымі сцяжынамі вялікага мастака і вандроўніка. І вось з той самай кнігі Яраслава даведваюся, што ён ужо даўно прайшоўся па слядах Язэпа Драздовіча. Неяк пры сустрэчы я не прамінуў пахваліць яго новую кнігу, запытаў і пра Драздовіча, пра тое, што засталося за старонкамі кнігі. Тады і выспела ў нас задума праехацца на маіх «Жыгулях» тым самым драздовічаўскім шляхам. А тут наша Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў прапанавала нам, як тады любілі казаць, сустрэчны план. Яно прапаноўвала нам сумясціць паездку з чытацкімі сустрэчамі ў Полацку і Наваполацку. Мы пагадзіліся: чаму б не зарабіць нейкую капейчыну на той жа бензін. Гаспадар заўсёды рады, калі яго каня сустракаюць яшчэ і з чужым аўсом. Усё складвалася найлепшым чынам, нават каламбурылася някепска: сустрэчны план з чытацкімі сустрэчамі. А тут яшчэ надвор'е як хто заказаў: на дварэ ўсталяваўся цёплы і сонечны беларускі верасень, ля дарог водарна пахла садавінай, новым ураджаем поля, лесу і гароду. У Полацку мы затрымаліся ледзь не на тыдзень. Днём выступалі, вечары праседжвалі ў гатэлі, прагульваліся ля Дзвіны. Добрыя, прыязныя стасункі ўсталяваліся ў нас з жанчынамі, што абслугоўвалі гатэль. Шчыры, светлы, усмешлівы твар выдаваў у Яраслава даўнюю шляхетнасць ды «гжэчнасць». Бралі мы, вядома, і нейкую чарку. Прызнацца, я крыху пабойваўся за свайго сабрата. Бо, перакуліўшы чарку, ён часам глытаў і нейкую пігулку. Ён заўважаў маю трывожлівую занепакоенасць і ціха прамаўляў: «Не бойся, калі я сам не баюся».

Заўважылася тады вось яшчэ што. Аблччам сваім Яраслаў надта ж нагадваў героя маёй будучай паэмы. Ну, выліты Драздовіч. Ды яшчэ з кійком. Ад кійка таго я і пачаў «танцаваць». Ён стаўся галоўным вобразам паэмы, якую я і назваў — «Посах».

Шляхам Драздовіча, са збочваннем, заездамі ў самыя нечаканыя куткі Глыбоччыны, Галубіцкай пушчы мы марудна вярталіся ў Мінск. Захавалася ў мяне зялёная запісоўка. У ёй шмат радкоў, накіданых яго рукою. Гэта пакуль я руляваў, разганяў ды спыняў машыну, ён няўзнак рабіў запісы самага прыкметнага на той дарозе. А з прыкметнага было там шмат. Але адгорнем зялёную запісоўку. Вось як, згодна ёй, бегла наша дарога з Полацка:

1. в. Кухаронкі.
2. в. Малінаўка. Справа — могілкі, бяроза з абламанай кронай на іх. Старыя вербы пры дарозе. Старая хатка-хутар.
3. Царква пры дарозе.
4. Азярына паўз дарогі.
5. Пачынаецца Галубіцкая пушча.
6. в. Крылавічы.
7. в. Язна. Возера ля вёскі.
8. в. Кавнцэрава.
9. в. Дарожкі.
10. Возера справа на мяжы з Глыбоцкім раёнам.
11. Хутарок і другі хутарок справа.
12. в. Саннікі.
13. Празарокі. Помнік Ігнату Буйніцкаму.

Уражвалі самі азёры. Як быццам хто прайшоўся блакітнымі мазкамі па гэтай густой зеляніне. І ў кожнага — свая легенда, своеасаблівы мастацкі пашпарт тутэйшай азярыны. Ксяндзова мае назву ад ксяндза, які быццам некалі жыў на яго беразе. Княжынка нібыта хавае ў сабе цэлы залаты скарб нейкага князя, які тут праваліўся са сваёй карэтай. Наведаліся мы з Яраславам ў вёску Бабруйшчыну. Там жыве Васіль Іванавіч Сухавіла, таксама мастак, а маляваць вучыўся ў Драздовіча.

Можа, і не так захоплена вучыўся, больш прыглядаўся да таго, што яго як дапытлівага хлопца цікавіла. Больш унікаў у сакрэты тых самых фарбаў, якія Драздовіч часта «выхімічваў» сам, да пэндзляў, эцюдніка і ўсяго астатняга начыння, што ўмяшчалася ў падарожнай торбе мастака. Ну і за рукамі сачыў, як яны ў яго дзіўна бегаюць, зусім яшчэ не разумеючы, што рукі слухаюцца вачэй, а яшчэ і сэрца. Вось, аказваецца, якія гаспадары кіравалі гэтымі рукамі. Калі б я сам пабачыў тыя рукі, магчыма, і пра іх захацелася б напісаць нейкія радкі. У нас чамусьці вельмі шмат пішуць пра рукі і пальцы музыкаў і ніхто амаль ніколі не згадвае пра рукі мастака, пісьменніка. Некалі бачыў я, як піша Іван Шамякін, падпіраючы руку з самапіскай пальцам левай рукі. Крыху страшнавата зрабілася тады мне, калі бачыў усё гэта. Жартаўнікі маглі пацешыцца: «Піша ў дзве рукі». Іншыя жартаўнікі маглі і абараніць: «Але ж піша не левай нагой, як некаторыя». Але мы падыходзілі да хаты таго, хто нам раскажа пра вандроўнага мастака тое, чаго мы яшчэ не ведаем. Нам тое якраз і трэба.

Гаспадар сустрэў нас у двары сваёй прылясной хаты і тут жа, абапіраючыся на мыліцы, павёў у хату. Прыселі да стала пры акне, гаспадар адсунуў убок мыліцы, і пачалася наша вясёлая гаворка. Вясёлая таму, што ў руках ягоных адразу апынуўся баян. Сівавалосы, ударлявы, блакітнавокі гаспадар, прайшоўшыся пальцамі па бліскучых гузічках, выртаў нам з памяці то адну, то другую мелодыю. А калі мяхі баяна на хвіліну сціснуліся, пачаў распавядаць і пра сваё жыццё. Вось тут ужо вясёлага амаль не было. За пэндзаль

ён узяўся пасля вайны. Тады, у сорак чацвёртым, працаваў фінагентам. Ішоў лясной сцяжынай у Зябкі, на станцыю. І толькі крок ступіў убок — як бабахнула!.. Наступіў нак міну. Страшэнны боль, у вачах пацямнела. Можа б, і сцёк крывёй, калі б не напаткаўся і не падабраў чыгуначны абходчык. Ну а пасля была бальніца, ампутацыя. Стаўся інвалідам. Вось тады і згадаў Драздовіча, узяўся за пэндзаль. Васіль Іванавіч доўга расказваў пра Драздовіча. Некалі, на пачатку трыццатых, ён жыў у хаце яго бацькоў у Крывічах. Мастак хадзіў па вёсках, маляваў у тутэйшых хатах дываны, макаткі, столачкі. Гэтак зарабляў на хлеб. А расплачваліся, хто чым меў. Адны сала неслі, другія — сыр, трэція — яйкі.

Вось партрэт мастака, маляваны мне словамі Васіля Іванавіча: «Быў ён танклявы, хударлявы, заўсёды абапіраўся на кульбу. На ручніцы яе быў выразаны чалавечак, з выразнай галоўкай, а нагой ён збіраецца даць камусьці выспятка. Насіў палатняныя порткі, палатняны фрэнчык. Брыль капелюша з добрым выгінам уніз, увесь сівы, з вусамі і бародкай. Ішлі жанчыны з палатном, яно звычайна было цёмнае, нават чорнае. Прымацуе яго да сцяны і малюе, потым пойдзе па лузе паходзіць. І мяне клікаў. Мне тады гадоў 12 было. Пайшоў у далейшую дарогу па Глыбоччыне. Мяне таксама клікаў». Потым у Гарадцы (Шаркоўшчына) у мясцовым музеі я пабачыў і дыванок Я. Драздовіча. Малюнак на ім вось які. Жанчыны збіралі грыбы і сустрэліся на кладачцы цераз лясную рачулку. Неба такое яснае, вымытае сонцам. Ясныя твары і жанчын. Як гэта яны размінуцца на вузенькай кладачцы?

Яшчэ адзін малюнак. Танец соснаў у лесе. Напэўна, людзі вучыліся танцаваць у дрэў. Вунь, як яны карагодзяць, кожнае — па-свойму, непаўторна. Драздовіч хораша тое ўявіў, хоць сам ніколі не танцаваў.

Ну а з кульбы, пра якую Васіль Іванавіч распавёў мне ў дэталях, на якую абапіраўся мастак-вандроўнік, я потым маляваў свой посах у аднайменнай паэме. Здаецца, пра гэта я ўжо казаў. А калі мы потым вярталіся ў Мінск, я ўжо добра ведаў, з каго буду маляваць і самога Язэпа Драздовіча. Ну з каго ж яшчэ, як не з яго, паважанага Яраслава. Яны і тварамі падобныя, нават барадамі сваімі, вусамі. Як думаю — яшчэ і паходкаю. Абодва ж вандроўнікі, а ўсе людзі вандроўныя ходзяць амаль аднолькава, без прыспеху, нібыта прагульваючыся. Напэўна, я тут не памыляюся.

А вярталіся мы з прыгодамі. Недзе за Плешчаніцамі пачала паказваць свае капрызы мая машына. Ужо звечарэла, даўно пара ўключаць хоць бліжняе святло, а ў машыне адключыўся генератар. Акумулятар аслаб, не гараць фары. Мы ўчапіліся за нейкі рэйсавы аўтобус і так-сяк праехалі за ім да Бягомля. А далей, недзе за Маргавіцай зусім аслеплі і ў самым лесе матор перастаў дыхаць. Узняўся моцны вецер, набліжалася навальніца, і куды дзеўся той вясёлы настрой, які спадарожнічаў нам яшчэ нядаўна. Машыны, якія мы спрабавалі спыніць, імчаліся каля нас на самай вялікай хуткасці, зусім не зважаючы на нейкіх там няўдачнікаў. Я падрыхтаваўся да горшага — давядзецца начаваць у машыне, а раніцой нешта будзе. Раніцой, можа, і машына сама адумаецца, пачне слухацца. Яраслаў моўчкі курыў і сумна пазіраў на дарогу. З паўгадзіны пагаласаваўшы, добра намахаўшыся рукамі, мы падаліся ў салон і сумна прыціхлі. Па даху машыны пачаў дзяўбаць дождж. Мабільных тэлефонаў тады яшчэ не было, не было на каго і спадзявацца. Хіба на Усявышняга…

Не сядзелася нам у салоне, мы зноў і зноў выходзілі з машыны, Яраслаў «галасаваў», а я, задраўшы ўгору капот, корпаўся ў маторы. Разумеў у ім мала што, проста мацаў, варушыў нейкія правады. Але ні яму, ні мне не шанцавала. Машына была мёртвая, ніхто з чужых спыняцца не хацеў. «Я б і сам не

спыніўся, — казаў разважлівы Яраслаў. — Ноч, і ў лесе цябе спыняюць два мужчыны. Чорт ведае, якія ў іх намеры?» Думкі пра дамашнюю ўтульнасць і вячэру з гарачай бульбай надавалі сэрцу жуды. І вось калі ўсе надзеі рухнулі і нават хацелася на ўсё безнадзейна плюнуць, перад самым носам нечакана скрыпнулі тармазы. З незнаёмай машыны выскачылі чацвёра малайцоў, зірнулі на нашы разгубленыя твары, і адзін, усміхаючыся, супакоіў: «Паглядзім, што ў вас тут…» Адразу было бачна, гэта спецыяліст, нераўня мне, ды і астатнія лепш ад мяне цямяць у тэхніцы. Хлопец, закасаўшы рукавы, прыпаў да матора. Машыну сваю хлопцы развярнулі і спераду падсвечвалі нам фарамі. Пакуль хлопец штосьці круціў у маторы, мы разгаманіліся. Хлопцы расказалі, што едуць у Мінск, ім трэба кагосьці сустрэць на чыгуначным вакзале, а часу ў іх у запасе яшчэ даволі, дык чаму не дапамагчы добрым людзям. З кожным можа здарыцца…

У добрай кампаніі і час пабег хутка, з’явілася нейкая надзея. Неўзабаве хлопец закончыў свой занятак, выцер рукі і сказаў мне:

— Цяпер сядайце за руль, а мы вас піхнём. Павінна завесціся. Я хуценька ўскочыў на сядзенне, напружана ашчаперыў звыклы кіраўнічы абаранак, і колы пакаціліся. Машына некалькі разоў чмыхнула і нечакана завялася. О, колькі было радасці, як мы дзякавалі сваім незнаёмцам! Ад грошай за такую паслугу хлопцы катэгарычна адмовіліся.

— Едзьце паперадзе, а мы ззаду будзем вас падстрахоўваць, — сказаў наш збаўца. — Генератар у вас ненадзейны, у любую хвіліну можа стаць.

Так мы і ехалі да самага Мінска пад добрым крылом тых малайцоў. А ў Мінску развіталіся, мы шчыра падзякавалі за дапамогу і нават пашкадавалі, што так адразу і развітваемся. Ніколі, напэўна, больш не сустрэнемся. «Усё б, здаецца, аддаў гэтым хлопцам. Гэта ж так выручылі», — прамаўляў расчулены Яраслаў. Быццам, нават і праслязіўся. Ён потым казаў, што такіх людзей сустракаў у сваім жыцці шмат, хоць траплялiся і іншага кшталту асобы. Ён і сам быў не менш дабрэйшым чалавекам. Гэта ўжо за яго магу сказаць я.

Паэма мая пісалася марудна, а дапісваць яе я паехаў у наш тады яшчэ новы Дом творчасці «Іслач». Там пісалася лёгка, напэўна, дапамагала сама пушча, якая з гэтых бароў і пачыналася.

Скаланула, вывела з сябе яго нечаканая смерць. У апошні шлях адправіўся мой дарагі вандроўнік. Часта згадваецца мне ён, наш Яраслаў мудры. А часцей згадваю яго на той віцебскай дарозе, пад пошум лесу і восеньскага дажджу. Мудрасць сваю ён і назапашваў на далёкіх і блізкіх дарогах Бацькаўшчыны. Магчыма, і дарэчы будуць тут радкі з паэмы:

Тваімі вачыма інакш я пабачыў
Зямлю, без якой мне не жыць на зямлі,
Стагоддзі, што зніклі, як здані нястачы,
Чаўнамі з вачэй тваіх зноў усплылі.

І тое, што бачу, і тое, што сніцца,
Тваёй дабрынёю не грэх пазначаць.
Ты мог бы пранесці ў вачах навальніцу,
А добра, што й сонца насіў у вачах.





**Мікола ШАБОВІЧ**

# ТО ВЕРШ СКЛАДУ, ТО ПЕСНЮ ЗАСПЯВАЮ

* * *

Да новае стрэчы!
Да казачна-новай вясны!
Усё недарэчы:
Жаданні, і мары, і сны.

Усё мімалётна,
А ты паспрабуй затрымай
І студзень сумётны,
І ў квецені сонечны май,

І ночы сваволі,
І дзён залатыя віры,
Што столькі патолі
Дарылі — і ты падары

Радзіме — адданасць,
Бацькам — дабрыню і любоў,
Сябрам — беззаганнасць
Учынкаў, памкненняў і слоў.

А дзецям і ўнукам,
Калі пасачылі цябе,
Пакінь без прынукі
Усё, што нясеш на гарбе:

---

*__Шабовіч Мікалай Віктаравіч__ нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1981). Кандыдат філалагічных навук. Настаўнічаў на Вілейшчыне. Зараз — дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*

*Аўтар паэтычных кніг «Дом» (1996), «Яшчэ пакуль не лістапад» (1996), «Падары мне сваю адзіноту» (2002), «Мая надзея» (2006), кнігі гумару «Хор болей не спявае» (2008).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2009).*

І плуг, і лапату,
І працы сялянскай сакрэт,
І бацькаву хату,
Што сына выводзіла ў свет.

І вершы-прызнанні
Радзіме, матулі і ўсім,
Хто ўвечар і ўранні
Цябе ў сваім сэрцы насіў.

Скажы ім: «Да стрэчы!
Да казачна-новай вясны!» —
Калі недарэчы
Жаданні, і мары, і сны.

## МІХАСЮ БАШЛАКОВУ

А тэм для вершаў быццам бы не шмат:
Пра ўсё з гадамі складзена-напісана:
Пра восень і зіму, пра лес і сад,
І нават пра любоў пад кіпарысамі.

Няпроста ўсё ж Амерыку адкрыць
І ямбам, і харэем, і анапестам.
Але ж паэт не можа не тварыць —
Пісаць свой лёс і перапісваць начыста.

І не чакаць падзякі за радкі —
Даўным-даўно дарункі ўжо раздадзены…
Таму ўсе творцы сёння — дзівакі:
І часам, і увагаю абкрадзены.

На волю лёсу кінуты даўно,
Ды нешта пішуць, быццам утрапёныя,
«Каўтаюць» адзінокасці віно,
Нібыта слёзы — горкія, салёныя.

Выходжваюць, выседжваюць страфу
І з рыфмамі зашмат не куралесяцца,
Каб гэты свет уславіць пакрыху
Ад кусціка маленькага да Месяца,

Аддаць Радзіме сённяшні свой плён,
А потым зноў — хоць і гады не тыя —
Пісаць пра сойку,
Валасы, што лён,
І шчасця дні,
Як калісь,
Залатыя…

* * *

Хай сняцца сны. А добрыя збываюцца,
Пакуль жыццё — суцэльны палігон,
Дзе дабрыня, бывае, забываецца,
Благое — мчыць за намі наўздагон.

І ў гэтым коле, гэтай кругабежнасці
Суседзямі — сябры і несябры,
Суседзямі — нягрэшнікі і грэшнікі,
І нават — песняры і хлусняры.

І кожнаму нябёсамі адмерана
Жыццёвая няпростая вярста
Ад Берага З'яўлення і да Берага,
Адкуль глядзіць нямая пустата.

І ў гэтай кругаверці разняволенай
Валеты так і пруцца ў каралі,
А каралі звяргаюцца ці войнамі,
Ці здрадай — здрайцаў многа на Зямлі.

Адно паэты, быццам бы заклятыя,
Загадку свету мкнуцца разгадаць
І ў гэтым прад усімі вінаватыя —
Іх зорны час закончыўся, відаць.

І толькі ў снах бывае, што збываюцца
Іх мары, як нябесны плытагон
Вяшчуе: «Дабрыня не забываецца…»
Хаця жыццё — суцэльны палігон…

* * *

Філосаф мой, мой хуткабежны Час!
Люстэрка дзён! Ратоўная падкова!
Ты лечыш раны. Некаму — за раз.
Камусьці — і гадоў не дастаткова.

Даеш адчуць і радасці жыцця,
І боль ад страт — ад лёсу не схавацца.
І нашага сакрэт сэрцабіцця
Табе вядомы — што тут сумнявацца!

Мой браце Час! Прыцішь сваю хаду:
Я за табой амаль не паспяваю,
Ды ўсё ж вяду, вяду свой рэй, вяду:
То верш складу, то песню заспяваю…

Мікола ЛОБАН

# УСПАМІНЫ (ВЕРАСЕНЬ 1943 — ЛІПЕНЬ 1944 гг.)

*У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ф. 148, в. 2. с. 96) пад назвай «Успаміны аб вучобе і рабоце над беларускім слоўнікам у гады вайны» захоўваецца машынапіс з нязначнымі аўтарскімі праўкамі пісьменніка і навукоўца Міколы Лобана. Час напісання датуецца 1980-мі гадамі. Успаміны нідзе не друкаваліся, а іх заканчэнне згублена. Але мне здаецца, што і напісанае будзе цікавым сучаснаму чытачу, бо ў ім адлюстраваны знакавыя падзеі нашай культурнай гісторыі: аднаўленне заняткаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце і пачатак работы над «Руска-беларускім слоўнікам». У 1943 годзе, калі Беларусь палала ў пажарах вайны і палова яе тэрыторыі, у тым ліку і зруйнаваны Мінск, былі яшчэ не вызвалены, на станцыі Сходня пад Масквой у двухпавярховым драўляным будынку пачаў працаваць Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. У Падмаскоўе з'язджаюцца былыя студэнты і выкладчыкі. З пасёлка Келераўка Паўночна-Казахскай вобласці, дзе выкладаў у школе рускую мову і літаратуру, прыехаў і былы франтавік М. Лобан. Ён студэнт трэцяга курса БДУ, напачатку вайны ваяваў на Волхаўскім фронце, быў двойчы паранены, таму ў красавіку 1942 года яго дэмабілізавалі па інваліднасці. Акрамя аднаўлення ва ўніверсітэце нарэшце збываецца і яго запаветная мара: Мікалая Паўлавіча ўключаюць у склад камісіі пры прэзідыуме Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам Пятра Глебкі па выданні руска-беларускага слоўніка.*

***Аляксандр ВАШЧАНКА***

*Выказваю падзяку Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва за прапанаваныя матэрыялы.*

Ішоў верасень 1943 года. Школа рыхтавалася пачаць навучальны год. Усе жылі перамогамі нашых войск на Курскай дузе. Настрой узняўся. Пачуццё тугі змянілася радасцю блізкай перамогі і заканчэння вайны. У адным з нумароў «Камсамольскай праўды» за верасень гэтага года я агледзеў Цімахоў[1] верш «…».

— Жыў! — закрычалася.

Некалькі гадоў ні слыху ні дыху, а то раптам верш. Дзе ж ён, дарагі? Калі напісаць у рэдакцыю «Камсамольскай праўды» — так і так, <гэта> мой друг, слёзна прашу, дзе ён? То могуць адказаць, а то і проста пераслаць маё пісьмо Цімаху? Не марудзячы і аднаго дня, саджуся і пішу ліст Цімаху і запіску рэдакцыі. Тыдняў праз тры, а можа, і праз месяц атрымліваю — якая радасць — пісьмо ад самога Цімаха. Жыве ў Маскве. Адзін. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Беларусь», які нядаўна пачаў выходзіць і які ўзначальвае Ілья Гурскі[2]. Разам з пісьмом Цімох даслаў мне цэлы набор беларускіх газет і часопісаў. У адной з дасланых газет я прачытаў — яшчэ адна радасць — інфармацыю аб тым, што на станцыі

Сходня пад Масквою аднаўляе работу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Што значыць аднаўляе работу? Значыць павінны хто можа вяртацца на работу і на вучобу. У той жа дзень пасылаю запытанне ў рэктарат універсітэта. Тыдняў праз два атрымліваю выклік на вучобу, падпісаны прафесарам Т. П. Ломцевым. Атрымаў я гэту паперу ў той самы дзень, на які быў прызначаны педагагічны савет перад пачаткам новага навучальнага года. Маё паведамленне было ўспышкай васторгу, зайздрадасці, шкадавання. Пачатае пасяджэнне педсавета па прапанове дырэктара Ул. Ів. Хана было перанесена на заўтра, а сённяшні вечар прысвяцілі маім провадам. Я чамусьці лічыў, што павінен выехаць на гэтым тыдні і ні днём пазней. Відаць, выклікам абмяжоўваўся тэрмін. Усе забегалі. Праз якую гадзіну жанчыны сабралі імправізаванае застолле. Многа гаварылася тостаў, у якіх выказваліся добрыя і шчырыя пажаданні на дарогу. Нейкім чынам даведаліся вучні, прыходзілі развітацца. Не на радзіме, а прывыкаецца. І тут свае людзі, добрыя і таксама спакутаваныя ад вайны. Людзі, змучаныя адной пакутай, робяцца дабрэйшымі адно к другому. Праводзілі. Праслязіліся. Чаго? Не на фронт жа? Я для іх ад'язджаў беззваротна.

На грузавіку да Таінчы, ад Таінчы да Петрапаўлаўска цягніком. Давялося, купіўшы білет, аж чатыры гадзіны чакаць ноччу на станцыі. Холадна. Добра, што сустрэў знаёмых людзей — пажылога мужчыну з дачкой-дзесяцікласніцай, маёй вучаніцай. Вот мы ўтраіх і пераходзілі ўзад-уперад гэтыя чатыры гадзіны.

У Петрапаўлаўску адчуўся сапраўдны рух людзей ваеннага часу. Усё гэта былі людзі ў шынялях, з рэчмяшкамі за плячамі, у кірзавых ботах і целагрэйках, мужчыны, што месяц-другі таму зведалі на фронце шчасце ранення і цяпер накіроўваліся ў батальёны выздараўляючых, каб адтуль праз нямнога часу кіравацца зноў на фронт, і жанчыны ў целагрэйках ці шынялях, у шэрых шапках-вушанках і ў тых жа кірзавых ботах. Траляліся і тыя, што ўжо адваяваліся, без рукі ці без нагі, ехалі да жонак, да дзяцей. У кожнага з іх быў свой клопат, як прыжыцца на грамадзянцы, чым заняцца пакалечанаму. Касу для афармлення транзітнага білета давялося браць прыступам. Праходзілі гадзіны. Бесперапынна па дарозе ішлі санітарныя і воінскія эшалоны, таварняк са станкамі і кабелем, з зачахлёнымі гарматамі і танкамі. Больш пастойвалі, чым <рухаліся>. Нарэшце падышоў наш эшалон. Класныя вагоны забітыя да адказу. Людзі віселі на падножках, тоўпіліся ў тамбуры і на перахадных пляцоўках паміж вагонамі. Спрабую ўшыцца ў адным, другім, трэцім вагоне — усюды як заклякавана. А цягнік пачынае кратацца. Што рабіць? Бягу за вагонамі з надзеяй на хаду ўчапіцца за поручні. Не ўдаецца. Раз, што нагою ступіць нельга, а другое — мяшок вагавіты за плячамі. Там усе мае патрэбныя пажыткі. І самае дарагое — пяць кілаграмаў таплёнага масла, больш чужога, чым свайго. Прыехаўшы ў Маскву, трэба будзе разнесці па кватэрах: адным у Сталешнікавым завулку, другім — на Арбаце. Сябры-настаўнікі з Келераўкі пасылаюць. Чаму не зрабіць людзям дабро такою галоднаю парою, як 1943 год. Але што пра Маскву думаць, калі яшчэ і Петрапаўлаўск не пакінуў. Прыходзіць у галаву блажная думка: сунуць праваднiку камяк масла. Можа, пасадзіць у плацкартны. Масліца аказалася цудадзейнай сілы: варта было толькі паказаць адтатурчаную кішэню шыняля, як з яго боку пачулася: «Прапусціце інваліда!» — і ён сам падхапіў мой мяшок і кінуў у тамбур. За мяшком праціснуўся і я. Калі цягнік скрануўся, праваднік паказаў на сваю каморку, дзе на ніжняй паліцы спаў яго напарнік. Я вывалак з кішэні галышку і аддаў. Праваднік расчуліўся: «Можа, сам усяго маеш? Не? Ну глядзі. Даедзеш да Чалябінска, а там табе перасядка будзе. Я скажу. А пакуль лезь на верхнюю паліцу і храпі добрых трое сутак».

У забітым да адказу плацкартным вагоне было і холадна, і кісла, як пасля ночы ў перанаселеным студэнцкім інтэрнаце. Людзі сядзелі на праходах з клункамі, з мяшкамі, з дзецьмі. Каб прайсці, трэба было высока падымаць ногі, знайшоўшы месца, каб паставіць нагу. За акном было бела ад марознага снегу. Больш стаялі, чым ехалі. Стаянкі былі самыя непрадбачаныя, не толькі на вялікіх станцыях,

але і на глухіх раз’ездах, надоўга заганялі эшалон на запасны пуць, прапускалі ўсе воінскія і санітарныя эшалоны. Як і казаў праваднік, у Чалябінск прыбылі на чацвёртыя суткі. Развітаўся з праваднікoм і, ухапіўшы мяшок на плечы, хутчэй на вакзал — ці скора цягнік на Маскву. Марозік пад нагамі, градусаў на пятнаццаць, паскрыпвае. Усё як мае быць у гэтых шыротах. Нешта поўна людзей пастойвае на марозіку, пагульвае непаводдаль станцыйнай будыніны. Мне гэта не падабаецца. Кіруюся ў гэту будыніну, што называецца вакзалам. Дзе тут той чакальны зал, дзе тут тая каса білет закампасіраваць. З расчыненых насцеж вакзальных дзвярэй пара як з чайніка з кіпнем валіць. О-го-го, людзей як завязаць, як у душагубцы. Адны ратуюцца ад холаду, плішчацца ў сярэдзіну, другія выпіраюцца на волю, каб дыхнуць свежага паветра. Нідзе нічога не дабіцца, як з паяздамі. Некаторыя, чуваць, ужо трэція суткі пакутуюць. Мужчыны хвалююцца — дзеці на руках. Дзеці з мацеркамі ў дзіцячым пакоі, але ж некалі трэба і ехаць. Некалькі тысяч пасажыраў скапілася на станцыі ў Чалябінску. У гэты неспакойны час людзей гнала вялікая і пільная патрэба. Купка мужчын стаяла на прывакзальнай плошчы пад лямпачкай і громка абмяркоўвалі тэкст тэлеграмы, якую збіраліся паслаць у Маскву на імя наркома шляхоў зносін, каб той забяспечыў ад’езд. Пад гадзіну ночы я ўжо зусім змогся, ногі мае адмаўляліся трымаць, на вочы ціснуў сон — я, здавалася, гатоў быў упасці там, дзе стаяў, каб толькі заснуць. Шукаючы кутка, дзе можна было б прыткнуць галаву, я памацаў адны дзверы. Адчыніліся. Прадаўгаваты калідор з дваіма дзвярэй. Цёпла. Вядома, параўнаўча з надворкам, дзе мароз узмацняўся. Пуста, ні душы. Я набраўся рашучасці, даходжу да канца калідора, звальваю з плячэй мяшок, напакаваны свінцом, кладу яго да глухое супрацьлеглай дзвярам сцяны, кладу на яго галаву і выцягваю папярок калідора ногі. Няхай начальнікі з міліцыяй прыходзяць, страляюць над вухам з гармат — а я буду спаць. Няма нічога саладзейшага, як у гэту хвіліну сон. Я кладу галаву на мяшок і правальваюся. Раніцай мяне разбудзіў жаночы голас: «Грамадзянін, праверце вашы кішэні». Я прахопліваюся. Маланка думак, карцін: перада мною жанчына, відаць, пачаўся рабочы дзень, і яна адна з першых прыйшла на работу; каля мяне і па ўсім калідоры чалавек дваццаць рознаўзростнай шпаны, брудных, абадраных.

— Як вы аказаліся сярод іх? Праверце свае дакументы.

Жанчына паказвае мне на грудзі. Аж аказваецца, у мяне на грудзях ляжыць мой бумажнік. Хапаюся праверыць. Усё на месцы, як дакументы, так і грошы. Я мысленна падзякаваў гэтым, канечне ж, харошым юнакам, у якіх бязлітасныя падзеі вайны адабралі бацькоў, а з імі і радасць дзяцінства. Але чым кіраваліся яны, так паступіўшы са мною? Відаць, сваё зрабіла мая мыліца, на якую я ўсё яшчэ апіраюся. Як развітацца з гэтымі няшчаснымі дзецьмі? Дабром за дабро? Я развязваю свой мяшок, дастаю з яго мяшэчак кілаграмы на тры сухароў. Гэта мне мая школьная падруга напякла, насушыла к ад’езду сухарыкаў з белай мукі, салодкіх. Смачныя сухарыкі, у роце растаюць. Узяў аднаго у рот. Хрумст сухара падняў некалькі галодных галоў. Бліжэйшы сусед таксама прачнуўся.

— Чуеш, хлапчына? На раздай усім, хто тут ляжыць, па пары сухарыкаў, згрызіце, пакуль у вас што будзе.

— Што вы, дзядзя? Мы ў такіх, як вы, не бяром.

— Раздай, кажу!

Хлапец падняўся, патрос у паветры мяшком і пачаў, зайшоўшы з дальшага канца, раскідаць сухары. Пасля раздачы ў мяшку асталася добрая палавіна.

— Зрабі яшчэ адзін заход.

— Вы што, дзядзя? — узмаліўся хлопец.

— Раздай, кажу!

Раніцай я даведаўся, што пасланая ўчора тэлеграма на імя наркома шляхоў зносін мела поспех, эшалон цяплушак будзе пададзены ў другой палове дня. У другой — не ў другой, а позна вечарам аб’явілі пасадку. Я з цяжкасцю: нехта

схапіў мяшок, падаў руку — залез у сярэдзіну вагона. Нідзе ні лапінкі свабоднага месца. Пастаяў, пакруціўся і апусціўся там, дзе стаяў. У вагоне ўсяго і святла, што ад месяца, які падымаўся з-за станцыйных будынін. Але трымаць доўга дзверы адчыненымі нельга было, мерзлі і плакалі дзеці. Мужчыны ссунулі абедзве палавіны дзвярэй. Стала зусім цёмна. Знадворку пастукалі. Нехта падышоў з ліхтарняй. Дзверы адчыніліся. Ліхтарня паднялася над галавою, павяла рукі ў адзін канец вагона, у другі і сказала: «Вагон не пойдзе». «Чаму так, не пойдзе?!» «Вагон не спраўны, панятна вам?» «Не дадзім адчапляць!» «Мы вас размесцім па цяплейшых вагонах». «Не трэба нам цяплейшых вагонаў, нам цёплы і гэты». Нехта грамчэйшым голасам выкрыкваў: «К начальніку пайшлі!» Людзі з ліхтарняй адчапіліся і больш не прыходзілі, а пад раніцу эшалон заляскаў буферамі і скрануўся. Ад таго, што эшалон скрануўся з месца, здаецца, стала цяплей. Больш стаялі, чым ехалі. Спыняліся ледзь не на кожным раз’ездзе. У суседнім вагоне памерла двухгадовае дзіця. Везлі да буйной станцыі. Бацькоў ссадзілі з дзіцем на руках. Хвілін праз дваццаць — эшалон яшчэ стаяў — бацькі вярнуліся ў свой вагон без дзіцяці.

На чацвёртыя суткі язды светлай раніцай эшалон спыніўся на гаманкой станцыі вялікага горада. Двое падбеглі да вагона і са словамі: «Сталіца нашай радзімы — Масква» расцягнулі абедзве палавінкі дзвярэй. З клубамі пары вывальваліся змардаваныя людзі. Вот я і ў Маскве. Першы раз. Пазнаю Камсамольскую плошчу з яе трыма вакзаламі. Наводжу ўсе патрэбныя мне даведкі, бяру білет на самы апошні прыгарадны, які ідзе да Сходні, і еду шукаць людзей па адрасах, каб хутчэй вызваліцца ад лішняга грузу. Еду тралейбусам, каб паглядзець Маскву. Зрэдку трапляюцца руіны, але прыбраныя ўжо, абгароджаныя штыкетнікам. Ніводнай свежай, учарашняй ці пазаўчарашняй, варонкі — адбілі ахвоту нос саваць у Маскву. Ясна. А вот і Сталешнікаў завулак, вот патрэбная мне кватэра. Званю. Яшчэ раз званю. Няўжо нікога няма? Не, пачуліся мяккія, жаночых ног, крокі. За дзвярамі зазвякаў лёгкі ланцужок, і дзверы прачыніліся:

— Хто тут? — запытала жанчына, разглядваючы мяне ў дзвярную шчыліну.

Выгляд у мяне быў не для першага знаёмства: тыдзень не брыты, не мыты ніяк не мог быць падобным на студэнта універсітэта, а хутчэй быў падобен на інваліда-пабірашку, якіх на той час многа хадзіла па кватэрах. І натуральна, што жанчына напалохалася і прыціснула дзверы. Я не даў ёй адысці:

— Калі вы Вера Ёсіфаўна Зубовіч, то я ад вашай сястры Клавы і яе пляменніцы Валянціны.

Дзверы рашуча адчыніліся.

— Як вы сказалі? Пляменніца Валянціна? Што з імі? Яны жывы? Валюшачка родная мая! Ды заходзьце ж вы. — Жанчына, пабялеўшы ад страху, адступілася ад дзвярэй у сярэдзіну пакоя.

— Я ў вас пытаюся, яны жывы? Скажыце ж?

— Ага, яны жывы. Яны прыслалі вам прывітанне і пасылачку, кілаграм таплёнага масла.

— Божачка мой, Валюшачка, Клаўка. Дзе вы іх пакінулі? Вы напраўду бачылі іх? Вы не жартуеце?

— Як можна, Вера Ёсіфаўна! Час не да жартаў.

— Прабачце мне. Я дурнею ад радасці. Праходзьце ды расказвайце, дзе яны і як яны. Можа, шкляначку чаю?

— З задавальненнем абагрэю душу. Мы з Клавай Ёсіфаўнай у адной школе працавалі, яна — дзелаводам, я — выкладчыкам. Валюшка ў дзевяты клас пайшла. Цудоўная дзяўчынка. Піяністка.

— Валюшка, родненькая! У дзевяты клас? — маці замілавана смяялася. — Хадзіла ў музычную школу. А як жа.

У Веры Ёсіфаўны больш не было ніякага сумнення. Знайшлася сястра з дочачкай. Большае шчасце не бывае. Я развязаў мяшок і дастаў з яго пакунак,

угорнуты, увязаны і падпісаны. Вера Ёсіфаўна вінавата ўзяла з маіх рук пакунак і, пусціўшы слязу, прамовіла:

— Родненькія мае. Самі ж ці сытыя?

Збегла на кухню разгарнуць. Доўга не вярталася. Потым увайшла з пісьмом у руках.

— Сястра загадвае мне, каб я прыняла вас як свайго чалавека. Трэба вас трошкі апратаць. Можа, у лазеньку сходзіце? Тут недалечка. Там і вашапрудка ёсць. Вы не саромцеся, вялікая дарога была. Цяпер, вайною, трэба сцерагчыся, каб якога тыфу не ўхапіць.

Гадзінам к дзесяці вечара, справіўшы ўсе свае першапачатковыя справы-даручэнні ў Маскве, я пад потам прыляцеў на Ленінградскі вакзал. Патрапляў толькі на апошні прыгарадны да Крукава. У вагоне цёмна, ні іскрыначкі. Мой дзевяты прыпынак. А як іх поцемку ўведаць? На мой непакой адазвалася жанчына:

— Пільнуйцеся мяне, я на Сходні злажу.

Яшчэ праехалі парадкам, а цень маёй жанчыны ўсё не варушыцца. А яна часам праспаць не можа? Я пачынаю кашляць.

— Яшчэ праз адну, — зразумела мой непакой жанчына.

Ага, ну гэта ўжо канкрэтна. Сам разбяруся. А жанчына не спіць. Адказнасць узяла на сябе. Я правяраю ўсе зашпількі, як на шынялі, так на мяшку, каб акуратна ўвайсці ў будыніну універсітэта. Хоць ужо і позні вечар, але ж нейкія дзяжурныя, нейкія паставыя там ёсць. Не можа ж быць, каб не было.

Нарэшце мая праваднiца заварушылася, завойкала, запазяхала.

— Траха паспала. Калі ўжо прыйдзе той час, калі можна будзе спакойна выспацца. Мабыць, ніколі.

Злезлі. Жанчына павяла мяне з сабой цераз пуці:

— Гэтта ідзіце. Каб дзе на што не спатыкнуліся. Гэтта нос можна расквасіць поцемку, не ведаючы, як ступіць.

Каб і праўда нос не расквасіць, я стараюся цаляць нага ў нагу.

— Вы, мабыць, цётачка, з Беларусі. З-пад Слуцка якога-небудзь.

— Ага, ага, з Беларусі, сынок, з-пад Слуцка.

— І загнала ж вас куды! Робіце тут дзе?

Жанчына памаўчала. Відаць, неахвота ёй было пра гэта гаварыць.

— Раблю, а няўжо ж. Па партызанскай патрэбе прыляцела сюды. Тут многа такіх, як я.

Жанчына падвяла мяне да чорнай, як цень, драўлянай двухпавярховай будыніны. Бліжэй падышлі — ні вокан, ні дзвярэй і каб хто душою. Стаім і маўчым.

— Дзе ж ты тут прытулішся, сынок? — Жанчына была пажылая, мяне, трыццацідвухгадовага мужчыну, сынком назвала. — Змерзнеш. Нешта мароз рана ўдарыў. Ніколі гэтага не было. Можа, да мяне пойдзеш? Няма і ў нас, каб вельмі дзе добра. Але ж не на холадзе. Пасля партызанскай зямлянкі гэта хата раем здаецца.

— Не, дзякуй вам, цётачка, — кажу я, — неяк пераседжу, ператанцую ноч. А там нешта будзе. Раз згукваюць, то нешта ж павінна тут быць. Як на нашай з вамі Случчыне гавораць: «бог даў дзень, бог дасць і есці», — спрабую знайсці ўцеху сабе.

— Ну глядзі, калі не змерзнеш. А то ідзі са мною.

Жанчына пайшла, а я пачаў «асвойваць» універсітэцкае прыбежышча. Вочы ўжо трошку прывыклі да цемені, і можна было бачыць сцяну з чорнага кругляка. Як для дачы, то дамок і нішто сабе, на некалькі сямей, а як для універсітэта, то мо трошачкі малаваты? Увайшоў. На ўсялякі выпадак палэпаў каля дзвярэй, дзе мог быць выключальнік, — святло запалілася. Я ў вялікаватым пакоі, устаўленым сталамі і стойкай буфета. Ясна, студэнцкая сталовая. Не стаў я больш аглядаць памяшканне, далей ужо віселі замкі. Можа, там і было цяплей, а што тут, то як у стадоле. Што рабіць? Прызнацца, то я ўжо стаў каяцца, што не выкарыстаў запра-

шэнне сваёй спадарожніцы. Цяпер ісці стукацца, прасіцца пераначаваць — малая надзея, што хто пусціць у такі час незнаёмага чалавека. Трэба было тут шукаць які ратунак — уздзець на сябе ўсё, што можа сагрэць душу, і сціснуцца дзе-небудзь у куточку.

Ноч пасля трох начэй бяссонніцы была пакутная. Пад раніцу, калі я трохі ўгрэўся, ужо не мог больш змагацца са сном. Калі я прачнуўся, ужо было блізка к святлу. Людзі хадзілі і не звярталі на мяне ніякай увагі. Відаць, проста не хацелі перашкаджаць мне паспаць. Мабыць, я зноў заснуў, бо перада мной раптам устаў малады, яшчэ зусім малады чалавек у паўвайсковай форме. На плячах у яго было нешта падобнае на абцягнуты паўшубак, з-пад якога выглядала афіцэрская гімнасцёрка, на нагах — галіфэ і боты. У правай руцэ ён трымаў планшэт. Іранічна ўсміхаючыся, ён нешта гаварыў, але я спрасонку не разабраў, і ён паўтарыў:

— Атака не праснілася?

Я ўсміхнуўся і правёў далонню па заспаным твары.

— Паступаць ці з былых студэнтаў? Я таксама. На трэці курс? Будзем разам. Хадзем я вас завяду. Я тут ужо некалькі дзён. Інвалід? Ногі? Дадуць кватэру бліжэй. Пазнаёмімся. Мележ Іван.

Пакуль я браўся на ўлік, атрымліваў ордэр на жылплошчу, хлебныя і іншыя карткі, мой новы знаёмы перакідваўся словам то з адным, то з другім, як сапраўдны старажыл, быццам ён тут не дні, а месяцы пражыў.

Па дарозе на кватэру Іван пацікавіўся:

— Яшчэ не жанаты?

Я пакруціў галавою.

— А ты?

— Жанаты. Дачку ўжо маю. Жонка ў Бугуруслане з дзіцем. Хоча сюды. З кватэраю цяжка. Праўда, Парфен Пятровіч абяцаў памагчы. Пенсію атрымліваеш? У цябе трэцяя? Дзе раніла? Пад Волхавам? А мяне пад Растовам. У пяхоце? А я быў палітруком у артпалку. — Ён узяўся леваю рукою за правае плячо і выставіў уперад правую руку, паматляў кісцю. — Нічога, валодаю.

З першых дзён сустрэчы нас пацягнула адзін да аднаго. Праблемы беларускай літаратуры былі самай жаданай тэмай нашых трывалых размоў. Неяк ні ў яго, ні ў мяне не ўзнікала патрэбы пытаць, пішаш ці не пішаш, гэта ў нейкай меры стала само сабой разумецца. Я толькі запытаў:

— Друкаваўся? Што? Дзе?

Аказваецца, друкаваў вершы. Вот не чакаў! Перада мной стаяў выліты празаік. Ён крышачку засаромлена прызнаўся. Я адказаў яму сваім прызнаннем. Пасля гэтай размовы нярымсцілася адзін аднаму прачытаць што. Першае такое чытанне неўзабаве і адбылося проста на калідоры, ля расчыненых дзвярэй пасля заняткаў, калі нікога не было. Прачытаў ён невялічкае, незавершанае, напісанае па-руску ў школьны сшытак дробненька, у кожную лінейку апавяданне. Мне спадабаўся гэты мастацкі кавалачак, але чаму па-руску? Праз нейкі тыдзень Іван паявіўся ў мяне на парозе:

— Можа, прачытаеш? Па-беларуску.

Мы абодва вельмі высока адзываліся аб прозе Кузьмы Чорнага і, вядома ж, вучыліся ў гэтага выдатнага майстра. У мяне раптам з’явілася думка: а што, калі паказаць апавяданне Мікалаю Карлавічу? Гэтай думкай я падзяліўся з Іванам:

— Рызыкі ніякай. Ёсць добрая зачэпка сустрэцца з гэтым разумным, таленавітым і добрым мастаком.

Іван зачырванеўся — спадабалася яму гэта ідэя.

Мне ўжо даводзілася сустракацца з Мікалаем Карлавічам[3], Іван жа яшчэ асабіста не быў знаёмы з ім. Я не чакаў, што Іван выявіць такую настойлівасць і сур’ёзныя адносіны да сваіх намераў.

Але пакінем Івана Мележа пакуль што рыхтавацца да сустрэчы з Чорным і адступімся крышку назад. Будыніна, у якой меў шчасце аднавіць сваю работу

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, была невялікая двухпавярховая з драўлянага кругляка з двума пад'ездамі. Але функцыянаваў толькі адзін. Нешта жыло і нешта рабілася ў пакоях другога паверха, у якім былі закшлёныя і агледжаныя вокны. Тут адзін пакой быў адміністрацыйны. Тут стаяла некалькі сталоў і за імі сядзелі жанчыны. Насупраць была бібліятэка — гара сцюкаванай літаратуры, якою, вядома ж, ніхто не карыстаўся. Кнігі чакалі сваёй сталай прапіскі ў Мінску. Далей па калідоры быў кабінет рэктара і візаві дзве аўдыторыі. Тут і пачалося нядаўняе адроджанае жыццё універсітэта, яго невялічкага калектыву студэнтаў і выкладчыкаў. Я шукаў сярод іх сваіх старых знаёмых, сяброў — нікога. Потым сёй-той знайшоўся, хоць за межамі універсітэта. З адміністрацыі і выкладчыкаў былі: сам рэктар Парфен Пятровіч Савіцкі, прафесар Цімафей Пятровіч Ломцеў, дацэнт Бараг, дацэнт Жыркевіч, прафесар Лур'е, дацэнт Карнеева-Петрулан, прафесар Макушок, выкладчыца Жыдовіч Мар'я Андрэеўна, дацэнт Ларчанка, дацэнт Серданін і іншыя. Па ўкарочанай праграме чыталіся лекцыі, абараняліся дысертацыі. Жыццё універсітэта паволі прымала форму арганізаванай вучэбнай установы.

Тыдняў праз два па прыездзе маім на Сходню я паехаў электрычкай у Маскву, каб сустрэцца з Цімахом. Адрас рэдакцыі часопіса «Беларусь», толькі што створанага, дзе ён працаваў адказным сакратаром, нейкім чынам трапіў у мае рукі, таму я не меў вялікага клопату сустрэць свайго сябра. Рэдакцыя змяшчалася на першым паверсе ў доме, які адным сваім вуглом выступаў на вуліцу Горкага і плошчу Пушкіна. Тады помнік Пушкіну стаяў яшчэ на Цвярскім бульвары, у самым яго пачатку. Язык прывёў мяне ў прасторны пакой з двума вокнамі і трыма сталамі. З чатырох мужчын — хто сядзеў, хто стаяў — пазнаю аднаго, хто мне якраз і патрэбен, — Цімаха. Гэта быў мой шчаслівы дзень — каб з першай спробы ды ўзяць і знайсці. Пазнаў і ён мяне. Збегліся пасярэдзіне пакоя, абняліся.

— Шынялёк твой порахам пахне, дарагі мой.

— Больш волхаўскім балотам, чым порахам.

— На Волхаўскім фронце ваяваў? Цяжка было? Пра гэта яшчэ раскажаш. А зараз падыдзем да нашага адказнага сакратара Ільі Данілавіча.

Прозвішча гэтага чалавека я ведаў і па газеце «Літаратура і мастацтва», і па п'есе «Качагары», якую я недзе бачыў у пастаноўцы самадзейнага гуртка. Ні п'еса, ні пастаноўка яе мне тады не спадабаліся. Цяпер жа, калі ішло згуртаванне нацыі супраць фашызму, яна магла б загучаць. Ілья Данілавіч у кажушку наапашкі сядзеў за сваім рэдактарскім сталом і сустракаў мяне з добрай ветлівай усмешкай.

— Будучы выдатны празаік Мікалай Лобан, — пажартаваў Цімох і ўвагнаў мяне ў фарбу.

— Вельмі рады пазнаёміцца. Трэба збірацца патроху, хлопчыкі. Разагналі нас па свеце. Але нічога, канец ужо блізка. На краявідзе заблішчала прасветліна. Скора загляне сонца ў наша ваконца. Дзе ж астаўбаваліся? На Сходні, ва універсітэце? Лю́бая справа вучоба. Сам з задавальненнем павучыўся б, ды не тыя гады. Трэба часопіс рабіць. Прыносьце, калі ёсць што нагатове.

А гэта нашы вядомыя ўжо паэт Антон Бялевіч[4] і празаік Мікола Лупсякоў[5], — працягваў знаёміць мяне Цімох з маладымі літаратарамі, што на тую хвіліну наведаліся ў рэдакцыю. Недзе да вайны прамільгнулі былі прозвішчы, а што чытаць, то не давялося.

Цімах запрапанаваў наведацца вечарам да Мікалая Карлавіча, які жыў у гасцініцы «Якар». У мяне якраз была патрэба ў гэту гасцініцу, і я з задавальненнем згадзіўся, не ведаючы, ці добра без запрашэння і папярэджання ўвальвацца ў хату, можна сказаць, малазнаёмага чалавека. Цімах сябраваў з ім, то яму іншая справа. А мне? Я падзяліўся сваімі сумненнямі з Цімахом. Той не захацеў слухаць.

— Усё наадварот. Мікалай Карлавіч будзе рады новаму чалавеку. Ды, нарэшце ты са мною. А ён ведае, што калі я прывёў, то прывёў добрага чалавека.

Я падняў рукі ў знак таго, што здаюся.

Адчыніла нам дзверы жонка Мікалая Карлавіча Равека Ізраілеўна. Запрасіла заходзіць.

— Сеў Мікалай Карлавіч павячэраць.

Цімах сумеўся:

— Дык мы хіба…

— Ніякіх «хіба», заходзьце, хлопцы. Я ўжо канчаю. Мо хочаце есці, то падсядайце. Ухапіце свежанькай бульбы са свежым агурэчкам. Маё любімае ядзенне. Садзіцеся на ложак. Панскіх крэслаў няма, садзіцеся на што папала. Можа, дасць бог, скора ў Мінск вернемся, то там абжывацца будзем. Там газета ляжыць свежая, то разгарніце, пакуль я тут з бульбаю спраўлюся. Смачная, сопкая бульба сёлета ў Маскоўіі, не раўнуючы як некалі ў Цімкавічах, у Ёдкі была.

— Не горшая была і ў Чаплічах, — дзеля жарту пярэчу я.

— Кожны цыган сваю кабылу хваліць, — пад агульны рогат дадае Цімох.

— Ведаю Чаплічы. Некалі ў чапліцкую воласць вымаць метрыкі хадзіў. Цікавае сяло. У свой час яно праславілася тым, што там выраслі два дзівакі: адзін бегаў з Чапліч у Слуцак і з Слуцка ў Чаплічы трыццаць чатыры вярсты з паклажаю на спіне; другі голы на людзях хадзіў з усімі сваімі прычындаламі.

— А з пеўнем там ніхто не біўся? — падтрымлівае Цімох, нагадваючы пачатак аднаго чорнаўскага твора.

— Мой певень цімкаўскай прапіскі.

Вечар быў прысвечаны мне, франтавіку, хоць пасля майго франтавога жыцця мінула аж два гады. Мікалая Карлавіча цікавіла ўсё: ад таго, як я трапіў у армію, і да таго, дзе і як мне працавалася пасля шпіталя. Якая нагода прывяла мяне ў Маскву. Пачуўшы, што я атабарыўся на Сходні, Мікалай Карлавіч ажывіўся:

— Там у вас на трэцім курсе здольны хлопец ёсць, Мележ. Цікавае апавяданне прыносіў. Будзе добры пісьменнік.

Я сказаў, што ведаю Івана Мележа, што гэта мой сябра, за адным сталом сядзім, спаборнічаем.

— Вот гэта добра, хлопцы, што вы ўдвох там. Падштурхвайце адзін аднаго. Трэба, хлопцы, пісаць. У апошнія гады наша літаратура панесла вялікія страты. Хто памёр, а хто на фронце загінуў. Яшчэ невядома, каго мы не далічымся.

Мы з Цімахом тады, няпозна пабыўшы, разышліся. Мікалай Карлавіч у ваенныя гады многа працаваў. Любіў і вечарам пасядзець за сталом.

У той жа вечар, прыехаўшы да сябе на Сходню, хоць было ўжо і позна, я зайшоў да Мележа на «дачу» і ўсё падрабязна расказаў пра нашу размову з Мікалаем Карлавічам. Іван не мог схаваць ад мяне сваёй вялікай радасці. Мо ці чуў ён такія словы ад самога Мікалая Карлавіча. Ён увесь нейк загарэўся ад шчасця, схапіў мяне за руку:

— Ведаеш, будзем пісаць, будзем памагаць адзін аднаму!

Я тады падумаў і цяпер думаю: якое вялікае значэнне мае своечасова атрыманая справядлівая аўтарытэтная падтрымка!

Міналася трэцяя галодная ваенная зіма. Убіралася ў сілу вясна. Пазаплоццю на дачах адскочыла маладзенькая крапіва — першы прыварак студэнцкай сталовай. Раніцай, у гадзін восем буфетчыца з дзяўчатамі-студэнткамі прывозілі з Хімак у мяшках печаны, яшчэ гарачы хлеб і тут жа развешвалі жывой чарзе. Палавіна пайкі з’ядалася тут жа, у буфеце, на вачах такой жа галоднай чаргі. Другая палавіна клалася ў шчыльны мяшэчак, з якога не вываліцца ні адна крошачка і засоўвалася ў надзейнае месца. Так рабілі дзяўчаты, якія лягчэй пераносілі адчуванне голаду. Хлопцы не маглі прытрымлівацца такой дысцыпліны, не гледзячы на тое, што яны як інваліды атрымлівалі дадатковыя карткі. Не меншы голад адчуваў і я. Цяжка было што-небудзь прыдумаць, каб палепшыць сваё харчаванне. Але вот нечакана-негадана прыйшоў ратунак: аднае раніцы ці не ў маі месяцы 1944 года на раз’ездзе я сустрэўся з нашым выкладчыкам беларускай мовы, аўта-

рам граматыкі Міхаілам Іванавічам Жыркевічам. Ён сустрэў мяне зацікаўленым позіркам і прымусіў падысці:

— Ты не хацеў бы папрацаваць над перавыданнем слоўніка Александровіча[6]? Панамарэнка[7] загадаў перавыдаць слоўнік. Складаецца камісія пры прэзідыуме Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам Пятра Фёдаравіча Глебкі. Я прапанаваў уключыць і цябе, ведаючы тваю схільнасць да лексікаграфіі. Калі не супраць такой прапановы, то сёння ж, нядоўга збіраючыся, едзь у Маскву, у «Якар». Там ёсць такі Суднік Міхаіл Раманавіч[8], без рукі, кіруйся да яго. Зараз я табе скажу яго пакой — трэці паверх, 318 пакой.

Я з захапленнем адгукаюся на прапанову Міхаіла Іванавіча. Мне яшчэ з дваццатых гадоў мроілася лексікаграфічная работа, здавалася б, усю душу ўлажыў бы, каб можна было ўсур'ёз прывязацца да яе. Ішла цяжкая вайна — не да слоўнікаў было. Панцеляймон Кандрацьевіч Панамарэнка быў начальнікам штаба партызанскага руху, работы — дай божа. І вот жа знайшлася хвіліна на такое пытанне, як патрэба ў слоўніку. Я і сам адчуваў гэту патрэбу. Мне думалася, што пакуль нічым іншым я займацца не магу, літаратурную творчасць я адкладваў да з'яўлення лепшых умоў, а цяпер, пакуль хто ачухаецца, я паўслоўніка зраблю. І нікому нічога не кажучы, пачаў рэзаць на карткі ўсякую валяшчую паперу і запісваць словы, пачынаючы з «а». Хлопцы, якія жылі разам са мною, глядзелі на мяне як на дзівака: няма чаго рабіць, то задаў сабе работу. Я не звяртаў увагі на хлапечыя жарты і кожны дзень прыбаўляў і прыбаўляў. Тым не менш усё гэта насіла характар забавы. Тое ж, што прапанаваў Жыркевіч, ужо было нешта сур'ёзнае.

Прыязджаю ў Маскву, знаходжу гасцініцу «Якар», стукаюся ў пакой 318. З глыбіні пакоя даносіцца мужчынскі голас, а праз хвіліну адчыняюцца і дзверы. Перада мною мужчына гадоў трыццаці пяці ў светлай з кароткімі рукавамі сарочцы навыпуск. Аголеныя вышэй локцяў рукі асыпаны рабаціннем, левая рука без кісці — вынік небяспечнай дзіцячай забаўкі з самадзельным пісталетам. Гэта я потым даведаўся.

— Вы Міхаіл Раманавіч Суднік? — Мужчына пацвердзіў ледзь прыкметным кіўком галавы. — Я да вас па рэкамендацыі Міхаіла Іванавіча Жыркевіча адносна работы ў камісіі па падрыхтоўцы да перавыдання руска-беларускага слоўніка.

Мужчына адступіўся ад дзвярэй і рухам правай рукі запрасіў заходзіць.

— Так, такая работа распачынаецца. Ёй будзе кіраваць вядомы беларускі паэт Пятро Фёдаравіч Глебка, калі даводзілася чуць.

— Не толькі чуў, але і чытаў яго кнігі — «Шыпшыну», «Арку над акіянам», «Хаду падзей», «Мужнасць».

Маё пералічэнне Глебкавых кніг выклікала ў Міхаіла Раманавіча давольную масляную ўсмешку: «Ага, значыць хлопец цікавіцца беларускай літаратурай».

— Я чуў, што вы самі, у адзіночку складаеце слоўнік? Гэта пахвальна, але час Уладзіміра Іванавіча Даля і Івана Іванавіча Насовіча мінуўся, ды і лексікаграфія зараз не тая і слоўнік нам патрэбен не праз сорак гадоў, а максімум праз пяць гадоў. Так што вам прамая дарога ў нашу групу.

— Гэтага і прыехаў.

— Ну і добра. Вот вам ліст паперы, падсоўвайцеся да стала і пішыце заяву на імя самога прэзідэнта Канстанціна Васільевіча Горава. А ў наступны панядзелак Пётр Фёдаравіч збірае слоўнікавую групу на Сокале, у зале паседжанняў прэзідыума. Будзем размяркоўваць работу, знаёміцца з інструкцыяй, паводле якой мы будзем рыхтаваць слоўнік. Там будуць вырашацца і ўсе іншыя пытанні, што датычацца працы над слоўнікам. Не пазніцеся. Паседжанне групы пачнецца ў адзінаццаць гадзін раніцы. Справіцеся прыехаць? Няёмка будзе, калі Пётр Фёдаравіч прыедзе, а нас каго-небудзь не будзе.

Наступны дзень я вырашыў аддаць знаёмству з слоўнікамі падобнага тыпу. Дзеля гэта адным з ранніх прыгарадных выехаў у Ленінскую бібліятэку. У даведчым аддзеле папрасіў падабраць мне з дзясятак навейшага выдання руска-

іншамоўных слоўнікаў, у тым ліку і руска-беларускі пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча. Супрацоўніцы аддзела з задавальненнем выканалі маю просьбу і замацавалі за мною цэлы стол. Я хадзіў у паношанай вайсковай форме. Салдат — навуковец. Гэта вельмі дзейнічала, мне ўсяляк стараліся памагчы, тым болей, што яшчэ ўсё хадзіў з кіёчкам. На першым часе нават далі чыстых картак.

Першае, што хацеў даследаваць, гэта тое, якія ёсць тыпы слоўнікавых артыкулаў і як яны афармляюцца ў навейшых слоўніках. Гэта было галоўнае з таго, што хвалявала мяне як пачынаючага лексікографа. Семантычны аналіз слова нас пакуль што не хваляваў — мы збіраліся ўкладаць не тлумачальны, а перакладны слоўнік, у якім рэестравая частка можа быць цалкам запазычана з рускіх тлумачальных і перакладных слоўнікаў. Мы можам запазычыць і афармленне артыкула. Навошта вынаходзіць веласіпед. Наша задача знайсці найлепшы эквівалент у беларускай мове. Такія асноўныя вывады зрабіў у выніку некалькідзённага вывучэння слоўнікаў. Я адчуваў неабходнасць прыйсці на нараду ў панядзелак з сваімі пэўнымі і абгрунтаванымі думкамі. Напэўна ж, усе падрыхтаваныя да гэтай работы, толькі я адзін нічога падобнага не спытваў. Але няхай будзе што будзе.

Давялося трошкі пачакаць, паглядацца адзін на другога: двое мужчын (мы з Суднікам) і чатыры жанчыны і ні аднае знаёмае. І толькі Міхаіл Раманавіч знаёмы з усімі, як і трэба адміністратару, які да гэтага некаторы час працаваў у міністэрстве асветы. На якой жа пасадзе ён цяпер? Выконвае нейкія сакратарскія абавязкі ў Пятра Фёдаравіча? Я яшчэ зусім не знаёмы са структурай акадэміі.

А вот і ўвайшоў Пётр Фёдаравіч у ярка-блакітным юнраўскім гарнітуры. Кіўком галавы павітаўся з усімі і заняў старшынёўскае месца за сталом. Міхаіл Раманавіч еў вачыма свайго начальніка. Патрэбен спіс? Калі ласка. Усе сем чалавек. Пётр Фёдаравіч прамармытаў зверху ўніз спіс і адклаў убок.

— Мы сёння павінны вынесці канчатковае рашэнне: будзем мы рыхтаваць да перавыдання «Руска-беларускі слоўнік» 1937 года ці прыступім да ўкладання зусім новага слоўніка. Калі будзем рабіць новы слоўнік, то які ён павінен быць. Рэестр якога слоўніка мы павінны пакласці ў аснову рускай часткі, які павінен быць аб'ём гэтага слоўніка. Прашу, таварышы, выказацца па гэтых пытаннях. Мы ўжо тут мелі магчымасць свае думкі адзін аднаму <выказаць> хоць не ў афіцыйным парадку, а хутчэй закулісна, але не ведаем думкі нашага новага таварыша, Мікалая Паўлавіча Лобана, тым болей, што таварыш Лобан ужо даўно назначыў сабе лексікаграфічную дарогу, у адзіночку складае тлумачальны слоўнік.

Даводзіцца выступаць. Хоць бы не асарамаціць сябе сваім невуцтвам. Добра, што я перад гэтым меў магчымасць пагартаць слоўнікі.

— На першае пытанне, што рыхтаваць ці перавыданне слоўніка 1937 года ці новы слоўнік, па-мойму, дзвюх думак быць не можа — трэба рыхтаваць новы слоўнік. Чаму? Таму што слоўнік 1937 года задужа малы. Нам патрэбен слоўнік літаратурнай мовы мінімум на 80—90 тысяч слоў; таму што слоўнік 1937 года вельмі прымітыўны, складваецца такое ўражанне, што гэта першая спроба стварэння падобнага слоўніка, няма ў каго павучыцца. Я хачу сказаць, што ўкладальнікі не выкарысталі багаты вопыт, здабыты лексікаграфіяй. Нам патрэбен слоўнік, які быў бы ў навуковых адносінах на ўзроўні сучаснай лексікаграфіі. Чаму мы павінны рабіць заведама няўдалы слоўнік? Навошта, каб з нас смяяліся. Што датычыцца рэестравай рускай часткі, то яе найлепш запазычыць у тлумачальным слоўніку пад рэдакцыяй Ушакова. Хто можа лепш адабраць слоўнікавы склад рускай літаратурнай мовы як не самі рускія? Наша задача знайсці ў сваёй мове найбліжэйшыя адпаведнікі для кожнага значэння рускага слова.

Пётр Фёдаравіч пачакаў хвіліну, ці не дадам я яшчэ што, і, адчуўшы, што такі кончыў, даў слова Міхаілу Раманавічу:

— Мікалай Паўлавіч як падслухаў нас. Мы ўсе такой думкі. Нам трэба рабіць новы слоўнік аб'ёмам тысяч на сто. Для папаўнення рэестра можна выкарыстаць навейшыя слоўнікі руска-іншамоўныя Рудаша. Што датычыцца афармлення слоў-

нікавага артыкула, то можна ўзяць за ўзор тыпы артыкулаў слоўніка французска-рускага пад рэдакцыяй Льва Уладзіміравіча Шчэрбы[9]. Гэты слоўнік у навуковых адносінах лічыцца самым дасканалым. Толькі я думаю, што нам скажа ўрад, які загадаў перавыдаць слоўнік 1937 года.

— Анічога не скажа. Я быў у Панцеляймона Кандрацьевіча, ён мне сказаў: вы акадэмія, вы і рашайце, які слоўнік рабіць, толькі праз тры гады каб слоўнік ляжаў на стале. Ясна вам? Падлатаць александровічаўскі за тры гады мы змаглі б, а зрабіць новы за гэты час без картатэкі, без матэрыялаў, без вопыту, наўрад ці ўдасца. І тым не менш, — Пётр Фёдаравіч абвёў нас вачыма, — я схіляюся да агульнай думкі, што нам трэба рабіць новы слоўнік. Я думаю нас не разапнуць, калі мы на год-другі і зацягнем работу[10]. Ксенія Аляксандраўна Марцішэўская, галоўны рэдактар слоўнікавага выдавецтва, сказала, што руска-беларускі слоўнік 1937 года заўсёды нагадваецца як прыклад таго, як не трэба рабіць слоўнікі. Няўжо ж мы пасля гэтага будзем рыхтаваць яго перавыданне? Калі пярэчанняў няма, то будзем лічыць вырашаным прынцыповае пытанне аб падрыхтоўцы новага руска-беларускага слоўніка. — Пётр Фёдаравіч спыніў свой позірк на Судніку: — Трэба б было нашу сённяшнюю гаворку пратаколам аформіць. Слоўнікавая група прыйшла да адзінай думкі: прыступіць да ўкладання новага аб’ёмам на 80—100 тысяч слоў руска-беларускага перакладнога слоўніка. За аснову рускай часткі ўзяць рэестр «Тлумачальнага слоўніка рускай мовы» пад рэдакцыяй Ушакова. У аснову лексікаграфічнай структуры слоўнікавага артыкула пакласці тыпы слоўнікавых артыкулаў «Французска-рускага слоўніка» пад рэдакцыяй Шчэрбы і іншых навейшых слоўнікаў.

Некаторыя члены аўтарскай групы ўжо распачалі работу. Ім замацавалі іх раздзелы. Мне дасталіся літары «С», «Т», «У». Ніхто не пытаўся дзе працаваць, не пытаўся і я, ясна было і так: дзе спіш, там і працуй, хоць седзячы на чамадане, калі не падабаецца ў бібліятэцы. А я аблюбаваў сабе столік у даведачным аддзеле. Дзякаваць богу, бібліятэчная абслуга не пярэчыла, а наадварот памагала.

Мне здавалася, што я ўчапіўся ў такую работу, якая марылася з 20-х гадоў і якая стане маім прызваннем. Мая мастацкая творчасць сама сабою адсунулася на задні план. Я спаў гадзін пяць у суткі. Уставаў яшчэ цёмненька, ухапаткі снедаў чым бог паслаў, і праз гадзіну я ўжо быў на Ленінградскім вакзале, а там — у метро і к адкрыццю бібліятэкі я ў гардэробе. У 9 гадзін раніцы я садзіўся за стол, працаваў не ўстаючы да дзвюх гадзін, ішоў пяшком у сталовую, кіламетра паўтара, абедаў па НР картцы і недзе а палове чацвёртай зноў садзіўся за стол. З паўгадзіны я аддаваў на прагляд сённяшняй прэсы і распачынаў работу. І заканчваў работу роўна ў столькі, каб толькі хапіла часу ўспець на апошні прыгарадны цягнік. І так кожны дзень. Тыдняў за два я так вывучыў трасу, і ўсё рабіў так дакладна па часе, што я адважваўся нават у метро і ў цягніку крыху прымгнуць вокам. Колы майго вагона, пад’язджаючы к сходненскаму раз’езду, пачыналі па-асобаму спяваць і прымушалі мяне куляй выскокваць з вагона.

Не абышлося і без трагікамічных выпадкаў. Быў назначаны пасля месячнай работы дзень абмеркавання зробленай работы. На першае абмеркаванне была пастаўлена работа Міхаіла Раманавіча. Калі з’ехаліся на месца збору, то картак у кішэні Міхаіла Раманавіча не аказалася: стопка картак па фармаце падобна на стопку чырвонцаў. Так Міхаіл Раманавіч паплаціўся месячнай работай.

Са мною. Я вёз электрычкай два цюкі перавязаных шпагатам картак літары «С». На тым прыпынку, дзе мне трэба было выходзіць, сабралася многа пасажыраў. Сустрэліся дзве плыні і так сціснулі мяне, што цюкі мае разваліліся і карткі часткай рассыпаліся ў вагоне, а часткай на пероне. Што рабіць? Я кідаюся выграбаць карткі з вагона на перон. Нехта з пасажыраў памагае мне, нехта жартуе — «нічога, падмятуць». Правяраю ці не асталася дзе адна. Яшчэ на прыступках. Падыходзіць дзяжурны з паднятым кружком:

— Можа, затрымаць?

— Усё. Не трэба. Адпраўляйце.

Я стаяў перад кучай скіданых картак і не ведаў што рабіць, хоць ты бяры знімай сарочку. Я ўжо збіраўся гэта зрабіць. Але няма ліха без дабра: жанчына, якая памагала мне зграбаць на перон карткі, кінула з акна мне пад ногі і авоську. Я ледзь не заплакаў ад шчасця. Не паспеў нават падзякаваць. Маленькі, капеечны ўчынак, а колькі пачуцця ў ім, удзелу, спачування, дабраты. Я дзякаваў бога, што ён учыніў са мною такое здарэнне. Не тое золата, што на руках ды на шыях носяць, а тое, што носяць у душы.

У сувязі з працай над слоўнікам я здорава падзапусціў вучобу. Мае аднакурснікі паздавалі па адным, па два прадметы, а я адзін ні аднаго. Давялося зрабіць перапынак у працы над слоўнікам, каб пасядзець над польскай мовай, якую выкладала Карнеева-Пеірулан. Мне мае сябры-аднакурснікі параілі студэнтку, польку па нацыянальнасці, якая дасканала ведае сваю мову. Я ўхапіўся за гэту магчымасць і атрымаў некалькі вельмі карысных мне кансультацый па вымаўленні. Тыдні праз два я адчуў, што гатовы здаваць.

Трэба было падпільнаваць выкладчыцу, каб дамовіцца, у які дзень, а якой гадзіне яна зможа прыняць у мяне польскую. Сухенькая, маленькая, экзальтаваная жанчына падняла бровы:

— Вы жартуеце, мілы друг, ды вы ж ні адной лекцыі польскай мовы не праслухалі! Як жа вы будзеце здаваць?

Я бедна і вінавата паспрабаваў расказаць ёй, што працую над слоўнікам, што мяне запрасілі, уключылі ў аўтарскую групу. А польскую мову я самастойна рыхтаваў.

— Ну што ж, паглядзім. Заўтра ў 8 гадзін.

Выкладчыца завярнулася і пайшла ад мяне. Яна яўна была не ў духу. Двойка забяспечана, хоць ты бяры ды не ідзі зусім. А яшчэ — недакладна дамовіўся на якія восем гадзін, раніцы ці вечара. Паразважаў: каб раніцы, то ніяк не атрымліваецца, трэба ўстаць у шэсць, каб к васьмі прыехаць на Сходню з Масквы. Вечарам, канечне. Вечарам палова заняткаў праводзіцца. Раніцай, у пачатку дзевятае гадзіны бягу ў буфет атрымаць свае трыста грамаў хлеба. Толькі я ўвабег — мне крычаць: «Бяжы на станцыю, перанімай Мар'ю Іванаўну. З-за цябе прыехала». Не да хлеба. Усё кінуў-рынуў — і на раз'езд. Мар'я Іванаўна адзінока хадзіла па платформе раз'езда. Я падбягаю да яе і пачынаю слёзна прасіць даравацъ мне.

— Мілы друг, вы не шануеце час вашых выкладчыкаў!

Я нешта невыразнае лепячу пра восем гадзін вечара. У Мар'і Іванаўны паволі сэрца адыходзіць, і яна вяртаецца назад. Знаходзім вольную аўдыторыю, садзімся за стол. Дрыжу, чакаю пытанняў. Чытанне і пераклад уступу да «Пана Тадэвуша», пару адрыўкаў празаічных тэкстаў. Бегла чытаю, з Міцкевіча — на памяць. Мар'я Іванаўна ў захапленні. Пакутлівы выраз твару змяніўся на вясёлы, заззяў, нават чырвань паказалася. Не горш удалося адказаць на пытанні па граматыцы і гісторыі мовы. Мар'я Іванаўна раз за разам паўтарала: «Цудоўна, мілы друг», а я рос, як на дражджах, усё нядаўна прачытанае лёгка ўспаміналася. Яна мне паставіла «выдатна», і мы разышліся сябрамі.

Маскоўскія мінчане збіраліся вяртацца на радзіму. Пачалося лета 1944 года. Нашы войскі Першага, Другога і Трэцяга беларускіх франтоў, прарваўшы абарону праціўніка, хутка памкнуліся на Мінск. 3 ліпеня нашы войскі авалодалі сталіцай Беларусі. Збіраўся пераязджаць і універсітэт: вязалі ў цюкі кнігі, грузілі ў падагнаныя вагоны іншую маёмасць. Гаспадарнікі запасаліся жалязнякамі — спатрэбяцца на расчыстцы горада, сваіх універсітэцкіх карпусоў. Што такое руіны <мы ведалі>: нам даводзілася бачыць у кінахроніцы і Смаленск, і Вязьму, і Кіеў, і мноства іншых вялікіх і малых гарадоў. Мне ж давялося бачыць родны Мінск у руінах гарачых, горад у дыме пажараў. Які ён цяпер?

Другім заходам забралі і нас, інвалідаў, у тым ліку мяне і Мележа. Развіталіся з гасціннымі Масквой і Сходняй. Дарога на Мінск ляжала ў такой жа руіне, як і гарады. У часе вайны дарозе асабліва дастаецца. Асабліва сумны выгляд мела дарога на нядаўна вызваленай тэрыторыі. Яна ўся была ўкрыта варонкамі, абочыны — пагнутымі рэйкамі, патрушчанымі драўлянымі шпаламі. Дарога жыла адапапуткай. Аднаўлялі пад агнём ворага. Трэба было як найхутчэй, а рэек спраўных не было. А ці няможна выкарыстаць гнутыя? Расказавалі, сам Панамарэнка, інжынер чыгуначнага транспарту па адукацыі, сам сканструяваў прыстасаванне выпростваць рэйкі. Быццам нядрэнна атрымлівалася. Выкарыстоўвалі калі не на чыгунцы, то ў якасці бэлек на будаўніцтве замест пакручаных, пасінелых у вогнішчах пажараў.

Мінск ляжаў у суцэльнай руіне. З-пад гор трушчанай цэглы тырчалі канцы металічных пакручаных бэлек, парэбрыны жалезных коек з нікіляванымі шарамі, дзверцы з старамодных кафлявых печаў, пранжавеўшыя лісты даху. Замест вуліц разверзліся сваімі чэравамі дамы, быццам нехта злы душою паўспорваў ім жываты. На кожным кроку цягаўся дрот, звешаны з павыварочваных тэлеграфных слупоў. Па Савецкай сям-там праходзілі людзі, праязджалі грузавыя і легкавыя машыны, найбольш магутныя вайсковыя «студэбекеры» і малень-[…]

## Каментарыі

[1] Цімох Крысько — Васіль Вітка (16.05.1911—05.07.1996) — беларускі паэт, пісьменнік, драматург, літаратурны крытык, заслужаны дзеяч культуры БССР (1970), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972) за кнігі «Беларуская калыханка», «Казкі», «Чытанка-маляванка». Даўні сябра Міколы Лобана (яны пазнаёміліся летам 1927 года), якога ён у сваіх успамінах называе і Цімахам, і Цімохам. Іх родныя вёскі Чаплічы і Еўлічы Слуцкага раёна знаходзіліся побач.

[2] Гурскі Ілья (26.04.1899—11.08 1972) — беларускі пісьменнік, драматург, заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1969). Нарадзіўся ў вёсцы Замосце Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1914 г. у пошуках працы пераехаў у Петраград. Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайне. Быў цяжка паранены. Пасля дэмабілізацыі (1924) працаваў у Галоўліце БССР. Быў прызначаны старшынёй Галоўрэперткама БССР, начальнікам Галоўмастацтва БССР. Адначасова вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні (скончыў у 1932). Займаўся ў аспірантуры АН БССР (1932—1935). Быў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» (1935—1941). Удзельнік паходу ў Заходнюю Беларусь. У Вялікую Айчынную вайну — адказны сакратар франтавой газеты «За Савецкую Беларусь», рэдактар газеты «За свабодную Беларусь», рэдактар сатырычнага часопіса «Партызанская дубінка». У 1944—1960 гг. рэдагаваў часопіс «Беларусь». Сябра СП СССР з 1934 г. Аўтар п'ес «Новым шляхам» (1928), «Дрыгва» (1928), «Сварка» (1929), «Качагары» (1932), «Бальшавіцкая вясна» (1930), «Новы горад» (1933), «На крэсах усходніх» (1933), «Маці» (1934), «Сваты» (1935), «На варце» (1938) і інш. Выйшлі кнігі апавяданняў «Над Нёманам» (1945), «На родных гонях» (1948), «Зары насустрач» (1949), «Неспакойныя характары» (1955), «У вялікай дарозе» (1958), «Родная дарога» (1961), зборнік апавяданняў для дзяцей «На берагах Нявы» (1977), аповесць «Лясныя салдаты» (1945), раман «У агні» (1952), раман-хроніка «Вецер веку» (у 3-х ч. — 1966, у 4-х — 1974), раман-памфлет «Чужы хлеб» (1971). У 1951 г. выдадзены Выбраныя творы, у 1989 г. — кніга аповесцей і апавяданняў «Расцвілі вішні». Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і медалямі.

[3] Лобан пазнаёміўся з Кузьмой Чорным у ліпені 1930 года ў рэдакцыі часопіса «Узвышша».

[4] Бялевіч Антон (27.05.1914 г.—11.04.1978 г.) — беларускі паэт, пісьменнік. Нарадзіўся ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Магілёўскім палітасветным інстытуце (1933—1935). Працаваў загадчыкам аддзела пуха-

віцкай раённай газеты «За калгасы», нарысістам у газеце «Чырвоная змена», у 1939—1945 гг. — у газеце «Звязда». У час Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічаў у беларускім перыядычным друку, удзельнічаў у партызанскім руху на Віцебшчыне, закідваўся ў тыл ворага. У 1945—1947 гг. — загадчык аддзела паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва», у 1947—1950 гг. — нарысіст газеты «Савецкі селянін». Сябра СП СССР з 1943 г. Першы верш апублікаваны ў 1938 г. (газета «Літаратура і мастацтва»). У 1945 г. у Маскве выйшаў першы зборнік паэзіі «Человек из дубравы» ў перакладзе на рускую мову, у Мінску — вершаваная казка «Мароз-партызан». Аўтар кніжак паэзіі «На бацькоўскіх сцежках» (1946), «Свята» (1947), «Чалавек-сонца» (1947), «Паэмы» (1948), «Светач» (1950), «Дарогай шчасця» (1952), «Жывая рака» (1955), «Хлеб і нахлебнікі» (1957), «За салаўінымі гаямі» (1959), «Вясёлка над полем» (1961), «Залатыя ключы» (1963), «Высокі поўдзень» (1964), «Рэха навальніц» (1965), «Партрэт бацькаўшчыны» (1967), «Вінтоўка і плуг» (1968), «Любоў мая» (1971), «Гарынь» (1972), «А ў бары, бары» (1974), «З Дуброўкі краіна відна» (1974), «Сонцам заручоныя» (1975), «Сонечны гадзіннік» (1978), «Сосны ў жыце» (1980), «Мой шчодры бор» (1985). Выдаў зборнік вершаваных фельетонаў «Маштабны Міканор» (1963). Напісаў для дзяцей кніжкі паэзіі «Ідзі, мой сын» (1953), «Тарасікава дарожка» (1962), «Дабрадзейны асілак» (1973), «Партызанскі рыбачок», (1976), аповесць «Малюнкі маленства» (1977). Аўтар дакументальнай аповесці «Мінай Шмыроў» (1970), кніг нарысаў «Майстры сацыялістычнага земляробства» (1939), «Сонечным шляхам» (1950), «Добрыя людзі» (1957), «Людзі робяць вясну» (1959), «З добрай доляй заручоныя» (1960), «Хатынь: боль і гнеў» (1971), «Споведзь сэрца» (1978), кнігі літаратурных партрэтаў «Чарадзеі» (1970). Выйшлі Выбраныя творы ў 2-х тамах (1968—1969). Пераклаў на беларускую мову паэму А. Твардоўскага «За даллю — даль» (1962), асобныя вершы А. Пракоф'ева, М. Бажана, А. Малышкі, І. Няходы і інш. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» і медалямі.

[5] Лупсякоў Мікола (04.03.1919 г.—12.02.1972 г.) — беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў Маскве ў сям'і сялян. У 1921 г. сям'я вярнулася на радзіму — у вёску Папаратнае, што на Жлобіншчыне. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута (1941). З 1941 г. у Савецкай Арміі. Скончыў Смаленскае артылерыйскае вучылішча (1942). Удзельнічаў у баях пад Масквой, на Цэнтральным, Варонежскім франтах, пад Харкавам. У сакавіку 1943 г. быў цяжка паранены і пасля лячэння дэмабілізаваны. Працаваў у газеце «Казахстанская правда» (1943—1944), у рэдакцыях часопісаў «Беларусь» (1944—1945), «Бярозка» (1945—1949). Сябра СП СССР з 1944 г. У друку пачаў выступаць у 1935 г. (альманах «Аднагодкі»). Аўтар зборнікаў апавяданняў «Першая атака» (1946), «Апавяданні» (1947), «Мост» (1947), «Дружба» (1952), «Чырвоны бераг» (апавяданні і нарысы, 1954), «Дняпроўская чайка» (1957, 1988), «Паядынак» (1957), «У вераб'іную ноч» (1958), «Ля пераправы» (1959), «Прырэчча» (аповесць і апавяданні, 1961), «На берагах Дняпра» (1966), Выбраныя творы (1968), «Міхалаў дуб» (1974). Для дзяцей выйшлі кніжкі апавяданняў «Разведчыкі» (1949), «На вірах» (1974) і аповесць «Я помню...» (1964). Пераклаў на беларускую мову асобныя творы Дж. Лондана, У. Гаршына, П. Паўленкі, А. Гайдара, У. Курачкіна і інш. Узнагароджаны медалямі.

[6] «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй Александровіча (1937) — нарматыўны (да 2-й пал. 1938) руска-беларускі слоўнік, выдадзены ў двух тамах у Мінску (1-я пал. 1937) і канчаткова складзены пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча. Праца над новым слоўнікам была пачата ў кастрычніку 1930 года пасля масавых рэпрэсій у беларускай мовазнаўчай навуцы 1930 г. і забароны карыстання працамі «ворагаў народа». Здача ў друк планавалася на 1931 год, потым на 1932—1933, але з-за моцнага ўплыву палітычных фактараў на яго падрыхтоўку, слоўнік выйшаў толькі ў 1937 годзе. Неўзабаве пасля арышту А. Александровіча (1.7.1938) слоўнікам было забаронена карыстацца, як падрыхтаваным пад кіраўніцтвам «ворага народу» (2-я пал. 1938). Яшчэ да забароны слоўнік крытыкаваўся за надзвычайную русіфікаванасць беларускай часткі, хаця і адзначалася, што з яго моцна русіфікаванай мэтавай аўдыторыяй (быў прызначаны ў асноўным «для партыйнага, камсамольскага, фабрычна-заводскага і калгаснага актыву») ён, магчыма, цалкам задавальняў яе патрэбы.

[7] Панамарэнка Панцеляймон Кандрацьевіч (1902—1984) — савецкі і беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, генерал-лейтэнант (1943). З 1938 года першы сакратар ЦК КП Беларусі, адначасова з 1942 года ўзначальваў Цэнтральны штаб партызанскага руху.

Даваў згоду на арышт і асуджэнне дзяржаўных і партыйных работнікаў БССР, абражаў культуру і мову, фактычна падпісваў смяротны прысуд літаратурным дзеячам, абвінаваціўшы іх у «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай працы, ідэйна кіруемых заўсёды дзясяткам прафашысцкіх пісьменнікаў» (у тым ліку Я. Купалам і Я. Коласам). З пачатку 1939 года ўдзельнічаў у выкрыцці кіраўнікоў НКУС БССР, абвінавачаных у грубых парушэннях рэвалюцыйнай законнасці і злоўжываннях уладай. Панамарэнка прымаў удзел у кіраўніцтве войскамі, што ўвайшлі на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Менавіта ён пераканаў Сталіна ў тым, што Палессе з Брэстам і Пінскам павінны быць у складзе БССР, а пазней, калі быў гатовы праект перадачы Расійскай Фэдэратыўнай Рэспубліцы Полацкай вобласці, яго настойлівымі стараннямі ўдалося абараніць усходнія межы рэспублікі. З 1944 года — старшыня СНК СМ БССР. З 1948 года — сакратар ЦК ВКП(б), адначасова міністр нарыхтовак СССР. У 1953—1954 гадах — міністр культуры СССР. З 1953 года — першы сакратар ЦК КП Казахстана. У 1955—1962 гадах — пасол СССР у ПНР, Індыі, Непале, Нідэрландах. Узнагароджаны чатырма ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, ордэнам Суворава I ступені, ордэнам Айчыннай вайны I ступені, ордэнам «Знак Пашаны».

[8] Суднік Міхаіл Раманавіч (21.11.1910—19.12.1995) — беларускі мовазнаўца, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1970), кандыдат філалагічных навук (1954), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980). Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1938). У 1944—1952 гадах — навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1952—1957 гадах — загадчык сектара Інстытута мовазнаўства АН БССР, у 1957—1983 гадах — дырэктар, адначасова з 1975 г. — загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі, старшы навуковы супрацоўнік, з 1992-га — дарадца пры дырэкцыі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Асноўныя напрамкі даследаванняў — беларуская лексікалогія і лексікаграфія, арфаграфія, тэрміналогія, анамастыка. Адзін з аўтараў «Руска-беларускага слоўніка» (1953), «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), «Арфаграфічнага слоўніка» (5-е выд., 1982), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (тт. 1—5, 1977—1983). Старшыня Беларускага (1959—1985) і сябра Міжнароднага (з 1973) камітэтаў славістаў. Аўтар больш як 100 навуковых прац, манаграфіі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны» (1979), медалямі.

[9] Шчэрба Л. У. (1880—1944) — савецкі мовазнаўца, акадэмік АН СССР (1943). Узначальваў Ленінградскую фаналагічную школу. Аўтар прац па праблемах агульнага мовазнаўства, русістыкі, раманістыкі, славістыкі, лексікаграфіі, педагогікі.

[10] Праца над слоўнікам заняла больш доўгі перыяд. Ён выйшаў з друку ў 1953 годзе.

***Апрацоўка тэксту, прадмова і каментарыі***
***Аляксандра ВАШЧАНКІ.***



**Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ**

# БАГДАНОВІЧАЎ ЛЕРМАНТАЎ

*Да 200-годдзя з дня нараджэння М. Ю. Лермантава*

При памкненні вывесці беларускае прыгожае пісьменства на арбіту агульначалавечай культуры Максім Багдановіч прагна вывучаў набыткі іншых літаратур. У пошуках адметных шляхоў для выказвання сваіх пачуццяў ён не мог прайсці міма творчай спадчыны Міхаіла Лермантава, якога лічыў паэтам выключнай моцы, мастаком з глыбокімі і выразнымі думкамі і словамі. Лермантаўская паэзія паслужыла маладому беларускаму паэту адным з важных імпульсаў натхнёнага жыцця і ўзорам творчасці, што спрыяла паглыбленаму пранікненню ў навакольны свет і паглыбленаму разуменню прызначэння ролі мастацкага слова ў грамадстве.

Нягледзячы на тое, што параўнанне творчасці Лермантава і Багдановіча неаднойчы з'ўлялася прадметам зацікаўленасці беларускіх даследчыкаў (Р. Бярозкін, М. Ларчанка, М. Лазарук, М. Садоўская і інш.), пытанне пра лермантаўскі «элемент» у Багдановічавай творчасці па-ранейшаму прыцягвае да сябе ўвагу. Да таго ж адны з даследчыкаў яўна перабольшваюць уплыў Лермантава на творчасць Багдановіча, вышукваючы асобныя сапраўдныя ці вонкавыя супадзенні ў творах паэтаў. А другія недаацэньваюць яго ролю ў творчым развіцці беларускага класіка. Так, Р. Бярозкін лічыў, што Багдановіча «не захапіла патэтыка Лермантава, яго напружаны драматызм». Хаця крытык і прызнаваў, што «ў некаторых пунктах /…/ паэзія Багдановіча яўна «кантактуе» з Лермантавым і ў ідэйным, і ў фармальна-«тэхнічным» сэнсе», але прыйшоў да высновы, што «такая непаўторна яркая з'ява, як творчасць Лермантава», «па сутнасці, не закранула нейкіх карэнных асаблівасцей Багдановічавай творчай індывідуальнасці». Такое сцвярджэнне не адпавядае сапраўднасці, хаця і нельга не пагадзіцца з перакананнем крытыка, што Багдановіча больш вабіла да сябе пушкінскае пачуццё суразмернасці і адпаведнасці, якое «несла на сабе адбітак пушкінскай «аб'ектыўнай» манеры». Пры гэтым не даводзіцца сумнявацца ў тым, што творчы шлях Багдановіча ў многім вызначаўся пад уплывам Лермантава. У першую чаргу гэта тлумачылася тым, што погляды абодвух паэтаў, якія імкнуліся ахапіць розумам «святыню любви, добра и красоты», жыць «с душой открытой для добра», служыць «вольности святой», не разыходзіліся ў разуменні высокага прызначэння мастацтва. Абодва паэты кіраваліся «святыми и чистыми побуждениями». Абодва паэты, «с душой страданьями облитой», не маглі спакойна «на стыд отечества глядеть» і ахвяроўвалі сабой дзеля будучага светлага дня любай Радзімы.

* * *

З творамі Лермантава Багдановіч пазнаёміўся ў дзіцячыя гады і захапленне сваё чароўнай сілай яго паэзіі пранёс праз усё жыццё. Паводле ўспамінаў бацькі паэта і школьных таварышаў, лермантаўскія радкі авалодалі ўвагай, запаланілі Максіма не менш, чым вершы Пушкіна, Фета, Майкава і іншых вядомых рускіх паэтаў. Акадэмік АН Беларусі Ц. М. Годнеў, сябра паэта па гімназіі, успамінаў:

«Ён уразіў нас веданнем літаратуры, разуменнем літаратурных і грамадскіх з'яў /…/ На занятках гуртка Максім прачытаў многа рэфератаў /…/ Як зачараваныя слухалі яго жывую, цікавую гутарку аб прыгажосці твораў Талстога, Тургенева, Пушкіна, Лермантава і іншых волатаў рускай літаратуры. Высока ацэньваючы іх мастацкае майстэрства, ён, аднак, настойліва падкрэсліваў думку аб тым, што пры ўсіх сваіх вартасцях руская класічная літаратура яшчэ далёкая ад народа».

Як сведчыў той жа школьны таварыш паэта, «свае погляды Максім адстойваў заўсёды горача і смела. Ён спрачаўся не толькі з аднакласнікамі, але і з выкладчыкамі. Так, напрыклад, на пасяджэннях літаратурнага гуртка крытыкаваў і кіраўніка гуртка /…/, які чамусьці не любіў Лермантава. Тлумачыў ён гэта тым, што Лермантаў вёў нястрогі спосаб жыцця, а ў доказ чытаў вытрымку з успамінаў нейкай сучасніцы Лермантава. Максім заўзята спрачаўся з ім, даводзячы, што пры ацэнцы паэта нельга грунтавацца на запісках не зусім аб'ектыўнай жанчыны, што трэба меркаваць пра паэта па яго творах, якія па глыбіні пачуццяў і музычнасці можна параўнаваць хіба толькі з творамі Пушкіна».

Свае адносіны да паэзіі рускага класіка М. Багдановіч выказаў у артыкуле «Одинокий» (1914), напісаным да 100-годдзя з дня нараджэння Лермантава (упершыню апублікаваны ў яраслаўскай газеце «Голос» ад 2 кастрычніка 1914 года). Артыкул засведчыў, што беларускі пісьменнік глыбока ведаў і высока цаніў паэзію Лермантава, спачуваў яму як чалавеку, якому выпала жыць у часы, калі немагчыма было праявіць свае духоўныя сілы, што выклікала «состояние душевного одиночества» («...безмерно велико было это одиночество и тяжки были его влияния, если даже громадная творческая сила Лермонтова не могла их сломить». Мяркуючы па артыкулу, на Багдановіча моцна ўздзейнічаў распаўсюджаны ў той час погляд аб поўным адзіноцтве Лермантава і нібы выкліканая гэтым пачуццём аднастайнасць ягоных творчых прыёмаў.

Сцвярджэннем адзіноты пушкінскага паслядоўніка прасякнуты ўвесь артыкул. Адпаведна тагачасным літаратуразнаўчым меркаванням (В. В. Ключэўскі, М. К. Міхайлоўскі, І. М. Салаўёў і інш.), М. Багдановіч прытрымліваўся думкі, што Лермантаў быў адзінокі сярод свайго пакалення, што творчасці рускага паэта былі ўласцівы самотная «гнетущая тоска и апатия», хваравітае імкненне да «самоанализа», што, маўляў, асноўны пафас яго паэзіі выказаўся ў вядомым вершы «И скучно и грустно», што ў лермантаўскай лірыцы знайшла сваё адлюстраванне панурая эпоха, у якой рускі паэт пакутаваў, мітусіўся, на якую скардзіўся і якую праклінаў. Дарэчы, назва Багдановічавага артыкула амаль пераклікаецца з вершам юнага Лермантава «Одиночество» (1830), у якім паэт, уступаючы ў жыццё, ужо прадбачыў: «Как страшно жизни сей оковы // Нам в одиночестве влачить».

М. Багдановічу, які аддаваў даніну часу і поглядам тагачаснай літаратуразнаўчай думцы на творчую манеру рускага класіка, уяўлялася, што лермантаўская паэзія «закреплялась на бумаге в одних и тех же словах», шмат з якіх ён пералічыў для найбольшай важкасці і пераканаўчасці: «печать страстей», «холодный ум», «роковой конец», «мрак могильный», «злобы яд», «бледное чело», «хладный труп», «безумное волненье», «адские слезы», «кровавая клятва», «злобный рок», «хладеющая рука», «коварство змеи», «бури роковые», «печаль презрения» і інш., што падобнае «однообразие» звяртала ўвагу «на соответственное ему однообразие внутренней жизни, а оно порождается душевным одиночеством», якое вымушала рускага творцу прытрымлівацца «байранічных» настрояў. Такая пазіцыя аўтара артыкула тлумачыць, чаму ён у доказ сваіх думак найбольшую ўвагу ўдзяліў мікраструктуры лермантаўскага верша.

Гаворачы пра лермантаўскія тропы, М. Багдановіч, адпаведна свайму погляду, папракае паэта ў іх аднароднасці, бо палічыў, што іх функцыя «порождается душевным одиночеством». Другі Багдановічаў папрок Лермантаву ў паўтарэнні ў розных творах асобных радкоў і вобразаў без уліку таго, што многае з літаратурнай спадчыны рускага паэта зрабілася вядомым пасля ягонай смерці і тым больш,

што сам паэт многае з напісанага не прызначаў для друку і не прыдаваў вялікага значэння першапачатковым варыянтам. Невыпадкова ў яго зборах твораў шматлікая колькасць вершаў суправаджаецца заўвагай: «пры жыцці паэта не друкаваўся». У літаратуразнаўчай навуцы цяпер растлумачана прырода лермантаўскіх «самоповторений» тым, што «обращаясь к дорогим для него образам, мотивам, темам, варьируя их в различных редакциях текста, Лермонтов добивался наиболее точного выражения мысли, наиболее совершенной отделки стиха». Надаючы ўдасканаленым вобразам, радкам і строфам у новых рэдакцыях новае значэнне, ён напаўняў іх новай энергіяй і ёмкасцю. Пры жыцці Лермантаў надрукаваў толькі 40 з больш чым 400 прадуктаў сваёй творчай працы, г. зн., толькі дзясятую частку з напісанага. Багдановіч лічыў, што адзіноцтва Лермантава аказалася непамерна вялікай і настолькі цяжкімі былі тыя вынікі, што нават велічэзная творчая сіла, якая і прыцягнула маладога беларускага паэта, не змагла іх пераадолець, не дазволіла яму пашырыць граніцы свайго таленту, бо творца стала падвяргаўся адпаведнаму душэўнаму самааналізу.

Матыў адзіноцтва ў літаратурнай спадчыне Лермантава і на самай справе праходзіць праз усю творчасць рускага паэта, але гэта тэма пастаянна ўзбагачалася і ўскладнялася. Прызнана, што «ни у кого из русских поэтов этот мотив не вырастал в такой всеобъемлющий образ, как у Лермонтова» (Сов. энциклопедия). Прычыны свайго адзіноцтва растлумачыў і сам паэт: «Обманут жизнью был во всем, // И ненавидя и любя». Так здарылася, што на яго долю выпала жыць «в стране рабов, в стране господ», дзе «стонет человек от рабства и цепей», і па гэтай жа прычыне не знаходзіць сабе адпаведнага месца ні ў дружбе, ні ў каханні, ні ў сваяцтве, і нарэшце расчаравана ўяўляць увесь свет пустыняй. Аўтар праніклівай лірыкі адчуваў цяжар свайго адзіноцтва і імкнуўся ўсімі сіламі вырвацца з ягонага палону. Лермантаўскія героі пастаянна парываліся знайсці роднасныя душы, паразумецца з навакольным светам, які адштурхоўваў іх сваім цынізмам, хлуснёй, рабалепствам і фальшывым бляскам паказной раскошы («Гляжу на будущность с боязнью…», «Как часто, пестрою толпою окружен…», «И скучно и грустно», «Дума», «Выхожу один я на дорогу…», «Благодарность», «Листок» і інш.). Літаратуразнаўцы пачатку XX стагоддзя яшчэ не ўзняліся да паразумення, што нават глыбока асабістыя перажыванні Лермантава, такія, як пачуцці дружбы і кахання, выказваліся ім на шырокім і змрочным фоне ўсхваляванага акіяна народнага жыцця, мелі пад сабой сацыяльныя вытокі.

На самай справе прыклады, на якія спасылаецца Багдановіч з улікам і разуменнем рэальных абставін, у якіх давялося жыць рускаму класіку, якраз і сведчаць пра яркае і цвярозае адлюстраванне ім рэчаіснасці пры выказванні сваіх пачуццяў, што і падспудна, і ўсвядомлена прыцягвала да сябе аўтара артыкула, захапляла і зачароўвала, а таксама далі магчымасць трапна вызначыць творчую эвалюцыю аднаго са сваіх любімых паэтаў.

Як бы там ні было, артыкул сведчыць пра тое, што Багдановіч не прайшоў абыякава міма паэзіі Лермантава, а імкнуўся пранікнуць у яе сутнасць, разумець яе характар, абаперціся на яе, адштурхнуцца ад таго, што лічыў у ёй слабым і ўзяць на ўзбраенне тое, што лічыў неабходным для сябе як чалавека і творцу. Чуйнае сэрца мастака, нягледзячы на мысленныя пабудовы, дазволіла яму адчуць, што Лермантаў прыдаў «своему таланту исключительную художественную мощь, глубину и выразительность», якія прыносяць людзям сапраўдную радасць, і таму «многие с чувством живой благодарности» ўспамінаюць яго.

І галоўны вывад, які, відаць, зрабіў для сябе аўтар славутага «Вянка» пры адчуванні жыццясцвярджальнага характару лермантаўскай паэзіі, тугі і смутку моцнага чалавека, які прагнуў да значнай справы, але не знаходзіў глебы для прымянення сваіх сіл («Так жизнь скучна, когда боренья нет», «Мне нужно действовать, я каждый миг // Бессмертным сделать бы желал...), заключаўся ў тым,

што мастаку слова нельга абысціся без грамадскай актыўнасці, што адарванасць ад навакольнага свету не можа садзейнічаць паспяховаму развіццю таленту, прынесці поспех паэтычнаму твору, таму, каб не акасцянела душэўнае жыццё, неабходна даваць яму новыя струмені для прымянення сваіх сіл і ведаў, неабходна ўвесь час абагачацца новымі ўражаннямі, пазбягаць «однообразных переживаний», што паэзія не павінна варыцца ў вузкім коле жыцця, выдумляць нешта штучнае ці цешыцца бразготкамі. Багдановіч меў акрэсленыя мэты творчасці: адраджэнне роднай зямлі, беларускай мовы, сцвярджэнне беларускай культуры як раўнапраўнай у сусветным супольніцтве. Меркаванні аб лермантаўскай самоце лагічна ўпэўнілі яго: каб не апынуцца ў адзіноцтве, каб кола рэальнасці не было вузкім, каб уражанні не былі беднымі, каб перакананні не былі пакутліва аднароднымі, трэба жыць паўнацэнным жыццём і шукаць дзейснае прымяненне сваім творчым сілам. Нягледзячы на свае заўвагі, Багдановіч лічыў Лермантава геніяльным паэтам, які заслугоўвае пачуццё жывой удзячнасці за тое, што ён пакінуў нашчадкам.

М. Багдановіч вызначыў галоўную дамінанту адзіноцтва Лермантава, што была выклікана глыбокім разладам з мікалаеўскім удушлівым часам, вострай незадаволенасцю грамадскім ладам, у якім чалавек задыхаўся ад тлятворнага становішча, што ў свой чарод падштурхоўвала да разумення палымяных матываў адмаўлення, пратэсту, вольналюбства. І хаця Багдановіч лічыў, што «гнетущая тоска и апатия» выклікалі ў Лермантава імкненне да самааналізу, але ён і сам не пазбег такога самааналізу пры раскрыцці сваіх пачуццяў. Увогуле ж слова «апатыя», якое падразумевае поўную абыякавасць і раўнадушша, ніяк не вяжацца з творчасцю Лермантава, які моцна жадаў грамадскіх перамен: «А он, мятежный, просит бури, // Как будто в бурях есть покой!». Адначасова беларускі паэт не мог пагадзіцца з тым, што жыццё «такая пустая і глупая шутка», што прагучала ў вершы «И скучно и грустно». У першую чаргу яго прываблівалі лермантаўскія непакорнасць і супраціўленне адмоўным з'явам беспадстаўнай палітычнай несправядлівасці, якія не давалі людзям жыць «праўдзівым жыццём»: «Крыкі пужлівых людзей // Не стрымаюць хай бітвы размах...»

Відаць, невыпадкова М. Багдановіч, ад прыроды адораны палкім сэрцам, у першую чаргу са спачуваннем звярнуў увагу на матыў адзіноцтва ў творчасці рускага паэта. Такая ж праблема хвалявала яго асабіста, бо і самому, як і Лермантаву, за сваё кароткае жыццё давялося зведаць нямала горкага адзіноцтва і самоты. Роздум над гэтай праблемай папярэджваў аб негатыўных выніках аднастайнага жыцця, дапамагаў вырывацца з цянётаў адзіноцтва і замкнёнасці. Багдановіч разгледзеў адмоўную сілу «однообразных переживаний», якія могуць ператварыць творчасць у непажаданы паўтор пройдзенага, прывесці да аднолькавых варыянтаў рашэння творчых задач, да стварэння аднастайных вобразаў, аднародных выразаў, да выкарыстання адных і тых жа тропаў.

* * *

Галоўным чынам Лермантаў, у якога пры «имени свобода» сэрца млела ад захаплення і кіпела, бо свабодалюбныя імкненні «тоски мятежной» былі «сильней страданий роковых», які шукаў крокі да перамогі вольнасці над тыраніяй і ў якога вобразы буры і змагання прайшлі праз усю яго творчасць, зрабіў пэўны ўплыў на светапогляд Багдановіча, адыграў значную ролю ў ідэйным фарміраванні яго як пісьменніка. Тлумачыцца гэта тым, што Багдановіч прыйшоў у літаратуру, калі ў краіне лютавала рэакцыя, пры якой узмацніўся сацыяльны і нацыянальны гнёт. Рэвалюцыю 1905—1907 гадоў ён успрыняў як пераломны момант у гісторыі беларускага адраджэння: «События, связанные с этим годом, создали в

народных массах стремление разобраться в окружающей жизни и вызвали лихорадочный спрос на идеологические ценности». Паэт палічыў сваім сыноўскім абавязкам натхнёна служыць далейшаму развіццю нацыянальнай свядомасці і спрыяць узбагачэнню нацыянальнай культуры.

Пра першародную значнасць уздзеяння менавіта светапогляду аднаго паэта на другога ўскосна можна меркаваць па развагах і пункце погляду самога Багдановіча пра ўплыў Лермантава на творчасць украінскага паэта Ул. Самійленкі. Пры гэтым перапляценне фактуры верша і іншых агульных кропак дачынення ён лічыў другараднымі, знешнімі, бо «гораздо глубже и примечательнее влияние», якое праяўляецца ў грамадзянскім напале твора. Не даводзіцца сумнявацца, што Лермантаў умацоўваў Багдановічава прыроднае пачуццё праўды і справядлівасці.

Багдановіч і Лермантаў былі блізкімі сваёй незалежнасцю, высакародствам і свабодалюбствам, пошукамі шляхоў для пераадолення чалавечай адчужанасці, адзіноты, апатыі, абодва марылі пра дзейснага і гордага чалавека. Усё гэта ў значнай ступені і перадвызначала ў творах духоўную блізкасць тых лірычных герояў, якія не хацелі прыстасоўвацца да несправядлівых умоў тагачаснага жыцця, пратэставалі супраць чалавечых пакут, супраць пут.

З другога боку, Багдановіч не мог прайсці міма творчагага вопыту Лермантава, бо імкнуўся да «палепшання версіфікатарскай снароўкі» беларускай паэзіі, кіраваўся «жаданнем прышчапіць да беларускай пісьменнасці здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд». У гэтым плане пазіцыі паэтаў супадалі. Лермантаў сцвярджаў: «Мы должны жить своею самостоятельною жизнью и внести свое самобытное в общечеловеческое». Такой жа думкі прытрымліваўся Багдановіч, калі накіроўваў нашу літаратуру на «свой родны, беларускі шлях»: «Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год сабіралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта значна глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць. Трэба ж і нам, беручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё». Безумоўна, лермантаўскі ўплыў спрыяў у дасягненні класічнай завершанасці свайго мастацкага слова. Лермантаўская літаратурная спадчына дапамагала Багдановічу ў пазнанні таямніц паэтычнай формы, у выпрацоўцы пачуцця меры і густу. Лермантаўскі магутны верш, для якога характэрны былі «свежесть благоухания, художественная роскошь форм, поэтическая прелесть и благородная простота образов, энергия, могучесть языка, алмазная крепость и металлическая звучность стиха, полнота чувства, глубокость и разнообразие идей, необъятность содержания» (В. Белинский), прывабіў Багдановіча сваёй сэнсавай аб'ёмнасцю і істотнай творчай перадачай рэчаіснасці рытмізаванай мовай, зрабіў станоўчы ўплыў на яго і пасадзейнічаў ягонаму абагачэнню вобразна-мастацкіх сродкаў роднай літаратуры, пашырэнню яе тэматыкі, жанравых, стылёвых форм і майстэрскаму выкарыстанню рытмастваральных кампанентаў.

М. Багдановіч не толькі прывіваў беларускай лірыцы неабходнасць пранікнення ў «дыялектыку душы», але ў адрозненне ад папярэднікаў прывёў у беларускую паэзію чалавека з гарадскога асяроддзя і знайшоў адпаведныя формы для адлюстравання яго інтэлекту. Ён легітымізаваў у беларускай паэзіі, не без лермантаўскага ўплыву, жанр лірычнага роздуму.

Менавіта Лермантаў быў для Багдановіча ўзорам строгай патрабавальнасці да сябе пры падрыхтоўцы да друку зборніка «Вянок». Ён раіў рэдактарам: «Выкідайце болі, тады зборнік выйдзе лепі». Нагадаем, што і Лермантаў таксама вельмі патрабавальна ставіўся да напісанага, а са шматлікай колькасці напісанага выдаў пры жыцці таксама толькі адзін паэтычны зборнік.

* * *

М. Багдановіч — «пясняр красы, святла, высокай духоўнасці, душэўнай ласкі, спагадлівасці, веры і любві» (А. Лойка) — ніколі не быў сляпым пераймальнікам Лермантава, як і іншых паэтаў, бо валодаў моцным і самабытным талентам, надзвычайным для свайго часу, калі ўлічыць тагачасны стан развіцця беларускай паэзіі, творчай смеласцю.

Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.
*«Рушымся, браццы, хутчэй...» (1910)*

Можна толькі гаварыць, што таленты паэтаў развіваліся ў агульным рэчышчы славянскіх і сусветнай літаратур. Трэба адзначыць і той высокі духоўны стан, якім валодалі абодва паэты. Не даводзіцца сумнявацца, што і творы Лермантава дапамагалі Багдановічу разумець, што беларусам уласцівы агульначалавечыя рысы, нягледзячы на нацыянальную адметнасць.

Агульнае ж у паэтах трэба шукаць у духоўнай параднёнасці, у высокім грамадзянскім сумленні са свабодалюбівымі імкненнямі, з гнеўным пратэстам супраць несправядлівых грамадскіх парадкаў, выказаных з душэўным запалам, са сцвярджэннем неабходнасці рашучага змагання за сацыяльнае разняволенне, у адлюстраванні повязей чалавека з прыродай, з касмічнай прасторай і з усім светам.

Па сутнасці Лермантаў з ягоным пераканаўчым адлюстраваннем унутранага, інтымнага жыцця чалавека з усімі яго слабасцямі і мукамі, захапленнямі і расчараваннямі падтрымаў Багдановіча ў стварэнні ў беларускай паэзіі лірычнага героя інтэлігентнага складу з суб’ектыўнымі перажываннямі, з індывідуальнымі рысамі ў той час, калі яе першапраходцы Ф. Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас звычайна выступалі ў сваіх вершах ад імя мужыка.

Лірычны герой Багдановіча блізка да сэрца ўспрымаў людскі «стогн і смех», са спачуваннем ставіўся да людскога «мора гора», якое ўлівалася яму ў душу і не давала спакою («На глухіх вулках — ноч глухая…» (1912) і інш.

Назва артыкула «Одинокий» і эпіграф да яго «Ты быў, як месяц, адзінокі», узяты аўтарам ва ўласным перакладзе на рускую мову па першым радку свайго верша «С. Палуяну» (1913), даюць магчымасць сцвярджаць, што М. Багдановіч супастаўляў лёс рускага паэта з трагічным лёсам рана пайшоўшага з жыцця таленавітага маладога беларускага крытыка. Паводле радкоў гэтага прысвячэння, пры пераадрасаванні рускаму паэту, маем магчымасць паўней зразумець адносіны Багдановіча да Лермантава:

Ты быў, як месяц, адзінокі,
Красу, і светласць, і простор
Шукаў — і, ад усіх далёкі,
Ты быў, як месяц, адзінокі,
Самотна жыў, самотна умёр.

Зразумела, творы М. Багдановіча ствараліся на іншай глебе з улікам развіцця грамадскай думкі і жыццёвых фактараў беларускага народа. Напісанае ім выяўлялася самаабытным па праблематыцы і наватарскім па паэтычнай мове. Сутнасць яго вобразаў, мастацкай сістэмы, выразнасці эпітэтаў, параўнанняў — і ўвогуле розных тропаў мелі пад сабой беларускую аснову, якая асвятляла жыццёвыя працэсы пад новым пунктам гледжання.

Час і талент вызначылі своеасаблівасць творчай манеры Багдановіча. Ён ставіў перад сваёй творчасцю неабходнасць узбуджэння беларускага народнага духу і садзейнічаць самапазнанню і самавызначэнню беларускага народа. Лермантаў

дазваляў упэўніцца ў неабходнасці прарваць нацыянальную абмежаванасць, зразумець каштоўнасці агульначалавечай культуры і неабходнасці чалавечага ўзаемаразумення.

Я думал: жалкий человек.
Чего он хочет!.. небо ясно,
Под небом места много всем,
Но беспрестанно и напрасно
Один враждует он — зачем?

*«Валерик» (1840)*

Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

*«Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...» (1915)*

Вершы Лермантава і Багдановіча — творы высокага чалавечага духу. Абодва паэты адчувалі сябе прадстаўнікамі ўсяго чалавецтва, усяго сусвету, абодва паэты марылі аб перамозе справядлівасці на зямлі, аб міры паміж людзьмі. Можна не сумнявацца ў спрыяльным уплыве Лермантава на Багдановіча, каб «будзіць людзей к свету, праўдзе, брацтву і свабодзе». Не даводзіцца сумнявацца і ў тым, што лермантаўскі ўплыў дапамог падтрымаць веру Багдановіча ў энергію народа, у неабходнасць змагання за яго вызваленне. Багдановіч, несумненна, у адпаведнасці з часам валодаў больш глыбокім адчуваннем гістарычнай перспектывы развіцця чалавечага грамадства. Своеасаблівы адбітак на творчасць Багдановіча адкладвала ягонае імкненне паказаць гістарычную ролю свайго народа, нацыянальную своеасаблівасць і ў той жа час валоданне агульначалавечымі каштоўнасцямі, раскрыць красу роднага слова. Багдановіч мэтанакіравана служыў сацыяльнаму і нацыянальнаму вызваленню прыгнечаных сародзічаў. Калі Лермантаву даводзілася адчуваць і трагічна ўспрымаць абыякавасць да сябе натоўпу («светской черни», гаворачы словамі Пушкіна), то для Багдановіча не існавала бездані паміж ім і народам, неадрыўнай часцінкай якога сябе ўяўляў, абаронцам і песняром якога сябе лічыў. Гістарычныя абставіны, нягледзячы на ўвесь іх цяжар («Шмат зазнаў я горычы з нудою, // Што шчаміла, мучыла, пякла...», раскрывала перад ім рэальныя мажлівасці развіцця беларускага народа, што нараджала ўстойлівую веру ў шчаслівую будучыню Бацькаўшчыны, была вытокам светлых матываў і жыццялюбства («Не злічыць у небе ясных зорак, // Не злічыць у сэрцы светлых дум»). Лермантаў спрыяў Багдановічу знайсці ў літатаратуры свой уласны шлях, асэнсаваць сваю адказнасць перад часам, народам, роднай зямлёй, прасякнуцца дэмакратычнымі ідэямі:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарах залётных агня.

*«Беларусь, твой народ дачакаецца...» (1915)*

Безумоўна, паэзія рускага класіка з’явілася адной з часцінак стартавай пляцоўкі, якая садзейнічала развіццю Багдановічавага эстэтычнага густу і паглыблення ў псіхалагічны стан лірычнага героя, але ён — паэт іншай эпохі, які з’явіўся новай яркай зоркай на небасхіле гістарычнага развіцця беларускага грамадства і беларускай літаратуры на пачатку XX стагоддзя.

М. Багдановічу выпала абагаціць беларускае слова новымі мастацкімі формамі, з чым ён выдатна справіўся, даказаў, што любыя прыёмы выяўленчых сродкаў

мастацкіх твораў і памеры не чужыя беларускай мове. Мабыць, менавіта Лермантаў быў сярод тых паэтаў, якія паказалі яму прыклад крыстання разнастайнымі ўзорамі і відамі паэтычнай структуры афармлення вершаванага радка. Лермантаўская ж манера выкарыстання фальклорных набыткаў зрабіла бясспрэчны ўплыў на яго ўменне арганічна суадносіць дасягненні сусветнай паэзіі з беларускімі народнымі традыцыямі. Відаць, адштурхнуўшыся ад відавочнай аднастайнасці Лермантава, якая яму ўяўлялася па тагачасным падыходзе да гэтага рускага класіка літаратуразнаўчай думкі, «Багдановіч паказваў важнасць у справах мастацтва ўмельства, рамесніцкага майстэрства, без якога няма нараджэння прыгожых форм, адстойваў не шаблон, паўтор, стылізацыю, а неабходнасць наватарства, разумення таго, што мастацтва абнаўляецца толькі ў пошуку, у руху, дапытлівых спрэчках вакол праблем яго існасці, сутнасці яго зместу і формы» (А. Лойка). У гэтым сэнсе творчы вопыт Лермантава так, як і Пушкіна, Фета, Шаўчэнкі, Верлена і іншых паэтаў з сусветнымі імёнамі, дапамагалі станаўленню і развіццю Багдановічавага таленту, які ў сваю чаргу садзейнічаў станаўленню і пад’ёму беларускай паэзіі на новыя прыступкі развіцця.

Да асобы Лермантава і яе значнасці ў літаратуры Багдановіч звяртаўся неаднаразова ў сваіх крытычна-літаратуразнаўчых працах.

У артыкуле «Булгарин в белорусской шуточной поэме» (1913—1914) Багдановіч з прыемнасцю адзначаў, што аўтар славутага «Тараса на Парнасе» з павагай паставіўся да Лермантава. У артыкуле «В. Самийленко» (1916), як ужо ўпаміналася, звярнуў увагу на ўплыў Лермантава на грамадзянскія вершы ўкраінскага паэта. З артыкула «Белорусское Возрождение» (1914) відаць, што Багдановіч цікавіўся перакладамі твораў Лермантава на беларускую мову, якія належалі пяру Алгерда Абуховіча. З’яўленне твораў рускага паэта на родным слове лічыў важнай падзеяй для развіцця беларускай літаратуры. Аб узнаўленні твораў Лермантава на беларускай мове ўзгадваў і ў гэтым жа артыкуле, прызначаным для ўкраінскага чытача. Відаць, у магчымасці перанесці радкі рускага класіка на беларускую мову бачыў адзін з фактараў развіцця беларускага прыгожага пісьменства. На вобраз Мэры («Герой нашего времени») Багдановіч спасылаўся ў сваім вершы «Ліст да п. В. Ластоўскага» (1914).

Пра тое, што Багдановіч працягваў бесперапынна цікавіцца творчасцю Лермантава ўскосна можа паслужыць і ягоны водзыў на «Собрание сочинений Е. А. Баратынского і Д. В. Веневитинова» (1914), у якім ён параўноўвае гэта выданне з пяцітомным «Поўным собранием» твораў Лермантава, выдадзеным у Пецярбургу ў 1910—1913 гг.

Калі ўзнікаюць побач імёны Міхаіла Лермантава і Максіма Багдановіча, у першую чаргу кідаецца ў вочы падабенства іх жыццёвых лёсаў. Нягледзячы на караткачасовасць творчага шляху, які абарваўся на самым узлёце творчых сіл паэтаў, абодва пакінулі яркі след у гісторыі сваіх народаў і ў развіцці літаратур. Талентам абодвух паэтаў не суджана было раскрыцца поўнасцю. Ім наканавана было яшчэ большае вялікае будучае, калі б не трагічны лёс. Сапраўды, адна і другая літаратура, гордасцю якіх сталі паэты, з іх смерцю страціла адну з лепшых сваіх надзей, іх смерць аказалася для літаратур незаменнай стратай.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ ЧАСОПІСЫ: У ПОШУКАХ СТРАЧАНАГА

— Як вы лічыце, — пытаецца маладая журналістка тонам, па якім нельга не адчуць, што яе больш хвалюе не сама праблема, аформленая ў пытанне, а тое, як я буду выкручвацца, — чаму ў нашай літаратуры амаль не з'яўляюцца арыгінальныя, яркія творы?

Я ў думках дзякую ёй за «амаль», таму не адказваю пытаннем на пытанне тыпу: «У нас штогод выходзіць, як мінімум, некалькі соцень кніг сучаснай мастацкай літаратуры. Колькі з іх вы прачытваеце, каб рабіць такія высновы?» Я завуаліраваю сваё пытанне іншымі словамі:

— Скажыце, вы ведаеце рускага паэта Уладзіміра Вішнеўскага?

— Вядома! — усміхаецца яна.

— А ці ведаеце вы рускага паэта Юрыя Кузняцова?

— Не, — шчыра прызнаецца журналістка.

Я спрабую далікатна давесці ёй рознасць паміж імі.

— Ну добра, — неахвотна пагаджаецца яна, — але ў той жа Расіі кнігі выходзяць вялікімі тыражамі! Чаму тыражы нашых кніг маленькія?!

Я спрабую расчараваць яе: калі гаварыць пра — у прамым сэнсе — арыгінальную мастацкую літаратуру, то ў Расіі сёння добрым лічыцца тыраж 3 000 экзэмпляраў, а 10 000 — гэта ўжо вельмі вялікі. Вядома, удакладняю я, гаворка не ідзе пра камерцыйныя кнігі: жаночыя раманы, дэтэктывы і г. д.

Я шкадую, што наша размова пераходзіць на лічбы, і з сумам чакаю, калі журналістка задасць пытанне пра тыражы літаратурных часопісаў. Але яна не задае. Пад канец размовы я разумею чаму: пра сучасныя літаратурныя часопісы яна не мае ніякага ўяўлення. І, здаецца, не дужа хоча яго мець.

Бацькі сённяшніх маладых, гэтаксама, як і бацькі іх бацькоў, добра памятаюць той перыяд у гісторыі савецкай літаратурнай перыёдыкі, калі тыражы некаторых тоўстых часопісаў узляталі да 2 мільёнаў і больш. Вядома, маюцца на ўвазе ўсесаюзныя часопісы накшталт «Нового мира» ці «Дружбы народов». Напрыклад, у 1986 годзе тыраж «Нового мира» быў 420 000 экзэмпляраў, а ў 1990-м — 2 670 000! Зрэшты, і беларускі рускамоўны «Нёман» у свой час, яшчэ далёка да канца 80-х, дасягаў тыражу амаль у 200 000 экзэмпляраў. Праўда, па самой Беларусі і ў той дабратворны для перыёдыкі час ён разыходзіўся непараўнальна меншай колькасцю — менш за 20 000. Але і яна сёння ўражвае. Быў час, калі і тыраж «Полымя» перавальваў за 11 000 экзэмпляраў, — вярнуць бы сёння хоць бы палову ад тых лічбаў.

Аднак лічбы не самы важкі аргумент у размове пра аўтарытэт канкрэтнага выдання і пра месца літаратурнай перыёдыкі ў цэлым у культурным і грамадскім жыцці краіны. Як гэта, можа, і ні парадаксальна гучыць.

Звернемся да гісторыі.

Першыя літаратурныя часопісы з'явіліся ў Еўропе ў XVIII стагоддзі, але сваю класічную адметнасць набылі не адразу. Спачатку ў Лондане з'явіўся

«Gentleman's Magazine» (1731—1907), які разам з матэрыяламі палітычнага і маральна-этычнага характару стаў друкаваць літаратурную хроніку, а з 1740-х гадоў — таксама вершы, паэмы і эсэ. У часопісе «The Museum» (1746—1747) англійскага літаратара і выдаўца Роберта Дадэлі ўжо дабаўляецца раздзел рэцэнзій. Затым часопісы, якія на сваіх старонках шмат увагі ўдзяляюць літаратуры, з'яўляюцца ў Германіі, Францыі, Расіі, ЗША. Арыентацыя на літаратуру сябе апраўдвае. Так, пасля таго як у часопіс «Graham's American Monthly Magazine» (1826—1858) літаратурным рэдактарам прыйшоў Эдгар По, тыраж выдання за пару гадоў вырас з 5 да 37 тысяч. Яшчэ больш рэзкі ўзлёт зрабіў адзін са старэйшых амерыканскіх часопісаў «Harper's Monthly Magazine» (выдаецца з 1850 года, сёння называецца «Harper's Magazine»). Першы нумар яго выйшаў тыражом 7 500 экзэмпляраў і быў тут жа раскуплены, а праз паўгода ў выдання было ўжо 50 000 падпісчыкаў.

Гісторыя выдання беларускамоўных часопісаў вядзе свой пачатак з 1912 года, калі ў Пецярбургу выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» пачала выпускаць літаратурна-мастацкі альманах «Маладая Беларусь». Праўда, выйшла яго толькі тры нумары (першы і другі — у 1912, трэці — у 1913 гадах), ды і ўсё ж звычайна альманах хоць і мае з часопісам шмат агульнага, аднак адрозніваецца ад яго сваёй перыядычнасцю, а таксама ўнутранай напоўненасцю. Іншая справа — «Лучынка», якая выходзіла ў Мінску ў 1914 годзе. Гэта ўжо быў паўнавартасны літаратурны і навукова-папулярны часопіс, адрасаваны, у першую чаргу, моладзі, на старонках якога друкаваліся Цётка (яна ж была і яго фактычным рэдактарам), Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло, Уладзіслаў Галубок і інш. Аднак свет пабачылі ўсяго 6 нумароў гэтага выдання. Цікава, што да рэвалюцыі была спроба выдаваць і беларускамоўны сатырычны часопіс — у Вільні, у выдавецтве газеты «Наша ніва». Узяўся за гэтую справу Змітрок Бядуля. Але нам вядомы толькі адзін нумар часопіса, які выйшаў у кастрычніку 1912 года на 8 палосах і называўся «Крапіва». Нядоўгім было і жыццё часопіса «Чырвоны шлях», які з лістапада па снежань 1918 года выдаваўся ў Петраградзе Беларускім аддзелам Камісарыята па справах нацыянальнасцей Саюза камун Паўночнай вобласці. Часопіс быў двухмоўным, у ім былі ўпершыню надрукаваныя некаторыя вершы Янкі Купалы, артыкулы Яўхіма Карскага і Аляксандра Сержпутоўскага (апошні змясціў у «Чырвоным шляху» і свае пераклады на беларускую мову вершаў Тараса Шаўчэнкі), рэцэнзіі — у тым ліку, на зборнік Алеся Гаруна «Матчын дар». Усяго выйшла 10 здвоеных нумароў. Наступны крок па выданні беларускамоўнага літаратурнага часопіса быў зроблены ў Мінску: з верасня 1920 па студзень 1922 года літаратурная камісія Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР выдае часопіс «Вольны сцяг», фактычным рэдактарам якога быў Янка Купала. «Вольны сцяг» друкуе творы самога Купалы і яго вершаваны пераклад «Песня аб паходзе Ігара», а таксама ўпершыню змяшчае фрагменты паэм Якуба Коласа «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Некалькі першых нумароў выдання афармляе Язэп Драздовіч. Аднак часопіс выходзіць нерэгулярна, за ўвесь перыяд яго існавання свет пабачылі толькі 9 нумароў.

Праз 11 месяцаў пасля таго, як спыніў сваё існаванне «Вольны сцяг», у Мінску ў снежні 1922 года выйшаў першы нумар часопіса «Полымя», у стварэнні якога прымаў самы непасрэдны ўдзел той жа Купала. Здавалася б, навошта гэты лішні клопат Івану Дамінікавічу? Каму як не яму было ведаць, што галоўны стымул для развіцця таленту — магчымасць выдавацца, што публікацыі ў перыёдыцы, няхай сабе і рэгулярныя, не створаць цэласнае ўяўленне пра аўтара (асабліва паэта). І чаму тое ж «Полымя» так адчайна змагалася за сваё існаванне на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў: у 1923 годзе выйшла толькі 7 нумароў, у 1924-м — 4, у 1925—27-м — па 8, у 1928-м — 10, у 1932-м — 4...

Было б несправядліва ўсё зводзіць толькі да палітыкі савецкай дзяржавы ў галіне літаратуры, да яе імкнення ўплываць на літаратурны працэс і кантраляваць яго. Калі б гэта было так, то ці з'явіліся б ужо ў XXI стагоддзі ў Беларусі часопісы «Дзеяслоў», «Макулатура» ды іншыя, — у эпоху, калі кнігі пякуцца, як бліны?!

Але ўся справа ў тым, што ў нас, як і ў той жа Расіі ці Украіне, літаратурныя часопісы ад пачатку не проста займаюць нішу, дзякуючы якой маюць магчымасць прапанаваць чытачу лепшае, што на дадзены момант ствараецца пісьменнікамі. Літаратурныя часопісы — гэта яшчэ і люстэрка, у якім адлюстроўваецца ўсё тое, чым жыве творчая эліта, гэта яе голас, які гучыць ва ўнісон з голасам сваёй эпохай ці дысанансам. Такім быў, напрыклад, «Современник» А. С. Пушкіна, тыраж якога складаў усяго 600 экзэмпляраў, аднак па сваёй ролі ў грамадскім і культурным жыцці пераўзыходзіў часопіс «Библиотека для чтения» — сытны, з тыражом, у лепшы перыяд свайго існавання, 7 000 экзэмпляраў і магчымасцю выплачваць найбольш вядомым аўтарам ганарар больш за 1 000 рублёў за аркуш. Ці ўспомнім тоўстыя часопісы другой паловы XX стагоддзя — беларускія, маскоўскія. Кожны, хто ў душы лічыў сябе інтэлігентным чалавекам, мусіў хоць час ад часу цікавіцца тым, што яны друкуюць, і сваімі ўражаннямі не замыкаўся ў самім сабе. «Чытаў?» — пытаўся адзін інтэлігентны чалавек у другога. — «Чытаў», — адказваў той. — «Ну і як?..» Калі «Полымя» друкавала «Палескую хроніку» Івана Мележа, у пошуках часопіса ў Мінск спецыяльна прыязджалі беларусы з Расіі, «Маладосць» ганарылася тым, што Уладзімір Караткевіч сваю прозу друкуе менавіта ў іх, чым прываблівае новых падпісчыкаў, а ў «Нёмане» не ведалі, як заахвоціць Івана Шамякіна аддаць менавіта ім, а не масквічам пераклад яго чарговага рамана: рэзананс ад публікацый Івана Пятровіча заўсёды быў вялікі.

І вось напачатку 90-х гадоў пачалося рэзкае і няўхільнае падзенне часопісных тыражоў, якія ў нас літаральна за некалькі гадоў скараціліся амаль у два разы. Але куды больш уражвае падзенне тыражоў расійскіх часопісаў. «Знамя» з яго мільённым тыражом у канцы васьмідзясятых — праз дзесяць гадоў стала выходзіць тыражом 4 000 экзэмпляраў!

«Я пражыў некалькі гістарычных эпох. У савецкі і познесавецкі час літаратура была адной з самых важных спраў у краіне. Можа быць, гэта стала для мяне адным са стымулаў займацца ёю. Але прайшло і гэта, таму тое, што здарылася, я разглядаю як сваю асабістую трагедыю. Бо сёння для пераважнай большасці тое, чым займаецца мой часопіс, — усё роўна што стоклеткавыя шашкі. Ёсць людзі, захопленыя стоклеткавымі шашкамі, але іх няшмат, — дзеліцца набалелым з газетай «Московские новости» галоўны рэдактар «Знамени» Сяргей Чупрынін. — У часопіса «Знамя» быў мільённы тыраж, у «Дружбы народов» — толькі пад абяцанне надрукаваць «Дзяцей Арбата» — 2,6 млн. «Гісторыя дзяржавы Расійскай» Карамзіна выходзіла мільённым накладам. Мільённым! Тады нам здавалася, што ў нас народ, які больш за ўсе астатнія народы свету чытае. Потым высветлілася: у часопісах шукалі не зусім тое, не зусім мастацкае. У тыя часы літаратура была практычна ўсім, іграла ролю протапарламента, бо парламента не было, а трэба было недзе абмяркоўваць стаўленне да таварыша Сталіна, да Гарбачова, да моды, да навукі. Літаратура была гувернёрам грамадства».

З Сяргеем Чупрыніным нельга не пагадзіцца, але: наўрад ці лагічна за ўзор фарміравання рэдакцыйнага партфеля і, як след, адносін паміж часопісам і чытачом, браць толькі кароткі перыяд канца 80-х. Ніякія аля-«Дзеці Арбата» сёння не збяруць не тое што двухмільённы — статысячны тыраж. Актуальная публіцыстыка, якая канцэнтравался тады ў літаратурных часопісах, сёння, як рака ў паводку, расцякаецца па старонках СМІ, у тым ліку электронных, а інтэрнэт дапамог ёй

стаць даступнай у любой кропцы свету. Іншая справа, што наш прагматычны і перанасычаны інфармацыяй век зрабіў наша мысленне кліпавым: мы ўжо прывыклі не паглыбляцца ў тэму, а задавальняцца тым, што ляжыць на паверхні. Паміж ток-шоу, пабудаваным на кароткіх пытаннях — кароткіх адказах, і перадачай з дзесяціхвіліннымі маналогамі няхай сабе і вельмі паважанага і мудрага госця тэлестудыі, мы, не раздумваючы, аддадзім перавагу ток-шоу. Нас цікавяць навіны, а не аналітычныя дадаткі да іх. А між тым, менавіта глыбокая аналітыка і ёсць прэрагатыва часопісаў.

Як губка, усмоктваючы ў сябе ўсё больш і больш павярхоўнай інфармацыі, мы перакананыя, што ўжо ўсё ведаем. Калі ў 80-я гады слова аўтарытэтнага пісьменніка, навукоўца, палітыка намі ўспрымалася як адкрыццё, то сёння — пачытайце каментарыі пад публікацыямі не менш цікавых, разумных пісьменнікаў, навукоўцаў ці палітыкаў: колькі разоў там сустрэнеш ацэнку «павярхоўна», «прымітыўна», «мне на яго думку пляваць»… Інтэрнэт як бы ўраўняў у правах публічна выказвацца вядомага ў грамадстве чалавека і нікому невядомага і схаванага за якім-небудзь нікнэймам невука. Апынуўшыся на адным інфармацыйным полі з такімі ж «нікнэймамі», ён ужо не баіцца падацца прымітыўным, а пачынае спаборнічаць з імі ў фіглярстве.

Але я люблю сумнявацца. І не люблю рабіць паспешныя высновы. Калі вас абразілі на вуліцы, увесь свет на нейкі час пачынае здавацца змрочным, а ўсе людзі — варожымі ў адносінах адзін да аднаго. Ну, а калі вам, наадварот, усміхнуліся?.. Безумоўна, сёння грамадства ўжо не такое, якім было яшчэ трыццаць гадоў таму, у тым ліку, і ў сваіх адносінах да сур'ёзнай літаратуры. Але ці вычарпаны ў сувязі з гэтым увесь патэнцыял тоўстых часопісаў? Думаецца, яшчэ далёка не. Іншая справа, якімі ім быць заўтра?

Шчыра кажучы, сярод сваіх знаёмых я не маю аптымістаў, якія перакананы, што часопісы калі-небудзь вернуцца да сваіх небывалых, па сённяшніх мерках, тыражоў. Хоць можна прывесці ў прыклад той жа амерыканскі «Harper's Magazine», у якога сёння больш за 200 000 падпісчыкаў. Але не трэба забываць, што ўласна літаратура там займае далёка не ўсю плошчу. Часопіс шмат увагі ўдзяляе пытанням культуры, эканомікі і палітыкі, не грэбуючы скандальнымі матэрыяламі.

У гэтым плане, думаецца, не лішнім будзе працытаваць некалькі абзацаў з артыкула Барыса Акуніна, колькі гадоў таму змешчанага ў часопісе «Иностранная литература»: «Калі казаць пра выжыванне літаратурных часопісаў, то сцежку ў гэтым кірунку даўно пратапталі японцы. Вось краіна, дзе літаратура жыве і ствараецца менавіта ў тоўстых часопісах. Хай ім не дзвесце гадоў, а сто, але ж і новай, постфеадальнай японскай літаратуры ненашмат больш. Японскі чытач прывык адкрываць свежыя імёны, чытаць новыя творы любімых пісьменнікаў і крытычныя меркаванні праз галоўныя тоўстыя часопісы. Іх, галоўных, у Японіі столькі ж, колькі ў Расіі. У нас пяць — «Октябрь» (н. 1924), «Новый мир» (н. 1925), «Знамя» (н. 1931), «Дружба народов» (н. 1939), «Иностранная литература» (н. 1955 ). І ў японцаў пяць — «Новая плынь» («Сінцё», н. 1904), «Літаратура і мастацтва» («Бунгэй», н. 1933), «Свет літаратуры» («Бунгаккай», н. 1933), «Кампазіцыя» («Гундзо», н. 1946), «Плеяды» («Субару», н. 1970). Яшчэ ў Японіі ёсць мноства паўдылетанцкіх донін дзасі («часопіс аднадумцаў»), гадавальнікаў маладой літаратуры. Яны падобныя на заходнія ўніверсітэцкія, альтэрнатыўныя і авангардныя часопісы. Неабходны, але маргінальны дадатак да літаратурнага мэйнстрыму. Усё таленавітае з донін дзасі імгненна качуе да «таўстуноў».

Галоўная справа вялікіх часопісаў — вышукваць таленты, а тых, хто ўжо знайшоўся, песціць усімі сродкамі. Для гэтага часопісы рэгулярна ладзяць разнастайныя конкурсы і засноўваюць шматлікія прэміі…

Ва ўмовах рынкавай эканомікі высакалобы літаратурны часопіс заведама нерэнтабельны. Японцы гэта ведаюць, і таму часопіс там можа існаваць толькі пры якім-небудзь выдавецкім канцэрне. Дэфіцыт у бюджэце японскага часопіса пакрывае выдавец. Гэта выклікае зайздрасць. Але ёсць у такім бязбедным існаванні і непазбежны мінус — рэдакцыя цалкам залежыць ад свайго сюзерэна».

Што ж, на адлегласці ўсё гэта глядзіцца даволі прывабна (апроч агаворкі — «цалкам залежыць»), тым не менш, пераважная большасць літаратурных выданняў на постсавецкай прасторы не спяшаецца кідацца ў абдымкі выдавецтваў, а спадзяецца на далейшую прамую дзяржаўную падтрымку, якая хоць і не дае магчымасці шыкаваць, але дазваляе трымацца на плаву. Ці, наадварот, самі выдавецтвы не дужа спяшаюцца парадніцца з часопісамі і пагадзіцца на лішнія фінансавыя траты. Бо лёгка сказаць — вышукваць таленты, якія пасля прынеслі б прыбытак выдавецтву, а на справе ўсё куды больш складана, паколькі сур'ёзная кніга, як і сур'ёзны часопіс, ставяць перад сабой іншыя задачы. Калі масавая літаратура ствараецца па агульным шаблоне, карыстаецца агульнымі прыёмамі, штампамі, бо, каб лёгка прадавацца, павінна быць, гаворачы сучаснай мовай, фарматнай, то літаратурны часопіс зацікаўлены ў першую чаргу ў нефарматнай літаратуры.

Кола замкнулася?

Аднак і гісторыя нас у гэтым не раз пераконвала, час заўсёды знаходзіць выйсце з любой сітуацыі. Бывае — нечаканае, бывае — для многіх спрэчнае, але часцей за ўсё, і ў гэтым мы таксама не раз пераконваліся, як пасля аказваецца, не самае горшае ў дадзенай сітуацыі. А самы небяспечны вораг кожнага выдання, які, сапраўды, можа паставіць пад пагрозу яго далейшае існаванне, — гэта не інтэлектуальная проза для невялікай кагорты выбраных і не філасофская паэзія, да якой абыякавы сярэднестатыстычны чытач, а шэрая, пасрэдная літаратура, якая, з'явіўшыся на старонках часопіса некалькі разоў, можа на доўгія гады адбіць ахвоту ў чытача браць яго ў рукі. Бо найпершая задача літаратурных часопісаў — адлюстроўваць усё лепшае, усё самае цікавае і арыгінальнае, што ёсць у прыгожым пісьменстве.

***Алесь БАДАК***



***Якое месца сёння ў грамадскім і культурным жыцці краіны займаюць літаратурныя часопісы? Што можна і неабходна рабіць у цяперашніх умовах, каб прыцягнуць да іх большую чытацкую цікавасць? Ці павінны часопісы, каб дагадзіць часу, мяняцца змястоўна і па вонкавым афармленні? Якая будучыня літаратурных часопісаў?***

***Пра гэта мы папрасілі паразважаць нашых калег не толькі з Беларусі, але і з іншых краін свету.***

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ,**
**літаратуразнаўца,**
**доктар філалагічных навук,**
**акадэмік (Беларусь)**



## Патрэбны — як паветра

Часопіс — гэта люстра пісьменніцкага жыцця, люстра стану літаратуры, яе дасягненняў і напрамку творчых пошукаў, публіцыстычнай скіраванасці. Далёка не ўсё праходзіць праз часопіс, у часопісе звычайна друкуецца найбольш актуальнае, арыгінальнае, новае. Гэта датычыць усіх жанраў: паэзіі, прозы, публіцыстыкі, крытыкі... На гэтым, уласна кажучы, і грунтуецца цікавасць чытачоў і саміх пісьменнікаў да таго ці іншага перыядычнага выдання.

Па часопісных публікацыях (гаворка не толькі пра публіцыстыку, але і пра ўсе жанры) чытач мяркуе пра нашу краіну, грамадства, пра тое, як і чым жывуць людзі, пра іх цяперашні духоўны свет. І аб тым, што дала Беларусь свету, у чым заключаецца яе ўклад і заслугі перад сусветнай цывілізацыяй.

Сучасны літаратурны працэс працякае даволі мазаічна, не проста стварыць думку, ацаніць, сказаць пра яго нешта пэўнае і адназначнае. Тут якраз дапамагае часопіс.

Цікавасць да літаратурных часопісаў сёння нашмат знізілася, скараціліся тыражы, гэта так. Прычын тут шмат. Болей чым калісьці на чалавека навалiліся «промышленные заботы» (выраз старога рускага паэта Я. Баратынскага), стала не да чытання, не да часопісаў. На кніжныя прылаўкі выдаўцы выкінулі масу танна-сюжэтнай літаратуры і абкармілі ёю бедны народ. Магнітам прыцягваюць інтэрнэт і тэлевізар. Часопісам не проста даказаць сваю канкурэнтаздольнасць побач з такімі монстрамі, як тэлебачанне, поп-музыка, іграваяя індустрыя. Праўда, «Гары Потэра» чытаюць, хоць і далёка не ўсе, чытаюць тыя, каму ён па гусце.

Але і часопісы маюць сваіх прыхільнікаў. Дзякуючы ініцыятыве добрага пісьменніка А. Валковіча ў Брэсце ўзнік, пачаў выдавацца даволі цікавы мясцовы часопіс (альманах) «Астрамечаўскі рукапіс», яго сталі чытаць, але пасля некалькіх нумароў занядужаў, спатрэбіліся фундатары, сродкі, якія раздабыць цяжка. Ініцыятыву А. Валковіча, на мой погляд, варта падтрымаць, зрабіўшы «Астрамечаўскі рукапіс» дзяржаўным перыядычным выданнем.

Самае галоўнае — палепшыць двухбаковую сувязь паміж часопісам і чытацкай аўдыторыяй. Трэба больш непасрэдных сустрэч аўтараў часопісаў з людзьмі ў гарадах і вёсках, аграгарадках, на прадпрыемствах і ў клубах, універсітэтах і школах. Трэба пасылаць пісьменніцкія брыгады ад часопісаў, СП у абласныя цэнтры, у глыбінку, і рабіць гэта часцей, чым гэта робіцца сёння.

У літаратуры, як і на пчальніку, год на год не прыпадае, то поўныя соты, то толькі напалавіну. Гэтак і ў часопісах: трапляюцца нумары, зачытаныя да дзірак, а часам ляжаць у бібліятэцы нечапаныя, як новенькія. Калі мець на ўвазе канкрэтна «Полымя», дык з публікацыяй гэтага года мяне не пакінула абыякавым моцная аповесць У. Саламахі «Не цурайся веры сваёй...», запомніўся артыкул А. Марціновіча пра Паўлюка Шукайлу, кранулі, прымусілі задумацца вершы Т. Сівец «Гэта мы вышывалі, Божухна, свае сны!..» «Полымя» імкнецца падтрымаць належны ўзровень літаратурнай прадукцыі.

Датаваныя выданні, вядома, на цяперашні час матэрыяльнага прыбытку не дадуць, але дзяржава абавязана іх падтрымліваць. Яны — як паветра, якім дыхае, не заўважаючы таго, наша культура. Без іх ёй давядзецца і складаней, і цяжэй.

Веру, што літаратурныя часопісы застануцца, будуць жыць, будуць прыносіць карысць. Хай яны не патрэбны нейкаму абывацелю — носьбіту масавай, спажывецкай свядомасці, а для чалавека думаючага, не абыякавага да роднага слова, нацыянальнай свядомасці і культуры перыядычныя выданні неабходныя. Для пісьменніка ж часопіс — творчая майстэрня, кантакт са светам. Тым больш, што сёння выраслі патрабаванні і да самой літаратуры. Факт літаратурнай рэчаіснасці правяраецца сёння ўсім інтэлектуальным багаццем, назапашаным чалавечай супольнасцю. У сучаснай літаратуры, як на маю думку, адбываецца нешта накшталт глыбокіх рэформаў, рэформаў пазнавальна-эстэтычных, і літаратурныя часопісы могуць іх падтрымаць, даць канструктыўны накірунак.



***Лада АЛЕЙНІК,***
***крытык, літаратуразнаўца***
***(Беларусь)***

## Адчуваць адказнасць за сваю працу

Сітуацыя, у якой апынуліся сёння літаратурна-мастацкія часопісы, вядома, даволі сумная. Тыражы мізэрныя, кола чытачоў вузкае — гэта пераважна самі пісьменнікі і літаратуразнаўцы, выкладчыкі ды студэнты-філолагі.

…Настальгічна згадваю сваё юнацтва, калі ў кожнай кватэры сваіх сяброў ці суседзяў даводзілася бачыць стосы часопісаў. Прыгадваю таксама, у якой колькасці выпісвалі літаратур-

ныя выданні мае ўласныя бацькі. Бывала, што паштальёнка змушана была прыходзіць да нас у кватэру і аддаваць карэспандэнцыю «ў рукі», бо калі прыходзілі адначасова некалькі тоўстых часопісаў, то яны проста не ўлазілі ў паштовую скрыню. Гэта былі «Новый мир» і «Юность», «Знамя» і «Роман-газета», «Полымя» і «Маладосць»… Іх чакалі, іх чыталі «ад коркі да коркі», абмяркоўвалі, падшывалі ў стосікі «па гадах», ашчадна захоўвалі і перачытвалі. Часопісы былі навігатарамі культурнага жыцця, грамадскімі трыбунамі і інтэлектуальнымі цэнтрамі.

Змянілася культурная сітуацыя, змянілася само жыццё. Адсутнасць конкурсаў на філалагічныя факультэты выразна сведчыць, што літаратарская кар’ера страціла сваю прывабнасць для моладзі, банкаўска-нафтавыя перспектывы выглядаюць куды больш заманліва. Не кажучы пра тое, што новыя сродкі камунікацыі, сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі склалі беспрэцэдэнтную канкурэнцыю друкаваным выданням. Сёння інфармацыя не з’яўляецца ўжо такім дэфіцытам, як некалі. І гэта добра, безумоўна. Але ў гэтых умовах, як мне падаецца, літаратурныя часопісы павінны былі б не «выжываць», а наадварот — заняць вельмі прынцыповую пазіцыю.

Бо існуе парадокс. Вядома, што сёння фактычна кожны, хто піша, мае магчымасць размясціць свае творчыя ўзоры ў сеціве альбо выдаць кніжку за ўласныя сродкі. Чаму ж надрукавацца ў тоўстым часопісе па-ранейшаму лічыцца прэстыжным? Па-першае, у часопісе творы чытаюць і рэдагуюць прафесіяналы. Гэта значыць, што сам факт друкавання з’яўляецца пэўным сведчаннем якасці твора. (Маўляў, калі нешта прапусцілі ў друк, значыць яно таго вартае). Па-другое, якім бы вузкім не з’яўлялася кола падпісчыкаў, у пераважнай большасці — гэта «літаратурныя» людзі, значыць, твор трапіць на вочы не абы-каму. Па-трэцяе, публікацыі ў літаратурных часопісах карыстаюцца большай увагай крытыкаў і літаратуразнаўцаў, надрукаванае на іх старонках мае большыя шанцы на прафесійнае рэцэнзаванне. Ну, і такі-сякі ганарар будзе…

Але замест таго, каб «трымаць планку», літаратурна-мастацкія часопісы, на мой погляд, сёння заўважальна знізілі патрабавальнасць да аўтараў і нават не асабліва клапоцяцца пра рэйтынгі, не імкнуцца завабіць чытача чымсьці адмысловым, арыгінальным.

Вядома, што «Полымя» — трыбуна пераважна масцітых пісьменнікаў, прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Але ж гэта не значыць, што выданне з году ў год па шэсць-сем і больш нумароў (часам — з доўгімі перапынкамі) павінна друкаваць аднаго і таго ж аўтара. Я зараз не «адкрываю Амерыку», агучваю факты ўсім вядомыя — у інтэрнэце ўжо толькі лянівы не папікнуў часопіс за бясконцае размяшчэнне гэтых эпічных палотнаў.

Нярэдка часопісы расчароўваюць неадпаведнасцю жанравых атрыбуцый. Скажам, калі праглядаеш змест і бачыш, што ў нумары друкуецца цыкл навел. У гэтага жанру шмат прыхільнікаў. Вядома, што навела — гэта лаканічная вострасюжэтная гісторыя, яе фінал, як правіла, непрадказальны і нечаканы. Не ведаю, як хто, але асабіста я гатова адразу купіць нумар, дзе ёсць такая публікацыя. Але пасля высвятляецца (як, напрыклад, у сакавіцкім нумары «Нёмана» за бягучы год), што «навеламі» пазіцыянуюцца шараговыя і пасрэдныя замалёўкі, некаторыя з якіх нават мала-мальскі не абцяжараны сюжэтам…

А ў «Маладосці» перадусім хочацца адкрываць для сябе новыя імёны, знаёміцца з эксперыментальнымі творчымі ўзорамі маладых літаратараў. Дзеля аб’ектыўнасці варта сказаць, што недахопу ў гэтых новых імёнах тут няма. Але ўзровень твораў зусім не натхняе… Гэта пераважна мутныя і дэпрэсіўныя ўзоры прозы, банальныя і пасрэдныя ўзоры паэзіі. Напрыклад, у «Маладосці» № 7 за 2013 год апавяданні студэнта-пяцікурсніка «Знаёмы незнаёмец» і «Сон? рэальнасці?». Тэксты не толькі слабенькія з пункту гледжання «мастацкасці», але і

вельмі неахайныя. Відавочна, малады пісьменнік спрабуе пісаць у абсурдысцкай манеры, імкнецца надзяляць апавяданні філасофскім сэнсам, драматызмам. Але недарэчная мітусня яго герояў, бясконцыя паўторы слоў ды няўдалыя выразы ствараюць адваротны эфект — камічны.

Так, напрыклад, у першым творы, перадаючы стан закаханасці (душэўнай узрушанасці, трымцення), аўтар піша: «Усё ўнутры мяне бурапеніла». Так і хочацца запытаць: «Можа, з’еў што нясвежае?» З улікам таго, што «бурапеніла» якраз у той момант, калі герой начаваў у кватэры каханай дзяўчыны, то застаецца толькі паспачуваць яму.

А ў другім творы, дзе выкарыстоўваецца «прыём сну» ўвогуле шмат дзівосаў. Зразумела, што сон можа быць і абсурдным, і алагічным. Але ўнутры эпізодаў такая-сякая логіка павінна захоўвацца. Дый граматыку яшчэ ніхто не адмяняў.

Вось, напрыклад, адзін фрагмент тэксту — герой шукае выхаду з тэатра: «Дзвярэй шмат. Спрабую пералічыць, але нічога не атрымліваецца. Такое адчуванне, што іх тут безліч. У якую мне ўвайсці?» (с. 27). У беларускай мове «дзверы» маюць толькі множны лік. Таму ў апошняй фразе павінна быць не «ў якую», а «ў як***ія***», і не «ўвайсці», а «***выйсці***». Гэта, вядома, дробязі. Але вось наступны фрагмент: «Мы стаім на горцы. Хачу папярэдзіць субяседніцу, але позна. Калыска пачынае скатвацца. Сэрца шалёна б’ецца. Бягу за калыскай, каб спыніць. Бягу, але не паспяваю. Яна перакулілася. Падбягаю. Дзіцёнку ў калысцы дзесьці пяць гадоў. Ён спакойна глядзіць на мяне. На ім чорныя акуляры. Я разумею, што ён сляпы. Адчуваю, што гэта я вінаваты. Кідаюся абдымаць яго. Ён стаіць спакойна, а я пачынаю плакаць» (с. 27—28). Пакінем без увагі, што ў пяць гадоў дзіця «ў калысцы» (дапусцім, гэта з-за таго, што яно невідушчае). Але калі калыска «перакулілася», то парадак фраз у тэксце па меншай меры дзіўны:

1) «Яна перакулілася».

2) «Падбягаю. Дзіцёнку ў калысцы дзесьці пяць гадоў». (Дзіцёнак па-ранейшаму «ў калысцы»? Ён не выкаціўся, калі яна перакулілася?)

3) «Кідаюся абдымаць яго. Ён стаіць спакойна, а я пачынаю плакаць». (Дык ён «стаіць» ці знаходзіцца «ў калысцы»?)

Скажаце, прыдзіраюся? Нічога падобнага. Калі ў творы адмысловы сэнс ці наватарская ідэя, выключная мова ці арыгінальная форма (ды хоць штонебудзь якаснае, жывое, таленавітае), то на нейкія асобныя «хібы» сапраўды можна глядзець скрозь пальцы. Але калі ідэйны сэнс банальны, а мастацкае ўвасабленне, мякка кажучы, далёкае ад дасканаласці, то кожная драбніца рэжа вока. Між іншым, фінал апавядання «Сон? рэальнасці?» выглядае наступным чынам: «Павольна ўключаецца святло. Перада мной сцэна. Вакол пляскаюць у далоні людзі. Я ў тэатры…» (с. 30). Апошняя фраза ўтрымлівае ключавы сэнс твора. «Жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры». Свежая думка, нічога не скажаш…

Адразу падкрэслю, што сутнасць прэтэнзій да рэдактараў зусім не ў тым, што «дрэнна адрэдагавалі». (Ніхто не павінен перапісваць за аўтара!) А ў тым, што не прымусілі маладога пісьменніка дапрацаваць яго творы, павыпраўляць хаця б відавочныя хібы.

У архівах свайго бацькі — пісьменніка Віктара Дайліды — я знайшла стос лістоў, якія ён некалі атрымліваў з рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў. Працытую тут толькі адзін — з рэдакцыі «Маладосці», ад Вячаслава Адамчыка. Бацька на той час жыў у вёсцы, працаваў дырэктарам вясковай школы. У яго пісьменніцкім арсенале мелася ўжо некалькі дзясяткаў надрукаваных твораў. Вячаслаў Адамчык быў трошкі маладзейшым па ўзросце, але меў добры вопыт рэдактарскай працы. Вось яго ліст, напісаны «ад рукі».

«Віктар, дзень добры!

Я тут ненарокам сеў за рэдактарскі стол (часова, пакуль Міхась Стральцоў служыць у войску) і прачытаў тваю аповесць, дарэчы, на яе кінуў вокам і Пімен Панчанка. Думка такая: у творы многа ёсць твайго, слуцкага, але, браток, тое-сёе, не адгабляваўшы добра, ты падфарбаваў і лакам. Скамечаны, мне здаецца, у аповесці і канец. Мова — гэта ўжо твая бяда і немалая. Стылізаваная, гладкая. А на гладкім, сам ведаеш, добра едзецца, але мала, пэўна, бачыцца. Але карацей: рэдакцыя маецца цябе друкаваць у адзінаццатым нумары, а аповесць, як бачыш з маіх слоў, трэба крышку дапрацаваць, ды што я кажу дапрацаваць, проста на якіх тыдняў два добра закасаць рукавы ды пахадзіць каля яе. Але перш — трэба прыехаць у рэдакцыю. Знайдзі, Віктар, час, ды прыедзь на які дзянёк у Мінск. Тут пагаворым і абмяркуем што, як і лепей зрабіць.

З прывітаннем — Вячаслаў Адамчык».

Хачу падкрэсліць, што ў бацькі былі цёплыя, амаль прыяцельскія адносіны з Адамчыкам. Хіба не мог Вячаслаў Уладзіміравіч прапусціць аповесць у друк «па-сяброўску», без аніякіх заўваг-прэтэнзій? Безумоўна, мог. Але існаваў кодэкс гонару, які не дазваляў схібіць, які перадусім патрабаваў прыстойнасці і ў асабістых, і ў творчых стасунках. Сяброўства заключалася не ў тым, каб па-хуткаму штосьці «прапхнуць» у часопіс, а ў тым, каб кожны твор, як піша Адамчык, «адгабляваць», давесці да належнага ўзроўню. Рэдактар адчуваў адказнасць за сваю працу…

Можна бясконца дыскутаваць наконт таго, як рэанімаваць літаратурна-мастацкія выданні. Але, думаецца, усё вырашае толькі якасць твораў, якія прапануюць часопісы. Толькі пільны і прынцыповы адбор тэкстаў для друку здольны змяніць сітуацыю.

**Таццяна СІВЕЦ,**
***галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» (Беларусь)***



## Усё яшчэ можа змяніцца

Насамрэч, літаратурныя выданні займаюць сёння месца вельмі сціплае, далёка не на покуці. Гэта месца калісь шаноўнай кабеты, пра якую ўжо забыліся, за што яе ўвогуле паважалі… А паважаць было за што: за некалькі стагоддзяў існавання літаратурныя часопісы прайшлі шлях ад вузкалітаратурных выданняў у XVIII—XIX стагоддзях да мільённых накладаў канца XX і… зноў да выданняў з дакладна акрэсленай чытацкай аўдыторыяй і накладам у некалькі тысяч. Нягледзячы на тое, што колькасць найменняў літчасопісаў на постсавецкай прасторы за апошнія дзесяцігоддзі павялічылася, пра іх існаванне ведае дастаткова абмежаванае кола прыхільнікаў. Калі раней пасля публікацыі ў «Маладосці» малады аўтар «прачынаўся знакамітым», сёння ён мусіць напісаць пра гэтую публікацыю ў сеціве, а лепш — адразу выкласці нізку ў сацыяльных сетках… Аднак пры ўсім вышэйзгаданым літаратурныя выданні і сёння з’яўляюцца ўплывовымі і аўтарытэтнымі ў межах літаратурнага

кола. Праўда, выйсці за яго межы падаецца мне практычна немагчымым: надта вялікая колькасць складнікаў тут патрэбная. Адзін з іх — вяртанне даверу да друкаванага слова, моцна падарванага ў постсавецкі перыяд.

З'яўленне альтэрнатыўных сродкаў інфармацыі — адна з галоўных прычын падзення накладаў, на маю думку. Замест адной «радыё-кропкі» з'явілася мноства FM-каналаў. Тэлевізары і камп'ютары перасталі быць раскошай, а сучасныя планшэты і рыдары — больш натуральныя для моладзі, чым папяровыя кнігі і часопісы. Акрамя таго, знікненне «адміністрацыйнага рычага» — прымусовай падпіскі — таксама паўплывала на падзенне накладаў. Чаму перасталі выпісваць па ўласным жаданні? Таму што даводзілася выбіраць: паесці ці пачытаць. Калі ж нават у такіх умовах людзі штосьці выпісвалі, значыць ім сапраўды гэта было цікава і патрэбна! У сучаснай літаратуры вельмі добра бачны след 90-х гадоў мінулага стагоддзя — крытычна малая колькасць значных творцаў 40—50 гадоў, то бок усіх тых, для каго на той час паўстала пытанне: займацца творчасцю ці зарабляць на жыццё. Таму сёння адна з асноўных задач літаратурных выданняў, па маім меркаванні, — гэта пошук і адкрыццё чытачам новых імёнаў, у тым ліку і вяртанне абыдзеных увагай у 1990-я… Ці будзе гэта цікава чытачу? Я, як чытач, кажу — так!

Выхад у сеціва — не панацэя. У інтэрнэт павінны, я лічу, патрапляць звесткі, якія змусяць чалавека адарвацца ад «кампа» і набыць часопіс. Што гэта можа быць? Для адказу на гэтае пытанне трэба вывучаць сваю аўдыторыю, сачыць за яе душэўнымі рухамі і скіроўваць чытачоў — незаўважна і мякка, але кіраваць імі, а не ісці следам! Таму і змены не могуць быць рэзкімі, каб не адштурхнуць тых, хто ўжо прывык да пэўнага выгляду і выкладу інфармацыі, але пакрысе прыцягваць новых чытачоў новымі ідэямі, рубрыкамі і тэмамі. Таксама варта своечасова пазбаўляцца старога, хаця замена мусіць быць адэкватнай: заменіш крытыку кулінарнымі рэцэптамі — і чытач не зразумее «гумару». Важным момантам з'яўляецца і своечасовае інфармаванне аўдыторыі пра перамены, якія яе чакаюць. І тут без інтэрнэту — ніяк! Да таго ж, варта адрозніваць часовае павышэнне ўвагі і накладу — як вынік пэўнай акцыі з боку рэдакцыі — ад пастаяннай паступовай працы. Прыкладам, надрукаваны твор скандальнага аўтара, безумоўна, прынясе пэўны працэнт падпіскі, але можа вымусіць адмовіцца ад выдання тых, хто не прымае гэтага аўтара. Вонкавае афармленне мусіць найперш вылучаць часопіс сярод дзясяткаў іншых на паліцы шапіка і ўтрымліваць нейкую загадку ці нацяк, які б выклікаў у патэнцыйнага чытача імкненне заняцца «дэшыфроўкай» знаку. Вельмі ўдалым у гэтым сэнсе бачыцца мне новае афармленне часопіса «Полымя», у аздабленні вокладак якога апошнім часам выкарыстоўваюцца ўласныя рэчы творцаў — класікаў беларускай літаратуры, «Нёман» прыцягвае ўвагу арыгінальнымі малюнкамі, «Маладосць» — кветкамі. Аднак прыцягнуць увагу — толькі першы крок. Астатняе — за зместам!

Мне падаецца, што ў хуткім часе (гадоў праз 10—20) літаратурныя часопісы цалкам пяройдуць у інтэрнэт-прастору (на платнай аснове, зразумела), зробяцца больш аператыўнымі і мабільнымі, а таксама патрапяць у большую залежнасць ад свайго чытача, у сэнсе напаўнення і каментарыяў. Канечне, прагноз даволі сумны, але, магчыма, усё яшчэ можа змяніцца, і чытач, стомлены «неапрацаванай» сеціўнай інфармацыяй, захоча чагосьці чысцейшага, адрэдагаванага. Гісторыя мае ўласцівасць замыкаць кола. Калі амерыканскі часопіс «Playboy» у 1960-я друкаваў Курта Ванегута і Уладзіміра Набокава, калі вакол часопісаў XX стагоддзя аб'ядноўваліся лепшыя прадстаўнікі сусветнай інтэлігенцыі, то, магчыма, падобнае вяртанне — толькі на карысць?

***Юрый КАЗЛОЎ,***
***галоўны рэдактар***
***часопіса «Роман-газета» (Расія)***



## Самі часопісы выжыць не змогуць

На жаль, сёння літаратруна-мастацкія часопісы ператварыліся ў бесцялесныя цені сябе ранейшых. Калі ў савецкі час часопісы з’яўляліся не толькі пляцоўкай для бягучага літаратурнага працэсу, але і выразнікамі грамадскай думкі, то сёння яны вядуць бездапаможнае існаванне і цікавыя галоўным чынам толькі супрацоўнікам, якія ў іх працуюць, і аўтарам, якія ў іх публікуюцца. Таму ёсць аб’ектыўныя і суб’ектыўныя прычыны. Па-першае, знікла асяроддзе, якое фарміруе чытачоў «тоўстых» літаратурных часопісаў. Па-другое, выраслі цэлыя пакаленні, якія не разумеюць, што такое літаратурныя часопісы. Па-трэцяе, новыя інфармацыйныя тэхналогіі адціснулі часопісы на глухую абочыну медыя-бізнесу. У большасці літаратурных часопісаў — «Нового мира», «Москвы», «Знамени», «Раман-газеты» — надзвычай цікавая гісторыя і вялікія заслугі перад грамадствам. Аднак сёння дзяржава не спяшаецца прызнаць часопісы «нацыянальным здабыткам» і аказаць ім падтрымку, без якой тыя папросту не выжывуць.

У пачатку 1990-х пачалося рэзкае падзенне часопісных тыражоў. Змянілася роля літаратуры ў жыцці грамадства. Спыніліся датацыі дзяржавы на паперу, арэнду рэдакцыйных памяшканняў, а галоўнае, на падпіску. Паралельна з гэтым ішло абядненне насельніцтва, людзі абмяжоўвалі сябе ва ўсім. Цікавасць да слова, навінак літаратуры характэрная для грамадства *сацыяльнага, якое развіваецца*, — такім яно было ў СССР, але не *спажывецкага, якое выжывае*, — такім яно стала. Часопісы сёння чытаюць у асноўным людзі старэйшага пакалення (калі пенсія дазваляе) і спецыялісты, якія выкладаюць літаратуру. Жывога літаратурнага працэсу няма. Літаратурныя часопісы не ўпісаны ў сістэму распаўсюджвання друкаванай прадукцыі. Пастаянны рост коштаў на паперу, арэнду, паштовыя паслугі адбіваецца на канчатковай цане нумароў часопіса, таму падпіска на іх з кожным годам скарачаецца. А значыць, падаюць і тыражы.

Рэдакцыі многіх выданняў прайшлі праз спакусу прыстасавацца да новых патрабаванняў — пачалі друкаваць дэтэктывы, эратычную прозу, сталі эксперыментаваць з афармленнем і вёрсткай. Але тое, што ўдалося некаторым газетам, напрыклад, «Комсомольской правде» або «Московскому комсомольцу», не атрымалася ні ў аднаго тоўстага літаратурнага часопіса. Цяпер, у сувязі з развіццём лічбавых тэхналогій і інтэрнэт-рэсурсаў, прастора выжывання для літаратурных часопісаў яшчэ больш звузілася. Выжыць часопісы змогуць толькі ў тым выпадку, калі дзяржава акажа ім падтрымку, прызнае іх часткай гістарычнай літаратурнай спадчыны, возьме на сябе іх фінансаванне і распаўсюджванне. Першым крокам на гэтым шляху магла б стаць гарантаваная (за кошт бюджэту) падпіска на часопісы бібліятэкамі і навучальнымі ўстановамі У Расіі сёння налічваецца каля трыццаці тысяч бібліятэк і незлічоная колькасць ВНУ. Калі б дзяржава забяспечыла часопісам падпіску хоць бы дзесяці тысяч з іх, большасць матэрыяльных праблем рэдакцый было б вырашана. Самі часопісы выжыць не змогуць. Адзіная магчымая будучыня для іх — падтрымка з боку дзяржавы. Але для гэтага дзяржава павінна змяніць сваё стаўленне да культуры, пісьменнікаў і літаратуры.



**Уладзімір ДАНІЛЕНКА,**
*празаік ( Украіна)*

## Аднавіць давер чытачоў

Чытацкі бум на ўкраінскія часопісы прыпаў на канец 80-х — пачатак 90-х гг., калі на Украіне пачалі актыўна друкаваць творы раней забароненых украінскіх і замежных аўтараў. Гэта былі залатыя часы. Выдавецтвы не паспявалі выпускаць творы забароненых пісьменнікаў, і чытацкі попыт задавальнялі тоўстыя часопісы. У 1989 г. часопіс «Всесвіт», які спецыялізуецца на перакладах на ўкраінскую мову замежных аўтараў, выходзіў накладам 760 тысяч экзэмпляраў. Хто б мог падумаць, што сёння тыраж гэтага часопіса, што выходзіць з 1925 г. і першым у Савецкім Саюзе пераклаў Кафку, Марыа П'юзо і творы многіх лацінаамерыканскіх пісьменнікаў, упадзе да дзвюх тысяч асобнікаў? У тыя гады чытачамі літаратурных часопісаў былі пераважна настаўнікі, выкладчыкі, журналісты, камсамольскія работнікі, моладзь. У далейшым гэтая чытацкая аўдыторыя паслужыла разбуральнікам савецкіх міфаў і заклала ў грамадстве тыя незваротныя рэвалюцыйныя працэсы, якія адбыліся на Украіне ў 2004 і 2013—2014 гг.

Галоўнымі прычынамі падзення тыражоў украінскіх літаратурных часопісаў паслужыла змена палітычнага рэжыму, пераход ад дзяржаўнай да рынкавай эканомікі і знікненне дзяржаўнага запатрабавання на прапагандысцкія паслугі, якія раней выконвалі літаратура, тэатр, кіно, музыка і іншыя мастацтвы. Літаратура ад прапаганды павярнулася да вечных тэм, а выданнем часопісаў заняліся менеджары. За гады незалежнасці на Украіне штогод нараджаліся і паміралі дзясяткі часопісаў. Са старых літаратурных часопісаў да нашых дзён дажылі толькі «Всесвіт», «Березіль», «Дніпро» і «Дзвін». Сёння большасць украінскіх літаратурных часопісаў выходзіць пры падтрымцы мецэнатаў, спонсараў і мясцовай адміністрацыі. У сталіцы друкуецца толькі тры літаратурныя часопісы — «Всесвіт», «Дніпро» і «Київ». Астатнія выходзяць у іншых месцах — «Дзвін» у Львове, «Березіль» у Харкаве, «Бористен» у Днепрапятроўску, «Буковинський журнал» у Чарнаўцах, «Літературний Тернопіль» у Цярнопалі, «Кур'єр Кривбасу» ў Крывым Рогу, «Вінницький край» у Вінніцы, «Золота пектораль» у Чарткове, «Склянка часу» ў Каневе, «Дукля» ў славацкім горадзе Прашэве. Самы аўтарытэтны часопіс зараз выходзіць не ў Кіеве, а ў найбуйнейшым раённым цэнтры Крывы Рог з насельніцтвам 651 тысяча жыхароў. Гэты часопіс мае назву «Кур'єр Кривбасу», выходзіць на 400 старонках, рэгулярна выплачвае ганарары і друкуе найбольш якасную літаратуру і крытыку. Калі ж гаварыць пра крытыку, то самымі вядомымі з'яўляюцца часопіс «Слово і час», які спецыялізуецца на літаратуразнаўстве і акадэмічнай крытыцы, а таксама «Критика», які аналізуе сучасны літаратурны працэс. Галоўныя праблемы ўкраінскіх часопісаў — бясконцыя пошукі грошай на выданне, адсутнасць рэкламы і сетак для распаўсюджання. Але ёсць яшчэ адна незваротная праблема — лічбавая цывілізацыя, у якой людзі больш звыклыя да крэдытных картак, чым да папяровых грошай, а да чытання ў інтэрнэце больш, чым да чытання на папяровых носьбітах. Канкурэнтамі папяровых часопісаў на Украіне сталі спецыялізаваныя сайты «ЛітАкцент», «Буквоїд», «Літературний портал», «Українська літературна газета», а таксама сайты паэзіі, прозы, драматургіі. Сёння ў метро і аўтобусах шмат людзей чытаюць з электронных чыталак-планшэтаў, а школь-

нікі і студэнты больш часу праводзяць з айпадамі. Новыя лічбавыя пакаленні будуць аддаваць перавагу электронным кніжкам.

Усе літаратурныя часопісы ў нас выходзяць не дзякуючы падтрымцы дзяржавы ці Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, а выключна дзякуючы прыватным ініцыятывам рэдактараў і менеджараў, якія знаходзяць для гэтага сродкі. Калі менеджар ініцыятыўны і не стамляецца ўтрымоўваць свой часопіс, то выданне трымаецца на плаву. Для большасці рэдактараў стымуламі для выдання часопісаў з’яўляецца паяднанне амбіцыі і бізнес-зацікаўленасці, бо, знаходзячы грошы для часопіса, рэдактар закладае ў бюджэт свой заробак. На Украіне ёсць даволі паспяховыя прыклады прыстасавання літаратурнага часопіса да рынку. Так, даволі паспяховы выдавец Яўген Юхніца стварыў электронны і глянцавы часопіс «Дніпро», што спецыялізуецца на літаратуры маладых аўтараў. Каб увайсці на сайт, трэба пералічыць грошы і атрымаць абаненцкі код, з дапамогай якога можна чытаць электронную версію часопіса. Што ж датычыцца часопісаў на папяровых носьбітах, то трэба зрабіць чытанне літаратурных часопісаў прэстыжным, стварыўшы на іх моду. Для гэтага неабходна, каб дзяржава, зацікаўленая ва ўзняцці культуры нацыі, дапамагла з сацыяльнай рэкламай, спецыялізаванымі тэле- і радыёпраграмамі. Але акрамя дзяржавы, поспех часопіса залежыць ад вынаходлівасці і актыўнасці менеджараў, ад сучасных форм прамоцыі, напрыклад, флэшмобаў, прэзентацый ды сустрэч з мэтавай аўдыторыяй. Фарміраванне запыту ў грамадстве на літаратурныя часопісы мае быць сацыяльным праектам, да якога трэба далучаць і рэдактараў, і палітыкаў, і дзяржаўных службоўцаў, і журналістаў.

Сучасны часопіс мае быць якасным, цікавым, з арыгінальным і вытанчаным дызайнам. У ім не павінна быць шэрай і нуднай літаратуры. Толькі высокамастацкія аўтары, таленавітая крытыка і публіцыстыка могуць прыцягнуць увагу да часопіса. Таму будучыню літаратурных часопісаў я бачу ў аднаўленні даверу чытачоў, у стварэнні моды на чытанне часопісаў ды вяртанні чытацкай традыцыі, і не мае значэння, за што плаціць чытач — за папяровы ці электронны часопіс. Многае таксама залежыць ад таленавітых менеджараў і змены гуманітарнай атмасферы ў грамадстве. На Украіне зараз гуманітарны ўздым і павышаны запыт на літаратуру, кіно, музыку, тэатр, жывапіс. Рэвалюцыя і вайна абвастрылі ў нас любоў да кожнага імгнення жыцця, абвастрылі пачуцці чалавечнасці, ахвярнасці, патрыятызму. Таму, спадзяюся, у нас будзе ўсё добра. А механізмы папулярызацыі часопісаў можна прыдумаць, бо гэта ж толькі тэхналогіі.

***Валерый МІХАЙЛАЎ,***
***галоўны рэдактар часопіса «Простор» (Казахстан)***



## Сапраўдных аматараў літаратуры заўсёды было няшмат

Сёння ў грамадскім і культурным жыцці літаратурныя часопісы займаюць даволі сціплае месца. Грамадства, здаецца, значна больш захоплена ТБ і газетамі. Чытача «падсадзілі» на інфармацыю — любога гатунку і кшталту, і ён аглушаны гэтай інфармацыяй, як наркотыкам, часам вельмі «брудным». Грамадству вось ужо 20 гадоў з лішнім

унушаюць «ідэалы» спажывання. Сапраўдная ж літаратура і культура патрабуе працы душы, на якую цяпер не ў кожнага ёсць душэўныя сілы і час, таму што людзі ў асноўным або «выжываюць», або нажываюць. Тым не менш літаратурныя часопісы, хоць і з вялікімі стратамі, але ацалелі. Можа быць, яны апошнія — у перыядычным друку — фарпосты культуры, бо «маскульт» даўно ператварыўся ў памыйніцу.

Тыражы часопісаў упалі таму, што рухнула савецкая прапаганда. Пры савецкай уладзе газетам, мякка кажучы, людзі не занадта верылі, а праўду вышуквалі ў літаратурных навінках, якія перш за ўсё з'яўляліся ў часопісах. Кампанія па «галоснасці» ўзняла да неба тыражы літаратурных часопісаў, бо там з'явіліся дзесяцігоддзямі забароненыя тэмы. Часопісы тады апярэджвалі кніжныя выдавецтвы па «дастаўцы» чытачу невядомай дагэтуль гістарычнай інфармацыі. Але потым узнікла рынкавая кнігавыдавецкая галіна, якая стала значна больш мабільнай і паваротлівай, чым літаратурныя часопісы. Таму іх тыражы і апусціліся — зрэшты, да «агульнасусветнага» ўзроўню. Гэта натуральны працэс.

Каб існаваць далей, часопісам трэба адшукваць самыя яркія мастацкія творы, развіваць літаратурную крытыку, якасна паляпшаць змест выдання. Сапраўдных аматараў літаратуры заўсёды было няшмат. Праўдзівы чытач у ідэале роўны пісьменніку. Сапраўдны чытацкі густ выхоўваецца доўгімі гадамі, калі не ўсім жыццём. Літаратурны часопіс закліканы не дагаджаць чытачу, а трымаць планку высокай мастацкасці, праўдзівай культуры.

У тым ці іншым выглядзе літаратурныя часопісы існуюць ужо не адно стагоддзе. Хочацца верыць, што і ў аддаленай будучыні яны не знікнуць. Вось «папяровую» кнігу колькі ўжо разоў прыгаворвалі да смерці, а яна і не думае паміраць. Так і часопісы — яны застануцца.



***Цімафей ЛІЯКУМОВІЧ,***
***літаратуразнаўца (Чыкага)***

### Заўсёды заставацца на вастрыні жыцця

Выданне часопісаў у ЗША — гэта разнавіднасць бізнесу. І як у кожнай гандлёвай справе, выдаўцы імкнуцца мець больш навару ад свайго прадпрыемства.

У ЗША выдаецца вялікая колькасць літаратурных часопісаў на англійскай мове, а таксама некалькі часопісаў на рускай мове. І адны, і другія ў цяперашні час адыгрываюць даволі сціплую ролю ў тутэйшым грамадскім жыцці.

Рускія літаратурныя часопісы друкуюць творы розных жанраў. Колькасць чытачоў у іх невялікая, але заслуга ў тым, што яны даюць магчымасць творчым людзям надрукавацца. Большую распаўсюджанасць маюць профільныя, прыкладныя часопісы, скажам, «Теленеделя». Як правіла, рускамоўныя выдаўцы пад усякімі прыдуманымі маркамі імкнуцца ганарараў не выплачваць. Адна з рэдактарак нават абуралася: «Якія вам яшчэ патрэбны ганарары?! Хопіць і таго, што мы ствараем вам прэстыж!» Былыя савецкія людзі, якія становяцца гаспадарамі нейкага бізнесу, умеюць даволі ўчэпіста трымацца за

кожную капейку і не вельмі жадаюць падзяліцца мізэрнай доляй са свайго прыбытку з тымі, хто па сутнасці сваёй працай спрыяе ім у атрыманні даходу. Частку грошай часопісы атрымліваюць ад змяшчэння на сваіх старонках рэкламы.

Сярод амерыканскіх літаратурных часопісаў ёсць такія, як «The Atlantic» (выдаецца з 1857 г.), «The New Yorker» (выдаецца з 1925 г.) і некаторыя іншыя, якія навучыліся спрытна ўладжваць свае справы пры маніпуліраванні часам і чытачамі, каб трымацца на паверхні.

Большасць жа амерыканскіх літаратурных часопісаў таксама, як і рускія, імкнецца лічыць кожны цэнт, асабліва ў цяперашніх умовах. І не ўсе, хто друкуецца ў іх, атрымліваюць ганарары. Лепшая справа з так званымі глянцавымі часопісамі. Тут ганарары даволі важкія, асабліва ў такіх, як сусветна вядомы «Playboy» ці на ранг ніжэйшыя за яго.

Літаратурныя часопісы, калі выплачваюць ганарары, то ў большасці выпадкаў памер іх залежыць ад вядомасці аўтара. Звычайныя ж ганарары невялікія. Так стаўка ў 2—3 цэнты за слова трымаецца ўжо некалькі дзесяцігоддзяў, а крызіс і інфляцыя з гэтым не лічацца і літаральна «душаць» часопісы, якія вымушаны скарачаць свае бюджэты і трымаць ганарары на нязменным узроўні ці памяншаць колькасць аўтараў, што не спрыяе літаратурнаму працэсу.

Напрыклад: калі пісьменнік у 70-я гады мінулага стагоддзя за ганарар за апавяданне ў 15 старонак мог пражыць прыпяваючы паўгода, дык цяпер такая сума ўяўляе сабою тую, пра якую гавораць — «як кот наплакаў». Шчодрыя ганарары, за выключэннем асобным аўтарам, канулі ў мінулае і ў цэлым рэзка зменшыліся. Адзін з сучасных аўтараў прызнаваўся, што за перакладанне паперак у офісе з аднаго месца ў другое можна зарабіць значна больш, чым літаратурнай працай. Асабліва праблема з ганарарам тычыцца новых аўтараў, якіх модна называць фрылансерамі — тыя, хто самі прапануюць свае творы.

Увогуле большасцю насельніцтва літаратурная праца ўспрымаецца як своеасаблівае хобі, якім займаюцца ў вольны час. Тут практыкуюць напісанне эсэ на самыя разнастайныя тэмы з малодшых класаў. Пішуцца яны і пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ад абітурыентаў патрабуюць напісаць літаратурна выразна, напрыклад, аб тым, якая падзея ў іх жыцці пакінула найбольшы ўплыў, альбо апісаць падзею, у якой ім даводзілася рызыкаваць жыццём, або апісаць падзею і час, калі спаткалі няўдачу, якое ўражанне яна зрабіла, як выбраўся з яе і які жыццёвы ўрок атрымаў, і да таго падобнае, якое трэба ўкласці ў 650 слоў.

Так эмігранты з нашай краіны, якія вучыліся ў амерыканскім каледжы, здзіўляліся, што на лекцыі па літаратуры ў апошні дзень вучобы на тыдні, у пятніцу, на апошніх занятках па раскладзе, калі да званка заставалася 15—20 хвілін, а многія ўжо склалі ў свае сумкі падручнікі, сшыткі, алоўкі і ручкі, выкладчык прапанаваў сваім студэнтам тэму для напісання эсэ, што па савецкай методыцы навучання не рэкамендавалася рабіць ні ў якім разе. Рускамоўных слухачоў здзіўляла, што былыя выпускнікі амерыканскіх школ нічога неверагоднага ў гэтым не бачылі і ўспрымалі такую з’яву як звычайную. Пакуль «нашы людзі» меркавалі пра што і як пісаць, амераканскія студэнты ўжо праз некалькі мінут прыносілі на настаўніцкі стол свае аформленыя працы.

Што тычыцца самога літаратурнага працэсу, то ён не можа абысціся без літаратурных часопісаў, бо якраз яны вызначаюць асноўны напрамак развіцця прыгожага пісьменства, менавіта на іх старонках жыве і пульсуе літаратурнае жыццё.

Каб выжыць, каб прывабіць і спакусіць да сябе акрэсленую частку чытачоў, каб мець пэўную групу сваіх прыхільнікаў, гаспадары літаратурных часопісаў імкнуцца да вузкай накіраванасці сваіх часопісаў, надаць ім спецыфічную мэтанакіраванасць: выдаюцца часопісы толькі паэзіі, толькі навуковай фантастыкі, толькі кароткага апавядання, толькі мастацкія творы для дзяўчынак-падлеткаў, толькі для маладых прыгажунь, якія праходзяць праз розныя жыццёвыя выпрабаванні і

ўрэшце шчасліва выходзяць замуж, і г. д. Такім чынам, вызначаюцца трывалыя групы зацікаўленых чытачоў.

Галоўныя ж спажыўцы літаратурных часопісаў — амерыканскія інтэлектуалы, студэнцкая моладзь, публіка з развітым мастацкім густам.

Трэба таксама аддаць належнае амерыканскім бібліятэкам, якія праводзяць шматлікія цікавыя мерапрыемствы па прапагандзе літаратурных твораў і часопісаў.

Тыражы літаратурных часопісаў за апошнія дзесяцігоддзі ўпалі, але не будзем спяшацца вінаваціць ні пісьменнікаў, ні чытачоў. Такімі склаліся ўмовы жыцця ў людзей. У першую чаргу гэта звязана з сусветнай дэградацыяй грамадства, са зменаю ў большасці насельніцтва маштабаў чалавечых арыенціраў у горшы бок, што асабліва праявілася на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, да чаго прыклалі руку непрадбачлівыя палітыкі і пад іх дудку сродкі масавай інфармацыі. Людзей адштурхнулі ад высокіх ідэалаў. Першапачатковай зрабілася праблема хлеба надзённага. Грошы ператварыліся ў галоўны маяк, а праблема іх здабычы любой цаной стала асноўнай мэтай. У свеце запанавала шмат хлусні. Чорнае пачало выдавацца за белае, а белае рознымі непрыстойнымі шляхамі ганьбавацца, абліваецца брудам. Разам з гэтым згубіўся давер да друкаванага слова, у тым ліку і да мастацкага.

Адной з прычын падзення цікавасці да літаратурных часопісаў зрабіўся інтэрнэт. Чэрпаць з яго розную інфармацыю, тым больш наглядную, аказалася больш зручным і дасціпным, даступным, патрабуючым менш часу і разумовай энергіі для яе ўспрымання.

Нельга таксама скінуць з рахунку, што часопісны бум 70—80-х гадоў быў звязаны з кніжным дэфіцытам.

Цяпер жа нельга не ўзяць пад увагу і тое, што інтэлігенцыя — асноўны спажывец літаратурных выданняў — абяднела, а цэны на часопісы ўзраслі. Такая дыспрапорцыя таксама не на карысць літаратурным часопісным выданням.

Мне здаецца, што ў цяперашніх умовах штучна нічога нельга зрабіць, каб прыцягнуць большую чытацкую цікавасць да літаратурных часопісаў, апрача зніжэння іх кошту, што, відаць, ніяк не атрымаецца без дзяржаўнай падтрымкі.

Што значыць мяняцца «ва ўгоду часу»? Больш «чарнухі» выліць на свае старонкі?! Здаецца, у такім выпадку нармальны чытач яшчэ хутчэй адвернецца ад такіх часопісаў. Пісьменнік хаця б на адзін крок павінен быць паперадзе чытача. Гісторыя выданняў часопісаў пацвярджае, што толькі тыя з іх, якія не тапталіся ў сляды чытачоў, а ішлі паперадзе іх («Современник» і «Отечественные записки» М. Някрасава, «Новый мир» А. Твардоўскага і інш.), карысталіся ўвагай і адыгралі важкую ролю ў фарміраванні дастойнай чалавечай свядомасці. Чым часцей часопіс будзе нагадваць сённяшнім людзям з сапсаваным розумам пра чалавечае прызначэнне, тым больш чытачоў будуць цягнуцца да яго старонак. Нельга забываць, што толькі высокае ўзвышае асобу. Не трэба патураць і патакаць адмоўнаму і заганнаму ў чалавечай прыродзе. Галоўнае, трэба весці за сабой да людскага і велічнага — вось сапраўдная справа гонару для літаратурнага часопіса. Друкаваць на сваіх старонках творы, якія ўздзейнічаюць абуджэнню светлага ў свядомасці чалавека, дапамагаць яму супрацьстаяць несправядлівасці, беззаконнасці, пошласці, адвучваць ад подласці, ад тактыкі двайных стандартаў. Вучыць людзей процістаяць зневажальнасці і жорсткасці, паказваць нікчэмнасць свету, у якім за грошы прадаюцца сумленне, прыгажосць, каханне.

Нельга забываць пра выхаваўчую ролю літаратуры, памятаць пра славутых людзей, што з'яўляюцца гордасцю народа, і на іх прыкладзе выхоўваць любоў да роднага краю, да роднай мовы. У сучасным канчаткова звяр'яцелым свеце нагадваць пра сапраўднае прызначэнне, пра абавязак чалавека, пра яго адказнасць перад сабой, людзьмі, Радзімай, гісторыяй. Дапамагаць людзям шукаць праўду, імкнуцца да справядлівасці, натхняць на добрыя ўчынкі, абуджаць у іх душах

міласэрнасць, настойліва выкрываць хлусню, крывадушнасць, ксенафобію, зласлівую нецярпімасць да іншых, да гістарычнага мінулага, прыроды. Асуджаць розныя формы ненармальнасці, разбэшчанасці і бяздушнасці. Адным словам, садзейнічаць у сваіх чытачоў росту сумленнасці, пачуцця ўласнай годнасці, унутранай культуры.

Лишь бы наши девчонки и мальчишки
раскрывали великие книжки,
а иначе настанет беда
и померкнут всех классиков лики
сквозь попсовых поклонников клики...

*Я. Еўтушэнка*

Літаратурныя часопісы будуць працягваць сваё існаванне. У гэтым не даводзіцца сумнявацца, бо былі, ёсць і будуць нараджацца новыя таленты з палкім жаданнем і гранічнай шчырасцю адкрытага сэрца, з прыроднай цягай да адлюстравання жыцця вобразнымі сродкамі. А вось тыражы часопісаў будуць залежаць ад духоўнага стану грамадства: чым больш высокай будзе агульная культура насельніцтва, чым больш маральных патрабаванняў будзе прад'яўляцца да чалавека, чым больш будзе цаніцца інтэлектуальная сутнасць асобы, чым больш прафесійным будзе якасць твораў, тым большай будзе цікавасць да мастацкага слова, тым большым будзе попыт на літаратурныя часопісы.

А пачынаць большую зацікаўленасць да іх, відаць, трэба з пошукаў магчымасці паменшыць іх кошт, каб як мага больш пакупнікоў маглі іх набыць, і павялічэння разнастайных формаў прапаганды таго вартага, што з'яўляецца на іх старонках.

**Юлія БЕЛАВІНА,**
***перакладчыца (Данія)***



## Будучыня ў літаратурных часопісаў ёсць!

Нягледзячы на багатае і насычанае грамадскае і культурнае жыццё ў Даніі, на жаль, роля літаратурных часопісаў мікраскапічна нікчэмная. Прычына гэтаму адна — іх проста няма як класа. І не было. Існуюць часопісы, якія камбінуюць літаратурныя артыкулы з лінгвістычнымі або востра сацыяльнымі; студэнцкія часопісы; літаратурна-культурны часопіс скандынаўскай літаратуры «Reception» пад рэдакцыяй студэнтаў універсітэта г. Капенгагена, які выходзіць два разы на год. Адзіны літаратурны часопіс (афіцыйна прызнаны «адзіным»), які займаецца толькі літаратурай — часопіс «Standart». Часопіс выдаецца з 1987 г. і прадстаўляе дацкую і замежную літаратуры з дапамогай рэцэнзій, артыкулаў, эсэ, інтэрв'ю і літаратурных калонак. Іншымі словамі, пра навінкі кніжнага свету і новыя імёны мы даведаемся не шляхам чытання выбраных урыўкаў твораў, а з артыкулаў, напісаных літаратуразнаўцамі. З першага дня існавання часопіс ставіць перад сабой мэту — пашырыць літаратурныя гарызонты і павялічыць вугал іх успрымання.

Ён таксама імкнецца надаць навізну інтэрпрэтацыі вядомых твораў і даследаваць невядомыя. «Standart» з'яўляецца членам Асацыяцыі дацкіх культурных часопісаў, заснаванай у 1993 г., якая абараняе інтарэсы больш як ста культурных часопісаў Даніі, Грэнландыі і Фарэрскіх астравоў. Культурныя часопісы ў дадзеным выпадку — не толькі літаратурныя, але і архітэктурныя, навуковыя, сацыяльныя і г. д. Над афармленнем вокладкі часопіса працуюць прафесійныя мастакі, напрыклад, Петэр Оле Педерсэн або Нільс Эрык Г'ердэвік.

«Standart» нельга знайсці ў вольным продажы. На яго трэба альбо падпісвацца, альбо паспрабаваць знайсці ў адным з 6 спецыялізаваных магазінаў Акадэмічнай кнігі або магазінаў пры ўніверсітэтах гг. Капенгагена і Орхуса, што дазваляе лічыць, што асноўныя чытачы — людзі, звязаныя з літаратурай у прафесійным плане, альбо тыя, хто любіць чытаць і будзе сачыць за навінкамі.

«Standart» прыкладае пэўныя намаганні, каб не толькі трымацца на плаву, але і канкурыраваць з літаратурнымі раздзеламі ў вядомых штотыднёвых газетах («Politikken», «Jyllands Posten»). Перыядычна часопіс мяняе дызайн і стыль, падладжваючыся пад патрабаванні і запыты часу.

Адносна іншых часопісаў можна сказаць, што паколькі мэтавая аўдыторыя — у асноўным маладзёжная (пра гэта сведчаць месца выдання і рэдакцыя часопісаў), то ў святле буйнага росквіту камп'ютарных тэхналогій і інтэрнэту, усё больш чытачоў імкнецца атрымліваць інфармацыю на электронным носьбіце, а не насіць часопіс у сумцы.

Вядома, часопісы павінны змяняцца і падладжвацца пад свайго чытача. «Усё цячэ, усё мяняецца», — казаў Геракліт. Тое ж датычыцца і часопісаў. Гаворка ж не пра тое, каб быць канкурэнтаздольнымі (што, само сабой, важна), а аб утрыманні і росце чытацкай цікавасці. З іншага боку, усё залежыць ад чытацкай аўдыторыі. Калі чытач — кансерватыўны чалавек, які звыкся дзесяцігоддзямі чытаць свой часопіс у аднолькавым афармленні і форме, то ён наўрад ці будзе рады рэзкім пераменам. Ён будзе абыякавы і да выпуску часопіса ў электронным выглядзе. У выпадку, калі часопіс маладзёжны, то падасца дзіўным і несучасным, калі ў яго няма ўласнага сайта з электроннымі версіямі выпускаў або сваёй старонкі ў сацыяльных сетках. Тады рызыка страціць чытачоў і падзення тыражу ўзрастае. Што тычыцца зместу, сітуацыя ідэнтычная. Хочуць людзі чытаць пра акулу, шукайце аўтараў, якія пішуць пра падводнае царства; жадаюць пра Другую сусветную вайну — патрабуюцца пісьменнікі-гісторыкі. Часопісы існуюць для чытачоў, а не чытачы — для часопісаў.

Якім мне ўяўляецца далёкая будучыня літаратурных часопісаў? Магу сказаць адно: будучыня ў літаратурных часопісаў ёсць! У якім яны будуць выглядзе: электронным або папяровым, гэта іншае пытанне. Але пакуль людзі чытаюць, імкнуцца да пазнання новага і адкрыцця нязведаных граняў у добра забытым старым; пакуль ёсць таленавітыя паэты і пісьменнікі, якія жадаюць тварыць і ў творчасці несці дабро, літаратурныя часопісы будуць жыць, квітнець і акультурваць грамадства!



Таццяна ДУБОЎСКАЯ

# АКЦЭНТАВАНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ КАНЦЭПТУАЛЬНАСЦЬ У СВАБОДНЫХ ВЕРШАХ МАКСІМА ТАНКА

Максім Танк — паэт, які поруч з традыцыйнымі формамі верша актыўна распрацоўваў наватарскія для беларускай літаратуры ўзоры заходнееўрапейскай паэзіі. Новае, якаснае гучанне ў творчасці пісьменніка набыў свабодны верш. З паэтычным майстэрствам М. Танка верлібр у айчыннай паэзіі стаў ужо формай не маргінальнай, а агульнапрынятай, як паэма, санет, балада і г. д. Пісьменнік «больш, чым хто іншы ў нашай літаратуры, зрабіў для таго, каб верлібр натуральна загучаў і па-беларуску» [3, с. 257]. Свабодны верш аўтара знаменаваў сабой з’яўленне ў беларускай паэзіі новай вобразнасці, інтанацыі, рытмікі і — як вынік — выклікаў асаблівую цікавасць у многіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў.

Даследчыкамі зместава-фармальных пошукаў у творчасці М. Танка, у прыватнасці яго верлібравай паэзіі, з’яўляюцца В. Рагойша, М. Арочка, У. Калеснік, А. Лойка, У. Гніламёдаў, Д. Бугаёў, М. Мішчанчук, М. Мікуліч, В. Русілка, А. Кабаковіч, Г. Тычка, А. Гурская, Л. Корань, Я. Міклашэўскі, В. Ярац, У. Міцкевіч і інш. Свабодны верш разглядаецца літаратуразнаўцамі пераважна ў кантэксце ўсёй творчасці пісьменніка як важны, заканамерны этап сучаснай паэзіі М. Танка. Аднак актуальнай задачай на сённяшні дзень застаецца спецыяльнае даследаванне верлібравай творчасці М. Танка ў аспекце яе нацыянальна-культурнай канцэптуальнасці, з экцэнтацыяй на тым, што ў формах верлібрычных танкаўская дэманстратыўнасць у ментальна-этнічнай маркіраванасці вобразнага ладу з’яўляецца нехарактэрнай для сусветнай традыцыі, у якой верлібр склаўся як форма, скіраваная хучэй на абстрагаванне ад нацыянальнай праблематыкі. Якраз названая асаблівасць (адсутнасць абстрагавання ад нацыянальнай праблематыкі) айчыннага верлібра ў параўнанні з замежным засталася па-за ўвагай даследчыкаў творчасці М. Танка. У дадзенай працы новым падыходам да інтэрпрэтацыі танкаўскай лірыкі з’яўляецца вылучэнне і вывучэнне менавіта гэтага канцэптуальнага аспекта ў вобразнай сістэме свабодных вершаў М. Танка.

У свабодных вершах Максім Танк асэнсоўвае глабальныя праблемы, але рэчыўны свет, канкрэтыка, аснова вобразаў, лад маўлення маюць выразную нацыянальную афарбоўку, змястоўнасць. Беларускі паэт, які жыў разам са сваім народам у розных дзяржавах (Польшчы, СССР), быў па ідэалагічных прыхільнасцях перакананым камуністам, найперш заўсёды заставаўся патрыётам сваёй Беларусі з яе даўняй гісторыяй і багатай культурай, якімі М. Танк ганарыўся і найперш праз іх, гісторыю і культуру, прэзентаваў беларускую нацыю як еўрапейскую ў сваім верлібры.

Для Танка нацыянальнае — безумоўная каштоўнасць; для яго з самага пачатку творчай біяграфіі няма праблемы нацыянальнай ідэнтыфікацыі, а ёсць толькі праблема нацыянальнага сцвярджэння айчыннай культуры ў Заходняй Беларусі. У Савецкай Беларусі ён піша пра беларускае як пра ўжо наяўную і сцверджаную — дзякуючы савецкай беларускай дзяржаўнасці — неўміручую каштоўнасць. Для яго БССР — гарант існавання і пазітыўнай будучыні беларуса. Гэтае перакананне вынесена з польскіх турмаў (Лукішскай турмы ў Вільні, дзе паэт адбываў розныя тэрміны зняволення з 1932 па 1934 г.). Лірычны герой М. Танка

не мае псіхалагічных комплексаў і пакут «дваення душы», «транзітнасці» ў самапачуванні асобы на памежжах дзяржаўных, ідэалагічных, ментальных. Для гэтага героя натуральна ганарыцца беларушчынай і яе адстойваць безумоўна, і такая ўнутраная пазіцыя актыўна выяўляецца ў танкаўскіх свабодных вершах.

Як паэта культуры М. Танка нязменна прыцягвала біблейская вобразнасць з яе максімальнай абагуленасцю, універсальнасцю. Але ў вершах М. Танка біблейскі падтэкст рэалізуецца ў метафарах, заснаваных на беларускіх рэаліях. Пры гэтым біблейскі складнік знаходзім у рознаўзроўневых асацыятыўных адсылках якраз да агульнаславянскай, а часта і ўласнабеларускай міфалогіі і гісторыі.

Так, у творы «Мой каўчэг» аўтар па-свойму пераасэнсоўвае біблейскі сюжэт пра сусветны патоп, параўноўваючы яго з катастрофамі XX стагоддзя: *«Амаль кожны дзень / Я выпускаю па пары / Галубоў-разведчыкаў / У пошукі / Мірнага прыстанішча. / Але пакуль што / Усе яны прыносяць — / Не зялёныя галінкі / Пальмы ці алівы, — / А атручаныя / Промні бліскавіц / Хірасімы, / Нагасакі, / Чарнобыля, / Пачарнелыя каласы збажыны / І гарачыя ад крыві / Гільзы патронаў»* [12, с. 244—245]. У верлібры тыя дэталізаваныя вобразы-рэчы, якія вызначаюць карціну сучаснага свету, набываюць якасць канцэптаў са значэннем вайны, катастрофы, вынішчэння жыцця; яны суадносяцца з традыцыйна канцэптуальнымі ў біблейскім кантэксце вобразамі галінак пальмы і алівы, што ўвасабляюць мір. «Чарнобыль», «гарачыя ад крыві / Гільзы патронаў» — вобразы, якія маюць выразныя, актыўныя нацыянальна-ментальныя канатацыі, сімвалізуюць тыя чорныя гады, што перажывала Беларусь, ахвяруючы мільёны людскіх жыццяў. Можна сказаць, што яны маюць у падтэксце «чорную» статыстыку страт Беларусі ў геапалітычных і экалагічных катастрофах. «Пачарнелыя каласы збажыны» — складаны па сваёй унутранай сутнасці вобраз, які канцэнтруе ў сабе два супрацьлеглыя пачаткі: стваральная праца хлебароба, ураджайнасць карміцелькі-зямлі і адначасова знішчальная сіла навукова-тэхнічнага прагрэсу, здольнага спапяліць усё чалавецтва. Такім чынам паэт пазбягае банальнасці, пішучы верш з праблематыкай, якая з'яўляецца адной з самых частотных у паэзіі, асабліва савецкай: захаванне міру на Зямлі і адносіны чалавека да прыроды. Менавіта нацыянальна-ментальныя канатацыі ў творы пашыраюць яго семантыку да ўзроўню змястоўнай семіясферы.

У верлібры «Кажаны» на прыкладзе апісання адной з беларускіх вёсак паказана трагедыя ўсяго народа: *«Ноч Хатыні / З пераліваў месяца, / З салаўінага свісту, / З пераззвону бяссонных званоў... / Нячутнымі / Чорнымі маланкамі / Нада мною снуюць кажаны. / А можа, гэта / Клубы дыму / З усё яшчэ / Неастылых папялішчаў»* [11, с. 165]. Ключавым канцэптуальным словам у гэтым вершы з'яўляецца «Хатынь». У сістэме танкаўскай паэтыкі ўжыванне такога слова-канцэпта (у дадзеным выпадку — пазначэнне знакавага беларускага топасу) вызваляе паэта ад простлінейна-тэматычнай лексікі: ён скіроўваецца да асацыяцый і, на першы погляд, піша пра рэчы, аддаленыя ад ваеннай тэмы («пераліваў месяца», «салаўінага свісту»), але насамрэч ён пазначае аснову для вельмі ёмкіх метафар менавіта вайны (замест просталінейных намінацый вайны). Эмацыйнасць твора ўзмацняецца кантраснасцю апісання Хатыні ў пачатку і напрыканцы свабоднага верша. Кажан — птушка цемры — нагадвае аўтару пра спаленых разам з вёскай яе жыхароў. Колеравая палітра твора чорная, цёмна-шэрая («чорнымі маланкамі», «клубы дыму», «неастылых папялішчаў»), увасабляе сабою жудасць і знішчальную сілу вайны.

У жывым вобразе паўстае перад чытачом лес як сведка былых ваенных ліхалеццяў: *«Вы абмінаеце асенні лес / Таму, што вецер абарваў лістоту, / Птушыную гамонку, / Перакаты рэха. / Але ж там перашум яго застаўся, / Што сеецца праз пальцы веццяў, / Праз патронныя старыя гільзы, / Праз вузлы памяці — калючыя засекі з дроту, / Праз запалыя зямлянкі / І партызанскія кастры, / Праз нашы сны і песні. / Лес і сягоння / Мяне кліча на бяседу»* [10, с. 149]. Максі-

мальнай нацыянальна-культурнай канцэптуальнасцю ў гэтым вершы вылучаецца словазлучэнне «партызанскія кастры», неадлучныя ад беларускага лесу. Лес — адно з прыродных багаццяў нашай краіны. У часы Вялікай Айчыннай вайны (як і шэрагу іншых у нашай старажытнай гісторыі) ён з'яўляўся асноўнай зонай супраціўлення ворагам-акупантам, зонай партызанскага руху на Беларусі, прытулкам для мірнага насельніцтва, якое ратавалася ад пагібелі. У пазначаным верлібры лес паказаны ў повязі з найхарактэрнымі вобразамі беларускага быцця: «патронныя старыя гільзы», «калючыя засекі з дроту», «запалыя зямлянкі», ужо згаданыя «партызанскія кастры». Беларускі лес захоўвае памяць пра сваё мінулае, каб расказаць пра яго сучасніку, пагутарыць з ім.

Сасна ў творчасці М. Танка — адзін з цэнтральных вобразаў, які сімвалізуе родны нарачанскі край паэта. У верлібры «Калі завеш мяне…» паэт адчувае роднасную сувязь, духоўнае сваяцтва з дрэвамі: *«Калі завеш мяне / І не адразу адклікаюся, — / Не гневайся. / <…> / Я часта начую і днюю / Ля сосен сваіх / Нарачанскіх, / Дзе ўсе беды мае, / Дзе ўсе радасці мае, / Дзе ўсе думы мае»* [11, с. 8—9]. Шчымліва-пяшчотныя адносіны да родных соснаў бяруць карані з распаўсюджанага ў фальклоры і нацыянальным паэтычным мастацтве адухаўленняя прыроды. Сасна — адно з культавых дрэў у беларусаў разам з дубам, вярбой, бярозай, клёнам, рабінай і іншымі дрэвамі. Таму стаўленне да яе ў нашых продкаў было сакральнае. Вобраз сасны ў свабодных вершах М. Танка таксама асацыіруецца з вайной. У верлібры «Наднарачанскія сосны» аўтар бачыць у дрэвах чалавечую сутнасць, жывых істот, здольных адчуваць боль: *«Яны калышуцца / З асмаленымі кронамі, / З залітымі жывіцай / Ранамі ад куль / <…>/ Я, нат будучы глухім, / Між тысяч іншых сосен / Адрозніў бы іх пошум / І, нават будучы сляпым, / Абняўшы ці пацалаваўшы, / Іх пазнаў бы»* [10, с. 166—167]. Родныя сосны нагадваюць аўтару тыя ваенныя падзеі, што адбываліся на яго радзіме, увасабляюць тых людзей, якія загінулі, ахвяруючы сваім жыццём дзеля перамогі.

У вершы «Над акопам» перад чытачом паўстае вобраз вярбы: *«Разаслаўшы / Дзіравую хустку / Апалай лістоты, / Прыкленчыўшы / Над акопам, / Стаіць старая вярба, / Быццам / Вымольвае міласціну / На Безыменны помнік… / Часамі / Пералётная птушка ёй / Скіне пяро, / Месяц —znічку, / Сонца — мядзяк ці чырвонец, / Прахожы — спачувальны позірк, — / Убачыўшы, / У пачарнелых / Пальцах — галінах яе / Дрыжачыя, / Як пацеркі ружанца, / Буйныя кроплі дажджу / Ці слёз…»* [12, с. 233—234]. Фабульную кульмінацыю верша, тэму якога выразна задае назва, вызначае словазлучэнне «безыменны помнік». Гэта канцэптуальны вобраз у метафарычным пазначэнні ваеннай трагедыі, у якой шмат сапраўды гераічнага застаецца безыменным. Вярба ж — адзін з пашыраных фальклорных і літаратурных вобразаў у беларусаў, які асацыіруецца пераважна са смуткам і жальбай. Як зазначае Н. Гілевіч, у беларускай народнай лірыцы вярба (звычайна — нахіленая) сімвалізуе або маладую дзяўчыну на выданні, або — часцей — няшчасную, гаротную жанчыну, разлучаную з бацькоўскім домам [4, с. 82]. У названым верлібры дзякуючы дакладным метафарам («Дзіравую хустку / Апалай лістоты», «У пачарнелых / Пальцах — галінах яе») вярба суадносіцца з вобразам Беларусі-Плачкі, якая аплаквае ўсіх сваіх загінуўшых на вайне сыноў, якія палеглі ў безыменныя салдацкія магілы, «раскіданыя» па ўсім свеце; камусьці ж і безыменнай магілы не было суджана.

Праблема захавання Беларусі як краіны і радовішча беларускай нацыі на Зямлі асэнсоўваецца ў верлібры «Тут Беларусь была»: *«Пасля бясконцых / Несправядлівых / І справядлівых войнаў, / Пасля пякельных / Курапат, / Хатыняў, / Трасцянцоў, / Апакаліптычнай / Чарнобыльскай гекатомбы, — / Часамі баюся ў рукі браць / Геаграфічны атлас, / Каб не ўбачыць / На зямной паверхні, / Замест святых імён / Рэк, / Ніў, / Лясоў і сёл / Маёй радзімы, / Кароткі надпіс: / «Калісьці / Была тут Беларусь»* [12, с. 231—232]. У творы прысутнічаюць нацыянальна-маркіраваныя вобразы, якія ўвасабляюць самыя жудасныя трагедыі, што зведала

наша краіна за сваю гісторыю. Сярод іх Курапаты — месца масавых пахаванняў ахвяр сталінскага тэрору. Яно нагадвае аб палітычных рэпрэсіях 1920—1930-х гадоў, падчас якіх многія беларускія навукоўцы, літаратары, грамадскія і культурныя дзеячы былі беспадстаўна рэпрэсаваны (Ц. Гартны, М. Грамыка, С. Грахоўскі, С. Дзяргай, У. Дубоўка, І. Замоцін, А. Звонак, А. Мрый) і расстраляны (М. Гарэцкі, М. Зарэцкі, М. Каспяровіч, Л. Калюга, В. Ластоўскі, Т. Кляшторны, С. Некрашэвіч, Я. Нёманскі, М. Чарот). У Вялікую Айчынную вайну разам з яе жыхарамі спалена датла Хатынь, якая стала сімвалам больш як дзевяці тысяч спапялелых вёсак нашай зямлі; у адным з самых буйных на тэрыторыі Беларусі канцлагераў смерці Малы Трасцянец карнікі штодзень знішчалі ваеннапалонных і мірных жыхароў. «Чумой» XX стагоддзя стала чарнобыльская катастрофа, якую па сённяшні дзень балюча перажывае Беларусь. «Апакаліптычная чарнобыльская гекатомба» [12, с. 231—232], «атамны джын» [12, с. 74], «другі Садом» [12, с. 287], «вулкан чарнобыльскі» [12, с. 295], «атамны вулкан» [12, с. 74] — вобразы-метафары, якімі аўтар «узнаўляе» маштабнасць і жахлівасць трагедыі беларусаў і ўсяго свету з-за так блізкага да Гомельшчыны ўкраінскага, савецкага горада Чарнобыля з разбуранай атамнай станцыяй, чые радыеактыўныя хмары былі расцярушаны над Беларуссю.

Зямля ў глабальным яе разуменні ў творчасці М. Танка непарыўна звязана з зямлёй, на якой паэт нарадзіўся. У верлібрах пісьменніка, па назіранні М. Арочкі, выразна выяўляецца «тэндэнцыя на «зазямленне» танкаўскай паэтыкі: паварот сімптаматычны для ўсёй беларускай паэзіі» [1, с. 186]. Мастацкае ўспрыняцце рэальнасці, як зазначае Г. Тычка, заснавана ў М. Танка на «прадметнасці, фізічна адчувальнай зямной рэальнасці, якая характэрна для беларускай мовы наогул і таму і для нацыянальнай паэзіі» [14, с. 174]. Паэтызацыя народных першакаштоўнасцей, першаасноў сялянскага жыцця, вясковага побыту — адметная стылёвая рыса творчасці М. Танка, якая знайшла сваё яскравае ўвасабленне ў яго верлібрах («Узыход сонца» [10, с. 163], «Ізноў на той сцежцы юнацкай…» [11, с. 152], «Змярканне» [12, с. 242], «Вёска мая» [10, с. 91], «Імгла» [11, с. 300], «Сон пра агарод» [11, с. 237—238] і інш.). У вершы «Помню: маці заўсёды клалася спаць…» паэт рэтраспектыўна апісвае моманты са свайго дзяцінства: *«Помню: маці заўсёды клалася спаць / Толькі пасля таго, як засыналі / І дзеці ў запечку, / І куры на куросаднях, / І косы, заточаныя пад страхой, / І агонь у задымленай печы, / І вілы з памялом у качарэжніку, / І яблыня, загледзеўшыся ў студню, / І аблокі над страхой буслінай, / І палявая дарога, закалыханая жытам»* [13, с. 305]. Маці ў М. Танка — гэта нястомны клопат аб усіх і ўсім. У вершы паэт дзякуючы рэчыўна-прадметнай дэталёвасці стварае самабытныя, яскравыя вобразы, паказвае каларытныя карціны вясковага ладу жыцця. Усюды тут пануе парадак, кожная рэч мае сваё месца. Малюнкі прыроды ўспрымаюцца як адухоўленыя імпрэсіі, што выклікаюць у аўтара абвостранае пачуццё любові да роднага, з маленства блізкага сэрцу. «Бусліная страха», «палявая дарога, закалыханая жытам» — нацыянальныя вобразы-метафары, якія нясуць у сабе інфармацыю пра асаблівасці ландшафту нашай краіны, яе этнаграфічна-побытавую характэрнасць, сімвалізуюць мірнае жыццё і працавітасць беларусаў.

Канкрэтныя рэаліі сялянскага жыцця ўяўляюць сабой найвялікшую каштоўнасць, складаюць аснову сучаснага светаўспрымання паэта, яго духоўных і эстэтычных прыярытэтаў. Кожная з’ява, кожная рэч, кожны прадмет, якія знаходзяцца ў эпіцэнтры аўтарскага аповеду, набліжаюцца да паэтычнага «одапісу» («Жазло» [11, с. 285], «Вада» [11, с. 303], «Настаўнік» [12, с. 81], «Не ведаю, / Як жылі б мы…» [12, с. 192—193], «Венікі» [12, с. 228]), з’яўляюцца захавальнікамі ўласнай гісторыі і гісторыі сваіх гаспадароў («Прайшоў міма…» [11, с. 104], «Гліняныя пеўнікі» [12, с. 95], «Раскладанне лыжак» [12, с. 339—340]). Сялянскія прылады працы і прыстасаванні, побытавыя рэчы заўсёды ўспрымаліся паэтам як нацыянальныя святыні, як «своеасаблівыя генетычныя коды яго

родавай сутнасці, спаконвечнага земляробчага занятку дзеда Хведара Маркавіча і бабкі Улляны, бацькі Івана Хведаравіча і маці Домны, дзядзькі Фадзея, шматлікіх аднавяскоўцаў, разглядаліся як вызначальныя ва ўсім навакольным светапарадку» [7, с. 37]. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца верлібр «Барана»: *«Гэта была ўжо даўно / Адпраўленая на пенсію / Дзедаўская барана, / З пашчапанымі / Ветрам і дажджамі аглоблямі, / З пашчарбанымі / На камянях зубамі, / І нажыўшая дыхавіцу / Ад пылу, / І глухату — ад панукання. / Куды яе? / Падарылі буслам, / Якія цяпер кожнаю вясною / Пад зорны пасеў / Барануюць неба / Над нашай хатай»* [12, с. 37]. Барана ў творы ўвасабляе сабой нялёгкае сялянскае жыццё, складаную фізічную працу на зямлі, на якой беларус змалку прывучаны быў рупіцца ад рання да вечара. Прыём адухаўлення, на якім заснавана апісанне ключавога вобраза, дапамагае найбольш выразна выявіць ідэю твора: неўміручасць і жыццядайнасць працы земляроба, яе сувязь з высокім, ідэальным, якое ўвасабляюць беларускія «аратаі» — буслы, што ў повязі і пераемнасці з людзьмі нібы барануюць неба і засяваюць зоры. Барана для аўтара адначасова і рэліквія, якая нагадвае пра дзеда Хведара і ягоную любоў да роднай зямлі. Такая ж рэліквія, як матчыны ручнік («Ручнік» [12, с. 65—66]) і настольнік («Настольнік» [12, с. 50]), бацькава піла («Трое было нас неразлучных…» [11, с. 25]), дзедаў паляўнічы рог («Колькі я ні блукаю» [12, с. 294]) і многія іншыя рэчы, што акумулююць у сабе памяць пра родных людзей паэта, якім яны належалі, і становяцца адлюстраваннем іх быццёвай сутнасці. Як слушна заўважае А. Сузько, «унутраныя патэнцыі прадметаў у М. Танка раскрываюцца праз іх узаемадачыненні з людзьмі. Зусім не вонкавае аблічча рэчаў, іх даступная пачуццёвай сферы фактура прываблівае беларускага аўтара, а духоўна-маральны свет людзей, што судакраналіся з імі» [8, с. 78].

Бацькоўская зямля для паэта святое месца, храм для душы, да якога ён неаднаразова вяртаецца ў снах і на яве. У верлібры «Ля старой хаціны», прыгадваючы родную хату, паэт разважае над асабістым жыццём: *«Стаю ля хаціны старой, / У якой было: / Больш нараканняў на жыццё, / Як самога жыцця, / Больш дыму лучыны, / Як святла, / Больш едакоў, / Як лыжак, / Больш саганоў, / Як панцаку, / Больш цвыркуноў, / Як крошак хлеба, / Больш няспраўджаных сноў, / Як сукоў на бярвенні. / І, быццам недаверлівы Фама, / Дакранаюся да ран — / Вуглоў пагнілых / Са слядамі прыкладаў і куль, / Да дзвярэй, у якія грукалі / Ўсе навальніцы, / Да слепаватых вачэй шыб, / Скупых на сонца, / А на засень шчодрых, — / І пачынаю сумнявацца: / Няўжо хаціна гэта / Была калыскай песні?..»* [10, с. 173] Старая бацькоўская хата сімвалізуе ў вершы сялянскае жыццё, у якім часта панавалі цемра, голад, людскія нараканні. Аднак — як ні парадаксальна — менавіта ў складаных умовах нярэдка нараджаліся і нараджаюцца таленавітыя людзі, якія па-сапраўднаму ўмеюць шанаваць сваю зямлю, родны дом, даражыць духоўнай спадчынай продкаў. Завяршаецца верш рытарычным пытаннем: лірычны герой, гледзячы на знябытую, выпетраную гадамі і нягодамі хаціну, нібы не можа паверыць, што яна, як і цэлая Беларусь, не толькі вытрымала ўсе навалы, але заўсёды была яшчэ і калыскай натхнення. Лексічная анафара, нарошчванне прадметных рэалій, якое грунтуецца на прынцыпе вобразнай кантраснасці («Больш дыму лучыны, / Як святла», «Больш цвыркуноў, / Як крошак хлеба»), разгорнутая метафара («Да слепаватых вачэй шыб, / Скупых на сонца, / А на засень шчодрых»), зрошчанасць канкрэтна-пачуццёвых і ўмоўна-асацыятыўных вобразаў («Дакранаюся да ран — / Вуглоў пагнілых / Са слядамі прыкладаў і куль») — усе гэтыя мастацкія прыёмы вельмі дакладна перадаюць пачуцці аўтара, яго духоўную неабыякавасць да самага святога на зямлі. Нацыянальныя найменні («лучыны», «саганоў», «панцаку») акцэнтуюць беларускае гісторыка-культурнае напаўненне агульнай гуманістычнай ідэі.

У верлібрах М. Танка нярэдка сустракаюцца элементы вуснай народнай творчасці, біблейскія матывы, міфалагічныя вобразы, якія адлюстроўваюць унутраны свет беларусаў, іх уяўленні пра жыццё, духоўныя першакаштоўнасці («Сёмая вада

па кісялю» [11, с. 225—226], «Пра філосафаў» [11, с. 257], «Снег і дождж» [11, с. 188], «Заклінанне» [10, с. 118—119], «Спас — усяму час» [12, с. 200], «Пра адпушчэнне грахоў» [12, с. 17—18]). Як адзначае У. Гніламёдаў, «яркае, шматфарбнае апісанне народных звычаяў і традыцый, нанава пераасэнсаваныя прымаўкі і прыказкі, цэлыя пласты народнай свядомасці — усё гэта шырокім струменем уліваецца ў паэзію Танка, падпарадкоўваючыся ўладзе яго таленту» [5, с. 114]. У вершах пісьменнік дае ўласнае паэтычнае тлумачэнне фразеалагізмаў, біблейскіх сюжэтаў, прыказак, прымавак, дзякуючы чаму ўсе яны набываюць сваё «другое» жыццё («Асіна» [12, с. 132—133], «Балада пра гліну» [12, с. 222—223], «Бяссмерце» [12, с. 301—302] і інш.).

Многія свабодныя вершы паэта нясуць у сабе дэталізаваную, падрабязную этнаграфічную і культуралагічную інфармацыю: распавядаюць пра рэцэптуру прыгатавання нацыянальных страў («Аўсяны кісель» [10, с. 59—60]), пра асобныя моманты сямейнай абраднасці («Выкуп нявесты» [10, с. 138], «Пасля неспадзяваных стрэч…» [10, с. 223]), пра найбольш вядомыя на Беларусі рамёствы («Як я стаў паэтам» [13, с. 387], «Пляценне кошыка» [12, с. 160—161]). У такіх творах адчуваецца «глыбокая заангажаванасць лірычнага героя ў асновы народнага быцця, усведамленне яго адвечных першакаштоўнасных дамінант» [7, с. 36].

Падкрэсленне, акцэнтацыя зямных першакаштоўнасцей, роднага дому, бацькоўскіх запаветаў, духоўнай культуры продкаў, першароднасці, некранутасці прыроды найбольш выразна выяўляецца ў верлібрах, заснаваных на супрацьпастаўленні сучаснага і мінулага. Як падкрэслівае Л. Корань, «Максіму Танку-творцу ў вышэйшай ступені ўласціва светаадчуванне беларуса ўнутрана свабоднага і адукаванага, які заўсёды звыкла пэўны, чым у свеце культуры яму ганарыцца» [6, с. 168]. У творчасці М. Танка, як піша М. Арочка, «з нарастаннем нечувальных адкрыццяў касмічнай эры непазбежна пачало ўзмацняцца прыцягненне роднай зямлі» [1, с. 186]. Апісваючы сучаснасць з яе шматлікімі навукова-тэхнічнымі адкрыццямі, паскораным часам, неабачлівымі, дзікунскімі адносінамі да прыроды, паэтам усё часцей узгадваецца ягоная зямля — тое роднае, бацькоўскае, сакральнае, што стала асновай яго светапогляду і духоўнасці. У верлібрах «На зары нашага крылатага веку…» [11, с. 132], «І як тут не наракаць» [12, с. 20—21], «Прыкметы» [12, с. 62], «З дарожных уражанняў» [12, с. 129—130], «Даўно развучыліся…» [12, с. 194] закранаюцца праблемы пастаяннага росту штучнасці, ненатуральнасці жыцця, «вымірання» ў чалавеку такіх першаістотных каштоўнасцей, як любоў да радзімы, хлеба, зямлі, беражлівыя адносіны да маці-прыроды, неабыякавасць да духоўнага багацця свайго народа.

У вершы «У часы шматсерыйных фільмаў…» паэт апісвае сучаснасць: *«У часы шматсерыйных фільмаў, / На прагляд якіх не хапае жыцця, / Не толькі чалавечага, / але і баабаб'яга, / На якіх спрынтэр, бегучы да мэты, / Часта абганяе сваю смерць; / У часы касмічнага турызму, / Калі можаш вярнуцца з падарожжа / Да незнаёмых прапраўнукаў / і стагоддзяў, — / Архаікай вее ад апісання прыроды, / Якім часта запаўняюцца / пустоты строф, / Ад захаплення хараством, / Якое стала атрыбутам рэкламы / Райстопаў, убораў, / прычосак жаночых. / Ды сёння не мог я прайсці, / не спыніцца / І не падзівіцца, / як праз пальцы сонца / Дождж прасяецца / з кукаваннем зязюлі, / Як сад трапяткімі вуснамі лісця / З рога вясёлкі п'е веснюю свежасць, / Як ты нясеш / вёдры з крынічнай вадою: / У адным — радасць стрэчы, / У другім — сум расстання»* [11, с. 80]. У кожным імгненні лірычны герой шукае гармонію з наваколлем. Нягледзячы на імклівыя тэмпы жыцця, у якім прыярытэтамі становяцца матэрыяльныя даброты, шматлікія тэхнічныя дасягненні і навуковыя адкрыцці, паэт не страчвае сувязі са сваім першародным, прывітым з маленства на роднай зямлі. Ён захапляецца прыгажосцю навакольля, і толькі чулая творчая душа можа ўбачыць столькі незвычайнага ў звычайным. Пра гэта яскрава сведчаць аўтарскія экспрэсіўныя метафары: «праз пальцы сонца», «Дождж прасяецца / з кукаваннем зязюлі», «трапяткімі вус-

намі лісця», «З рога вясёлкі п'е веснюю свежасць», — якія надаюць вобразнасць і эмацыйнасць твору. Вобраз зязюлі ў вершы мае нацыянальную семантыку. Пры тым, што зязюля — шматзначны вобраз не толькі беларускай, але ўсёй славянскай міфапаэтычнай традыцыі, беларускі сегмент гэтай традыцыі надзвычай багаты. Ва ўяўленні беларусаў зязюля — сімвал жанчыны ў жальбе, смутку, горы; гэта птушка-ўдава, якая аплаквае роднага чалавека. У фальклоры зязюля паўстае як вяшчуння, варажбітка, яна прадказвае чалавечы лёс, ёй дадзена ведаць тое, чаго не могуць ведаць людзі. Вобразам з акцэнтаванай беларускай ментальнай семантыкай з'яўляецца вобраз дзяўчыны з поўнымі вёдрамі чыстай крынічнай вады, якая ідзе насустрач хлопцу. Гэта канцэптуальнае пазначэнне ідэальнага, ідылічнага ў народным разуменні кахання. Такі вобраз часта сустракаецца ў народных песнях, у аўтарскай беларускай лірыцы.

Канцэпт «Радзіма» — адзін з дамінуючых у верлібравай спадчыне М. Танка. На Беларусі бяспамяцтва, нацыянальны нігілізм, брак патрыятызму як любові менавіта да этнічна-маркіраванага, або так званая «тутэйшасць» — гэта гістарычна-абумоўленая праблема, таму так многа ўвагі ёй надае аўтар у сваіх вершах. Іншакультурнаму чытачу гэтыя сэнсы, гэты падтэкст у верлібрах М. Танка могуць быць не адразу заўважнымі. Не заўсёды ўсвядомлена ўспрымае танкаўскія патрыятычныя інтэнцыі і айчынны чытач. Аднак сугестыўна, на ўзроўні падсвядомага, гэтая нацыянальна-культурная праблематыка транслюецца ў патрыятычнай лірыцы М. Танка, прысутнічае ў ёй адкрыта або імпліцытна: *«Заўсёды можна знайсці / Нейкія словы пры развітанні / З юнацтвам, каханнем, / З усходам і захадам сонца, / З адлятаючым выраем, / З ападаючай лістотай, / З дажджом і снегам, / З прыдарожнымі студнямі, / З начлежным гасцінным цяплом, / З сяброўскай бяседай і чаркай… / І толькі не знойдзеш іх / Пры развітанні з Радзімай»* [11, с. 254—255]. Па сутнасці, у творы мадэлюецца сітуацыя развітання — і гэта падкрэслівае тую еднасць, тую амаль містычную повязь з Радзімай, якую прыходзіцца рваць. Калі развітанне з юнацтвам ад чалавека не залежыць — гэта сітуацыя экзістэнцыйная, то праз асацыяцыю М. Танк выходзіць на сітуацыю гістарычную, у якой развітанні вызначаюцца не толькі (не столькі) лёсам чалавека, а найперш гісторыяй, што фарміруе гэты індывідуальны лёс. Спазнаўшы ў сваім жыцці розныя выпрабаванні — арышты, допыты, астрогі, паэт добра ведаў беларускія трагічныя гісторыі бесперапынных вымушаных развітанняў з Радзімай — ад палітыкі да бежанства праз войны і чарнобылі. Такое быццё, такая нацыянальная гісторыя абвастрае гэтыя матывы сувязі чалавека са сваім, ад нараджэння родным («адлятаючым выраем», «ападаючай лістотай», «прыдарожнымі студнямі» і г. д.), паглыбляе, насычае сэнсамі. «Начлежнае гасціннае цяпло», «сяброўская бяседа і чарка» — вобразы-сімвалы, што раскрываюць у свабодным вершы спрадвечнае беларуска-ментальнае, вытокі беларускага культу гасціннасці, памяркоўнасці, добразычлівасці, якімі вызначаюцца беларусы ў свеце.

Айчына ўспрымаецца як святы бацькоўскі запавет, які надае чалавеку духоўную моц і нязломнасць: *«Ёсць на маёй Радзіме / Невычэрпныя крыніцы, / З якіх п'юць / Буслы і кнігаўкі, / Алешыны і лазнякі, / Маладзікі і зоры. / Нат у самую / Вялікую засуху / Я заўсёды / Да іх вяртаюся / З поўнымі вёдрамі / Песень»* [12, с. 78—79]. Родная зямля для паэта з'яўляецца крыніцай натхнення, да якой ён неаднаразова вяртаецца ў сваіх творах. «Крыніцы», «буслы і кнігаўкі», «алешыны і лазнякі», «маладзікі», «поўныя вёдры» — нацыянальныя найменні і адначасова яскравыя фальклорна-паэтычныя вобразы, уключаныя ў традыцыйныя рытуалы, якія адлюстроўваюць непаўторнасць беларускага краю.

У свабодным вершы «Centauria» васілёк выступае як беларускі этнакультурны вобраз: *«Я не збіраюся / Даследаванне пісаць / Пра васілёк. / У батанічным пашпарце / Вы знойдзеце, / Калі і дзе ён нарадзіўся, / Каго і што ён любіць, / Дзе назаўжды прапісан, / Усе шматлікія яго імёны / І лекавыя / І чараўнічыя ўласцівасці яго. / <…> / Я, можа, / І не прыгадаў бы пра яго, / Але сягоння / З матчынага*

*ручніка, / Калі сціраў я з твару свайго / Стому, / Ён усміхнуўся мне. / І я адклаў ручнік, / Каб не скамечыць / Пялёсткі васілька. / Хай ён цвіце заўжды / На гэтым ручніку, / На сцежках палявых, / У нашых песнях / І ў вачах дзяцей»* [11, с. 186]. Васілёк — сімвал Беларусі, народнага мастацтва. Ён увасабляе любоў да Радзімы і яе народа. Гэтая кветка з'яўляецца неад'емным элементам нацыянальнага расліннага свету беларусаў. Таму яе часта можна сустрэць у беларускім арнаменце тканых рэчаў і вышыванак. Шэдэўрамі айчыннага ткацкага мастацтва, якія апявалі ў сваіх творах А. Міцкевіч («Пан Тадэвуш») і М. Багдановіч («Слуцкія ткачыхі»), з'яўляюцца слуцкія паясы, вядучым кветкавым матывам арнаменту якіх стаў васілёк. Нацыянальную семантыку мае колер расліны — блакітны (сіні). Беларусь — край блакітных азёр, бяскрайніх прастораў блакітнага льну. Адметнымі рысамі славянскай, у тым ліку беларускай, знешнасці з'яўляюцца белая скура, русыя валасы і блакітныя вочы. Як бачым, блакітны колер — адзін з дамінуючых у беларускай каларыстыцы і сімвалізуе сабой мару, недасягальнасць. У пазначаным верлібры ручнік з выяваю васілька ўспрымаецца як нацыянальная памяць, да якой аўтар ставіцца надзвычай беражліва. Паэт спадзяецца, што «цвяток Радзімы» будзе і надалей цвісці ў жыцці і мастацтве беларускага народа.

Аднымі з цэнтральных вобразаў свабодных вершаў паэта з'яўляюцца жыта, колас, зерне, якія ўвасабляюць хлебаробскую працу, зямныя людскія турботы. У верлібры «Даваенны габелен» аўтар захоўвае ў памяці родныя сэрцу вобразы, якіх ужо даўно няма, бо іх знішчыла вайна: *«Хоць ужо даўно няма гэтых дрэў, / А я ўсё стаю ў іх зелені; / Хоць ужо даўно няма гэтых птушак, / А я з захапленнем сачу за іх палётам; / Хоць ужо даўно высах гэты ручай, / А я, прыпаўшы да яго, наталяю смагу; / Хоць вайна спапяліла гэта поле, / А я ўсё чую шум яго каласоў, / Звон сярпоў, песню жней»* [12, с. 53—54]. Апошняя карціна, якая ўсплывае перад вачыма аўтара, мае выразную нацыянальную семантыку. Жніво ў творчасці айчынных пісьменнікаў, у тым ліку М. Танка, асацыіруецца з жыццядайнасцю, пладароднасцю зямлі, на якой адвеку працуе беларус. Даследчык А. Бельскі сцвярджае, што «зерне нібы тоіць у сабе, змяшчае шматвяковы код духоўна-гістарычнага быцця, бо заўсёды паміж ім і народам-сейбітам існавалі глыбінна-родныя адносіны» [2, с. 58]. Адначасова праз карціну жніва паказваецца нялёгкая жаночая доля, якая часта распавядаецца ў песнях, што спяваюць жнеі падчас працы на полі. Фактычна вобраз жняі — гэта вобраз беларускай жанчыны, якую так узнёсла апяваў Я. Купала ў вершы «Жняя». Паэтызуе беларускую жанчыну і М. Танк у верлібры «Мадонны на арэлях»: *«Было калісьці — / Разгушкаўшы дзяўчатаў на арэлях, / Глядзіш і думаеш: / Колькі ў небе мадонн / З нагамі, паколатымі іржышчам, / З грудзьмі, набраклымі жніўнымі песнямі, / З рукамі, загарэлымі ад абдымкаў з сонцам, / З косамі, расчэсанымі ветрам, / З вуснамі, прагнымі да шчасця, / З вачамі бяздоннага блакіту...»* [10, с.187—188] Па сутнасці, пазначаны верш — гэта ода беларускай дзяўчыне. У ім апяваецца працавітасць дзяўчат, іх фізічная прыгажосць, якая сапраўдная, відавочная, натуральная, яны параўноўваюцца з нябеснымі мадоннамі. Дзякуючы дэталёвасці ў апісанні паэтам малюецца вобраз беларускай дзяўчыны, якая не баіцца цяжкай працы, гарэзлівая, вясёлая і, як кожная жанчына, марыць аб шчасці і каханні. Блакітнавокая, з доўгімі валасамі, «з грудзьмі, набраклымі жніўнымі песнямі» дзяўчына — гэта традыцыйна-ментальнае славянскае ўяўленне пра жаночую прыгажосць.

Нацыянальным скарбам, духоўным артэфактам для паэта з'яўляецца беларуская мова: *«Не толькі ўзяў таму я гэту мову, / Што на ёй рэкі, пушчы гаманілі, / Шумелі ў полі каласы і травы, / Пераклікаліся па гнёздах птушкі, / Што з ёю лёгка было стаць чым хочаш / Пявучай скрыпкай, / жаўруком, / паэтам. / Я гэту мову ўзяў сабе таму, што / Зашмат у ёй было гаротных песень, / І мне хацелася прынесці болей / Ёй чалавечай радасці і сонца. / Таму цяжэй мне, як другім, калісьці / На гэтай мове стаць было паэтам»* [9, с. 238]. Гістарычны лёс беларускага народа непарыўна звязаны з лёсам яго роднай мовы. Яшчэ з часоў Полацкага

княства нашым продкам даводзілася адстойваць права на існаванне сваёй мовы, дзяржаўнасці, суверэнітэту. І гэтае змаганне за тое, каб «людзьмі звацца», доўжылася на працягу многіх стагоддзяў. «Гаротныя песні» ў вершы — тыя змрочныя старонкі нацыянальнай гісторыі, калі многія выдатныя і слынныя сыны Радзімы аддавалі жыццё за свабоду і незалежнасць свайго роднага краю, сваёй мовы, калі рабіліся спробы знішчыць, пагасіць веру беларуса ў светлую будучыню Айчыны, калі праводзілася палітыка, накіраваная на знішчэнне беларускай мовы і культуры (паланізацыя, русіфікацыя) і г. д. Таму лірычнаму герою складана было стаць паэтам, які на роднай мове апявае радасць і хараство жыцця, усведамляючы аднačасова складаны, шматпакутны лёс Бацькаўшчыны.

Такім чынам, свабодныя вершы М. Танка — творы, у якіх выразна выяўляецца нацыянальная канцэптуальнасць. Гэтая канцэптуальнасць акцэнтуецца М. Танкам праз наступныя прыёмы і спосабы мастацкага выказвання ў паэтыцы яго верлібраў:

1) біблейскі падтэкст, які рэалізуецца ў метафарах, заснаваных на беларускіх рэаліях («Мой каўчэг»);

2) рознаўзроўневыя асацыятыўныя адсылкі да агульнаславянскай і ўласнабеларускай міфалогіі («Кажаны», «У часы шматсерыйных фільмаў…»);

3) рознаўзроўневыя асацыятыўныя адсылкі да нацыянальнай гісторыі («Тут Беларусь была», «Вы абмінаеце асенні лес…», «Над акопам»);

4) яскравыя фальклорна-паэтычныя вобразы, якія могуць уключацца ў традыцыйныя рытуалы («Ёсць на маёй Радзіме…»);

5) выяўленне этнаграфічна-побытавай характэрнасці з рэчыўна-прадметнай дэталёвасцю («Помню: маці заўсёды клалася спаць…», «Барана», «Узыход сонца»);

6) шырокае выкарыстанне фальклорных рэмінісцэнцый, біблейскіх матываў, міфалагічных вобразаў, якія адлюстроўваюць унутраны свет беларусаў, іх уяўленні пра жыццё, духоўныя першакаштоўнасці («Працягласць дня і ночы», «Спас — усяму час», «Заклінанне»);

7) аўтарскае паэтычнае тлумачэнне фразеалагізмаў, біблейскіх сюжэтаў, прыказак, прымавак («Асіна», «Балада пра гліну», «Бяссмерце»);

8) тэндэнцыйная падкрэсленасць нацыянальнага, абраднага, этнакультурнага («Centauria»);

9) паэтызацыя рысаў нацыянальнага характару («Мадонны на арэлях»);

10) падкрэсленне зямных першакаштоўнасцей, роднага дому, бацькоўскіх запаветаў, духоўнай культуры продкаў і ўвогуле патрыятызму як любові менавіта да этнічна-маркіраванага («Заўсёды можна знайсці…», «Не толькі ўзяў таму я гэту мову…», «Ля старой хаціны»).

Пры тым што ў свеце жанравы канон верлібра арыентаваны найперш на абагулена-філасофскае бачанне рэчаіснасці без спецыяльных акцэнтаў на нацыянальным (этнаграфічным і ментальным), Максім Танк смела робіць менавіта верлібр аптымальнай формай для адлюстравання акцэнтаванай нацыянальна-культурнай інфармацыі. Гісторыя беларускага народа, яго менталітэт, спецыфічныя рысы характару беларусаў, культурна-побытавыя асаблівасці, духоўная спадчына — усё гэта зрабілася канцэптуальнай асновай верлібраў паэта. Пры гэтым танкаўскі верш захоўвае спецыфічную ўніверсальнасць і філасафічнасць жанру, гарантуючы беларушчыне высокае гучанне ў кананічным рэгістры. У сваёй творчасці М. Танк знаходзіць яскравыя вобразы (часцей — метафары) і звязвае іх па асацыяцыях. Вобраз-метафара, які вырастае ў вобраз-канцэпт (з акцэнтаваным нацыянальным складнікам), — выразная стылёвая рыса, той «фундамент», на якім грунтуецца паэзія, творчая індывідуальнасць М. Танка. Паколькі праз канцэпт адкрываецца вертыкальны змест культуры, у свабодных вершах пісьменніка прысутнічаюць канцэпты з акцэнтаванай беларускай культурнай, ментальнай семантыкай, якія дапамагаюць найбольш поўна раскрыць і глыбей зразумець

культуру і менталітэт беларускага народа. Прэзентацыя ў творчасці паэта рознаўзроўневых нацыянальных артэфактаў (ад рэчаў да мовы) сведчыць пра багатую матэрыяльную і духоўную культуру беларускага народа, яго вялікую гісторыю.

Нацыянальна-культурная канцэптуальнасць надзвычай выразна выяўляецца і ў працэсе перакладу арыгінальнай паэзіі на іншую нацыянальную мову. Пераклады найлепшых, выбраных верлібраў М. Танка на рускую мову прадстаўлены ў зборніку «Нарочанские сосны», дзе перакладчыкам выступіў аўтарытэтны майстра мастацкага слова Я. А. Хялемскі. Пераклады пацвярджаюць замацаванасць у паэзіі М. Танка цэлай канцэптасферы, што прэзентуе беларускую ментальнасць і беларускую культурную традыцыю праз рускую мову больш шырокаму колу замежных чытачоў.

## Спіс літаратуры:


1. Арочка, М. М. Максім Танк: Жыццё ў паэзіі / М. М. Арочка. — Мн.: Навука і тэхніка, 1984. — 272 с.
2. Бельскі, А. І. Галасы і вобразы: літ.-крыт. артыкулы / А. І. Бельскі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2008. — 288 с.
3. Бугаёў, Д. Я. Паэзія Максіма Танка / Д. Я. Бугаёў. — 2-е выд., выпр., дап. — Мн.: Бел. навука, 2003. — 311 с.
4. Гілевіч, Н. С. Паэтыка беларускай народнай лірыкі: Слова і вобраз. Паэтычны сінтаксіс. Гукапіс і рыфма / Н. С. Гілевіч. — Мн.: Вышэйшая школа, 1975. — 287 с.
5. Гніламёдаў, У. В. Каб ведалі… (Максім Танк) // Класікі і сучаснікі: Артыкулы, нарысы, старонкі ўспамінаў / У. В. Гніламёдаў. — Мн.: Маст. літ., 1987. — 288 с.
6. Корань, Л. Д. Постаць Максіма Танка // Цукровы пеўнік: Літ.-крыт. арт. / Л. Д. Корань. — Мн.: Маст. літ., 1996. — С. 167—168.
7. Мікуліч, М. У. Максім Танк. Талент, заручаны з небам / М. У. Мікуліч. — Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 336 с.
8. Сузько, А. У. Артэфакты антычнай культуры ў духоўным свеце лірычнага героя Максіма Танка / А. У. Сузько // Вобразна-эстэтычны аспект нацыянальнай мастацкай свядомасці: зборнік навук. артыкулаў выкладчыкаў каф. беларус. літаратуры. Вып. 3 / Г. М. Дашкевіч [и др.]; М-ва адукацыі РБ, УА «Мазырскі дзярж. пед. ун-т імя І. П. Шамякіна». — Мазыр: УА МДПУ імя І. П. Шамякіна, 2007. — С. 70—80.
9. Танк, М. Збор твораў. У 13 т. Т. 3. Вершы (1954—1964) / Максім Танк; НАН Беларусі, Ін-т літаратуры імя Я. Купалы; рэд. тома В. П. Рагойша; падрыхт. тэкстаў і камент. С. У. Калядка, В. У. Карачун. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — 447 с.
10. Танк, М. Збор твораў. У 13 т. Т. 4. Вершы (1964—1972) / Максім Танк; НАН Беларусі, Ін-т літаратуры імя Я. Купалы; рэд. тома В. П. Рагойша; падрыхт. тэкстаў і камент. В. У. Карачун. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — 384 с.
11. Танк, М. Збор твораў. У 13 т. Т. 5. Вершы (1972—1982) / Максім Танк; НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; рэд. тома В. П. Рагойша; падрыхт. тэкстаў і камент. В. У. Карачун, Т. У. Мархель. — Мінск: Беларус. навука, 2008. — 448 с.
12. Танк, М. Збор твораў. У 13 т. Т. 6. Вершы (1983—1995) / Максім Танк; НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; рэд. тома В. П. Жураўлёў; падрыхт. тэкстаў і камент. Т. У. Мархель. — Мінск: Беларус. навука, 2008. — 454 с.
13. Танк, М. Мне пару крыл дало юнацтва...: выбр. лірыка / М. Танк. — Мн.: Маст. літ., 2003. — 479 с.

14. Тычко, Г. К. Польский и русский авангардизм в творческой судьбе Максима Танка / Г. К. Тычко // Неман. — 2012. — № 9. — С. 171—175.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 19 мая 2014 года.

**Ключавыя словы:** верлібр, канцэпт, нацыянальна-культурная канцэптуальнасць, нацыянальна-ментальныя канатацыі, вобраз (вобраз-метафара, вобраз-канцэпт, вобраз-сімвал), нацыянальная семантыка, нацыянальны артэфакт.

**Keywords:** vers libres, concept, national and cultural conceptuality, national and mental connotations, character (character-metaphor, character-concept, character-symbol), national semantics, national artefact.

**Таццяна ДУБОЎСКАЯ**

**Акцэнтаваная нацыянальна-культурная канцэптуальнасць у свабодных вершах Максіма Танка**

**Рэзюмэ**

У артыкуле даследуецца нацыянальна-культурная канцэптуальнасць у свабодных вершах Максіма Танка, якая акцэнтуецца аўтарам праз канкрэтныя прыёмы і спосабы мастацкага выказвання ў паэтыцы яго верлібраў. Вылучэнне і вывучэнне менавіта гэтага канцэптуальнага аспекта ў вобразнай сістэме свабодных вершаў М. Танка з'яўляецца новым падыходам да інтэрпрэтацыі лірыкі паэта.

**Tatiana DUBOUSKAYA**

**Emphasized national-cultural conceptual view in vers libres by Maxim Tank**

**Summary**

The national-cultural conceptual view in vers libres by Maxim Tank is researched in the article. It's emphasized by the author with the help of specific ways and means of art expression of his poetry. Emphasizing and researching of this aspect in the system of vers libres by M. Tank provides a new way of the poet's works'interpretation.



**Ірына ЛАПЦЁНАК**

# СПЕЦЫФІКА АРХІВА-БІБЛІЯТЭКІ УЛАДЗІМІРА КОНАНА

Уладзімір Конан (1934—2011) — «патрыярх беларускай філасофіі», літаратуразнаўца, крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, доктар філасофскіх навук, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Як даследчык і культуролаг ён добра вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе.

Творчую асобу і дасягненні У. Конана цяжка пераацаніць. Яго фундаментальныя і прыкладныя навуковыя даследаванні знаходзяцца ў разнастайных галінах ведаў, сярод якіх філасофія, этыка, эстэтыка, фалькларыстыка, літаратуразнаўства, крытыка, мастацтвазнаўства, рэлігіязнаўства, міфалогія і інш.

Сярод грунтоўных навуковых прац У. Конана — «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі» (1968), «Очерк истории эстетической мысли Белоруссии» (в соавторстве с Э. Дорошевичем, 1972), «Адам Бабарэка: крытычна-біяграфічны нарыс» (1976), «Очерк истории философской и социологической мысли Беларуси», «От Ренессанса к классицизму: становление эстетической мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв.» (1978), «Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии» (1985), «Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору» (1989), «Боская і людская мудрасць. Францішак Скарына: жыццё, творчасць, светапогляд» (1990), «Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка М. Багдановіча» (1991), «Skorina. Apostolos» (на нямецкай мове, 2002), «Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі» (2003), «Беларуская мастацкая культура эпохі Сярэдневякоўя і Рэнесансу» (2006), «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі» (1 т., 2010) і інш.

Недастаткова асэнсавана на сённяшні дзень роля У. Конана ў літаратуразнаўстве, літаратурнай крытыцы, даследаванні гісторыі беларускай літаратуры. Яму належаць шматлікія артыкулы па вывучэнні беларускай думкі, мастацкай культуры Беларусі, творчасці вядомых асоб гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Сярод іх: Ф. Скарына, К. Тураўскі, І. Фёдараў, М. Сарбеўскі, Я. Руцкі, К. Каліноўскі, У. Пічэта, А. Бабарэка, І. Замоцін, Л. Гмырак, Я. Пушча, М. Доўнар-Запольскі, А. Мрый, Л. Калюга, А. Гарун, А. Міцкевіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, У. Караткевіч, Н. Гілевіч, Я. Чыквін, К. Малевіч і інш.

У сваіх літаратурна-крытычных творах У. Конан выступаў найперш як удумлівы даследчык. Ён імкнуўся знайсці свой шлях да чытача, выяўляў свае думкі вобразна, яскрава і эмацыйна (што сведчыць і аб пісьменніцкім таленце У. Конана), з дакладнымі і даходлівымі тлумачэннямі, якім папярэднічала грунтоўнае асэнсаванне. Пры гэтым аўтар не аддаляўся ад рэальнага жыцця, а, наадварот, адштурхоўваўся ад яго, шукаючы адказы на складаныя пытанні. Кропкай адліку, з якой ён распачынаў аналіз, звычайна былі не факты жыццяпісу, а «пошукі душы» пісьменніка. Так і вядомая кніга У. Конана «Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча» (1991) пачынаецца з разважанняў аўтара, якія выяўляюць адметны погляд на творчую асобу класіка, які сфарміраваўся на аснове глыбокага асэнсавання яго духоўна-творчага шляху: «Выдатныя паэты, мастакі, першаадкрывальнікі новых духоўных каштоўнасцей спрадвеку пакута

валі больш за іншых людзей. Не кожны ўзыходзіў на сваю Галгофу, хоць і гэтага хапала. Маю на ўвазе не толькі драму іх жыцця, але і прыхаваную ад староннiх вачэй трагедыю штодзённшчыны. Яна нараджаецца ад празмернай напружанасці душы, без чаго немагчымыя прарывы да новых, раней не вядомых, даляглядаў творчасці» [3, с. 5].

У. Конан даследаваў нацыянальна-самабытныя каштоўнасці праз спадчыну вядомых беларускіх асветнікаў, разглядаў іх не толькі ў нацыянальным, але і ў сусветным кантэксце. Так у кнізе «Боская і людская мудрасць» напачатку 1990-х гг. ён акцэнтаваў увагу на тым, што дзейнасць Ф. Скарыны нельга разглядаць толькі як «друкарскае рамяство» і «лакальную для Беларусі з'яву», раскрыў яе агульнаславянскае і сусветнае значэнне, паказаў шматграннасць і таленавітасць выдатнага творцы эпохі Адраджэння — як «першаадкрывальніка, які апярэдзіў свой час», пісьменніка, паэта, лінгвіста, біблеіста, перакладчыка, прадпрымальніка-выдаўца. Менавіта У. Конану належаць словы: «Кнігі беларускага асветніка — першае ў гісторыі ўсходнеславянскай культуры навукова-папулярнае выданне Бібліі. На жаль, пакуль што і апошняе. Бо і сёння мы не маем ні фундаментальнага навуковага, ні папулярнага, народнага выдання гэтага літаратурнага твора, а больш дакладна — цэлай бібліятэкі, паяднанай не толькі агульным пераплётам, але і ў сакральным сэнсе» [2, с. 45]. На першае месца даследчык ставіў значэнне Ф. Скарыны як асветніка, які імкнуўся ўдасканаліць духоўную культуру народа: «З бясконцай вышыні Сусвету свецяць у шэрані ночы звышдальнія зоры. Сузіраючы іх, мы далучаемся да вечнасці. Святло прыроднае, дайшоўшы з глыбінь Космасу да нашай унікальнай Зямлі, парадзіла жыццё, сімвалізуе духоўны пачатак, красу і праўду. А святло духоўнае прыдае жыццю сэнс і мэту. Ад яго паходзяць словы асветнік, асветніцтва, свята, святыцель, святар… Беларускі асветнік-гуманіст Францішак Скарына быў сярод тых славутых дзеячаў славянскай культуры, якія адкрылі крыніцу духоўнасці ў Бібліі, бо ў ёй падсумавана шматвяковая мудрасць стражытнай цывілізацыі» [2, с. 45].

У. Конан у сваіх працах узнімаў і актуальныя пытанні ў галіне літаратуразнаўства. Яшчэ ў 1970-я гг. ён адзначаў, што ў Беларусі вельмі мала кніг, у якіх аналізуецца творчасць крытыкаў і літаратуразнаўцаў, мала даследаванняў па гісторыі і метадалогіі крытыкі, выяўляў прычыны такога становішча. Свой унёсак у вырашэнне праблем ён рабіў шляхам падрыхтоўкі ўласных даследаванняў, да якіх адносіцца і крытыка-біяграфічны нарыс «Адам Бабарэка» (1976).

У. Конан вызначыў важнасць ролі 1920-х гг. у гісторыі беларускай літаратуры, выявіў адметнасць літаратурнага руху 1920—1930-х гг., паставіў пытанне аб неабходнасці дэталёвага вывучэння творчасці ўсіх тых, хто ствараў культуру гэтага часу. У першай для беларускага літаратуразнаўства манаграфіі пра арыгінальнага беларускага крытыка А. Бабарэку У. Конан паказаў яго як «першага сярод тых, хто ў складаных умовах канца 20-х—пачатку 30-х гадоў мужна выступіў у абарону паэта і паэзіі ад нападкаў вульгарна-сацыялагічнай крытыкі» [1, с. 9].

Найбольшыя дасягненні У. Конана як даследчыка звязаны з вывучэннем тэарэтыка-метадалагічных праблем філасофіі і культуралогіі, гісторыі эстэтычнай думкі і беларускай культуры. У сваёй працы «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.)» У. Конан упершыню грунтоўна апісаў і прааналізаваў на нацыянальнай глебе тэарэтычныя кірункі ў эстэтыцы, плыні ў мастацтве, даследаваў эстэтычныя погляды беларускіх пісьменнікаў, крытыкаў, філосафаў, дзеячаў беларускай культуры, зрабіў пераацэнку дзейнасці літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў.

У працы «Эстэтычная думка Савецкай Беларусі: асноўныя этапы станаўлення і развіцця» (1978) ён раскрыў працэс фарміравання навуковай метадалогіі ў беларускай літаратурна-мастацкай крытыцы, прааналізаваў асноўныя праблемы і кірункі ў эстэтыцы.

У 2010 г. выйшаў першы том «Гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі», які падсумаваў зробленае творцам за гады прафесійнай дзейнасці.

На сённяшні дзень творчасць У. Конана як навукоўца, пісьменніка, біблеіста патрабуе грунтоўнага вывучэння, у чым, безумоўна, надзвычайную карысць будзе мець даследаванне матэрыялаў яго архіва-бібліятэкі, які не толькі адлюстроўвае напрамкі дзейнасці У. Конана як пісьменніка і навукоўца, але і паказвае разнастайнасць яго сувязей.

Гісторыя з'яўлення ў Інстытуце культуры Беларусі архіва-бібліятэкі У. Конана цесна звязана з праблемай перадачы матэрыялаў, прадметаў музейнага значэння, з асабістых архіваў-бібліятэк пісьменнікаў, дзеячаў культуры, навукоўцаў, у тым ліку і па прычыне неабходнасці захавання цэласнасці іх архіваў. Не заўсёды пасля таго, як вядомыя дзеячы беларускай культуры сыходзяць з жыцця, іх матэрыялы трапляюць у тыя месцы, якія паводле сваіх функцый выконваюць задачы вывучэння, захавання і прэзентацыі літаратурнай спадчыны — гэта архівы, музеі і бібліятэкі.

Так і архіў У. Конана быў уратаваны ў існуючым выглядзе дзякуючы намаганням неабыякавай грамадскасці. Кватэра У. Конана была непрыватызаваная. За два гады, што прайшлі пасля яго смерці, ні дзяржаўныя ўстановы, ні прыватныя асобы ў ЖЭС не звярталіся. Прыйшоў час рамонту кватэры і перадачы яе новым уладальнікам. У Інстытут культуры Беларусі звярнуліся выкладчыкі мясцовай школы ў Серабранцы, якія даведаліся аб сітуацыі праз супрацоўнікаў ЖЭСа. Такім чынам, архіў трапіў у Інстытут культуры Беларусі, але далейшы яго лёс вырашаецца.

У. Конан быў надзвычай светлым і духоўным чалавекам, для якога матэрыяльны дабрабыт, умовы жыцця і працы былі на самым апошнім месцы. У. Дубоўка ў свой час неаднойчы ўшчуваў У. Конана за тое, што той не рабіў ніякіх крокаў па паляпшэнні сваёй матэрыяльнай базы, аддаваў сваю чаргу на кватэру іншым.

Але 40 гадоў таму атрыманне кватэры для У. Конана сапраўды было радаснай падзеяй, з якой яго віншавалі ўсе сябры і калегі. Так, у лісце ад 01.03.1972 г. А. Варанавічус пісаў: «Я рад за Тебя, что Ты наконец получил квартиру, а то толстые фолианты книг и Твоих собственных рукописей уже стесняли самих квартирантов. То, что Ты поднимаешься теперь на 9-й этаж — это, видимо, не просто так, а глубокий смысл, содержащий символическую идею распределителей квартир: с такой высоты птичьего полёта эстетическая мысль полетит дальше, глубже, выше… Этого я и желаю Тебе!»

Архіў пісьменніка — не толькі каштоўныя кнігі і нявыдадзеныя матэрыялы. Гэта — частка жыццяпісу пісьменніка, якая раскрывае невядомыя ці малавядомыя факты яго біяграфіі, адметнасць творчай натуры, выяўляе кола чытання, разнастайнасць творчых сувязей і інш.

Захаваная частка архіва-бібліятэкі У. Конана вылучаецца сваёй выключнасцю: яна змяшчае архіў збіральніка калекцый, даследчыка беларускай навукі і культуры, пісьменніка, які меў шырокія кантакты і адметную геаграфію творчых пошукаў. Ён мае значную каштоўнасць з боку аўтаразнаўства, крыніцазнаўства і гістарыяграфіі.

Сярод матэрыялаў архіва найбольш каштоўную частку складаюць ***рукапісы***. Сюды ўвайшлі рукапісы артыкулаў У. Конана; аўтабіяграфічныя нататкі; асабістыя дзённікі; ліставанні з вядомымі пісьменнікамі і дзеячамі культуры; рабочыя матэрыялы, якія сталі асновай для напісання навуковых прац. У. Конан з'яўляўся нястомным даследчыкам, шмат працаваў у архівах Беларусі і замежжа, у тым ліку, у аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў. Вядома, што толькі ў Вільні ў камандзіроўках ён правёў каля пяці гадоў.

У архіве прадстаўлена вялікая частка рабочых матэрыялаў па падрыхтоўцы навуковых даследаванняў, літаратурна-крытычных нарысаў, артыкулаў, манаграфій.

Да іх адносіцца блок матэрыялаў пад назвай «*А. Бабарэка*»: унікальная перапіска з родзічамі па зборы матэрыялаў, па крупіцах сабраныя ўспаміны пра Адама Бабарэку (не толькі як вядомага грамадскага дзеяча і крытыка, але найперш чалавека), выпіскі з лістоў да сям'і, копіі фотаздымкаў і інш.

У. Конан вёў перапіску з Алесяй Бабарэкай (дачкой Адама Бабарэкі) і Ганнай Бабарэкай (жонкай Адама Бабарэкі). З гэтай перапіскі захаваліся не толькі лісты, але і фотаздымкі.

У архіве перапіскі захаваўся і самы першы ліст Ганны Бабарэкі да У. Конана — ад 5 снежня 1964 г., дзе яна выступіла з прапановай выкарыстаць рукапісныя матэрыялы А. Бабарэкі ў навуковым даследаванні. Пазней ад яе дачкі паступіла інфармацыя, што з рукапісаў зроблены фотакопіі і іх можна выкарыстоўваць, а таксама прапанова прыехаць і адабраць для выдання лісты А. Бабарэкі з сямейнага архіва.

У 1965 г. Ганна і Алеся Бабарэка прадставілі ў Інстытут філасофіі АН БССР свой водзыў на аўтарэферат дысертацыі У. Конана «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі ў 1917—1934 гг.» на прысваенне ступені кандыдата філасофскіх навук.

Шмат ліставанняў захоўваецца ў архіве ад *У. Дубоўкі*. Класік беларускай літаратуры быў заўсёды ў курсе спраў свайго сябра і калегі, неаднойчы даваў парады, ацэньваў яго творчыя працы. Менавіта У. Дубоўка прапанаваў яму падаць заяву ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, параіў, да каго звяртацца, дадаваў упэўненасці: «Мне здаецца, Вашы працы па літаратурных пытаннях даюць Вам для гэтага немалую падставу».

У. Дубоўка вельмі цаніў У. Конана як навукоўца, заахвочваў, як бачна з лістоў, да распрацоўкі новых тэм.

У. Дубоўка як старэйшы сябра даваў парады У. Конану, як перанесці зробленае ім у «практычнае русла». Так, менавіта У. Дубоўка ў 1965 г. паведаміў У. Конану пра наяўнасць неапублікаваных матэрыялаў у сямейным архіве Бабарэкаў. У лісце ад 23.02.1965 г. ён паставіў пытанне аб неабходнасці апублікавання выбраных твораў А. Бабарэкі.

З перапіскі можна многае даведацца і пра творчыя планы самога У. Дубоўкі, гісторыю стварэння некаторых яго твораў. Ліставанне сведчыць, што яшчэ ўлетку 1965 г. У. Дубоўка пачаў збіраць матэрыялы да «Жоўтага лісця». Шмат цікавых звестак аб фарміраванні творчай задумы гэтага твора мы знаходзім у перапісцы. Так, у лісце ад 03.07.1965 г. У. Дубоўка звярнуўся па дапамогу да У. Конана, каб той атрымаў пэўныя звесткі ў сваёй маці пра лекавыя травы і дзікія расліны, якімі людзі ратавалі сваё жыццё ў цяжкія часы войн.

У. Дубоўка даваў сябру і чыста прафесійныя парады: заўсёды абгрунтавана, дакладна і тактычна. Пра гэта сведчаць заўвагі У. Дубоўкі да артыкула У. Конана ў газеце «Слава Працы»: пра членства ў аб'яднаннях «Маладняк» і «Узвышша» (ліст У. Дубоўкі ад 07.11.1964(?)).

У сваёй большасці лісты У. Дубоўкі, адрасаваныя У. Конану — цёплыя, уважлівыя, зычлівыя, па-сяброўску ці нават па-бацькоўску разважлівыя і мудрыя. Бачна, што маральная дапамога, духоўная блізкасць, а не толькі працоўныя справы, аб'ядноўвалі пісьменнікаў. У 1972 г., калі памерла маці У. Конана, У. Дубоўка адгукнуўся з уважлівымі словамі падтрымкі: «Дарагі Уладзімір Міхайлавіч. Выказваем Вам глыбокае спачуванне з прычыны смерці самага найдаражэйшага чалавека на свеце — роднай Маці. Жадаем Вам бадзёрасці, шчаслівага сямейнага жыцця, якое дапаможа пераважыць Вам смутак і дапаможа Вам зноў распачаць адказную працу ў навуцы, такой патрэбнай для нас усіх. З вялікаю пашанаю М. (Марыя Пятроўна) і Ул. Дубоўка».

На мой погляд, адной з самых адметных частак архіва-бібліятэкі У. Конана з'яўляюцца яго ***рабочыя выпісы*** з прац і рукапісаў, якія знаходзяцца ў архівах, аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэк, у тым ліку замежных устаноў. Яны

адлюстроўваюць творчыя пошукі У. Конана-даследчыка, яго няўрымслівасць, упартасць у пошуках «ісціны», імкненне не проста падрыхтаваць глебу для даследавання, але знайсці тое, што дапаможа расставіць правільныя прыярытэты і даць грунтоўны адказ на пытанне, важнае для беларускай навукі і культуры.

Так, адметную частку складаюць копіі дакументаў з літоўскага архіва Lietuvos ypatingasis archyvas з рукапіснымі паметкамі У. Конана. Падборка пачынаецца матэрыяламі па справах Коўш Зоі Аляксандраўны (Корш Сафіі Аляксандраўны), Пецюкевіча Мар'яна Іосіфавіча і Багдановіча Івана Антонавіча. Сярод «злачынстваў» апошніх у абвінавачвальным заключэнні называюцца ўдзел у Беларускім навуковым таварыстве, Беларускім нацыянальным камітэце, рэдагаванне часопіса «Шлях моладзі», напісанне даклада пра драматурга Ф. Аляхновіча, артыкула «За чысціню роднай мовы». За гэтыя «злачынствы» і «ўдзел у Беларускім нацыянальным камітэце» яны былі накіраваны для адбыцця тэрміну пакарання ў асобы лагер МУС Саюза ССР.

У паказаннях сведкаў, на аснове якіх ім былі пра'яўлены абвінавачванні, у пратаколах пазначаны: Пётр Сергіевіч, Станіслаў Грынкевіч, Адам Станкевіч, Іван Шутовіч і інш. У. Конан уважліва прагледзеў матэрыялы Літоўскага архіва па справе і прыйшоў да сваіх высноў, якія пазначаны ў тэкстах копій дакументаў.

Сярод гэтых матэрыялаў — «Выпіска з пратакола допыту арыштаванага Грынкевіча Станіслава Сямёнавіча» ад 21.08.1944, названае У. Конанам паводле цэнтральнай паметкі як «сачыненне маёра Сухарава» (у ім няма ніводнага подпісу С. Грынкевіча). Абвінавачванне С. Корш, М. Пецюкевічу і І. Багдановічу ў 1952 г. былі прад'яўлены паводле паказанняў менавіта С. Грынкевіча, які быў расстраляны яшчэ 25.06.1945 г.

Падобна выглядае і пратакол допыту Адама Вікенцьевіча Станкевіча, у якім таксама няма подпісаў дапытваемага. Апроч іншых матэрыялаў гэтай справы — копія рукапісу «Праблема каталіцкага касцёла ў БССР» (Вільня, 25.10.1944).

Сярод тых, чые прозвішчы пазначаны як прозвішчы сведкаў — мастак Пётра Сергіевіч. У. Конан звяртае ўвагу, што ў пратаколе допыту П. Сергіевіча ад 18.09.1952 г. подпісы дапытваемага ёсць, і яго адказы сведчаць пра тое, што ён не абвінавачваў сваіх сяброў і не паклёпнічаў на іх.

На пытанне, у якія партыі і арганізацыі быў залічаны, П. Сергіевіч адказаў, што з 1926 па 1928 гг., як і ўсе студэнты мастацкага факультэта Віленскага ўніверсітэта, састаяў у арганізацыі Беларускі студэнцкі саюз і ўдзельнічаў у мерапрыемствах як мастак па афармленні дэкарацый пры правядзенні вечароў мастацкай самадзейнасці, з 1937 г. быў членам арганізацыі Беларускае навуковае таварыства, мэтай якога з'яўлялася развіццё і прапаганда беларускай нацыянальнай культуры шляхам чытання лекцый, выпуску літаратуры, збірання гістарычных экспанатаў і мастацкіх твораў.

На пытанне, што яму вядома аб нацыяналістычнай дзейнасці І. Багдановіча, П. Сергіевіч адказаў, што той працаваў наборшчыкам у беларускай друкарні імя Ф. Скарыны і з 1929 па 1938 г. быў членам часопіса «Шлях моладзі», у час нямецкай акупацыі займаўся продажам кніг. На пытанне, ці быў Багдановіч у Беларускім нацыянальным камітэце, адказаў, што «не ведае», і ці ездзіў той на Другі ўсебеларускі кангрэс у Мінск, паведаміў, што аб гэтым яму невядома.

Гэтак жа дакладна П. Сергіевіч расказаў і аб стасунках з М. Пецюкевічам, сваім сябрам. Ён паведаміў, што ў 1941 г. да пачатку Вялікай Айчыннай вайны яны разам працавалі ў Вільнюскім беларускім музеі. П. Сергіевіч падкрэсліваў антыпалітычнасць дзейнасці сваіх сяброў: «Петюкевич Марьян мне известен как убежденный националист, о проводимой им националистической и антисоветской деятельности мне ничего неизвестно», «О его деятельности в Белорусском национальном комитете мне ничего неизвестно и состоял ли он в нем я не знаю». Гэтыя матэрыялы сведчаць аб тым, як фабрыкаваліся справы ў тыя гады.

Матэрыялы, знойдзеныя ў архівах, сталі асновай для напісання некалькіх манаграфій, літаратурна-крытычных прац і навуковых артыкулаў У. Конана («Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі» (2003) і інш.).

***Машынапісы*** прадстаўлены рознымі варыянтамі артыкулаў і навуковых даследаванняў, справаздачных і планавых матэрыялаў, падрыхтаваныя У. Конанам у тым ліку і ў перыяд працы на пасадзе загадчыка аддзела гісторыі і тэорыі культуры Навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

Сярод адметных машынапісных матэрыялаў вылучаецца яго «Аўтабіяграфія» (з аўтографам У. Конана), якая адкрывае нам малавядомыя факты яго біяграфіі, пашырае і карэкціруе храналогію, летапіс яго жыцця і творчасці.

Матэрыялы архіва прадстаўлены варыянтамі машынапісаў кніг і артыкулаў У. Конана па філасофіі, этыцы і эстэтыцы.

У 1972 г. У. Конан і Э. Дарашэвіч былі ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за стварэнне калектыўнай манаграфіі «Очерк истории эстетической мысли в Беларуси», якая сталася першым вопытам падрыхтоўкі выдання па гісторыі беларускай эстэтыкі. Важныя аспекты яе стварэння раскрываюць дакументы і матэрыялы перапіскі з выдавецтвам «Искусство» Камітэта па друку пры Савеце Міністраў ССР. У ліку гэтых матэрыялаў — рэцэнзія на працу А. І. Рогава, супрацоўніка Інстытута славяназнаўства АН СССР, кандыдата гістарычных навук, якая раскрывае гісторыю нараджэння першай навуковай працы па эстэтыцы ва ўмовах існавання савецкай цэнзуры і развіцця літаратурнай крытыкі. Рэцэнзія была станоўчай і засведчыла тое, што праца У. Конана і Э. Дарашэвіча стала адкрыццём для савецкай навукі: «Рэцэнзуемая праца з’яўляецца першым вопытам стварэння гісторыі беларускай эстэтыкі. Перад аўтарамі яго стаялі задачы велізарнай цяжкасці не толькі таму, што яны былі літаральна першаадкрывальнікамі па многіх пытаннях праблемы, закранутай імі, але і перш за ўсё па прычыне выключна слабай распрацаванасці гісторыі беларускай культуры наогул» (пераклад наш. — **І. Л.**). У той жа час, некаторыя вытрымкі з рэцэнзіі — неадназначныя з пазіцый сучаснасці: «Жадаючы атрымаць з небыцця «рускія старажытнасці Заходняга краю», урад не толькі не перашкаджаў, але ў мэтах антыпольскай прапаганды аб’ектыўна, максімальна садзейнічаў вывучэнню беларускіх старажытнасцей, іх пошуку і публікацыі. Паняцце Беларусі, дарэчы, не было непажаданым. Успомнім, напрыклад, паўафіцыйныя выданні П. Бацюшкава і А. Семянтоўскага, дзе прама гаворыцца менавіта аб Беларусі, успомнім «Словарь белорусского наречия» Насовіча» (пераклад наш. — **І. Л.**). Матэрыялы перапіскі з выдавецтвам утрымліваюць звесткі пра тое, як адбываўся працэс падрыхтоўкі выдання.

Аб тым, што У. Конан быў шматграннай асобай і меў разнастайныя сувязі і кантакты ў розных напрамках развіцця навукі і культуры, сведчаць яго ***кнігі з аўтографамі***.

Матэрыялы архіва адкрываюць нам цікавыя факты пра некаторыя падзеі літаратурнага жыцця.

Паводле ўспамінаў Ніла Гілевіча пра аўтарства паэмы Францішка Ведзьмака Лысагорскага «Сказ пра Лысую гару», якая хадзіла па краіне напачатку 70-х гг. мінулага стагоддзя, ведалі толькі яго жонка і Васіль Быкаў. Але быў, аказваецца, і яшчэ адзін пісьменнік, які ведаў адгадку. Менавіта ён напісаў прадмову да першага выдання гэтага твора, якое выйшла пад сапраўдным імем аўтара ў 2003 г. Дароўны надпіс Н. Гілевіча на кнізе з архіва-бібліятэкі У. Конана раскрывае нам малавядомы факт: «Дарагому Уладзіміру Міхайлавічу Конану — першаму з навукоўцаў, хто адразу ж «вычытаў» сапраўднага аўтара «Сказа». З пачуццём вялікай удзячнасці і захаплення Вашай мудрай прадмовай. І са шкадаваннем, што не паслухаў Вашай парады раней, яшчэ тады…»

У бібліятэцы-архіве У. Конана захавалася багатая перапіска з Н. Гілевічам, шматлікія кнігі з аўтографамі і рукапіснымі надпісамі, у тым ліку вершаванымі.

Як блізкаму сябру і аднадумцу паэтам быў падораны 23-х томнік твораў, які суправаджаўся вершаваным пасланнем:

Дарагі і любы дружа-браце,
Як шкада, што ў нашай роднай хаце
Лёс не звёў нас для бясед-гаворак
Лецечкаў таму ну — хоць бы сорак…

Сярод ***дакументаў***, якія захоўваюцца ў архіве — членскі білет Саюза беларускіх пісьменнікаў, каля 10 грамат, дыплом Рэспубліканскага конкурсу прац маладых вучоных па грамадскіх навуках, падпісаны К. Крапівой і інш.

Самая вялікая частка архіва — ***кніжны фонд***: філасофія, беларуская мастацкая літаратура, сусветная літаратура, гісторыя літаратуры, літаратурная крытыка, літаратуразнаўства. Сярод іх ёсць і рэдкія выданні мінулых стагоддзяў. У прыватнасці, «Права кананічнае. Падручнік для духавенства» (на польскай мове, Кракаў, 1923), «Падручны лаціна-рускі слоўнік», складзены па выданні Шылеравага слоўніка, па слоўніках Фрэунда, Гедэрыка, Керхера і Люнемана (на рускай мове, Санкт-Пецярбург, 1847), «Рамантызм дваццатых гадоў XIX стагоддзя ў рускай літаратуры» І. Замоціна (на рускай мове, Санкт-Пецярбург, 1913) і інш.

Усяго ў архіве-бібліятэцы больш за паўтысячы кніг (некалькі дзясяткаў выданняў — на замежных мовах), 16 аўтарэфератаў, калекцыя слоўнікаў.

Асобныя папкі, якія ўвайшлі ў архіў-бібліятэку У. Конана — «А. Станкевіч, «М. К. Сарбеўскі», «Грынкевіч», «Л. Гмырак», «Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны», «Інбелкульт», «Міфалогія», «Матэрыялы па гісторыі эстэтыкі Беларусі. Ад народнай эстэтыкі да Сімяона Полацкага і барока», «Наша ніва», «Фальклор: народная культура» і інш.

У блакнотах У. Конана — выпісы і дзённікавыя запісы, якія яшчэ чакаюць свайго вывучэння…

З ***асабістых рэчаў*** удалося ўратаваць пішучую машынку У. Конана і калекцыю пласцінак з серыі «Сокровищницы мировой музыкальной культуры».

Матэрыялы архіва, навуковыя працы У. Конана, яго справы і творчыя планы не страчваюць сваёй актуальнасці з гадамі, як і яго прарочыя словы, якія ў поўнай ступені можна аднесці да творчай асобы «патрыярха беларускай філасофіі»: «Наша сучаснасць непарыўна звязана з далёкім і блізкім мінулым. І ад таго, наколькі глыбока даследуецца гісторыя культуры, залежыць яе сучасны ўзровень, яе росквіт у будучым. Няхай жа і гэты невялічкі нарыс будзе не апошнім у даследаванні спадчыны тых дзеячаў культуры, што па нейкіх аб’ектыўных прычынах ці проста з-за нашага нядбальства яшчэ не стала аб’ектыўным фактарам сучаснай беларускай культуры» [1, с.12].

## Спіс літаратуры:

1. У. Конан. Адам Бабарэка. / У. Конан. — Мінск: Маст. літ., 1976.

2. У. Конан. Боская і людская мудрасць (Францішак Скарына: жыццё, творчасць, светапогляд). / У. Конан. Мінск: Маст. літ., 1990.

3. У. Конан. Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча. / У. Конан. Мінск: Маст. літ., 1991.

4. У. Конан. Выбранае: у дзвюх кнігах. / укл. М. А. Козенка; прадм. Н. С. Гілевіч, М. А. Козенка. / У. Конан. Мінск: СМЭЛТАК. — 2009.

5. Погляд у вечнасць: зб. артыкулаў да 75-годдзя У. Конана / укл. М. Козенка. — Мінск: Бел. Фонд культуры. — 2009.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 20 чэрвеня 2014 г.

**Ключавыя словы:** тэматыка і праблематыка творчасці, крыніцазнаўства, светапогляд, талент, эстэтычны ідэал, гістарыяграфія, атрыбуцыя, летапіс жыцця і творчасці, аўтограф, рукапіс, машынапіс, архіў-бібліятэка.

**Keywords:** topics and issues of creativity, chronology, worldview, talent, esthetic ideal, historiography, attribution, chronicle of the life and work, autograph, copy, typescript, archive materials library.

**Ірына ЛАПЦЁНАК**
**Спецыфіка архіва-бібліятэкі Уладзіміра Конана**

**Рэзюмэ**

У артыкуле разглядаюцца пытанні выяўлення творчай індывідуальнасці беларускага пісьменніка і даследчыка У. М. Конана на прыкладзе вывучэння, матэрыялаў асабістага архіва-бібліятэкі — рукапісаў, машынапісаў, дакументаў, прадметнага фонду.

**Iryna LAPCIONAK**
**Particularity of a personal archive materials library of Uladzimir Konan**

**Summary**

The article deals with the creative individuality of a Belarusian writer and researcher U. M. Konan's identification illustrated by the study of his personal archive materials: manuscripts, typewritten documents, objectis.



# ЛІСТЫ УЛАДЗІМІРА ДУБОЎКІ ДА УЛАДЗІМІРА КОНАНА

**7.XI.1964(?)**

Дарагі Уладзімір Міхайлавіч!

З вялікім задавальненнем чытаў Ваш артыкул у газеце «Слава Працы». Удзячны Вам за Вашу ініцыятыву ў гэтай справе — справе аднаўлення памяці А. Бабарэкі. Мой артыкул газета змясціла цалкам, а... «Полымя» — абкарналі зусім прыстойна.

Усё ж маю зрабіць Вам дзве заўвагі, фактычна даведкі даць, каб у далейшым хто не ўпікнуў Вас за неабгрунтаванасць.

Ні я, ні К. Крапіва не былі арганізатарамі «Маладняка». Абодвух нас і ў Мінску ў той час не было, калі ён арганізоўваўся. У першым я афіцыйна прыехаў у Мінск у 1924 годзе. У далейшым — я быў членам «Маладняка», членам Цэнтральнага бюро і нават (не памятаю дакладна) ці не з паўгода адказным рэдактарам часопіса «Маладняк». У кожным разе, пад маёй рэдакцыяй выйшла 2 ці тры нумары. У той жа час я быў адказным сакратаром ЦБ «Маладняка», а Язэп Пушча быў пры мне Літсакратаром. Наогул — гэта ўсё дробязі, але, паўтараю, праз іх да Вас можа хто прычапіцца і падарве аўтарытэт Вашай навуковай працы.

«Узвышша» арганізавалі: А. Бабарэка, Я. Пушча, К. Крапіва, К. Чорны, З. Бядуля і я. Пасля, праўда, неўзабаве, у склад «Узвышша» былі прыняты П. Глебка і М. Лужанін. Яшчэ пазней — былі прыняты іншыя члены. Вось і гэта, для навуковай дакладнасці, майце на ўвазе. Даруйце за такія заўвагі, але лепш, калі іх зробіць сябра, чымсьці які непрыяцель.

З пашанай, У. Дубоўка.

* * *

**9 лютага 1965 г. Масква**

Паважаны Уладзімір Міхайлавіч!

Дзякую Вам за прысланы Вамі аўтарэферат Вашае дысертацыі. Перад гэтым я азнаёміўся з большаю часткаю яе (надрукаваныя раней раздзелы). Раздзел пра Адама Бабарэку я чытаў не толькі ў «Полымі», але і ў рукапісе (без рэдакцыйных скарачэнняў).

Скажу шчыра: аб'ём даследаваных Вамі матэрыялаў (друкаваныя і архіўныя) мяне проста здзівіў. У Вас сапраўды атрымалася не кандыдацкая, а доктарская дысертацыя, бо, на маю думку, адзін толькі раздзел пра Адама Бабарэку варты кандыдацкае дысертацыі.

Можна толькі радавацца і зайздросціць Вашай працавітасці і, я сказаў бы, упартасці, з якой Вы ішлі бадай «нявораным полем».

Мне, як аднаму з удзельнікаў літаратурнага жыцця трыццатых гадоў, асабліва прыемна адзначыць, што Вы правільна аднаўляеце забытыя або знявечаныя факты і падзеі таго перыяду. У першую чаргу гэта датычыць ролі «Узвышша» ў развіцці беларускае савецкае літаратуры і выдатнага яго сябра — Адама Бабарэ-

кі. Спадзяюся, што новыя матэрыялы і рукапісы дазволяць Вам у далейшым яшчэ вярнуцца да гэтае тэмы.

Ад душы жадаю Вам не толькі паспяхова абараніць сваю дысертацыю і атрымаць жаданую навуковую годнасць, але і далейшых поспехаў у Вашай творча-навуковай працы.

З сардэчным прывітаннем
і пашанаю да Вас,
Уладзімір Дубоўка

* * *

**23.02.1965, г. Масква**

Вельмі паважаны Уладзімір Міхайлавіч!

Ад душы вітаю Вас і віншую з вялікай падзеяй у Вашым жыцці — з атрыманнем навуковай годнасці. Жадаю шчыра і сардэчна, каб неўзабаве Вы падрыхтавалі чарговую навуковую працу, вартую другой ступені — доктара.

Быў бы вельмі рад, каб вам удалося апублікаваць (кнігай асобнай) гэту Вашу працу. Ці ж варта было б Вам параіцца наконт гэтага з галоўным рэдактарам Іванам Д… Казекам. Ён чалавек выдатны і добра зразумее і ацэніць каштоўнасць распрацаванай Вамі тэмы. Калі з якіх-небудзь прычын цяжка будзе заводзіць пытанне наконт працы — задайце пытанне наконт манаграфіі пра Адама Бабарэку.

Мне здаецца, Вам так і так (незалежна ад Вашай новай тэмы) давядзецца працаваць яшчэ над Бабарэкавымі матэрыяламі. Справа ў тым, што сям'я Адама Бабарэкі мае неапублікаваныя матэрыялы — іх трэба некаму чытаць. Апроч таго павінна паўстаць пытанне і пра апублікаванне выбраных твораў Адама Бабарэкі.

Між іншым, у «ЛіМе» паведамлялася, што пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі арганізавана гістарычна-мемарыяльная камісія, на чале якой — тав. Сцяпан Александровіч. Гэта (калі Вы з ім асабіста незнаёмы) вельмі сумленны, шчыры таварыш, які можа таксама дапамагчы Вам ці добрай парадай ці і беспасрэдна. Я раіў бы Вам сустрэцца з ім і пагаварыць з ім наконт Адама Бабарэкі.

Паўтараю — усё гэта ніяк не павінна адрываць Вас ад Вашай новай тэмы.

Сардэчна вітаю Вас, жадаю Вам найвялікшых поспехаў у Вашай працы.

З пашанаю, Ул. Дубоўка

Магчыма, ў сакавіку месяцы мне давядзецца быць у Мінску, тады пагаворым пра ўсё гэта больш грунтоўна.

* * *

**3 ліпеня 1965 г., Масква**

Дарагі Уладзімір Міхайлавіч!

Сардэчна ўдзячны Вам за добрыя пажаданні. Праўда, Вы згодзіцеся з гэтым, больш прыемна было б мець не 65 год, а дзе-небудзь 25. Але нічога не паробіш: няўмольна час адлічвае свае хвіліны і налічыў мне калі не сто, дык 80 мільёнаў напэўна. Якія жарты! Вось і прыходзіцца думаць, каб рэшту, якая наканавана мне, скарыстаць як мага разумна. Штодня езджу ў Ленінскую бібліятэку, праглядаю часопісы, матэрыялы па біялогіі, батаніцы: рыхтую матэрыял для твору (для юнацтва паводле задумы), асноўная тэма якога — змаганне за інтрадукцыю дрэў і раслін новых на Беларусі, за вывядзенне новых гатункаў. Пакуль што знаходжу надзвычайна многа цікавага і карыснага, а як яно ўложыцца на паперы — не ведаю.

Рад быў бы даведацца, як ідуць справы ў Вас. Як адносіны да Вас начальства? Звяртайце ў першую чаргу сваю ўвагу на ўдасканаленне ўласнае, на набыццё і паглыбленне сваіх навуковых ведаў.

Ці вышла ў Вас як-небудзь з артыкулам для «Вопросов литературы». Мне яна (рэдактар) прыслала карэктуру аўтабіяграфіі. Так што, калі не перашкодзіць, сёлета будзе надрукавана ў 3-м томе.

Ад душы жадаю Вам найвялікшых поспехаў і самага лепшага здароўя.

Я так і не паехаў у падарожжа, адмовіўся, але прыдзецца абавязкова паехаць у жніўні ці ў самым пачатку верасня ў раён м. Лельчыц на Палессі. Магчыма, давядзецца тады і яшчэ дзе пабываць.

Між іншым: калі Вы будзеце на сваёй радзіме, запытайцеся ў сваёй маці — якія ёй вядомы спажыцныя для людзей травы дзікія, г.зн. — якімі травамі і дзікімі раслінамі людзі ратавалі сваё жыццё ў цяжкія часы войн. Мне, напрыклад, вядомы такія: 1) лебяда, 2) асот малады, 3) шнітка лясная, 4) бабоўнік (расце на балотах), 5) крапіва, 6) сасоновая мяздра (скурка белая пад самай карой).

Не дзівіцеся на такое пытанне: яно мне дужа патрэбна ў звязку з маёй тэмай. Можа, яшчэ якое карэнне, ці літ які. Але ні ў якім разе не забівайце сабе гэтым галаву. Выключна тады даведайцеся, калі будзеце дома. Калі ў вёску не паедзеце — не трэба. Я сам, як паеду, распытаю ў таго-сяго.

Яшчэ раз жадаю ўсяго найлепшага.

З вялікай пашанай да Вас, Ул. Дубоўка.

Марыля Пятроўна шле Вам сардэчнае прывітанне і найлепшае пажаданне.

Уладзімір Дубоўка.

* * *

**14.08.1965**

Дарагі Уладзімір Міхайлавіч!

Сардэчна віншуем Вас з такой вялікай падзеяй у Вашым жыцці — са шлюбам. Ад душы жадаем Вам з жонкаю шчасця, здароўя, лагоднага жыцця, найвялікшых поспехаў ува ўсіх Вашых справах.

Я з сённяшняга дня да 8 верасня буду ў Доме творчасці. Калі ж падумаеце пісаць мне — можаце пісаць і на маскоўскі адрас. Вы дарэмна хваляваліся наконт маёй просьбы пра расліны. Я маю вельмі багата матэрыялаў, але мне было цікава даведацца, як фактычна карысталіся людзі нашы прыродным багаццем. Праз няведанне гэтых багаццяў яны труцілі свае шлункі ручнымі неспажацнымі сурагатамі (напрыклад, грацковай мякінай), а спажацныя, каштоўныя, абыходзілі стараной. Але калі ўжо так здарыцца, Вы абяцалі пракансультавацца ў жончынай бабулі — дык няхай. Між іншым — па якой спецыяльнасці працуе Ваша жонка? Можа, якраз па біялогіі?

А ці падышоў бы той артыкул, які Вы далі ў «ЛіМ», у «Выбраныя творы». Падумайце, перакладзіце ці дашліце. А Ал. Нік. напішыце заказаць, ёй прышліце дадаткова. Можа так здарыцца, што там хутчэй надрукуеце, чым у «ЛіМе».

Яшчэ раз сардэчна вітаем Вас і я, і мая Марыля Пятроўна.

Усяго Вам найлепшага!

Мая жонка таксама з Клімавіччыны — з Касцюковіцкага раёну.

З пашанай, Ул. Дубоўка.

**26.07.1968 г. Масква**

Дарагі Уладзімір Міхайлавіч!

Кніга Вашая — сапраўды цікавая, патрэбная і каштоўная. А тое, што яна цяпер не задавальняе Вас у некаторых асобных пунктах — гэта зразумела і зусім натуральна. Так бывае, збольшага, ува ўсіх навуковых дзеячаў і ў пісьменнікаў. Жыццё ідзе наперад, час адкрывае новыя матэрыялы, нават погляды саміх аўтараў на некаторыя асобныя з’явы змяняюцца. Дык, паўтараю, нічога дзіўнага няма, калі ў Вас дзе-што падбіраецца новае для такой адказнай тэмы.

Наконт Вашай задумы — справа іншая. Мне думаецца, што распрацоўка такой тэмы, якую Вы намячаеце, возьме ад Вас дужа многа часу. Калі я правільна ўяўляю сабе змест Вашай будучай працы, Вам трэба ўзяць не толькі народную творчасць, але і старадаўнюю нашу народную творчасць — літаратуру, усе «Александрыі», палемічную нават літаратуру XV—XVII стст. Мабыць, не мінуць Вам і творчасці так званых «беларуска-польскіх» пісьменнікаў (Ян Баршчэўскі, Ян Аношка і г. д., з іх часопісамі «Рубон» і да таго падобнымі). Магчыма, што Вам варта было б прадумаць папярэдне план такой вялізнай працы, а пасля распрацоўваць яе часткамі? А можа, я памыляюся і не так сабе ўяўляю, як Вы? Але гэта ўсё — між іншым. Я дарадчык тут кепскі.

Цяпер пра Вашую задуму аб жыцці і творчасці А. Бабарэкі. Усё залежыць, шчыра кажучы, ад распарадку Вашага часу і Вашай матэрыяльнай залежнасці. Калі гэтая праца не супярэчыць Вашым заняткам у Інстытуце, можна было б матэрыял сабраць, кнігу напісаць, не думаючы пра запланаваныя ці незапланаваныя аркушы і прынесці гатовы рукапіс у выдавецтва: «Вось — праца. Друкуйце!» Наколькі мне вядома, у выдавецтвах бываюць рэзервовыя друкаваныя аркушы. Тым больш, што сама ідэя аб друкаванні твораў Бабарэкі і працы пра яго атрымала падтрымку, як Вам пэўна вядома, у новай кнізе А. С. Яскевіча («Карані маладога дрэва», артыкул «У пошуках стылю»). Нешта, пры наяўнасці рукапісу, сказаў бы можа і Саюз пісьменнікаў. Але гэта — калі ў Вас будзе магчымасць матэрыяльная рыхтаваць такую кнігу. Паспрабуйце зайсціся ў выдавецтва «Беларусь» і пагаварыце там асабіста з Александрам Цімафеевічам Бажко (загадчык сектару мастацкай літаратуры). Летась я прасіў яго ўключыць у план 69 году кнігу выбр. твораў Бабарэкі. Магчыма, што яны нешта зрабілі.

Што датычыцца Вашай думкі наконт выкарыстання мяне для навуковага рэдагавання, дык гэта немэтазгодна. Я з вялікай прыемнасцю магу ў прыватным парадку пачытаць Ваш рукапіс, даць некаторыя заўвагі фактычнага кірунку, можа, стылёвыя, але рэдактарам быць не магу.

Вашае пытанне пра архіў «Узвышша» зацікавіла мяне, але нічога канкрэтнага сказаць Вам не магу. Як Вам вядома, я ў часе ліквідавання гэтай арганізацыі быў недзе далёка. Куды яны дзелі той архіў — мне невядома. У першую чаргу павінны пра гэта ведаць К. Крапіва і П. Глебка. Можа і М. Лужанін пра гэта што ведае. Хто-небудзь з іх павінен сказаць Вам праўду. Калі яны здалі куды архіў — запытанне «куды?». Калі ў дзяржаўных сховішчах сапраўды гэтага архіву няма, тады можа быць меркаванне, ці не папаў ён за межы Беларусі. Як мне казаў нябожчык Сіманоўскі, багата кніг і архіваў вывезлі з Беларусі на Захад. Частку іх вярнулі, ён сам туды ездзіў, частку не знайшлі. Але гэта ўсё меркаванні кірунку «на вадзе віламі пісана».

Ад душы жадаю Вам усяго самага налепшага ў жыцці і працы.

З пашанаю, Ул. Дубоўка.



Уладзімір САЛАМАХА

# КАЛІ ТВОРЫ РАДУЮЦЬ, АБО НЕКАТОРЫЯ РАЗВАГІ ВАКОЛ АДНОЙ КНІГІ

За сваю рэдактарскую бытнасць меў гонар чытаць у арыгіналах апавяданні, аповесці і нават раманы многіх нашых пісьменніц розных пакаленняў. І што можа быць прыемней для рэдактара, калі ён бярэ ў рукі твор, што да яго яшчэ ніхто не чытаў (не тэкст, як у нас любяць ёрнічаць некаторыя «прасунутыя», а менавіта твор), і праз некалькі радкоў адчуць шчырае слова пісьменніцы, якая хоча расказаць свету пра нешта сваё, толькі ёй убачанае і адкрытае, па-свойму зразумелае і асэнсаванае?.. Тым больш — калі твор гэты захопіць лёсамі невядомых яму людзей (персанажаў), калі ўсхвалюе жыццёвымі перыпетыямі, ды нязмушана запросіць задумацца над тым, што збіраецца сказаць аўтар, маўляў, хочаш — згаджайся з маім пунктам гледжання, а не — давай па-добраму паспрачаемся…

Прачытаеш, здараецца, іншы раз нават не змяніўшы ні адно аўтарскае слова, прапануеш апавяданне, аповесць або раман у друк, і калі выйдзе часопіс, возьмеш яго ў рукі, адгорнеш старонку і зноў спазнаеш тое першаснае пачуццё радасці — як хораша, з любоўю да сваіх персанажаў напісана: паўнавартасны мастацкі твор…

А праз нейкі час засмуцішся: чамусьці абмінае гэтую пісьменніцу, яе творы так званая бягучая крытыка, не заўважае, нібыта і няма яе. І разам з тым разумееш чаму: гэтая або тая пісьменніца што б і як ні пісала, калі не ў нейкім там, усюды існым «міжсабойчыку», дык быццам па-за літаратурай.

А потым падумаеш: няхай абмінаюць, у пісьменніцы ёсць свой чытач. А калі пакуль няма, дык будзе: у літаратуры застаецца сапраўднае...

Дык вось, бягучая крытыка чамусьці не вельмі звяртае ўвагу, напрыклад, на такіх даволі цікавых пісьменніц, як Валянціна Кадзетава, Наталля Касцючэнка, Лідзія Адамовіч, Ніна Рыбік, Юлія Зарэцкая, Таццяна Пяшко, Зінаіда Дудзюк, Людміла Кебіч, Таццяна Мушынская…

А чытачы звяртаюць увагу на іх творчасць. Цікавяцца ў рэдакцыі, ці будзе друкавацца што іхняе новае?..

Я назваў толькі некалькі жанчын-пісьменніц рознага ўзросту, рознага творчага і жыццёвага вопыту. І мастацкі ўзровень іхніх твораў, скажу так, не раўназначны. Але ўсе яны даволі прыкметныя ў нашай літаратуры. Асобныя пісьменніцы, якія пішуць па-свойму, якімі цікавяцца чытачы, часам проста раздражняюць як творцы і асобы некаторых самадзейных крытыкаў, бо пішуць не на іх «узроўні» разумення літаратуры: тэлефануюць, маўляў, як пасмелі надрукаваць N!..

Ну што ж, аглабельная крытыка была заўсёды, раней, можа, не такая ярасная, як цяпер. (Аб прычынах не будзем.) Але іншы раз і праз гэта трэба прайсці таленавітым пісьменніцам: прыклады папярэднікаў сведчаць, чым лепш вы будзеце пісаць, тым больш на вас будуць «апалчацца» асобныя прыватзнаўцы літаратуры. Так што ўспрымайце гэта як своеасаблівую рэкламу і ў пустую палеміку не ўвязвайцеся...

Вось і гэтую адметную творцу, Таццяну Мушынскую, бягучая крытыка нібыта не заўважае. Праўда, і аглабельная — таксама. Яе, Т. Мушынскай, новая кніга

прозы «Джульета і экстрасэнс» выйшла яшчэ ў мінулым годзе, і — ціха... Дык гэтага трэба было чакаць: пісьменніца самастойная, ні да якіх «міжсабойчыкаў» не належыць, а матэрыял, які яна бярэ для сваіх твораў, або зусім невядомы ў нашай літаратуры, або малавядомы: творчая інтэлігенцыя ў сучасным жыцці.

Таццяна Мушынская — празаік, паэтэса, тэатразнаўца і тэатральны крытык, журналіст — увогуле ў нашай прозе стаіць нібы воддаль ад усяго таго, што там адлюстроўваецца. І што тут кепскага?.. Пісьменніца распрацоўвае сваю творчую «дзялянку», працуе ўпарта, не спяшаецца друкавацца і іншы раз, ведаючы гэта, нават прыходзіцца прасіць, каб прынесла свой новы твор.

Зрэшты, яна не адна такая з пералічаных пісьменніц. І калі пытаеш, чаму не спяшаецца друкавацца, чуеш адказ: «Трэба яшчэ працаваць…»

І як тут не нагадаць некаторым ужо вельмі самаўпэўненым у сваёй велічы як пісьменнікаў аўтарам, што ўпарта асаджаюць рэдакцыі літаратурных часопісаў і дзяржаўныя выдавецтвы, патрабуючы друкаваць іх, як кажуць, «малавысока мастацкія тварэнні», каб дасягнуць у літаратуры хоць чаго вартага, трэба вельмі і вельмі адказна ставіцца да сваёй працы.

Канечне, нагадаць можна. Можна сказаць, як працавалі і працуюць над сваімі творамі класікі, проста добрыя літаратары рознага ўзросту, удасканальваючы свае апавяданні, аповесці, раманы. Але... Такія людзі непахісна ўпэўнены ў сваёй геніяльнасці як пісьменнікі... У сувязі з гэтым прывяду выказванне аднаго мастака слова — цудоўнага рускага празаіка Уладзіміра Лічуціна: «…Если кто-то из писателей скажет: «Я талант, как много я сделал!», то он уже кончен. Сущность художника, писателя — это бесконечное недовольство… В постоянном недовольстве писатель приближается к монаху, к бесконечному духовному труду…»

Цудоўная гэта якасць сапраўдных творцаў — сумнявацца ў сабе! Цудоўная гэта якасць — шмат разоў перапісваць, удасканальваць твор, іншы раз нават дапрацоўваць ужо надрукаванае. Цудоўная гэта якасць — упарта, удумліва працаваць над словам, стылем, над распрацоўкай характараў і вобразаў сваіх герояў (графаманы нават не разумеюць, што ўсё гэта павінна быць у творчасці). І вось тут, пакідаючы, як кажуць, па-за рамкамі гаворкі першае, другое і трэцяе (хто не працаваў як след, той і не будзе), спынімся на героях пісьменніцы, якая якраз так і працуе.

Настаўнікі, урачы, прадпрымальнікі, самыя звычайныя простыя людзі розных так званых сціплых прафесій (ва ўсіх выпадках жанчына і мужчына) — да якіх у сваіх творах звяртаюцца літаральна ўсе названыя пісьменніцы і — асобна — прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ў творах Таццяны Мушынскай: паўтаруся, яна вельмі добра ведае гэтую сферу жыцця.

Вось і ў кнізе «Джульета і экстрасэнс» пісьменніца героямі сваіх аповесцей найперш выбірае іх, інтэлігентаў: артысты, рэжысёры, мастакі і… так званая калябагемная ўсюдыісная публіка. Галоўная тэма аповесцей «Доўгае развітанне», «Апошняе каханне Дон-Жуана» і аднайменнага твора, які даў назву кнізе — каханне. (У кнігу таксама ўключана дакументальная аповесць «Сад маіх успамінаў», апавяданні, абразкі і мініяцюры.)

Увогуле пра каханне пішуць амаль усе пісьменніцы. І зразумела: вечная тэма жыцця, аснова ўсяго існага. І тут я адзначыў бы, што ў некаторых творах, напрыклад, Наталлі Касцючэнкі, Ніны Рыбік, Валянціны Кадзетавай, Лідзіі Адамовіч, Юліі Зарэцкай, Таццяны Мушынскай у каханні, у пачуццевых узаемаадносінах мужчыны і жанчыны з’яўляецца такі ягоны аспект, як сумленнасць. І гэта важна, асабліва сёння, калі шмат якія жаночыя кнігі, найперш не нашых пісьменніц, кнігі, што запаланяюць паліцы кніжных магазінаў, якраз і абыходзяць гэты аспект. Важна, бо нярэдка святое ў пачуццях апашляецца, каб задаволіць не дужа разборлівыя густы некаторай часткі, скажам так, літспажыўцоў, важна, бо нярэдка акцэнтуецца ўвага не на пачуццях між жанчынай і мужчынам, а зусім на іншыя рэчы. Каханне ж, калі яно сапраўднае, як паказвае ў сваіх творах, напрыклад,

Таццяна Мушынская, — вельмі далікатнае пачуццё, вельмі і вельмі асабісты стан душы, а выносіць на ўсеагульнае «смакаванне» інтым, дык як падглядваць за некім… І ўвогуле, трэба адзначыць, наш менталітэт такі, што, у адрозненне ад менталітэту некаторых іншых грамадстваў, у беларусаў не было прынята (ды і цяпер так) выстаўляць напаказ натуралізм у адносінах паміж мужчынам і жанчынай: гэта асабістая справа дваіх.

Гераіні названых трох аповесцей Т. Мушынскай якраз і імкнуцца да кахання сапраўднага, адвечнага. Таго, у якім чысты пачатак, калі ўсё павінна быць шчыра, калі персанажы не ведаюць чаму і за што кахаюць (а ведаеш — значыць, не яно!) І тут для некаторых з іх важна захаваць гэтыя пачуцці не толькі ў самой сабе, а, не менш важна, не абразіць пачуцці таго, каго не кахаеш, але хто кахае, бо інакш — трагедыя для яе і яго душы…

А гэта, як паказвае пісьменніца ва ўсіх сваіх творах пра каханне, вельмі і вельмі няпроста: патрабуе сапраўднай, нязмушанай працы душы. І разумення, што тут можа спатрэбіцца вопыт лепшых твораў пра любоў уласна літаратуры, тэатра, кіно — сваіх нацыянальных і іншых. Але вечная тэма, вечныя памкненні самых розных мастакоў — паказаць каханне не толькі такім трагічным, як скажам, у Рамэа і Джульеты, а іншым, шчаслівым.

Для пісьменніцы Т. Мушынскай «любоўны» вопыт яе гераінь, у самым высокім сэнсе, калі ён і пачэрпнуты з іншых твораў — штуршок для ўласнага роздуму аўтара пра каханне. Але так было з героямі іншых пісьменнікаў, у маіх жа быццам і так, і ўсё ж па-свойму... І, апавядаючы пра сваіх гераінь, Т. Мушынская, калі ўжо так, адказвае на пытанне, чаму іншы раз іхнія пачуцці так хутка разбіваюцца, як толькі пажыве з каханым год-два. Нават тады дае ўсяму сваю ацэнку, калі сітуацыя загадзя вядомая, маўляў, «любоўная лодка разбілася аб быт…», як, напрыклад, у спявачкі Надзі з аповесці «Доўгага развітання»... Дык вось, калі «быт» знішчыў каханне, дык ці было яно?..

Гераіні «любоўных» аповесцей Т. Мушынскай, як ужо ведаем, — спявачка, спявак, кампазітар, тэатральны рэжысёр, мастакі: інтэлектуалы і інтэлектуалкі, толькі на першы погляд людзі незвычайныя. Іх прынята лічыць ледзь не асобнай кастай. Маўляў, жывуць у нейкім сваім, іншым, таямнічым свеце. Дык, можа, і ў іх пачуццях усё па-іншаму, чым у простых смяротных?..

Ды ні колькі, — сцвярджае паісьменніца. Ва ўсялякім выпадку, калі размова ідзе пра жанчын, дык яны ж, гэтыя жанчыны-інтэлектуалкі, такія, як і ўсе астатнія: прыродны пачатак ва ўсіх жанчын адзін і той жа. Які? Кахаць, быць каханай, зведаць пачуцці мацярынства, як найвышэйшую праяву кахання. І назаўжды, калі, вядома, ты на такое здольна, захаваць свае пачуцці. Канечне, калі яны сапраўдныя. А калі не сапраўдныя? Вось тут і з’яўляецца трагедыя душы: змірыцца з тым, што ёсць, або не?.. Змірыцца, значыць усё жыццё пакутаваць, хаваючы гэта ў сабе. А калі прызнацца, што ўсё ранейшае было ўяўным, дык як не абразіць таго, з кім расстаешся?..

Проста гэта? Як для каго…

Пра творцаў і іх пачуцці ў нашай літаратуры, паўтаруся, пішуць не шмат. А калі і пішуць, дык найперш тыя аўтары, якія, як кажуць, знутры не ведаюць таго або іншага творчага асяроддзя, уяўляючы яго па-свойму, або запазычваючы з іншых крыніц, часам нават абапіраючыся на чуткі, што акружаюць свет інтэлектуалаў. Але «звезды, звездочки, богема» — там так… Скандалы, здрады, як само сабой зразумелае, як прыклады найперш для юных: так трэба кахаць і жыць. Хаця, ці кахаць, ці жыць?..

І зноў жа Таццяна Мушынская, якая не з чужых крыніц ведае жыццё таго асяродку, пра які піша, паказваючы, як жывуць і працуюць сапраўдныя творцы, сцвярджае: жывуць як і ўсе людзі і працуюць таксама аддана як прадстаўнікі іншых прафесій, вядома, тыя, у каго прызванне да сваёй справы.

Але ў сапраўдным творчым асяродку — усё як у жыцці. Хаця, можа, часам там вастрэй сутыкаецца ўяўнае і рэальнае, бо там шмат умоўнасцей. І як паказвае пісьменніца, у гэтым і крыецца драматургія яе твораў, скажам так, драматызм душы персанажаў.

Ва ўсіх трох першых аповесцях кнігі (чацвёртая дакументальная, пра яе пасля) як у паўнавартасных творах літаратуры перад намі — жывыя людзі. Гама іх пачуццяў надзвычай разнастайная. Галоўныя персанажы, найчасцей паспяховыя ў творчасці, хаця частка з іх і не вельмі, са сваімі духоўнымі набыткамі, часам такімі, што здольны ўзбагаціць вялізную колькасць іншых людзей і ў сябе ў краіне, і за мяжой. Але ва ўласным жыцці гэтыя персанажы пісьменніцы абдзелены галоўным — каханнем. І часам іх уласнае «я», па меркаванні тысяч і тысяч іншых людзей, прыхільнікаў іх творчасці такое паспяховае, застаецца незадаволеным тым, што робіш. А ўжо ў каханні, тым больш...

Аповесць у маналогах і дыялогах «Доўгае развітанне» — галоўная гераіня якой спявачка Надзя, па сутнасці — шчымлівая гісторыя двойчы няспраўджанага кахання. Няспраўджанага, гэта калі сыходзіць з яе асабістага, Надзінага пункту гледжання.

Надзя прызнаная выканаўца (класічны вакал) і ў нас, і за мяжой. Нядаўна яна выступала ў Заходняй Еўропе, дзе яе вельмі цёпла прымалі, і цяпер, дома, і ёй здаецца, што там асаблівы глядач, што там — сапраўдная казка жыцця.

А што дома? Усё, як раней. І ў творчасці, дзе, здаецца, яна мала каму цікавая, і ў сям'і, дзе за месяц, пакуль адсутнічала, яе забыў трохгадовы сын, якога пакінула на маці (з мужам, таксама артыстам, разышлася, прычыны ў творы). І — адчуванне адзіноты і як творцы, і як жанчыны. Хаця, як своеасаблівае выратаванне ад нуды, хай і на імгненне — светлыя добрыя ўспаміны пра гастролі…

Але якімі б ні былі ўспаміны, і ТАМ і ТУТ ёсць рэальнае жыццё, якое самага заўзятага летуценніка ці летуценніцу апускае на зямлю, на якой усе мы жывём: і творцы, і прасцякі. Канечне ж, жывём дома і сярод людзей.

Дома ў яе, зноў нагадаю, маленькі сынок, які ўжо лічыць маму чужой цёцяй, ды маці, без якой Надзі, гэтай сталай жанчыне, было б наогул невыносна цяжка.

І тут узнікае лагічнае пытанне: калі быў муж, значыць было... Тым больш, што замуж выходзіла ўжо сталай.

І калі Надзя як спявачка пасля апошніх гастроляў за мяжой адчувае сябе ўсё яшчэ «ўзнесенай над светам і далучанай да вечнасці», дык як жанчына, у якой ёсць і асабістае жыццё — не…

Але зноў жа далучанасць да вечнасці... І зноў жа тое, што далучае жанчыну да яе — дзіця, дзеці, працяг асабістага жыцця і жыцця каханага.

Здаецца, гераіня пісьменніцы падсвядома разумее гэта, а ўсё адно ёй вельмі хочацца, каб і вакол яе, Надзінай, творчасці быў такі «антураж», які ствараў бы такую, як за мяжой, далучанасць да вечнасці. (А можа, нібыта далучанасць?)

Шмат чаго хочацца Надзі. І як артыстцы, і як жанчыне. Але перш за ўсё кахання, такога пачуцця, якое, калі ўспыхне, не знішчыць ні якой ці то звычайнай, ці то незвычайнай творчай працай.

Вось тут у Надзі і з'яўляецца разуменне рэальнасці жыцця: сынок хутка зноў успомніць маму, і яму, і ёй разам будзе добра, як і раней. І зноў будзе самаадданая праца дзеля гледача і дзеля сябе, і на сцэне, і ў музычным вучылішчы, дзе Надзя выкладае, фактычна, падзарабляе. А таксама зноў будзе пакутлівы пошук новых твораў, якія б леглі і самой на душу і былі б цёпла сустрэты публікай… Але каб жа яшчэ да ўсяго — каханне…

З гэтага і завязваецца інтрыга, з асэнсавання гераіняй стану сваёй душы, як душы маці, творцы, жанчыны.

Складана ўсё… Т. Мушынская ўсе гэтыя складанасці ўмее вельмі тонка спалучаць, часам аддаляючы адну ад адной. Ёй трэба зрабіць акцэнты на кожнай паасобку, вызначыць характэрнае для першай, другой, трэцяй, а потым сказаць:

гармонія душы з’яўляецца ў тое імгненне, калі ўсё сальецца ў адно. І тады мы бачам, з якім багатым унутраным светам гэтая жанчына. Так, хоць і творца, але такая, як і ўсе…

Гэты празаічны твор «у маналогах і дыялогах», прыдатны для сцэны і экранізацыі, несумненна, адзін з лепшых твораў пра каханне ў нашай літаратуры апошняга часу.

У заключэнне заўважу, што ў Надзі неўзабаве многае становіцца на сваё месца: сын зноў адчувае маці, уладкоўваецца хатні быт, усё ладзіцца на працы, на душу нібы сыходзіць супакаенне, але раптам успыхвае каханне… Надзя пакахала Маэстра, кампазітара, які з ёй працуе над новай праграмай. Ці ўзаемныя яе пачуцці? Ці стане Маэстра для Надзі, якой «хацелася займець асабістае жыццё», бо «яна ўсё-такі жывы чалавек, жанчына, а не толькі спявачка», тым чалавекам, які ёй трэба, пакажа час. А ёй жа даўно абрыдзелі «пошукі сапраўднага рыцара», ёй жа патрэбен бацька яе Алесіку. Вось толькі цяперашнія ўзаемаадносіны паміж ёй і Маэстра няпэўныя… Не апячыся б каторы раз…

Уменне Т. Мушынскай цікава будаваць сюжэт, трымаць чытача ў чаканні: а што будзе далей пераходзіць з раней напісанага твора ў аповесць «Апошняе каханне Дон-Жуана», створаную параўнальна нядаўна.

Гэты твор пазначаны аўтарам, як «Сентыментальная гісторыя ў сямі раздзелах», што адразу настройвае нібыта на тэатральнае ўспрыманне: ці то п’еса, пераўвасобленая ў аповесць, ці то аповесць з адпаведнай накіраванасцю…

Іншы чытач можа ўсклікнуць: «Эклектыка?!»

Не, не яна. Увогуле, эклектыкі зараз у літаратуры хапае. Разважаюць пры гэтым пра «сінтэз» жанру і выдаюць за «новшества», маўляў, я вынайшаў новы жанр, не разумеючы, што ніхто нічога новага тут не адкрыў, усё даўно вядома. Словам, не ведаеш адметнасці таго ці іншага жанру, выдавай за навізну, прыкрывайся, што быццам эксперыментуеш, ці, як калісь гаварыў у адным са сваіх інтэрв’ю Уладзімір Дамашэвіч: «выпендрывайся». І заўважаў: «Выпендрыванне пачынаецца тады, калі няма чаго сказаць».

Таццяна Мушынская якраз гэтым не займаецца. Яе аповесць можна ставіць на сцэне, экранізаваць, а не толькі чытаць. А «сентыментальная гісторыя», дык у тэатры гэта не рэдкасць. Творы з такімі падзагалоўкамі быццам настройваюць гледача на адпаведны лад успрымання дзеі, што адбываецца на сцэне. Але на справе нярэдка аказваецца, што тут далёка не да сэнтыментальнасці: трагедыя душы (не смяротная), горыч, пакуты...

Словам, гледачам цікава наглядаць за нібыта сентыментальнымі гісторыямі з чужых, уяўных жыццяў.

Аповесць «Апошняе каханне Дон-Жуана», калі б яна была інсцэніравана ці экранізавана, было б таксама цікава глядзець, як і чытаць.

Галоўныя персанажы аповесці, вядома ж, ён і яна. Хаця хто тут на першым месцы як «галоўны», дык яшчэ трэба разабрацца: мастак Мікола, са знаёмства з якім пачынаецца твор, або звычайная прыгожая дзяўчына Юля, наогул далёкая ад якой бы там ні было творчасці. І вось гэтая простая дзяўчына раптам становіцца сапраўдым апошнім каханнем мастака Міколы, гэткага сучаснага Дон-Жуана.

Шмат было і каханак у гэтага таленавітага мужчыны. Шмат жанчын аддавала яму сваё сэрца, хоць не ўсе шчыра. Для некаторых расстанне з ім станавілася трагедыяй, для некаторых — справай звычайнай. І яны, Міколавы каханкі ці проста жанчыны, на нейкі час, даўно ўжо сталі для яго, скажам так, неад’емнай часткай жыцця і творчасці. Сярод іх былі і такія, якія сапраўды натхнялі. Хаця цяжка вызначыць, калі і чаму да творцы прыходзіць натхненне, гэта боская іскарка, якая запальвае ў ім адпаведнае ўспрыняцце свету, іншы раз такое, што потым, увасобленае ў карціне (як з Міколам), хвалюе розум многіх і многіх людзей.

Мікола — асоба вельмі складаная. І не толькі як творца, а як чалавек. Несумненны талент, шчодры ў творчасці і ў пэўнай ступені эгаіст як мужчына ў адно-

сінах да жанчын. Да тых жанчын, да якіх быццам ёсць пачуцці, хаця якія пачуцці, калі ўсё пераносіцца ў разуменне — «мая», ды «як яна магла мяне пакінуць!..»

Тут, як бачна, на першае месца выступае ўласнае «я», а не пачуцці. Таму ўсе тыя, каго ён нібыта кахаў, а потым пакінуў, забываюцца хутка — неўзабаве з’явіцца іншая, яшчэ лепшая. (Рэчы, ці што, калі так?)

Але жыццё такое, і ў творцы таксама, што рана або позна за ўсё кепскае, што чалавек зрабіў, прыходзіць распалата. Толькі ў выглядзе чаго і канкрэтна за што ў даным выпадку? За нявінна пакрыўджаных?.. Ці за тых, якія яго любілі, а ён проста карыстаўся гэтым, успрымаючы іхнія пачуцці да сябе, як нешта само сабой зразумелае?

І вось аднойчы, вярнуўшыся з міжнароднага пленэра, стомлены, шмат зрабіўшы за гэтыя два тыдні, разлічваючы, што яго сустрэне Ала (чарговая каханка?), без якой ён засумаваў, не ўбачыўшы яе ў кватэры, разгубіўся.

Як так можа быць?.. Яна ж ведала, калі ён вернецца. Ён прывык, што ў яго кватэры заўсёды жанчына, а з ёю там «заўсёды прысутнічае ўтульнасць і душэўнае цяпло. Дый пад’есці пасля дарогі чаго-небудзь больш істотнага (што ён еў на пленэры. — **У. С.**) не пашкодзіла б…»

Што ж, звычайная проза жацця: утульнасць… пад’есці… І раптам Мікола заўважае на стале запіску, ключы ад кватэры і майстэрні, што былі ў Алы, з якой зніклі і «ўтульнасць» і «пад’есці»... Чытае: «Мікола, ніводны нармальны чалавек побач з табой доўга не вытрымае. (Увесь гэты час, два гады, што была з ім прымушала сябе трываць?.. — **У. С.**) Калі ласка, не шукай мяне і не тэлефануй. Я да цябе не вярнуся».

«Як цяжка простай жанчыне быць з творцам! — можа ўсклікнуць іншая чытачка. — Розныя інтарэсы, розныя адносіны да жыцця…»

У тым і загваздка, што Ала — таксама творца, мастачка, былая Міколава вучаніца. Атрымліваецца, што інтарэсы тут ні пры чым. Ва ўсялякім разе, што датычыць Алы. А Мікола? У яго да яе сыходу сваё стаўленне. «Чаму гэтыя жанчыны ўсё псуюць?» І: «Ён нічога не разумеў! Хіба нельга па-чалавечы патлумачыць, што не падабаецца (пра каханне размовы няма. — **У. С.**), а не разводзіць танную тэатральшчыну з запіскамі?..» А далей ужо і абурэнне: «Навошта падобныя абагульненні — “ніхто не вытрымае…” Ты пра сябе кажы! Навошта пра ўсіх?»

Як бачам, закранута мужчынскае самалюбства. Ды кім? «Ала — яго апошняя пасія». Запомнім, менавіта пасія. І гэтым усё сказана. Хаця, пасія пасіяй, але ж спачатку хацеў яе знайсці. Суцешыць самалюбства? Толькі калі б шчыра хацеў, дык знайшоў бы. А можа, сапраўды хацеў «зразумець, што здарылася». І вось тут узнікае наступнае: «Але ў такой сітуацыі прасіць быў бы вымушаны ён. А прасіць ён не любіў і не хацеў. Мікола мог прымаць нейчае захапленне як шчодры дар. Але чаму ён, мэтр, павінен бегаць за дзяўчынай?» і г. д.

У Міколы зараз такі стан душы, калі яму хочацца, «каб нарэшце спынілася мільгаценне жаночых твараў, у ягоным жыцці застаўся адзін твар, у які можна ўзірацца бясконца і знаходзіць у ім новыя рысы і адценні».

Што гэта: узроставае, стомленасць, шкадаванне сябе?.. Хто ведае. Але як бы там ні было, аднойчы такі «твар» з’явіўся. Юля. Зрэшты сучасны Дон Жуан ці Казанова, здаецца, закахаўся ў яе. Не будзем пра тое, як і дзе гэта адбылося, але ў яго з’явілася такое пачуццё, якога ён яшчэ не ведаў. І да простай дзяўчыны!.. А некалі ж Мікола нават быў жанаты… Кахаў?.. Як сказаць… І гэты, як яго характарызуе пісьменніца «пястун лёсу», для якога «прыгожыя паненкі з’яўляліся тым палівам, без якога яго творчасць не магла існаваць». Дарэчы, Мікола пісаў партрэты ўсіх сваіх жанчын і іх вобразы былі даволі ўдалымі…

І будзе яшчэ адзін жаночы партрэт. Мікола напісаў партрэт Юлі. Толькі пісаў яго, можа, сам не падазраючы гэта, не проста жанчыны, якой захапляўся, а як каханай. І партрэт гэты, названы «Вечар», быў такі: «…вечар, прыцемак, слаба асветлены пакой. Жаночы твар — такі мілы і родны… І вочы, што зірнулі на яго

нібы з мінулага. Трапяткая свечка ў руках жанчыны — як пяшчотны матыль. Здаецца, зараз падзьме вецер, і свечка пагасне. Юля…» Аказваецца, «ён намаляваў уласны лёс у гэтым абліччы, а потым збег ад яго. Спужаўшыся агромністасці ўласных пачуццяў ці не зразумеўшы іх сэнсу? І агромністасці страты таксама…»

Вось тут, на такой завязцы і спыняю свой расказ пра аповесць: уся далейшая інтрыга твора, вядома ж, пакідаецца чытачам. Т. Мушынская, як псіхолаг, як тонкі знаўца чалавечай душы (не толькі жаночай) вельмі дакладна паказвае тыя далікатныя зрухі ў душах сваіх персанажаў, што спачуваеш не толькі Юлі, па-сутнасці, абражанай, а шкадуеш іх абаіх: з-за нейкага знешняга непаразумення між імі абое становяцца няшчаснымі. Хаця, можа, Юля ўсё ж будзе шчаслівай?

І зноў вернемся па партрэта. Тое, як пісьменніца выпісвае партрэт — сведчанне, што яе проза сапраўдны мастацкі твор. Тут нават гукапіс (алітарацыя) нагадвае рух пэндзля, і рытміка фразы — таксама. І хочацца сказаць ужо аўтарцы: цудоўна, Таццяна Міхайлаўна!..

У фінале адбудзецца сустрэча Міколы і Юлі, якая яна будзе — чытачы даведаюцца самі. Але не без інтрыгі...

Увогуле Т. Мушынская ўмее заінтрыгаваць чытача. Пра гэта сведчыць і яе трэцяя «любоўная» аповесць — «Джульета і экстрасэнс», што дала назву кнізе.

Галоўная гераіня і гэтага твора — натура творчая — тэатральны рэжысёр. Увогуле, хто не ведае, мушу сказаць, што і ў тэатры, і ў кіно рэжысёр, як іншы раз жартуюць акцёры пасля паспяховай працы — дыктатар. Яго слова на сцэне і на здымачнай пляцоўцы — неабвержны закон. Гэта з рэдактарам можна паспрачацца, пераканаць яго ў сваім, калі ён не згаджаецца, паскардзіцца на яго вышэйшаму начальству, і яно пачне прыслухоўвацца да «пакрыўджанага», а з рэжысёрам — не!.. Прафесія такая: за ўсё адказвае толькі ён. І няважна, рэжысёр мужчына або жанчына.

Безумоўна, любая прафесія, тым больш, калі чалавек займаецца ёю шмат гадоў, як Ларыса, накладвае на яго характар свае адпаведныя рысы.

І вось яна, Ларыса, не сказаць каб маладая жанчына (хоць пра ўзрост жанчыны гаварыць непрыстойна, але тут ён, як адна з адпраўных кропак лёсу) пакахала. А яна ж замужняя!.. Каго пакахала? Ды на дзесяць гадоў маладзейшага за сябе мужчыну! Акцёра.

«Здараецца, — скажа іншы чытач, — жаночая прыхамаць… Вунь у газетах пішуць, па тэлебачанні паказваюць, што ўзрост, любая розніца ў ім — не перашкода. Нічога новага тут няма».

У нейкай ступені, мабыць, і так. Сама Ларыса закахалася, ці прымусіў закахацца ў сябе акцёр (ён жа — экстрасэнс) чытач разбярэцца сам. У рэшце рэшт Ларыса жанчына, рэжысёр па прафесіі, ды і па ўнутраным складзе даволі цвёрдая, а то і жорсткая і, нават прагматычная — на раздарожжы: як быць?..

І тут яе асоба нібы раздвойваецца: рэжысёр і... жанчына. Жанчына раздумвае пра свае пачуцці, яна хоча сапраўднага кахання (на астачу гадоў? Колькі ім быць разам, пакуль ён не разлюбіць яе, а разлюбіць можа вельмі проста, ён жа — экстрасэнс, раптам упадабае маладзейшую?). І — рэжысёр раздумвае пра свае пачуцці да яго як да акцёра, ці да проста мужчыны...

Вельмі цікава паглыбляцца ў гэтыя роздумы. І Т. Мушынская не імкнецца навязаць чытачу свой пункт гледжання, запрашае: думайце, як быць у даннай сітуацыі закаханай жанчыне, у якой муж і амаль дарослая дачка, і вакол якой цяпер столькі розных размоў…

Асобна ад папярэдніх твораў трэба разглядаць дакументальную аповесць «Сад маіх успамінаў». Па-сутнасці, яна ў многім біяграфічная, у ёй пісьменніца расказвае пра свой радавод. Пачынае з невялікага ўступу, у якім заўважае, маўляў, «Чалавецтва заўсёды любіла і шанавала асоб грамадскіх, тых, што навідавоку і шмат робіць для іншых, а не для сябе». І тлумачыць чаму. І тут жа заўважае: «На жаль ці на шчасце, асобы грамадскія — толькі невялікая частка чалавечай

супольнасці. А большасць насельніцтва ў любой краіне складаецца з людзей прыватных». Але, маўляў, са сваім даволі цікавым і насычаным рознымі падзеямі жыццём…

Менавіта пра такіх людзей і расказвае ў гэтым творы Т. Мушынская, пачынаючы свой расказ са знакамітай мінскай Грушаўкі, з аднаго «найбольш прыгожых і паэтычных куткоў Мінска», які ў апошнія гады вонкава вельмі змяніўся.

Нагадаю таму, хто не ў Мінску і хто не ведае: знакамітая Грушаўка дала нам шэраг цікавых творцаў, у прыватнасці, літаратараў. Адны з іх нарадзіліся тут, іншыя толькі жылі і працавалі на Грушаўцы, цяпер жывуць тут, і якія пісалі і пішуць пра яе шмат. Напрыклад, з Грушаўкай было звязана жыццё і творчасць пісьменніка і кінарэжысёра Пятра Васілеўскага. Тут жыла і працавала ягоная жонка, пісьменніца Галіна Васілеўская. Грушаўка памятае іх сына, журналіста Пятра Васілеўскага, празаіка Івана Сабілу, паэта Анатоля Аўруціна, саму Таццяну Мушынскую, якія не забываюць у сваіх творах гэты куток нашай сталіцы, хоць не ўсе сёння жывуць тут…

Але ў аповесці расказ пра блізкіх людзей пісьменніцы, пра тое, як яны жылі, у прыватнасці, на Грушаўцы, як жывуць, пра што і аб чым марылі і мараць.

Тут перад намі ярка паўстае непаўторная галерэя асоб, менавіта асоб, бо і кожны просты чалавек — асоба са сваімі памкненнямі, светапоглядам, адносінамі да людзей, жыцця. І знаёміцца з імі — надзвычай цікава, бо ўсе яны — непаўторныя, кожны — сапраўды цэлы свет...

Таццяна Мушынская і ў жанры дакументалістыкі застаецца тонкім псіхолагам, які разумее людзей, і не толькі сваіх блізкіх, а і ўсіх, пра каго піша.

Заканчваецца кніга апавяданнямі, абразкамі і мініяцюрамі. Дарэчы, у гэтых жанрах зараз працуюць не многія, а шкада: жанр, як такі, павінен развівацца, тым больш у наш час, калі на жанравыя асаблівасці твора мала хто зважае. Сёння ж асобныя аўтары звычайнае апавяданне могуць заявіць, напрыклад, як раман… Шкада, што зараз нярэдка ў нас ігнаруецца такое паняцце, як літаратурная школа. Шкада, бо некаторыя аўтары не разумеюць, што без яе, без вопыту папярэдніх творцаў наўрад ці можна стварыць нешта новае годнае. (Дарэчы, як і ва ўсіх сферах чалавечага жыцця.)

Таццяна Мушынская, таксама, як і названыя ў пачатку пісьменніцы, у сваёй творчасці прытрымліваецца нацыянальнай літаратурнай школы. І зыходзячы з яе стварае свае адметныя творы. Цікавыя і дабрыя. І гэта радуе чытачоў і рэдактараў.






*Гужалоўскі, А. А.*
**Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР.**
*У 2 кн. Кн. 1. 1919—1941 гг. / А. А. Гужалоўскі. — Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012 г. — 304 с.: іл.*

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# ЧАМУ МЫ ТАКІЯ СЁННЯ?..

Тэма, за раскрыццё якой узяўся доктар гістарычных навук Аляксандр Гужалоўскі ў сваім манаграфічным даследаванні «Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР», не дужа і распрацаваная ў сучаснай гістарыяграфіі. Можна назваць адзінкавых аўтараў, якія ў 1990—2000-я гг. спрычыніліся да яе адлюстравання (В. Герасімаў, В. Матох, Т. Процька, М. Касцюк і інш.). І ўсё ж манаграфію А. Гужалоўскага можна па праве лічыць фактычна першай такога маштабу работай, якая б давала найболей поўную карціну функцыянавання палітычнай цэнзуры ў першыя дзесяцігоддзі існавання савецкай улады ў Беларусі. Шмат што патлумачваюць ужо самі назвы раздзелаў кнігі «Чырвоны аловак»: «Галоўлітбел у сістэме інфармацыйнага кантролю грамадства»; «Парнас пад цэнзурным прыгнётам»; «Метамарфозы чацвёртай улады: ад мазаікі да маналіту»; «Пад пільным вокам Галоўрэперткама»; «Знікненне культурнай спадчыны» (а ў гэтым раздзеле — асобныя падраздзелы: «Знікненне дакумента», «Знікненне кнігі», «Знікненне артэфакта»).

«Цэнзура (палітычная, ваенная, царкоўная) — гэта з’ява, працэс альбо канкрэтна-гістарычны адзінкавы акт, — падкрэслівае А. Гужалоўскі. — Яна можа разглядацца як частка дзяржаўнай палітыкі, грамадскага жыцця і адначасова цалкам самастойны сацыяльны феномен, які ў СССР набыў усеагульны, татальны характар. Аўтар разумее цэнзуру як у вузкім (праца Галоўлітбела — Аддзела ваеннай цэнзуры і Галоўліта БССР, а таксама Галоўрэперткама), так і ў шырокім сэнсе — як сістэматычную дзейнасць партыйных і дзяржаўных інстытуцый па абмежаванні доступу да інфармацыі. У кнізе зроблена спроба высвятлення ідэалагічных прынцыпаў дзейнасці цэнзуры ў БССР, рэканструкцыі сістэмы цэнзурных органаў, аналізу асноўных напрамкаў, формаў і метадаў іх работы, даследавання ролі вышэйшага палітычнага кіраўніцтва, спецслужбаў і выдавецтваў у ажыццяўленні цэнзурнай палітыкі». Аўтар звяртае ўвагу на тое, што органы цэнзуры ў Беларусі ахоўвалі не столькі сапраўдныя дзяржаўныя тайны, колькі займаліся вышукваннем «варожых» вылазак на старонках друку, у радыёперадачах, на кадрах кіна-, фотастужак і на грампласцінках, у экспазіцыйных залах музеяў і ў выставачных галерэях, ды нават у замежнай карэспандэнцыі. Многія тайны літаральна прыдумляліся, насілі штучны характар. Тыя, хто ажыццяўляў цэнзуру, звычайна карысталіся нейтральным, як ім падавалася, тэрмінам, — «палітычны кантроль».

Выкрэсліванне, забарона рабілі «мядзведжую паслугу» не проста аўтарам тых ці іншых твораў, публікацый, а прыводзілі да праблем у паўнавартасным развіцці відаў мастацтва. Прыніжаючы свабоду творчасці, мастацкага волевыяўлення, цэнзары, арганізатары татальнага «палітычнага кантролю» наносілі неверагоднай сілы ўдар па свядомасці творчых асоб, першапачаткова зарыентаваць на праўдзівае адлюстраванне жыцця. Пісаў жа некалі В. Бялінскі: «Творчество по своей сущности требует безусловной свободы в выборе предметов не только от критиков, но и от самого художника. Ни ему никто не вправе задавать сюжетов, ни он сам не вправе направлять себя в этом отношении. Он может иметь определенное направление, но оно у него только тогда может быть истинно, когда без усилия, свободно сходится с его талантом, его натурой, инстинктом и стремлением…»

Звернем увагу і на тое, што ж знішчалася ў выніку «палітычнага кантролю». Абсягі знішчанага ўражваюць нават з пункту гледжання фізічнага вымярэння, не кажучы ўжо пра сам змест. У красавіку 1921 г. старшыня архіўнай секцыі экспертнай камісіі Савета народнай гаспадаркі БССР М. П. Шкляеў адправіў на барысаўскую фабрыку «Папірус» 951 пуд «архіўных папер». У снежні 1924 г. і студзені 1925 г. было ўтылізавана яшчэ 155 пудоў паперы. У 1920—1923 гг. з архіваў толькі Віцебскай губерні было адпраўлена на перапрацоўку 2687 пудоў «архіўнай паперы». У 1919—1923 гг. з архіваў Магілёўскай губерні — 8357 пудоў. Так, практыка адбору дакументаў для захавання паўсюдна суправаджаецца знішчэннем дакументаў. Але ў 1920—1930-я гг. палітыка, якая праводзілася ў дачыненні Дзяржаўнага архіўнага фонду, з’яўлялася беспрэцэдэнтнай.

А яшчэ ж знікалі кнігі… Прычыны на тое, каб пазбавіць чытача ўжо выдадзенай літаратуры былі самыя розныя. Бібліятэчныя чысткі былі настолькі масавыя, што часам узнікае ўражанне бясконцай «палітычнай рэвізіі» айчынных кнігасховішчаў. Хто толькі з аўтараў не трапляў пад «рэпрэсіўны» каток? Поруч з беларускімі пісьменнікамі ў «шкодныя» залічваліся М. Загоскін, І. Бунін, Р. Данілеўскі, І. Лажэчнікаў, С. Салаўёў, Р. Авенарыус, С. Аксакаў, К. Станюковіч, Г. Флабэр, М. Твэн, Ф. Брэт-Гарт, Г. Спенсэр, Г. Хагард, Г. Сянкевіч, Э. Растан. З вышыні сённяшняга часу, здавалася б, можна з усяго гэтага пасмяяцца. А ў 1920—1930-я гг. было, зразумела, не да смеху, не да жартаў. Спусташэнне фондаў бібліятэк прыводзіла да спусташэння чытацкай самасвядомасці.

«Дзякуючы» палітычнай волі высокапастаўленых ідэалагічных кіраўнікоў знішчаліся, руйнаваліся і музейныя скарбніцы. Прыводзячы факты на гэтую тэму, А. Гужалоўскі піша: «Тэхніка прыёмкі прыёмшчыкамі-ацэншчыкамі (прабірэрамі) «Антыкварыяту» і пераўтварэнне артэфактаў у сродак плацяжу была варварскай: золата і срэбра прымалася як лом, каштоўныя камяні, механізмы, эмаль, дрэва, косць выламваліся, старажытныя манеты і ўзнагароды пераплаўляліся ў злiткі…»

Манаграфія «Чырвоны аловак» закранае прамежак часу з 1919 па 1941 гг. Будзем спадзявацца на працяг работы па раскрыцці надзвычай актуальнай, важнай з розных пунктаў гледжання



Руслан ЯНЕВІЧ

# ПРАМАЎЛЯЕ САМА ПАМЯЦЬ

*Мікола Чарняўскі.*
**На плошчы памяці маёй.**
**Вершы. Паэмы. Балады.**
*Мн.: Чатыры чвэрці, 2014.*

З'яўленнне кнігі Міколы Чарняўскага ў серыі «Дзеці вайны», што выходзіць у выдавецтве «Чатыры чвэрці» з 2010 года, невыпадковае. Як невыпадкова тое, што ў яе менавіта такая назва — «На плошчы памяці маёй». Нарадзіўся М. Чарняўскі ў 1943 годзе, а дзіцячая памяць вельмі ўчэпістая. Дый калі сам нешта не запомніў, то пра гэта даведаўся ад іншых людзей. А яшчэ, калі працаваў у рэспубліканскім дзіцячым і маладзёжным друку, часта знаёміўся з лістамі, у якіх расказвалася пра тыя ці іншыя моманты барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Прынамсі, тыя творы ў гэтай кнізе, у якіх ёсць прысвячэнні, акурат і падказаны чытацкай поштай. Юныя карэспандэнты ў лістах, дасланых у рэдакцыю, расказвалі пра сваіх родных ці знаёмых, якія ваявалі з ворагам, а некаторыя дачакаліся і Дня Перамогі. Часам гэта былі такія гісторыі, пра якія М. Чарняўскі не мог не сказаць паэтычным словам. Найперш словам баладным, бо менавіта жанр балады, як вядома, з яго гераічным пачаткам і дазваляе глыбока раскрыць як подзвіг народны ў цэлым, так і мужнасць асобных людзей.

Прынамсі, так нарадзілася «Балада сумлення», прысвечаная памяці падпольшчыцы Аляксандры Цітаўны Крыловай з горада Чэрвеня. У гады вайны ў мясцовай аптэцы працавалі дзве жанчыны з аднолькавым імем. Адна з падпольшчыц, не вытрымаўшы катаванняў, назвала зусім не тую Шуру, якая, па яе меркаванні, мела дачыненне да тых, хто змагаўся з ворагам. Шура Крылова, даведаўшыся пра гэта, пайшла ратаваць невінаватую жанчыну. Сама загінула, але сумленне сваё не запляміла.

«Балада надзеі», хоць і не менш трагічная ў сваёй сутнасці, аднак адначасова і аптымістычная. У падобным спалучэнні таго, што, здавалася б, злучыць немагчыма, нічога дзіўнага. Родныя не адно дзесяцігоддзе нічога не ведалі пра салдата Вялікай Айчыннай вайны Браніслава Іосіфавіча Стукіна. На запытанні аб ягоным лёсе нязменна атрымлівалі адказы, што мала чым розніліся сваім зместам, бо зводзіліся да аднаго: «Не значыцца, згодна папер франтавых, // Ні ў спісе забітых, // Ні ў спісе жывых…». Праўда стала вядомай толькі пасля таго, як з турыстамі трапіў у Германію ягоны сын, дзе на мемарыяльнай пліце аднаго з помнікаў напаткаў дарагое прозвішча. Зразумела, бацьку не вернеш, але хіба гэта не радасць, пра столькі часу даведацца пра яго ўсю праўду?!

Трыпціх «Дзяцінства», хоць і не мае баладнага пачатку, але ён таксама

з шэрагу тых твораў М. Чарняўскага, у якіх прысутнічае вайна, толькі не з яе гераізмам і мужнасцю. Хоць, калі разабрацца, хіба гэта не мужнасць выжыць у голадзе, калі няшчымніца давала аб сабе знаць на кожным кроку. Кожная з частак трыпціха — «Гусінае малако», «Хлеб», «Соль» — адзін з адметных штрыхоў ваеннага маленства, якое перажыў і сам аўтар кнігі «На плошчы памяці маёй».

Зусім не светлым, не радасным атрымаўся гэты твор, аб чым М. Чарняўскі не толькі сведчыць у канцы трыпціха, але і тлумачыць, чаму не мог не напісаць яго: «Мой сумны верш, усё ж дазволь // Да тых часін пранікнуцца вяснова, // Уславіць: // І ваду, // І хлеб, // І соль — // Майго дзяцінства боль, // Жыцця аснову». Гусінае ж малако — нішто іншае, а вада, адцэджаная з варанай бульбы, з якой гэтую бульбу і елі. Так і выжывалі з такім «гусіным малаком». Калі ж яшчэ шчасціла мець хлеб, а то «крышталік гаркавы за шчакой//, Я і табою у дзяцінстве мроіў:// Ты мне «гусінае малако» // І скібку хлеба замяняў парою» («Соль»).

Увогуле ў творах М. Чарняўскага тэма басаногага маленства, напоўненага радасцю паўсядзённых клопатаў, мар і спадзяванняў, займае годнае месца. Яно — не толькі тое, што было апалена пажарам страшнейшай вайны, калі гінулі і дарослыя, і дзеці, а і светлае. У яго і вяртаецца лірычны герой, у якога за плячыма даўно адчувальны цяжар пражытых гадоў, а скроні пакрыты сівізной. Дый як не вяртацца туды, дзе засталася шчымлівая памяць першаадкрыцця, у той час, калі ўсе дрэвы падаваліся такімі вялікімі, а далягляд вабіў сваёй невядомасцю і неабсяжнасцю. Надта хацелася даведацца, што там, за небакраем, але чым больш набліжаўся да яго, тым хутчэй ён аддаляўся, становячыся пры гэтым па-ранейшаму недасягальным.

Вяртанне ў маленства — гэта і вяртанне ва ўсё светлае, чыстае, яшчэ не заплямленае і асобнымі ўчынкамі, за якія становіцца сорамна, дый не пакрытае замяццю гадоў. Усё, пра што расказвае М. Чарняўскі, прамоўлена як бы на адным дыханні. Лёгка, нязмушана прамоўлена. Іначай і быць не можа, бо ўсё гэта ўзята і з уласна перажытага, а калі прамаўляе памяць, то незалежна ад таго, неспакойна-балючая яна, ці шчымліва-радасная, — гэта ўсё тое, што пры судакрананні з ім дазваляе душэўна ачысціцца, пазбавіўшыся друзу, усяго таго выпадковага, якое абядняе душу, робіць яе кволай перад абставінамі часу.

Напаткаеш цудоўныя радкі, не толькі чытаць іх хочацца, а і нават прамаўляць разам з паэтам:

Маленства — ціхае прадвесне:
На золаку —
туман, як дым.
У хаце —
сонна,
цёмна,
цесна.

Разам з ім задумвацца і над тым, што сёння, з вышыні пражытых гадоў, зразумела, назваць чымсьці значным немагчыма. Калі ж зірнуць на ўсё вачыма самога маленства, дык гэтае басаногае маленства вернецца да цябе з усёй сваёй вабнасцю, як быццам, простай, але разам з тым і значнай, бо гэтае вяртанне ў чымсьці быццам амалодзіць цябе. Амалодзіць духоўна і душэўна. А яшчэ маральна ачысціць. Ты ўжо і не сённяшні сталы мужчына, а той хлапчук, для якога ў жыцці ўсё яшчэ наперадзе. Дый само жыццё, па сутнасці, толькі пачынаецца. У цябе іншыя турботы, чым у дарослых. Але калі дарослым яны падаюцца нязначнымі, а таму і нявартымі ўвагі, дык для цябе — гэта тое, што клопатна-патрэбнае, без чаго не ўяўляеш сабе жыцця:

Пабегчы ў свет?
Але куды?
У лес, што далізной асмужан,
Што да сябе даўно заве? —
Ды за двαром, як мора, лужа,
І ў ночвах не пераплывеш.
Пабегчы б за раку, на ўзгорак,
Дзе дуб расчэплены стаіць? —
Ды наплывае рана морак
І дождж ад раніцы імжыць;
Ракі ўжо боязна —
аж стогне,
А лёд распух і пагарбеў.
І, як рацэ няма спакою,
Няма спакою і табе.

На дзіва прадуманае завяршэнне гэтага верша. Апошнія радкі напісаны так, што пры знешней прастаце яны ўражваюць сваёй сэнсавай напоўненасцю. Тое, пра што гаворыцца, можна ўспрымаць як унутраны стан хлапчука, які радуецца хараству прыроды, але ў той жа час гэта можа быць «бачанне» ўсяго і вачыма цяперашняга лірычнага героя, які ніяк не можа развітацца са сваім маленствам, бо яно дорыць яму столькі прыемнага, такога, што не толькі не забываецца, але і памяццю сваёй асвяжае, ачышчае:

Пачуеш жаўруковую песню —
І ўжо не спіцца па начах…
Маленства — ціхае прадвесне
З паводкай бурнай у вачах.

Уменне здзіўляцца жыццю і радавацца яму, знаходзіць паэзію ў самым звычайным — гэта звыклы стан лірычнага героя М. Чарняўскага. Асабліва тады, калі гэта тычыцца апявання прыроды, яе хараства, непаўторнасці. Нават не ведаючы ягонай біяграфіі, няцяжка заўважыць, што ён так званы гараджанін першага пакалення, той, каму, кажучы словамі Міхася Стральцова, сніцца сена на асфальце. Такі ж чалавек вельмі чуйны да таго, чым жыве прырода. Больш за тое, яго хвалюе, чым яна дыхае. Гэта ж пры ўспрыняцці яе выклікае радасць той нерушавасці, якую магчыма ўбачыць, адчуць, зведаць толькі тады, калі на ўсё глядзець не проста ўражлівымі, а захапляльнымі, поўнымі ўлюбёнасці вачыма. Тады, здавалася б, звыклы малюнак раскрыецца так, што ад гэтага неяк адразу ачуняеш душой, унутрана памаладзееш, хоць адначасова і … пашкадуеш. Пашкадуеш, што сам не можаш так ярка, як гэта зроблена ў вершы, перадаць сваё захапленне прыродай, напоўненай прагавітым абуджэннем, што лішні раз напамінае, наколькі яна жывучая і нястомная ў гэтым сваім памкненні:

Сонца пакупалася у жыце —
Пацяжэлі раптам каласы.
Ранак сонны твар
Хмурынкай выцер,
Узмакрэлы ад густой расы.

Ён не мог праспаць такое дзіва,
Ён на жыта з вышыні глядзеў:
Як русалка,
Сонца ў ім хадзіла,
Плавала,
Нырала,
Бы ў вадзе.

Няцяжка заўважыць, наколькі радкі вобразна насычаныя, больш за тое, яны быццам зіхацяць усёй гэтай сваёй існасцю, што ідзе ад зямлі, ад неба. Але гэта зусім не метафарычнасць, якая некаторымі паэтамі, асабліва маладымі, «прыцягваецца за вушы», ужываецца з адзіным жаданнем — падацца як мага больш арыгінальнымі. У М. Чарняўскага ж — нічога надуманага. Адметны, непаўторны паэтычны малюнак у яго дасягаецца праз такое светаўспрыманне і светабачанне, якое натуральнае для чалавека, здатнага глядзець на акаляючы свет паэтычна, вачыма поўнымі здзіўлення і захаплення. Менавіта адсюль вытокі такой вобразнасці, якая кладзецца на чытацкую душу бальзамам. Як працяг вышэй прыведзенага верша: «Каласы шапталіся, як хвалі, // Чуйна разбягаліся ўбакі. // Васількі з узмежкаў цікавалі // За купаннем, // Быццам хлапчукі». Як не пагадзіцца з паэтам?! «Дзе такое ўбачыцца, скажыце? // Ранак плыў, // Зіхоткі ад расы: // Сонца пакупалася у жыце — // Зернем наліліся каласы».

Дарэчы, яшчэ пра вобразную напоўненасць паэтычнага радка М. Чарняўскага. Ёсць і іншыя прыклады, якія сведчаць на карысць таго, наколькі паэт умее зрокава-выразна падаць той ці іншы малюнак, пры гэтым ураджанне такое, што ўсё не проста перададзена словамі, няхай і запамінальна, ўражліва. Адчуванне такое, што ўсё гэта сам бачыш у сапраўднасці, успрымаючы яго так, як усё ўспрымае паэт, а не інакш.

Верш «Чэрвеньская раніца» — найлепшае таму пацвярджэнне. Лірычны герой вяртаецца ў самым пярэдадзень Вялікай Айчыннай вайны, у той час, калі была праведзена рэзкая мяжа паміж мірам і вайной:

Ночы ў чэрвені — надта кароткія,
Ночы ў чэрвені —
міг бліскавіцы.
Я не ведаю, як аднагодкі там,
Толькі мне ў ноч такую не спіцца.

Не спіцца, бо ён міжволі ў думках пераносіцца ў той помны ранак, калі: «Людзі колісь у ноч такую // Не дагледзелі сноў, не даспалі. // І не ўсім салаўям усміхнуліся // Закаханых шчаслівых вусны. // Людзі леглі сяўцамі, прачнуліся ж — // Байцамі ў акопах вузкіх». Аднак гэта, будзем справядлівымі, яшчэ ўсё ж канстацыя факта і, паэт, не сказаць, каб прамовіў нешта новае. Затое сам малюнак летняй раніцай, які ідзе пасля гэтага, настолькі ўражлівы, запамінальны. І сам з лірычным героем «шчыра смуткуеш па байцах, што навечна заснулі», шкадуеш, што…

Ім не бачыць
вясновых золакаў,
Калі цяжка па ціхай рацэ,
Па лагчынах,
узмежках
волакам
Туман бараду валачэ;
Калі ў вузкіх затоках з цярпеннем
Рыбака
Усю ноч, аж да дня,
Увайшоўшы ў ваду
па калені,
Вудзіць зоры
цыбаты лазняк…

Творы, умоўна кажучы, мірнага зместу, канечне ж, процілегласць тым, у якіх апяваецца мужнасць савецкага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, раскрываецца ўвесь трагізм вайны, страшнага зла, якое нясе з сабой фашызм. Аднак, тым не менш, водгулле ваеннага ліхалецця ў асобных з іх прысутнічае. Пацвярджэнне таму і верш «У партызанскім лесе», напісаны да таго моцна, прафесійна даскала, што радкі, быццам сцэментаваныя між сабой, ператвараюцца ў цэльны маналіт:

Стаю маўкліва…
А наўкол,
Нібы «лімонкі», рвуцца шышкі.
З галін сарваўшыся на дол.
Ступіў далей — і нечакана,
Бы папярэдзіўшы пасты, —
Яловы сук на ўсю паляну
Пад ботам стрэльнуў…
Як тады,
Зноў сосны пільна пазіраюць:
«Хто тут парушыў іх спакой?
«Хто йдзе?» — здаецца, запытаюць.
І я ім адкажу:
— Я — свой!

Дый усё пражытае пакаленнем М. Чарняўскага, так ці інакш звязана і з мінулай вайной, з памяццю аб ёй. Гэтая памяць і не адпускае яго ад сябе, а разам з ім і нас:

Адгуло, адцвіло, адышло,
Засталася ўспамінаў уцеха.
Што было, што было, што было —
Не адкажа, напэўна, і рэха.

Як цягнік, праляцелі гады.
Што ж да ўцех —
Сёння выкліча ўсмешку:
Хлеба скібка,
Частунак з грады,
Цвіркат ластавачак
У застрэшку.

Пасля ідзе заключная страфа верша, што амаль цалкам паўтарае першую страфу. З невялікім толькі ўдакладненнем: «Што было, што балела, вяло…» А далей ранейшая канстатацыя: «Не адкажа, напэўна, і рэха».

На гэтым кніга «На плошчы памяці маёй» і заканчваецца. Загортваючы апошнюю старонку яе, так і застаешся з памяццю. Ды не толькі з памяццю лірычнага героя М. Чарняўскага, але ўжо і са сваёй памяццю, якая ўвабрала ў сябе шмат таго, што ніяк не можа забыць адзін з тых, хто адносіцца да кагорты «дзеці вайны». Каб жыць, гэта нельга забываць усім нам. Не ў апошнюю чаргу тым, хто нарадзіўся ў мірны час і жыве ў мірным часе.



Мікола БЕРЛЕЖ

# СПЯШАЮЧЫСЯ ДА КУПАЛЫ І КОЛАСА




*Сяргей Чыгрын.*
**Па слядах Купалы і Коласа: літаратуразнаўчыя артыкулы і вершы. —**
*Мн.: Кнігазбор, 2012.*

Дасведчанасць краязнаўчага пісьменніка Сяргея Чыгрына, які жыве і працуе ў Слоніме, уражвае. Мноства яго кніг, публікацый у перыядычным друку выяўляюць літаратара, журналіста як апантанага і глыбокага даследчыка заходнебеларускага жыцця ў культурна-асветніцкім кантэксце. Уважлівае знаёмства з работамі Сяргея Мікалаевіча апошняга часу сведчыць, што праз многія свае тэматычныя зацікаўленні пісьменнік выходзіць на ўсебеларускі прастор. Пераконвае ў гэтым і кніга «Па слядах Купалы і Коласа».

Сяргей Чыгрын сабраў разам артыкулы розных гадоў, тэматычна аб'яднаныя ўвагай да жыцця і творчасці класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Кожнаму з артыкулаў папярэднічае эпіграф з вершаў С. Чыгрына. Адкрываюць зборнік краязнаўчыя артыкулы — «Каля вытокаў» (пра гісторыю Вялікакракоцкай бібліятэкі імя Янкі Купалы Слонімскага раёна), «Янка Купала на слонімскай сцэне», «Якуб Колас і Слонімшчына», «Яны былі сябрамі» (пра стасункі сланімчан Яўгена Хлябцэвіча і Андрэя Пракапчука з Купалам). Гісторыя Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі, якая прайшла выпрабаванне рознымі часінамі, — гэта гісторыя народнага, агульнаграмадскага стаўлення да Янкі Купалы, здзейсненага ім у беларускай паэзіі, літаратуры, культуры. У 1927 годзе кракоцкая моладзь пачала збіраць сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры. Знайшлася і хата для культурнай установы. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках стаў Сямён Акулевіч. У канцы 1928 года бібліятэка імя Янкі Купалы налічвала каля тысячы назваў беларускіх, рускіх і польскіх кніг, каля 200 чытачоў. Кракоцкія юнакі, сярод іх быў і паэт Валянцін Таўлай, закупілі і прывезлі сотні кніг рускай і беларускай класікі. З павелічэннем кніжнага фонду было створана дзве філіі бібліятэкі — у вёсцы Рудаўка бібліятэкай кіраваў Павел Кулак, Малакракоцкай філіяй загадвала Людміла Кулак. Кніжныя скарбы ў Вялікай Кракотцы і ваколіцах сталі ўнікальнымі, дзеяздольнымі асяродкамі беларускага асветніцкага, духоўнага жыцця. У 1930 годзе ў Вялікай Кракотцы пабудавалі Народны дом, на Новы 1931 год правялі вялікі беларускі канцэрт. Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была

зачынена паліцыяй. Дзейнасць бібліятэкі была ўзноўлена ў верасні 1939 года з вызваленнем Заходняй Беларусі ад польскай акупацыі. Пасля — Вялікая Айчынная вайна. Новае нараджэнне бібліятэкі — жнівень 1946 года. З Вялікакракоцкай кніжніцай звязаны імёны многіх беларускіх пісьменнікаў. Фонды бібліятэкі дапамагала фарміраваць у пасляваенныя гады Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. А ў 2008 годзе, праз год пасля 80-гадовага юбілею, Бібліятэку-музей імя Янкі Купалы зачынілі. Сяргей Чыгрын падсумоўвае свой расповед: «Усе акупацыі і войны перажыла слаўная Купалаўская бібліятэка, а вось сённяшні час перажыць не змагла. Шкада…» Шкада і сумна.

З гісторыка-літаратурных матэрыялаў кнігі «Па слядах Купалы і Коласа» вылучаецца дослед, прысвечаны У. Чаржынскаму, — «Казанская ссылка Уладыслава Чаржынскага і Янкі Купалы». Размова — пра крытыка і літаратуразнаўцу, які пад псеўданімамі Ул. Дзяржынскі і Улідзе друкаваў артыкулы, у якіх даваў грунтоўны эстэтычны аналіз як асобных мастацкіх твораў, так і літаратурнага працэсу ў цэлым. С. Чыгрын падкрэслівае: «Многія яго матэрыялы, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Цішкі Гартнага, Янкі Журбы і іншых беларускіх пісьменнікаў, уражваюць і сёння глыбінёй і жывасцю даследчыцкай думкі, аргументаванасцю і пластычнасцю стылю». У 1931 годзе Чаржынскага па пастанове Калегіі АГПУ СССР ад 10 красавіка выслалі ў Казань тэрмінам на 5 гадоў. Праз чатыры гады нашага земляка вызвалілі ад высылкі, але рэабілітавалі толькі ў 1988 годзе. Памёр крытык 2 красавіка 1974 года. Так і пражыў да апошніх дзён у Казані. Да заняткаў беларускім літаратуразнаўствам У. Чаржынскі ўжо так і не вярнуўся. Сяргей Чыгрын прарабіў велізарны пошукавы шлях, узнавіў многія дэталі з казанскага перыяду жыцця Уладыслава Вікенцьевіча, упершыню агучыў цікавыя архіўныя дакументы.

Выдадзеная тыражом у 100 экзэмпляраў, кніга «Па слядах Купалы і Коласа» наўрад ці стане добра вядомай падзеяй, з'явай, хаця, несумненна, вартая таго. Прычына — зусім малы наклад выдання. Ужо сёння патрэбна гаварыць пра перавыданне новай гісторыка-літаратурнай кнігі Сяргея Чыгрына. Гэта патрэбна ўсім, нераўнадушным да беларускай літаратуры, хто цікавіцца беларускім асветніцтвам.



# КАСТРЫЧНІК



*Аркадзь Куляшоў*

* * *

У **кастрычніцкім** нумары «Полымя» за **1961 год** змешчана вялікая падборка вершаў Аркадзя Куляшова пад агульнай назвай «З новай кнігі». Роўна праз год, у **№10** за **1962 год** — яшчэ адна вялікая падборка. На першы погляд, звычайная з'ява, шмат хто з прызнаных аўтараў рэгулярна друкаваўся ў часопісе. Але, думаецца, да гэтых вершаў Куляшова была праяўлена, у тым ліку, з боку калег, асаблівая цікавасць. Справа ў тым, што доўгі час паэт не даваў у друк свае новыя творы. Пасля вайны ў асноўным выходзілі кнігі яго выбраных вершаў і паэм — у аргінале і ў перакладзе на рускую мову, выходзілі ўласныя пераклады, аднак што тычыць уласных свежых паэтычных радкоў — паўза вельмі зацягнулася. Па словах дачкі паэта Валянціны Куляшовай, у яго з дзяцінства было слабое здароўе, якое часта перашкаджала творчасці. Ён перажыў аж тры інфаркты, але пры гэтым не шкадаваў сябе ў працы: «Яго выбівалі з рабочай каляіны толькі цяжкія прыступы хваробы, якія пагражалі самому жыццю. Прыступы гэтыя паўтараліся перыядычна, і бацька ведаў, што доўга яму жыць не давядзецца».

У 1964 годзе ў Аркадзя Куляшова нарэшце выходзіць арыгінальны паэтычны зборнік, які аўтар называе проста, але для сябе вельмі сімвалічна: «Новая кніга». На яе неўзабаве адгукаецца артыкулам «Сталасць таленту» Аляксандр Твардоўскі, які не толькі быў сябрам Куляшова, але і, што важна ў дадзеным выпадку, добра ведаў беларускую мову (куляшоўскія Саматэвічы і хутар Загор'е Твардоўскага раздзялялі нейкія 10 кіламетраў). «Новая кніга» Аркадзя Куляшова — узор поўнага валодання паэтычнай формай, што выпрацоўвалася гадамі, — піша аўтар «Василия Теркина». — Але не адно гэта дае магчымасць назваць «Новую кнігу» кнігай сапраўднай сталасці самабытнага і яркага таленту.

Шырыня ідэйнага гарызонту, асваенне нязвычных для ранейшага Куляшова вечных (гэтае слова чамусьці прынята заключаць у двукоссе), агульначалавечага значэння тэм: жыцця і смерці, любові і творчасці, лёсу і абавязку паэта, мінулага і сённяшняга, сённяшняга і невымерных далячынь камуністычнай будучыні — вось што галоўным чынам азначае новы этап у

паэзіі Куляшова — адной з вяршынь савецкай паэзіі ў цэлым…

І вось што яшчэ адметна ў «Новай кнізе». Тут няма ніякіх слоўных, фразеалагічных эквівалентаў паняцця «культ асобы», няма памінальна гэтай тэмы, матываў, што паспелі ў многіх сённяшніх вершах ужо стаць агульным месцам. А між тым уся гэтая свабода лірычнай споведзі, гэтая нязмушанасць тону, смеласць нечаканага збліжэння строгай думкі і простай сардэчнасці — іх не аднясеш да іншага перыяду — яны належаць цяперашняму часу і спароджаны ім».

І вось у **кастрычніцкім** нумары за **1965 год** «Полымя» ў раздзеле «Хроніка» чытаем: *«На пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР адбылося вылучэнне твораў на атрыманне Ленінскіх прэмій. Вылучаны «Новая кніга» Аркадзя Куляшова, зборнік вершаў Максіма Танка «Хлеб мой надзённы» і раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні».*

На той час Ленінская прэмія была адзінай дзяржаўнай прэміяй у Савецкім Саюзе (Дзяржаўную прэмію СССР зацвердзілі толькі ў 1967 годзе), таму, натуральна, атрымаць яе было вельмі прэстыжна. Да таго ж, і сума ўражвала: з 1961 года яна складала 10 000 рублёў. Але спадзяванні аказаліся марнымі. Валянціна Куляшова ў сваёй кнізе «Лясному рэху праўду раскажу…» пра гэта напіша коратка: «Новая кніга» была вылучана на атрыманне Ленінскай прэміі побач з кнігай балкарскага паэта Кайсына Куліева. Сталася так, што прэміі яны не атрымалі.

Бацька, вядома, перажываў, але паранейшаму працягваў працаваць з той жа энергіяй, з ты жа напалам».

Лаўрэатам Ленінскай прэміі ў галіне літаратуры за 1965 год стаў рускі пісьменнік Сяргей Смірноў — аўтар кнігі «Брестская крепость». У многім дзякуючы яму ў друку шырока загаварылі пра гераічных абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў трагічным 1941 годзе, якой, дарэчы, у тым жа 1965-м, 8 мая, было прысвоена званне «Крэпасць-герой».

Пасля «Новай кнігі» ў Аркадзя Куляшова выйшла яшчэ некалькі паэтычных зборнікаў. Ленінскую прэмію ён так і не атрымаў, у адрозненне ад Максіма Танка, які быў уганараваны ёй за кнігу «Нарачанскія сосны» (1978 год). Затое праз чатыры гады пасля «Новай кнігі» Аркадзь Куляшоў стаў народным паэтам Беларусі, — дарэчы, у адзін год з Максімам Танкам.

На жаль, сумнае прадказанне Куляшова збылося: ён пражыў няпоўныя 64 гады.

* * *

У **№ 10** за **1965 год** «Полымя» паведамляе, што ў выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга Янкі Брыля «Жменя сонечных промняў». Аб’ём — 232 старонкі, 5,8 улікова-выдавецкіх аркушаў. Тыраж — 6700 экзэмпляраў. Кошт — 29 капеек.

У кароценькай прадмове — тлумачэнне, як і з чаго склалася гэтая не зусім характэрная для беларускай прозы кніга:

«Дарогі, сустрэчы, уражанні... І вечны спадарожнік літаратара, памочнік яго памяці — блакнот. Год за годам, блакнот за блакнотам... Адно з запісанага ўвайшло ў аповесці, апавяданні, нарысы. Другое — чакае чаргі. А іншае — просіцца быць самастойным мастацкім творам.

І вось пісьменнік прапануе ўвазе чытача сваё захапленне жыццём, чалавекам, прыродай, сваю любоў, нянавісць і смутак, усмешкі і роздум.

Лірычныя нататкі Янкі Брыля падаюцца ў тым, амаль некранутым, выглядзе, як яны праляжалі ў непасрэдных запісах, — што год, што пяць, а што і дваццаць пяць гадоў».

Да «Жмені сонечных промняў» чытач ведаў Брыля як «сур’ёзнага» празаіка, аўтара рамана «Птушкі і гнёзды», аповесцей «Сірочы хлеб», «У сям’і», «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Апошняя сустрэча»... І раптам — лірычныя мініяцюры. Аднак менавіта гэтая кніга адкрыла і чытачу, і крытыцы новага Янку Брыля. І менавіта

яна абазначыла яго далейшы і галоўны шлях у літаратуры.

Вядома, Брыль тут не быў першапраходцам. Можна прыгадаць і «Прысягу над крывавымі разорамі» Цёткі, і «Выбар старшыні» Якуба Коласа, і «Пяць лыжак заціркі» Змітрака Бядулі… Мала таго, яшчэ ў 1913 годзе ў Змітрака Бядулі выйшла кніга, якая называлася «Абразкі».

Але ў 1960-я гады ў прозе пачалася раманаманія. А тут — цэлая кніга карацелек. Невыпадкова Іван Шамякін у сваім дзённіку аднойчы запісаў: «Уся творчасць Янкі Брыля, апошнія, прынамсі, гадоў дваццаць — дзённікавыя запісы. Чалавек ён назіральны, заўважае ўсё цікавае, многа бытавых дэталяў. Выдае ён гэтыя запісы як мініяцюры, многім дае назвы. Сапраўды, у асобных выпадках яму ўдаецца зрабіць навелы, лаканічныя, ёмкія, прыгожыя. Але большасць «жменя промняў». Так і называлася адна з яго кніг. Здаецца мне, што такая форма творчасці — увесь час з нататнікам — перашкаджае сачыненню. А мы ўсё ж сачыніцелі! Якімі сачыніцелямі былі Пушкін, Гогаль, Дастаеўскі, Талстой, Колас, Горкі, Шолахаў! І Чэхаў — аўтар кароткіх навел».

Усё як бы правільна. Але, дальбог, згубілася б у аб'ёмным рамане карацелька са «Жмені сонечных промняў», не зачапіла б так за сэрца:

«Студэнтачка расказвае:

— Мы з мамай часта хадзілі ў грыбы. А першы год, як толькі я паехала вучыцца, яна адна выходзіла на нашу сцежку: «Можа, убачу…»

А колькі іх, такіх мініяцюр, у адной толькі гэтай брылёўскай кнізе?!

* * *

«Полымя» заўсёды пазіцыяніравала сябе (асабліва пасля таго, як у 1953 годзе пачала выходзіць «Маладосць») як выданне, дзе друкуюцца творча сталыя аўтары. Вядома, зрэдку з'яўляліся на яго старонках і творы маладых паэтаў і празаікаў, але, безумоўна, яны не вызначалі палітыку часопіса.

І раптам — нечаканасць: у **1984 годзе** часопіс свой **кастрычніцкі** нумар вырашыў амаль цалкам прысвяціць творчасці маладых аўтараў. На яго старонках адначасова з'явіліся вершы Людмілы Паўлікавай, Леаніда Галубовіча, Людмілы Пятруль, Віктара Шніпа, Уладзіміра Марука, Уладзіміра Мазго, Міколы Пракаповіча, Яўгена Хвалея, Валянціны Аколавай… Тут жа была надрукавана маленькая аповесць Генрыха Далідовіча «Жывы покліч», апавяданні Міколы Кусянкова, Хрысціны Лялько, Івана Капыловіча, Васіля Ткачова, Віктара Супрунчука…

Праўда, кінуўшы беглы позірк на імёны, няцяжка прыйсці да высновы, што рэдакцыя на першы план ставіла ўсё-ткі творчы ўзрост (напрыклад, калі Віктару Шніпу на той момант было 24 гады, то Міколу Кусянкову — аж 49, аднак апошні да гэтага часу быў вядомы чытачу як паэт, а першая празаічная кніга яго выйшла толькі ў 1987 годзе). Аднак сам факт такога яе рашэння быў, сапраўды, нечаканым.

Адкрываўся нумар зваротам да маладых народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна, які адразу пачаў заклікаць іх быць больш смелымі і рызыкоўнымі.

*«Маладосці ўласцівыя смеласць, рашучасць, адвага. Ісціну гэтую так часта паўтаралі і паўтараюць, што яна пачынае каму-нікаму здавацца банальнай. А між тым нам, старым, вельмі хочацца, каб не старэла ісціна — уласцівасць гэтая. Не старэла ў свядомасці саміх маладых людзей.*

*Не можа не трывожыць, што ў наш час залішне часта сустракаеш бязвусых рацыяналістаў, гэткіх 20 — 25-гадовых «мудрых старых», залішне памяркоўных, нярэдка заражаных хваробай практыцызму, скептыцызму, а то і яшчэ больш цяжкай нядужасцю. Юнакам такім, якіх я не магу інакш назваць, як няшчаснымі, здаецца, што яны ўжо ўсё пазналі, усё ведаюць — усе таямніцы жыцця, узаемаадносіны людзей у грамадстве, вытворчыя адносіны, усе перыпетыі вельмі складанай барацьбы класаў у наш супярэчлівы час».*

Гэтую думку ён паўторыць і ў канцы свайго прывільтальнага слова, але скажа ўжо больш канкрэтна:

*«Адна прыватная заўвага, якая, аднак, у нейкім сэнсе «стыкуецца» з маімі думкамі пра псіхалогію маладых. Не падабаецца мне «пастарэнне» маладых. Немагчыма яго вытлумачыць толькі аб'ектыўнымі прычынамі.*

*Мае равеснікі, аддаўшы пяць гадоў вайне, арміі, вымушаныя давучвацца ў вельмі цяжкіх умовах першых пасляваенных гадоў, ва ўзросце 25 — 30 гадоў смела садзіліся за раманы. Не ўсё ў нас, мгчыма, атрымоўвалася, але ішлі ў літаратуру сапраўды як у бой — смела, без аглядкі на тылы, на рэзервы галоўнага камандавання. За апошнія прынамсі пятнаццаць гадоў я не магу прыгадаць раман, які быў бы напісаны пісьменнікам ва ўзросце аўтараў «Мінскага напрамку» ці «Глыбокай плыні». Цяпер мы прызвычаіліся называць маладымі літаратараў, якім па 35 — 40 гадоў ужо. Неяк няёмка і крыўдна. Ды і пісьменнікам гэтым, напэўна, крыўдна».*

Праўда, адкрыўшы нумар заклікам жывога класіка да маладых, у тым ліку, як мага хутчэй сцвярджаць сябе ў літаратуры, часопіс напрыканцы нумара вырашыў усё ж крыху астудзіць пыл у некаторых з іх — прычым, далёка не самых горшых з пакалення, якое ярка дэбютавала першымі кнігамі ў пачатку 1980-х. «Полымя» надрукавала рэнцэнзію Святланы Марчанкі на першы паэтычны зборнік Алеся Пісьмянкова «Белы Камень», які ў 1983 годзе выпусціла «Мастацкая літаратура». Аднак адказваць паэту давялося за ўсіх сваіх таварышаў-«першакніжнікаў»:

*«Цяперашніх маладых не абышлі ўвагай. Узмоцнена вышукваліся, падкрэсліваліся не толькі значныя, а нават самыя нязначныя іх дасягненні: актуальнасць тэмы, імкненне да навізны ці, наадварот, стараннае прытрымліванне вершавальніцкай традыцыі, незвычайныя метафарыстычныя хады або іншыя фармальныя прыёмы.*



*Алесь Пісьмянкоў*

*Але, на жаль, на вялікі жаль, раздзьмухвалася вакол усяго гэтага такое крытычнае кадзіла, што ў клубах ладану не бачылася ўжо, што тэма вырашана прыблізна. Што метафарыстычны сэнс банальны. Што традыцыйная вершаваная хада па-рабску пакорлівая, бяскрылая, ні на ёту не развівае традыцыю».*

У сваім крытычным запале аўтарка не пашкадавала ні Леаніда Галубовіча, ні, натуральна, і самога Алеся Пісьмянкова. Але пройдзе час, у 2000 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларуская паэзія XX стагоддзя» выйдзе кніга выбраных вершаў Алеся Пісьмянкова «Я не памру, пакуль люблю». З 69 твораў, якія былі надрукаваны ў зборніку «Белы Камень», — больш за палову ўвайшлі ў выбранае…

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***